*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС*

**5** (967)

*МАЙ*

# ПОЛЫМЯ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2010

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

# ВЯНОК ПЕРАМОГІ

*Дзень Перамогі — найвялікшае наша свята.*

*Чым далей мы ад крывавага чэрвеньскага досвітку сорак першага года, калі на мірныя гарады і селішчы нашай Бацькаўшчыны абрынуўся знішчальны агонь гітлераўскіх захопнікаў, тым усё больш велічная і знакамітая робіцца Перамога народаў былой савецкай дзяржавы і ўсё больш яркімі фарбамі зіхаціць дзевяты дзень Мая сорак пятага года, калі над задымленым рэйхстагам, над звярыным логавам, адкуль і выпаўзла пачварная гадзюка смерці і разбурэння, запалымнеў чырвоны сцяг праўды і справядлівасці.*

*Вайна Айчынная была Вялікая, бо яна была народная.*

*Перамога ў сорак пятым была Вялікая, бо яна была аплачана крывёю народаў, мільёнамі чалавечых жыццяў.*

*Вялікая яна сталася і застанецца назаўжды яшчэ і таму, што наўпярок сакраментальнаму выслоўю пра маўклівасць музаў, калі грымяць гарматы, упобачкі са снарадам і куляй, штыком і гранатай змагалася за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны грозная зброя праўды — слова паэта, народных песняроў, што злятала не з вуснаў, а ляцела з іхніх душаў, з глыбіняў сэрца патрыётаў, якія ад самага нараджэння былі спавіты ласкаю роднага краю і волю яго, гэтага краю, ставілі вышэй свайго ўласнага жыцця. І менавіта гэта сплавіла ўсе братнія народы ў несакрушальны маналіт, які не адолела фашысцкая зграя.*

*Прачытай уважліва, дарагі чытач, гэтую нізку вершаў паэтаў з розных рэспублік былой савецкай дзяржавы — маленечкую частку той набатнай сімфоніі, што гучала ў віхурны час «от Москвы до самых до окраин». Яна таксама, нароўні з баявой зброяй, крышыла браніраваныя армады ворага пад Брэстам і Магілёвам, на заснежаных падмаскоўных палях, пад Сталінградам, на Одэры і вуліцах Берліна. Прачытай і схілі галаву перад памяццю тых, хто не вярнуўся з той далёкай крывавай сечы, хто вечным сном спіць пад вялікімі і малымі абеліскамі, якіх шмат у нашым азёрным краі. Услухайся ў мелодыю паэтычных радкоў, у якіх і сёння звініць вера і мужнасць, і ты зразумееш яшчэ больш глыбока святую праўду тых дзён: твае дзяды і бацькі не схілілі галаву перад рабаўнікамі і забойцамі, бо верылі ў праўду слоў, што прагучалі з Масквы на ўвесь свет у першыя дні крывавай барацьбы: «Наше дело правое. Враг будет разбит. Победа будет за нами!»*

*Людзі, якія ўсведамляюць гэта, заўжды будуць вольныя.*

*Народ, які свята захоўвае Памяць пра сваіх герояў, змагароў за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны, аніхто і аніколі не паставіць на калені.*

***Алесь Савіцкі, былы партызан і франтавік.***

## Хабіб ЮСУФІ

*(Таджыкістан)*

### ЧАС НАСТУПІЎ

Час наступіў, о мой калам*, гайстрэйшым стань цяпер за меч!
Час наступіў, мой грозны верш, сячы і бі, грымі, як гром,
Каб словам — гойстрасцю ляза — зняць галаву з варожых плеч,
Каб перасох яго арык і рухнуў каб варожы дом.

Любові шчодрай цэлы свет ты ў сэрцы носіш, мой народ.
Няхай квітнее родны край непераможна ў цвеце дзён.
Ты гневу ярага агонь абрынуў на фашысцкі зброд,
Каб у нянавісці людской знайшоў навек магілу ён.

Цяпер, калі грыміць вайна, калі ў агні краіны шыр,
Адданы я зямлі сваёй мацней сягоння, як калі.
Цяпер, калі іду я ў бой за шчасце светлае, за мір,
Каб біцца з ворагам дужэй, мяне, каханне, акрылі.

Не схамянуся я. Рука сячэ забойцаў папалам.
Сягоння стань гайстрэй мяча, час наступае, мой калам!

***22 чэрвеня 1941года***

## Саламея НЕРЫС

*(Літва)*

### РАДЗІМЕ

Гарчыць маё, Радзіма, слова.
Слязой туга ўсплывае.
Я сотні вёрст прайсці гатова,
Каб ведаць — ці жывая!

Ці расцвілі сады ля хатаў,
Ці плод духмяны спее…
Праз дождж і снег, праз сівер кляты
Вярнуся да цябе я!

Ты пазіраеш так маўкліва,
Нібыта з дамавіны.
Дзе гарады твае, дзе нівы, —
Там попел і руіны.

* Калам — пяро.

І лепшыя дзе з лепшых дзеці?
Згарнула скруха крылы.
Іх хаты разбурае вецер,
Не знойдзеш іх магілы.

Як сняцца мне твае прасторы
З жывой красою весняй!
Мая Літва! Вярнуся скора
З маёю лепшай песняй!

***1941***

**Шалі КЕКІЛАЎ**

*(Туркменістан)*

## ЗА РАДЗІМУ!

Дома не час заставацца, Шалі!
Кліча Радзіма воіна ў строй.
Кулю фашысту ў сэрца пашлі,
Каб не таптаў ён Айчыны тваёй.
Калі ў небяспецы Радзіма, —
Радзіму ў баях адстаім.
Калі загадае Радзіма,
Жыццё за яе аддадзім.

Дружа-пагодак! Краіна ў агні,
Зграя варожая крочыць паўсюль.
Мужнасцю дужай яе супыні,
Высевам трапным снарадаў і куль!
Кліча Радзіма. На бітву, браты!
Радзіму ў баях адстаім.
Калі пажадае яна, — я і ты
Жыццё за яе аддадзім.

Працай нястомнай узрошчаны мы,
Мірнага шчасця ўзводзілі дом.
Ворага біце! У сцюжах зімы
Вынішчым нечысць агнём і мячом!
У небяспецы Радзіма —
Грозіць ёй згубай вайна.
Мы абаронім Радзіму,
Свет абароніць яна.

***1941***

***Паэт загінуў на фронце***
***ў Запаляр'і ў 1943 годзе.***

## ЛІВІУ ДЗЯЛЯНУ

*(Малдова)*

### ПЕСНЯ, НАПІСАНАЯ НА ПРЫКЛАДЗЕ ВІНТОЎКІ

Цяпер, калі артпадрыхтоўка
Грукоча, быццам гром з хмурыны,
Як брат, клянуся я, вінтоўка:
Цябе ніколі не пакіну!

Усюды, нат у пекле бою,
Дзе травы кулямі прашыты,
Я чэсна падзяляў з табою
Міг кожны, у агні пражыты.

Прыклад прыцісну над сумётам,
Каб ты, на выстылай парошы,
Стальное рулі чорным ротам
Магла пляваць у твар варожы.

Каб цеплынёй жывога цела
Магла ў агні баёў сагрэцца,
Каб куля ў ворага ляцела
Адначасова з пульсам сэрца.

Прайду з табой скрозь снег суцэльны,
Скрозь дождж свінцу, пагрозы навісь.
Не кулі выльеш ты прыцэльна —
Мой гнеў гарачы і нянавісць.

Мы двое ворага пачулі, —
Не прамахнёмся, дарагая:
За хату спаленую — куля,
Сястру забітую — другая!

Дык бі, вінтоўка, днём і ўночы,
Па чэзлай пошасці варожай,
За слёзы матак, плач сірочы
Іх небыццём узнагароджвай.

Пуцінай грознай нам з табою
Скрозь дым і кроў ісці да змогі
Туды, дзе выліты зарою
Прастор жаданай Перамогі.

А будзе — кулі не міную…
Калі ў магіле злягу брацкай,
Цябе, як маці, прыхіну я
З любоўю вернаю салдацкай.

***1942***

**Ахмед ДЖАМІЛЬ**

*(Азербайджан)*

## ДАСВЕЦЦЕ, ПРАЧНІСЯ!

Стынь у акопе. Снег і морак.
Мора — за спінай. Наперадзе — вораг.
Снарадаў разрывы, поту кроплі.
Сцяўшы вінтоўку, стаю ў акопе.
Сціснула далечы цемра скразная.
Ды толькі світанне на ўсходзе заграе,
Рванёмся ў атаку на зорцы марознай.
Штыкамі вітаемся з ворагам грозна.
З паўночы дрымотныя ўпрошваем высі:
— Сыдзі, непагода! Світанне, прачніся!
Стрэл цішу спалошыць, між цемрыва стыні
Успыхне ракета — след вогненны кіне.
Свой грозны прысуд ноч прашэпча сурова,
І будзе пачутае кожнае слова.
І гэта не казка! Надыдзе пара,
І зноўку кранецца лістоты зара,
Па жыце пракоціцца хваляю вецер.
І ў час пераможны згадаюць нас дзеці,
На свята народнае прыйдуць… Магчыма,
І мне баляваць тою раніцай з імі.
Святкуючы славу радзімага краю,
Я дзецям і ўнукам на сазе зайграю,
Паўстану прад імі з сівой галавой
І сэрцам, што поўнае сілы жывой.
І скажа ім памяць — іх душы адкрые —
Пра нашы вялікія дні баявыя.
На радасным свяце, што ў славе слыве,
Расказваць пачну я, чым сэрца жыве,
Што ў дні маладыя пабачана мною…
О, час мой, акрэплены мужнай крывёю!
І там, у ягонай прасветленай далі,
Нашчадкам скажу, як мы свет ратавалі,
Як нашу зямлю мы ў баях адстаялі.
Ёй болей не ведаць варожае сталі.
Не, гэта не казка! Успыхні, дасвецце,
Каб вораг у жаху, каўтаючы вецер,
Падаўся крывавай зваротнай дарогай.
Праславім Айчыну сваю перамогай!

***1942***

**Мукай ЭЛЕБАЕЎ**

*(Кыргызстан)*

## ЛІСТ НА АЛА-ТАУ

Б’юся з ворагам падалёк
Ад радзімых палёў, аблок,
Дзе ў цяснінах ад году ў год
Працавіты жыве народ,
Дзе над возерам залатым
Гусі водзяць свае кругі,
Дзе паверх, як ружовы дым,
Ала-Тау гараць снягі.
Так, за славу тваіх вяршынь
Я змагаюся, верны сын.

У расстанні я не знямог,
Сэрцу светлы прастор відзён, —
Калі ўспомню між перамог
Весялосць прамінулых дзён.

Ала-Тау, ў зваротны час
Аб табе мы складзём свой сказ,
Нам вяршыні твае відны,
Мы ў далечы, твае сыны.

Калі ў сэрцы шугае гнеў, —
Гэта гнеў тваіх ручаёў.
Калі льецца лагодны спеў, —
Гэта шчодрасць тваіх пастухоў.

Ісык-Куль у чакальнай тузе,
Змрочнаводны і ўдзень, і ўноч,
Ала-Тау ў сваёй смузе
Кажуць мне: «З перамогай кроч!»

Як развітваўся ён са мной,
Калі я ад’язджаў на вайну,
Кожным каменем, кожнай сасной
У душу маю зазірнуў.
Ласку гор, і цяснін, і рэк
Я, як сын, не забуду павек.

Перамогі час мроіцца мне,
Вораг зляжа ў апошнім баі.
Я пабачу, як па спіне
Ала-Тау бягуць ручаі.
Будзе зноўку застолле шумець
У бацькоўскім маім двары.

І каханая выйдзе сустрэць,
І насустрач мне выйдуць сябры,
І за возерам, за гарой
Неба яснае ўспыхне зарой.

***1942***

**Жумагалі САІН**

*(Казахстан)*

## ГЛЯДЗЕЎ САЛДАТ НА ДНЕПР

Глядзеў на Днепр
Салдат пасля бою,
Дняпра цалаваў бы
Чало ён святое.

Ды гневу маршчыны
Прайшліся чалом.
І Днепр зачынае
Гаворку з байцом.

Ў гаворцы без слоў
Хвіліны прайшлі.
Стамлёна салдат
Стаіць на зямлі.

Ды вось нахіляецца
Ён к рацэ,
Дняпроўская вільгаць
Ў яго руцэ.

Напіўшыся ўволю,
Салдат устае.
На Днепр падымае ён
Вочы свае.

Як вечнасць — бруістая
Хваля Дняпра.
І думка салдата —
Яе сястра.

Ім плыць у згодзе
Насустрач дабру.
…Салдат у любові
Прызнаўся Дняпру.

***1942***

## Мірза ГЕЛАВАНІ

*(Грузія)*

### КЛЯТВА

Картлі любая! У тленным
свеце, грозным і бяссонным,
сцяга полымем свяшчэнным,
яснавокім зыркім сонцам
я клянуся.
Гэтым статным
дрэвам,
што вятрыска лашчыць,
і ратоўчым тым астаткам
спірту
у маёй біклажцы.
Краем, любым нам,
дзе грады
гор
пад хмарнай чарадою,
ржавым сэрцам Шаўнабады,
гэтай песняй маладою
я клянуся.
Не быць сванам,
не спяваць мне Лілі мілай,
калі сілай і падманам
вораг хоць бы жменьку пылу
на зямлі маёй прысвоіць.
За яе іду на сечу
і, нібыта даўні воін,
смерць усмешкаю прывечу.
Калі злегчы, як на пожні
легчы коласу, не марна, —
як не першы, не апошні
за Радзіму тост, за Картлі!

***1943***

**Андрэй МАЛЫШКА**

*(Украіна)*

## УКРАІНА МАЯ

*(Урывак)*

Запаліла агні над далінаю сіняю неба,
Самалёты гудуць, бо на захад франты і франты.
Украіна мая, мне на свеце нічога не трэба,
Толькі б голас твой чуць, толькі б вечна жывой была ты.

Як раслі мы, малыя? Скрыпела ў хаціне калыска,
Хліпкай свечкі святло у самотных дрыжэла начах.
Ты нам шлях паказала у ззянні зарніцы няблізкі,
І праменне жывое падобным было да мяча.

Прамінулі гады. Расцвітае Шаўчэнкава строма.
Домны плавяць метал. Падняпроўе люляе чаўны.
Украіна мая, вісне хмара свінцовая з громам,
Наляцелі з чужыны сівыя, як смерць, каршуны.

І на крылах гарацць не барвяныя светлыя зоркі, —
На падкрыллі ў іх бомбы і свастыкі чорнай крыжы.
Ды юначы пагляд на дасвецці і пільны, і зоркі,
І выходзяць палкі праз масты да айчыннай мяжы.

У Дняпра запытаю: — Скажы мне, ссівелы Славута,
Ты, знявечаны сталлю, свінцовага зведаў дажджу?
І Дняпро адказаў: — Шчэ мінулае ў часе не скута,
А за новае катам я шчодра даю па крыжу!

Днепр успеніўся дужы, і час прыгадаў ён Батыеў,
Той варожы палон і нязломную мужнасць сваю.
— Любы Кіеў, вітанне! — і кажа з лагодаю Кіеў:
— Вас чакаю, байцы. Неадступна, як воін, стаю.

Украіна мая, вее свежасцю ў поўдзень гарачы.
Летуценніца мройная. Кропля на сонцы з вясла.
Я аддам сваю кроў, сваю сілу — усю даастачы,
Каб з пажарышча ўстала, таполяй у неба расла.

Зноў палаюць агні за далінаю сіняга неба,
Самалёты гудуць, бо на захад франты і франты.
Украіна мая, мне нічога на свеце не трэба,
Толькі б голас твой чуць, толькі б вечна жывой была ты.

***1943***

## Фрыціс РОКПЕЛНІС

*(Латвія)*

### ТРОЕ СЯБРОЎ

Адвагі мужных удальцоў
Не знішчыць наступ штыкавы…
Я помню дружбу трох байцоў,
Што з Мінска, Рыгі і Масквы.

Калі зара сплыла за лес,
Сутонне легла на траву,
Кіпеў гаворкі інтарэс
Пра Мінск, пра Рыгу, пра Маскву.

Калі ж світальны сполах рос
Крануў празяблую ліству,
Сябры паўсталі ў поўны рост
За Мінск, за Рыгу, за Маскву.

І адступілася імгла
Перад атакай штыкавой.
І яснатой зара ўзышла
Над Мінскам, Рыгай і Масквой.

***1944***

## Аляксандр ТВАРДОЎСКІ

*(Расія)*

### БЫЛІ ТУТ НЕМЦЫ

Жыты траншэі прыхавалі
І дроту ржавага рады.
І прасвятлелі рэчак хвалі,
Узбухлі завяззю сады.
І на зямлі — жыццё людское,
І дым жывы на стрэхах хат,
Жанчын узнятых талакою…
Былі тут немцы год назад.

Дыміцца крышыва бетонкі,
Тырчыць сцяна з пустым акном.
І ад варонкі да варонкі —
Трава згарэлая з быллём.

З аселіц вее смерці жахам,
Гарэлых трупаў едкі чад.
Барвее дымам смутны захад.
Былі тут немцы дзень назад.

Плыве далёкі гул матораў,
На захад вуліца ў агні.
Панеслі танкі дзесь за горад
«Ура» пяхоты на брані.
Лісцё на голлі не прывяла,
Што мімалётам ссек снарад.
І для жыцця так часу мала:
Былі тут немцы міг назад.

Шчэ пройдзе плуг па іх магілах,
Уздыме глебы дзірваны.
І стане свет жаданым тылам
Агнём патушанай вайны.
І, паказаўшы ў спелым леце
Мясціны праўнукам салдат,
Настаўнік школьны скажа: — Дзеці,
Былі тут немцы век назад.

***1944***

**Дзебора ВААРАНДЗІ**

*(Эстонія)*

## НА ПАРОЗЕ ТАЛІНА

Цяжкай і доўгай дарогай дамоў я вяртаюся, Талін!
Мне валасы ветры гладзілі Балтыкі роднай.
Побач абозы цягнуліся, танкі вакол грукаталі.
Поўніла радасць на ростані стылай, халоднай.

Зноўку цябе я пабачыла, Талін, прыгожы, вячысты,
З плёсаў прыветна паўстаў ты над белаю супессю пляжаў.
Вынеслі хвалі цябе зноўку з пространі чыстай,
Воблакі слалі ў нябёсах сваю залацістую пражу.

Талін, скажы, хто карміў без мяне галубоў шызачубых,
Хто падымаўся на ўзгорак і лесвіцы кратаў жалеза,
Вокны зары адчыняў і, як колісь, па вулачках любых
Ціха блукаў, закаханы, з ахапкам духмянага бэзу?

Полы майго шыняля пашарэлі ў дарозе ад пылу.
Бачу здалёку цябе я — душы не суняць хвалявання.

Як мне ў пагляд свой укласці пачуцця̆ў трывучую сілу,
Тое, што выпала зведаць часінай самотнай выгнання?

Вось і прыйшла да цябе я, мой Талін, у воблаку гару,
З жаркім дыханнем гармат, з подыхам свежым залевы.
Дзеці, галодныя дзеці, скрозь на тваіх тратуарах,
Каля разбураных хатаў чэзнуць паніклыя дрэвы.

Ці ж гэта, Талін, парог твой, парушаны злосцю варожай?
Вось я ступаю, дачка твая, з гордай, стамлёнай душою.
Гора пабачыўшы столькі, сэрца быць іншым не можа, —
Поўніцца дужасцю мужнай, горкай сустрэчы слязою.

***1944***

## ЗУЛЬФІЯ

*(Узбекістан)*

### ЗАЦВІЎ УРУК

«Зацвіў урук наш ля акна», —
Ты так пісаў калісь, жывы.
Урук цвіце. Жыву адна,
І боль у сэрцы нажавы.

О, каб змаглі яны, гады,
Агонь расстання патушыць!
Я зноў з пакутаю сюды
Прыйшла, каб памяць варушыць.

Вачмі прывеціла наш кут,
Зайшла ў знаёмы наш пакой,
Адна占 заначавала тут,
Дзе мы жылі ўдваіх з табой.

Ракой дабра і цеплыні
Бруіла наша маладосць.
Тут красавалі шчасця дні,
Ды кожны быў — часовы госць.

Тут цішыні трывожны крок
Саб’е самотаю мяне.
Знаёмай песні вугалёк
Не-не, ды ў цемры палыхне.

У час той зорны, залаты
Чакаць гадзінамі магла,

Калі дапішаш вершы ты
І адарвешся ад стала.

Ты іх мне першай тут чытаў,
Звінелі веснія дажджы.
Падняўшы вочы, зноў чакаў
З нямым пытаннем: «Як? Скажы!»

У ночы цемрані густой
Уджаліць скруха, як пчала:
Якім спагадлівым быў той,
З кім гэтак мала пражыла.

Я ганаруся, што пры мне
Плыла радкоў тваіх бруя.
Яны належаць старане,
Ды першай слухала іх я.

Шугаюць памяці кастры
Усё жывей, усё зырчэй.
Зноў да світальнае зары
Я не заплюшчыла вачэй.

Твой голас і глухі мой боль:
«Зацвіў урук наш ля акна…»
З сустрэчы нашае з табой
Іду, самотная, адна.

***1945***

**Авецік ІСААКЯН**

*(Арменія)*

## ДЗЕНЬ ВЯЛІКАЙ ПЕРАМОГІ

Меч зноў у ножнах — яму хвала,
Наш пераможны, вялікі дзень.
Сёння разбілі мы сілы зла, —
Сэрцаў сугучча, сонца ірдзень.

Радасць, як пошуг высокіх крыл,
Шумна ўзлятае дзесь за акном.
Бацька на вуліцы стол накрыў,
Шклянкі наліў залатым вінам.

Кліча ў застолле суседзяў ён:
«Людцы, прашу, Перамогі вінам

Дзецям аддайце зямны паклон,
Хто з Перамогай вяртаецца ў дом!»

Выпілі. Бліснула шчасця сляза,
Выцерлі мокрыя вочы рукой.
Ціха тут бацька адзін сказаў:
«П'ю за сыноўняй душы супакой…»

Слухаюць моўчкі бацьку байца.
Шапкі здымаюць прад тостам такім.
Моўчкі за мёртвага п'юць храбраца,
Хлеб абмываюць віном залатым.

***9 мая 1945 года***

***Пераклад Міколы Мятліцкага.***

**Пімен ПАНЧАНКА**

*(Беларусь)*

## БЕЛАРУСІ

Ты ляці, маё слова, праз палі і лясы,
Прывітайся з краінай маёй дарагою.
Беларусь, я — твой воін адданы і сын,
Мае думкі і сэрца заўсёды з табою.
Ты мяне гадавала, ты мяне калыхала,
Ты мне песні, як родная маці, спявала,
Клапатліва збірала у шлях.
Як люблю я задумлівы шэлест бяроз,
Хвалі жыта, святло перадранішніх рос
На тваіх аксамітных лугах!..

Цяжка думаць, што там папялішчы і кроў,
І усё, што да болю мне люба і дарага,
Сёння стогне пад дзікім прымусам звяроў;
Што бацькоўская хата зганьбована ворагам.

І калі у паходнай палатцы прысніцца мне
Светлы гай з залатымі суніцамі,
Плёскат сініх азёр на зары,
Спеў драздоў у смалістым бары, —
Тады гасне туга, адыходзіць самота,
Толькі ў сэрцы палае вялікасны гнеў:
Не, не стопчуць красы тваёй брудныя боты,
Не, народа майго аніхто не сагне!

Ён, магутны, у пушчы адвечныя рушыў,
І легенды лунаюць над роднай зямлёй,
Што адважны Гаркуша
Драпежнікаў глушыць,
Што Кастусь Каліноўскі выходзіць на бой;
Што усталі з магіл партызаны Дукоры,
Каб адвагу у сэрцах юнацкіх расціць;
Што бушуе і пеніцца Нарач, як мора;
Нёман гнеўна гамоніць, і Прыпяць кіпіць.
Веру цвёрда: сканае бязлітасны вораг,
І штандар перамогі над краем запаліць зару.
Пакуль сонца не згасне,
Пакуль свецяцца зоры,
Беларусь не загіне, будзе жыць Беларусь!

***1941***

# З ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ І. ШАМЯКІНА

*1945 год. Скончылася самая жорсткая вайна XX стагоддзя. Дваццацічатырохгадовы салдат Іван Шамякін, які прайшоў ваеннымі дарогамі ад Мурманска да Германіі, пачынае пісаць твор пад назвай «Караван», у аснову якога леглі рэальныя ваенныя падзеі і ўражанні. «Караван» не мае стройнай кампазіцыі і паслядоўнага развіцця сюжэта, часам не вытрыманы стыль, маюцца моўныя стылёвыя недакладнасці. Але трэба ўлічваць, што гэта — адзін з самых ранніх твораў пісьменніка-пачаткоўца. Тэкст гэты ніколі і нідзе потым не друкаваўся. Не былі закончаны і, адпаведна, надрукаваны і іншыя творы, фрагменты якіх складаюць публікацыю. Вялікі, больш-менш сюжэтна стройны ўрывак не меў нават загалоўка, але загаловак — «Дот», — напрошваецца паводле надзвычай акрэсленага, выразнага зместу. Цалкам магчыма, што падзеі і рэаліі, якія апісваюцца і ў «Караване», і ў «Доце», і ва ўрыўках пад загалоўкам «У порце» маглі б стаць пачаткам, нават асновай для больш буйных твораў, але аўтар не стаў разгортваць свае ўражанні да больш маштабнага адлюстравання рэчаіснасці. Ні ў адным пазнейшым творы Івана Шамякіна няма гэтых фрагментаў. Аўтар пасля 1946 года ніколі не звяртаўся да гэтых, фактычна, чарнавых накідаў, не імкнуўся надаць ім завершаны выгляд або ўзяць з іх тыя або іншыя факты для новых твораў, так што яны — цалкам самастойныя і арыгінальныя тэксты.*

*Мяркую, што прапанаваныя чытачу фрагменты твораў будуць цікавыя рэальным апісаннем падзей, адлюстраваных маладым пісьменнікам, які прайшоў вайну ад яе першага да апошняга дня і ўпершыню ўзяўся за пяро. Твор друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.*

**Іван ШАМЯКІН**



# КАРАВАН

*Фрагменты аповесці*

**Камісар** дівізіёна Вірскі — мой зямляк. І ў нас з ім, нягледзячы на розніцу ў званнях, склаліся добрыя сяброўскія адносіны. Асабліва яны ўмацаваліся тады, калі камісар прачытаў у армейскай газеце некалькі маіх вершаў. Аказалася, ён таксама ў вольны час спрабаваў пісаць, і пісаў на беларускай мове. Праўда, вершы яго вельмі былі падобныя да старажытных од XVIII ст., і я сказаў яму аб гэтым. Ён раззлаваўся і адказаў, што я нічога не разумею, але не пакрыўдзіўся. Наогул, гэта быў вельмі добры чалавек, чуткі, шчыры начальнік.

І вось аднойчы камісар выклікаў мяне позна ноччу з батарэі ў штаб.

— Хочаце прагуляцца да мора? — спытаў ён.

— Як загадаеце, таварыш батальённы камісар, — адказаў я.

— Загаду няма. Так… Тральшчык В-22, на якім капітанам мой друг, адбывае сёння на адно літаратурнае заданне.

— На літаратурнае? — здзівіўся я.

— Так… На баявое нас, канечне, не пусцілі б… Тральшчык дзяжурны і вязе нейкага карэспандэнта і кінааператараў у мора насустрач каравану.

Пад раніцу мы паехалі ў порт. Вуліцы горада былі цёмныя, пустыя.

Ішоў густы і мокры снег.

Вартавыя ў ваенным порце праверылі нашы дакументы.

Вартавы на тральшчыку запытаў пароль.

Аб абледзянелы прычал і барты караблёў біліся дробныя хвалі заліва. Вада была чорная, як дзёгаць, і ў адзін момант праглынала буйныя шматкі снегу.

Вірскі пайшоў у капітанскую каюту, мне дзяжурны адвёў месца ў кубрыку, дзе спала некалькі матросаў, і я таксама вельмі хутка заснуў.

Калі я прачнуўся і падняўся на палубу, была ўжо раніца. Неба на поўдні было заліта агністай чырванню, а на поўначы яно было цёмна-сінім, нізка над зямлёй зусім чорным, як вада ў заліве, сціснутая з двух бакоў высокімі заснежанымі берагамі. Над залівам узвышаліся голыя панурыя сопкі. На вяршыні адной з іх чарнеў нейкі назіральны пункт і хадзіў вартавы.

Тральшчык хутка плыў пасярод заліва, астаўляючы за сабой пеністы след.

Дзяжурны назіральнік за паветрам бесперапынна выглядаў у бінокль заходнюю і паўночную частку неба.

Мылі і чысцілі зенітную гармату і кулямёты.

— Але сёння трэба чакаць гасцей, — сказаў я ім.

Адзін з іх пільна агледзеў мяне.

— Мабыць, берагавы зенітчык? — спытаў ён. — То та. «Чакаць!» Мы браток, не чакаем, а шукаем іх…

Я не стаў з імі спрачацца.

Незаўбаве на палубу падняліся камісар Вірскі, капітан тральшчыка, кінааператары і карэспандэнт.

Я прывітаўся і з цікавасцю наблізіўся да іх, услухоўваючыся ў іх размову.

Карэспандэнт гаварыў:

— Цяжка ўявіць нават велічыню нашай радзімы. Месяц назад я быў у Растове і там ужо была вясна. А тут бачу ў канцы сакавіка студзень. Маразы, завеі… Але, скажу вам, прыгожы край. Паглядзіце на неба і на гэтыя сопкі. Прыгожа, праўда? У Генштабе мне сказалі «Мурманск — вароты для нашых саюзнікаў». І сапраўды, вялікія вароты. Я гляжу на гэтую ніколі незамярзаючую ваду і думаю: нібы сама прырода стварыла ўсё гэта для нашай перамогі. Цяжка было б нам без Мурманска. Па сутнасці гэта адзіны порт у нас. А адсюль вывад: адказная задача ваша, абарона. Я думаю, што пасля перамогі ўдзельнікі абароны Запаляр'я будуць неяк адзначаны. Праўда, Мікалай Якімавіч? — звярнуўся ён да палкавога камісара.

На захадзе паказаўся нямецкі разведчык. Ён ляцеў на поўнач паралельна заліву.

— Шукае, сволач, — вылаяўся капітан тральшчыка.

Праз некалькі хвілін над залівам прайшлі дзве шасцёркі нашых знішчальнікаў. Яны таксама ляцелі ў напрамку мора. Пасля знішчальнікі пачалі пралятаць вельмі часта туды і назад. Гэта былі паветраныя патрулі. Яны ляцелі насустрач каравану і абаранялі яго ад нападу нямецкай авіяцыі.

— Але там горача зараз, — сказаў капітан. — Вельмі горача. І, відаць, караван блізка. Дабавім ходу.

Тральшчык пайшоў хутчэй.

Заліў пачынаў расшырацца, адціскаючы сопкі. Мясцовасць стала не такой гарыстай, але яшчэ больш пустыннай — снежная пустыня тундры бязмежна цягнулася на ўсход і захад. Снег і снег… І паміж гэтага мора снягоў, нібы ў пастцы, шырокая паласа чорнай вады.

Набліжалася мора. Ужо прама на поўначы не было і відаць снежнай зямлі, а чорная гладзь вады ў нязмернай далечыні злівалася з сінім небасхілам.

* * *

Сакавіцкае сонца выпаўзла з-за сопак і заліло снег, ваду і неба сваімі касымі чырвонымі праменнямі. Снег заіскрыўся мільярдамі срэбных лусачак. Па вадзе паплылі светлыя палосы адлюстраваных ледзяных берагоў. Неба стала звычайным, блакітным.

— Вось дзе сапраўдныя вароты, таварыш старшы батальённы камісар, — звярнуўся капітан да карэспандэнта і аддаў нейкую каманду рулявому: у машыннае аддзяленне, а потым сам развярнуў карты і стаў побач з рулявым.

Кацер сцішыў ход і наблізіўся да правага берага. На гэтым беразе паказаўся невялічкі рыбацкі пасёлак, берагавыя дальнабойныя батарэі і каля прыстані стаялі дзяжурныя кацеры і тральшчыкі.

Уваход з мора ў заліў быў старанна загароджаны разнастайнымі сеткамі, нерухомымі мінамі і іншымі прыстасаваннямі, праз якія не маглі б прайсці варожыя падводныя лодкі. Нешырокая паласа каля левага берага была застаўлена для праходу сваіх суднаў, але і яна пастаянна кантралявалася падводнымі гукаўлавіцелямі.

Яшчэ праз паўгадзіны тральшчык выйшаў у Баранцава мора і ўзяў курс на паўвостраў Рыбачы, берагі якога вырысоўваліся над морам нізкай белай лініяй. На ўсходзе адплывалі недалёкія берагі вострава Кольдзін.

Нягледзячы на ціхае марознае надвор’е, у моры была значная хваля і пачалася качка, вельмі непрыемная для нас, жыхароў сушы. Асабліва не спадабалася яна камандзіру Вірскаму. Праз некалькі хвілін ён не вытрымаў і спусціўся ў каюту.

Палкавы камісар, карэспандэнт і кінааператар заставаліся на палубе і доўга размаўлялі аб гераічнай абароне паўвостраваў Рыбачага і Сярэдняга.

Праходзілі знішчальнікі.

Я заўважыў, што яны кружацца над далёкім гарыстым мысам паўвострава. Хутка адтуль даляцелі гукі цяжкіх выбухаў, ад якіх, здавалася, скалыхнулася мора.

Капітан накіраваў туды бінокль.

— Ага, — сказаў ён. — Караван… Паветраны бой.

Сапраўды, у паветры там кружылася вялікая колькасць самалётаў і над морам паднімалася мноства слупоў дыму.

Праз некалькі хвілін ужо і няўзброеным вокам можна было адрозніць шматлікія караблі каравана.

Вялікае, прыгожае і цікавае відовішча — марскі караван!

Караван, які ўбачылі мы, уяўляў сабой вялікі плавучы горад. У цэнтры яго плылі тры дзесяткі доўгіх, глыбока пагружаных у ваду, амерыканскіх транспартаў, у трумах якіх змяшчаліся тысячы тон ваенных грузаў: танкаў, самалётаў, аўтамашын, станкоў, харчоў. Транспарты размяшчаліся выцягнутым ромбам. На вострым вугле гэтага ромба дыхалі сваімі магутнымі трубамі чатыры крэйсеры, выставіўшы ў неба сотні зенітных ствалоў. Транспарты і крэйсеры акружалі мінаносцы і эсмінцы, утварыўшы замкнуты авал. І навокал гэтага вялікага горада бесперапынна курсіравалі ў розных напрамках — назад, наперад, дробныя ваенныя судны: тральшчыкі, кацеры. У ліку эсмінцаў і тральшчыкаў былі і нашы, савецкія, ваенныя караблі, якія хадзілі насустрач каравану ў адкрытае мора. Над караванам патруліравалі знішчальнікі. Яны кружыліся на розных вышынях і зорка пільнавалі караблі ад нападу з паветра. Прыкладна праз кожную гадзіну прыляталі новыя партыі знішчальнікаў, змяняючы тых, у якіх выходзіў запас гаручага. Час ад часу з усіх бакоў каравана ў паветра ўзляталі высокія фантаны вады. Гэта англійскія кацеры кідалі глыбінныя бомбы, каб не даць магчымасці падводным лодкам пранікнуць у жыццёвы цэнтр гэтага вялікага горада.

Мы параўняліся з першымі караблямі каравана, калі ўжо вечарэла, і сонца зайшло за снежнымі сопкамі далёкай зямлі. Каб не парушаць строй вартавых караблёў, мы прайшлі ў баку ад канца каравана і павярнулі назад. Капітан тральшчыка звязаўся па радыё з флагманам нашых ваенных караблёў. Адтуль яму паведамілі, што на працягу гэтага яснага сонечнага дня нямецкія тарпеданосцы і пікіроўшчыкі восем разоў атакавалі караван. У выніку гэтых атак пашкоджаны адзін вялікі транспарт, і гэта запавольвае рух усяго каравана.

Мы ўсе стаялі на палубе і з цікавасцю разглядалі караван. Адзін англійскі эсмінец прайшоў зусім блізка ад нас, і матросы з яго ветліва памахалі нам рукамі і шапкамі.

Кінааператары ўправіліся зрабіць некалькі здымкаў. Карэспандэнт нешта запісаў у сваю запісную кніжку. І раптам прагучаў сігнал баявой трывогі. Матросы кінуліся да гарматы і кулямётаў.

Па прывычцы мы пачалі шукаць ворага ў блакіце вячэрняга неба. Але капітан закрычаў:

— Вось яны, вось! — і паказаў рукой на мора.

Нізка, над самай вадой, проста на нас ішлі чорныя нямецкія тарпеданосцы. Яны набліжаліся з маланкавай хуткасцю і, здалося нам, усе кіравалі на

наш маленькі карабель. Велізарным выбухам грымнуў адначасова залп соцень гармат. Снарады з выццём і свістам праляцелі над нашымі галовамі, прыціснуўшы паветранай хваляй нас да палубы. Я ўбачыў, як адзін з тарпеданосцаў упаў у мора. За ім — другі. Пачуўся крык назіральніка.

— Тарпеда злева!

Тральшчык кінуўся ўбок.

Білі гарматы. Захлёбваліся кулямёты. Тысячы кілаграмаў сталі і жалеза ў адзін момант ляцела насустрач варожым самалётам, ствараючы шчыльную агнявую заслону.

А кінааператары, нібы ў студыі, спакойна здымалі гэты вельмі кароткі, але рашучы бой. Атака тарпеданосцаў была адбіта. Савецкае мора праглынула яшчэ чатырох фашыстаў і іх машыны. Ні адна тарпеда не трапіла ў цэль.

Сцямнела.

Наш тральшчык адлучыўся ад каравана і пайшоў на захад у заліў Матоўскі, каб даставіць карэспандэнта і кінааператараў на паўвостраў Рыбачы, — які гераічна абаранялі савецкія маракі на працягу вось ужо дзевяці месяцаў.

— Мы будзем на самым правым фланзе нашага вялізарнага фронту, — сказаў карэспандэнт сябрам, спускаючыся ў каюту.

Калі мы на другі дзень адплылі назад у Мурманск, камісар Вірскі спытаў мяне па дарозе:

— Ты ведаеш, хто гэты карэспандэнт?

Я пацісну ў плячыма.

— Чытаў «Аднапавярховую Амерыку»?

— Яўгеній Пятроў?

— Але… Цікавы чалавек.

Гэта быў не толькі цікавы, але і вялікі чалавек, салдат. У пачатку красавіка ён быў на паўвостраве Рыбачы, а ў чэрвені — у Севастопалі…

## Дот

Гэта было пад Ленінградам у суровую восень сорак першага года. Немцы замкнулі ўжо кальцо блакады і рабілі шалёныя намаганні захапіць і знішчыць вялікі горад. У адно ранне нямецкае камандаванне пачало сваю генеральную атаку на горад. З раніцы скалыхнулі паветра раптоўным выбухам тысячы гармат, і праз хвіліну ўсё навокал завыла, зазвінела, закалацілася. Сотні самалётаў рэзалі паветра, вылі, драпежнымі каршунамі кідаліся ў пікіраванне на горад і пазіцыі нашых войск, са страшэнным звонам праходзілі над самымі верхавінамі абгарэлых хвой і засыпалі ўсё навокал агнём і металам. Здавалася, не было ні аднаго метра зямлі, куды б ні падала бомба ці снарад. Дзве гадзіны цягнулася гэта сапраўднае пекла. А потым з-за ўзгорка паўзучымі гадамі выпаўзлі нямецкія танкі, чорныя, размалёваныя, а за імі са страшэннымі крыкамі, свістам, гіканнем пабеглі п’яныя эсэсаўцы ў адных нацельных сарочках, хоць было ўжо холадна, і марозны вецер абцінаў цела. Але і гэта іх чарговае вар’яцтва нікога не спалохала. Абаронцы горада чакалі іх і сустрэлі так, як сустракалі ўжо не раз. Праз паўгадзіны кожны баец убачыў, што і гэта шалёная атака захліпнулася ў іх уласнай крыві. Праз дзве гадзіны немцы пачалі новую атаку, але і на гэты раз разбіліся аб мужнасць, стойкасць, майстэрства нашых байцоў і камандзіраў.

Такі ж лёс чакаў і трэцюю іх атаку.

На нічыйнай зямлі гарэлі дзесяткі танкаў, бронемашыны і валяліся тысячы адборных гітлераўскіх байцоў. Хмель выходзіў з іх з апошнім дыханнем. Працверазіліся і тыя, хто застаўся жывы.

Але ўсё ж яны пачалі чацвёртую атаку і пачалі яе тады, калі ўжо наступала ноч і цемра пакрывала сваёй чорнай коўдрай поле бітвы і вялікі горад. У сістэме нашай абароны быў дом № 9. Дом гэты, збудаваны ленінградскімі рабочымі, быў самым моцным па трываласці і з'яўляўся цэнтральнай агнявой кропкай на вельмі адказным участку абароны — каля шашы. Ён значна высоўваўся з агульнай лініі абароны і размяшчаўся на паўднёвым схіле ўзгорка, на якім калісьці расло некалькі хвой, а зараз засталіся толькі пні ды ляжаў велізарны камень-валун. Дом быў добра замаскіраваны і аб ім нічога не ведалі немцы. Звязаныя мы былі па тэлефоне непасрэдна з камандным пунктам палка. Камандзір дота старшына Калянчук выконваў толькі загад камандзіра. У 50-і метрах былі ад дота немцы пры першых дзвюх атаках, але маёр Ратаў забараняў гарнізону выдаваць сябе, байцы назіралі за немцамі праз амбразуры і хваляваліся ад нецярпення і нянавісці.

Дазвол уступіць у бой гарнізон атрымаў пры трэцяй атацы немцаў. За некалькі хвілін яны падбілі пяць танкаў і знішчылі каля роты фашыстаў. Але выдалі сябе. Немцы, відаць, засяклі дот і перад чацвёртай атакай засыпалі месца яго размяшчэння снарадамі. Выбухамі снарадаў быў перабіты тэлефонны кабель, які звязваў нас са штабам палка.

Дзяжурны каля тэлефоннага апарата яфрэйтар Петухоў доўга клікаў КП палка:

— Ало… ало… «Зара»… «Зара». Я — «Вяршыня»… Я вас не чую… «Зара».

«Зара» маўчала.

— Не адказваюць, таварыш старшына, — даклаў Петухоў камандзіру гарнізона старшыне Каленчуку.

Калянчук адарваўся ад бінокля, праз які доўга і пільна разглядваў нямецкія падрыхтаванні да чарговай атакі, падышоў да апарата, пакруціў ручку індуктара і кінуў, не ўзяў нават трубку.

— Перабіта сувязь, — ціха сказаў ён і на момант застыў на месцы, а потым агледзеў людзей, быццам пералічыў яшчэ раз тых, з кім павінен перамагчы, прыняць смерць, і гучна скамандаваў <…>

* * *

— Дык што ж па-твойму, гніда ты няшчасная, так і пусцім гэтых агідных калбаснікаў, піваવараў да самых святых варот? Рана і рана. Многа ты разумееш, стратэг мамчын! — лаяўся на такога чалавека Калянчук.

Ён быў вопытны камандзір, цудоўны настаўнік сваіх байцоў.

Але і ён разгубіўся, калі камандзір палка сказаў аб асцярожным выхаванні новага байца. Ён не мог уявіць сабе, як гэта трэба выхаваць асцярожна салдата, ды яшчэ ў такі час. Маўклівасць Балотнікава зусім збіла яго з панталыку. Ён паспрабаваў распытаць яго аб жыцці да вайны, аб дамашнім становішчы, але даведаўся толькі тое, што Балотнікаў Лявон Сідаравіч — беларус, з Віцебскай вобласці і ў арміі знаходзіцца толькі два месяцы, ды і тыя праляжаў у шпіталі.

— Ранены ці што быў? — спыталі яго.

— Ранены, — буркнуў ён і больш не сказаў ні слова, а Каленчуку і яго сябрам надакучыла яго дапытваць.

— Эх і землячок жа нам трапіўся, — прашаптаў Калянчук трэцяму беларусу ў доце, наводчыку супрацьтанкавага ружжа Максімычу.

Байцы любілі свайго камандзіра, як роднага бацьку, і такі не салдацкі ўчынак Балотнікава ў такі гарачы час абурыў іх.

— Ты паварочваўся б хутчэй! — крыкнуў на яго ленінградзец Увараў.

Калянчук загадаў яму маўчаць.

На разважанні не было часу. Немцы пачалі сваю чацвёртую атаку.

— Петухоў і Балотнікаў! Зараз выйдзеце на лінію і наладзіце сувязь. Старшы Петухоў…

Петухоў хутка ўскочыў, выцягнуўся і, як належыць добраму салдату, громка паўтарыў:

— Ёсць! Выйсці на лінію і наладзіць сувязь. Дазвольце выконваць.

Балотнікаў, высокі і вельмі худы малады хлопец, разы ў два маладзейшы за Петухова, марудна павярнуўся да амбразуры, у якую ён углядаўся, і, нахіліўшыся, пачаў рыцца ў кутку, дзе ляжалі патроны, як быццам загад камандзіра яго не датычыўся.

Калянчук некалькі хвілін, закусіўшы губу, назіраў за ім, калі той падняўся, вешаючы на шыю аўтамат, падкрэслена выразна сказаў:

— Адставіць Балотнікава! З Петуховым пойдзе Разувайка.

Малады прыгожы ўкраінец Рыгор Разувайка паўтарыў загад і ў адзін момант быў гатовы.

Балотнікаў не сказаў ні слова. Ён павольна, не спяшаючыся, зняў аўтамат і зноў прысеў перад амбразурай. Дзіўны чалавек быў гэты Балотнікаў. Усяго два дні знаходзіўся ён у доце і за гэтыя два дні ўсіх здзівіў сваёй выключнай маўклівасцю. Дот жыў адной дружнай сям’ёй.

* * *

Немцы пачалі сваю чацвёртую атаку ўжо ў прызмерках. На гэты раз без артылерыйскай падрыхтоўкі і без падтрымкі авіяцыі, але пусцілі ў наступленне свежую, толькі што прыбыўшую танкавую дывізію. Хутка наступіла ноч, цемра ахутала ўсё навокал, і гарнізон пачуў шум танкаў у тыле. Там усчаўся цяжкі бой.

— Немцы прарваліся, — дрыготкім голасам сказаў падносчык патронаў Верабнікін, худы, маленькі чалавек год сарака з рыжымі вусікамі, у мінулым — бухгалтар нейкай кандытарскай фабрыкі.

— Хто сказаў? — грозным голасам усклікнуў Кавальчук. — Хто сказаў, што немцы прарваліся? У нас няма сувязі з палком.

— Танкі, таварыш старшына, танкі… — пісклявым голасам прагаварыў Верабнікін.

— Якія танкі? Ды калі танкі і ўклініліся, дык гэта не значыць, што прарваліся. Быць усім на месцы. Слухаць уважліва. Страляць па кожным, хто будзе падыходзіць без пароля.

І адзінаццаць чалавек застылі ў напружаным чаканні. Ззаду ад іх, дзе былі пазіцыі нашых войск, ляскаталі стрэлы, узляталі ракеты, а навокал было ціха. Канечне, кожны ведаў, што немцы глыбока ўсунуліся ў абарону, але ніхто не разумеў, чаму яны забылі аб доце.

Каленчука не спалохала тое, што дот папаў у акружэнне. Ён не сумняваўся, што і з гэтага акружэння выйдзе так жа паспяхова, як выходзіў раней.

Расказчык ён быў цудоўны, а анекдотаў ведаў незлічоную колькасць і расказваў іх так, што заўсёды сам з’яўляўся героем смешных падзей.

Байцы доўга сядзелі ў цемры, прыслухоўваючыся да кожнага шоргату. Усе чакалі сувязістаў, хоць кожны ў душы і не верыў, што яны вернуцца.

І першы гэтую цішыню парушыў Калянчук.

— Максімыч! — ціха паклікаў ён.

Максімыч адклікнуўся і пасунуўся да яго, думаючы, што зараз атрымае важны загад.

— Правер, калі ласка, сэрца ў Белянкова — ці ў парадку.

Калянчук ведаў з кім пажартаваць. Белянкоў быў яго намеснік, камандзір кулямёта, і яны ўтрох былі старымі сябрамі, служылі разам амаль з самага пачатку.

— Стукае ў абцасы ботаў, — жартаўліва даклаў Максімыч.

Белянкоў у цемры шчоўкнуў яго па лобе і так моцна, што той заенчыў. Байцы засмяяліся.

Калянчук зараз жа выкінуў новы жарт:

— Азынбекаў, ты не заснуў?

Казах Азынбекаў, найлепшы кулямётчык, добры спакойны хлопец, вельмі любіў спаць і спаў у любой паставе і пры любым шуме, нават пры артылерыйскай падрыхтоўцы.

Байцы зноў засмяяліся. Азынбекаў адазваўся з цемры:

— Мая не можа спаць цішыня. Мая спіць, калі кананада.

Гэта выклікала яшчэ большы смех.

— Цішэй, — папярэдзіў Калянчук.

Усе змоўклі ў адзін момант і напружана прыслухаліся, углядаючыся ў густую цемру праз усе шэсць амбразураў. Бой сціхаў. Але і markнакаляровыя трасеры ўсё яшчэ разразалі цемру ночы. Дзесьці далёка на захадзе з цяжкім гулам прайшлі варожыя бамбардзіроўшчыкі, і адразу ж на поўначы, над горадам, у паветры ўспыхнулі агнявыя букеты разрываў зенітных снарадаў. Перакрыжаваліся сотні чырвона-зялёных лент трасераў. Зямля здрыгнулася ад цяжкіх выбухаў.

— Эх, — уздыхнуў Увараў. Яго аж за сэрца брала пры кожным налёце авіяцыі на яго родны любімы горад.

Злева ад дота, там, дзе праходзіла шаша, пачулася прыглушанае асцярожнае гурчанне матораў і данесліся словы нямецкай каманды, кароткія і здушаныя.

Гэткія гукі насцярожылі ўсіх. Невядомасць становішча заўсёды горшая за самую страшную небяспеку, самы суровы бой са шматлікім ворагам. Што творыцца за сценкамі дота? Калі немцы сапраўды прасунуліся наперад, дык чаму ж яны не чапаюць дот?

Цягнуўся час, і цягнуўся ён вельмі марудна. Байцы час ад часу звярталіся да Уварава, у якога быў кішэнны гадзіннік з фосфарным цыферблатам. Даведаўшыся, колькі часу, здзіўлена пыталі:

— А ён не стаіць у цябе?

Гадзіннік ішоў, як і заўсёды, але гадзіны здаваліся вельмі доўгімі.

— Чорт ведае што такое, — не вытрымаў нарэшце і Калянчук. — Многа розных здарэнняў было са мной за пяць месяцаў вайны, а такога ніколі. Трэба зрабіць разведку, — і змоўк, відаць, задумаўся. А байцы напружана чакалі, чые прозвішчы ён назаве.

— Рызыкаваць мы не можам. Нас толькі дзевяць. У разведку пойдзе Белянкоў.

Белянкоў хутка сабраўся ў цемры, паціснуў моўчкі Максімычу і Увараву рукі.

Калянчук напружана абдумваў становішча, намагаючыся зразумець усё, узважыць і вырашыць, у чым выйсце. Невядомасць мучыла яго больш, чым каго іншага. Але прыдумаць ён нічога не мог.

* * *

— Опернага? — у голасе Каленчука было чутна здзіўленне. — Ах, опернага. Гэта значыць, дзе спяваюць?

— Дзе спяваюць…

— Ведаю. Адзін раз мне давялося быць там і больш ні-ні. Закаяўся на ўсё жыццё.

Ён зрабіў працяжную паўзу і гэтым распаліў цікавасць.

— Чаму? — спыталася некалькі галасоў прыдушаным шэптам.

А Максімыча душыў ужо смех: яны добра ведалі, што Калянчук быў у оперы не адзін раз.

— Было гэта год пяць назад. Я тады быў яшчэ юнаком і ў мяне быў дружок Грышка Клешч. Цікавы такі хлопец. І вось паехалі аднойчы мы з ім у Мінск, у святочны дзень, у сарочках з манішкамі, з намазанымі здорамваласамі. Франты франтамі. Пахадзілі па кірмашы, зайшлі ў піўнушку. А потым Грыша і кажа: «Ідзём, Валодзя, тэатру глядзець». Пайшлі. Селі. Заслона рассунулася. Прыгожа так нам спачатку здалося, мы нават і раты разявілі. Спяваюць. Сядзім далей — спяваюць. Усё спяваюць. Сядзелі мы далёка, на галёрцы, слоў не разбіралі. Бачу, мой дружок пазяхае ўжо, ды і самаму мне сумна зрабілася. Потым Грышка кажа: «Ну яго ў балота, Валодзя, ідзём лепш да буфета, ды па чарцы кульнём». Падняліся мы, цішком прабіраемся паміж радамі і раптам чуем са сцэны крычаць: «Куда, куда вы удалились?» Мы так і замерлі на месцы, прыселі паміж радамі. У мяне і сэрца ў пяткі ўскочыла. А Грышка як крыкне ў адказ: «Зараз вернемся. Мы толькі ў буфет».

Азынбекаў вялікі ахвотнік да анекдотаў, забыўся, дзе знаходзіцца і гучна зарагатаў. Гэта не дало магчымасці ў асалоду цішком пасмяяцца іншым: на яго зашыкалі. Увараў рукою заціснуў яму рот.

— Эх ты, шасціствольны мінамёт. Заракатаў, быццам залп зрабіў. За сем кіламетраў пачулі…

Усе насцярожыліся. Доўга і напружана ўслухоўваліся. Ляскалі з аднаго боку стрэлы, чарцілі каляровыя лініі трасеры. Выў халодны асенні вецер, свістаў, урываючыся ў амбразуры.

— Ціха, — сказаў Балотнікаў. Гэта было яго першае слова за дзень. — Ціха, — паўтарыў ён пасля доўгай паўзы.

— Дык вось якія здарэнні бываюць у тваёй оперы, Увараў, — пераканаўшыся ў цішыні і за сценкай дота, весела прашаптаў камандзір. — А то аднойчы мы вырашылі паставіць сваю п’есу ў вясковым клубе… Два месяцы рыхтаваліся…

— Хтось паўзе, — зноў прашаптаў Балотнікаў.

Усе напружылі слых. Праз хвіліну пачуўся піск, здалёк падобны да піску пацука.

Калянчук са смеласцю і рашучасцю, якая здзівіла, адчыніў люк, і ў дот уваліўся Белянкоў.

— Снег пайшоў, — сказаў ён першыя словы і, расшпіліўшы кажух, скалануў з каўняра снег.

— Заданне выканаў, таварыш старшына, — ціха даклаў ён. — Разведку зрабіў. Вынікі: наўкола немцы… Літаральна ў ста метрах ад нас. У бліндажы каманднага пункта нашага палка — мяркую, нямецкі каманднны пункт. Сувязісты цягнулі туды лініі. У лагчыне — артылерыя, каля дарогі — калона танкаў. Колькасць падлічыць не змог. Нашы замацаваліся на другой лініі… Немцы, відаць, падцягваюць сілы для наступных атак. Яны ўпэўнены ў поспеху свайго наступлення.

— Што ж яны на нас забыліся, ці што? — разважна спытаў Калянчук. — Нават абражае такая няўвага да нас.

— Ну, — усміхнуўся Белянкоў, — мне здаецца, што проста дзякуючы іх нямецкай тупасці, яны не дапускаюць магчымасці, што там, дзе прайшоў іх пярэдні край, магло што-небудзь застацца. Апрача таго, часці тут новыя, іх увялі замест разгромленых днём, мясцовасці добра не ведаюць, а лезці на гэтую голую высотку ў такі страшэнны холад нікому не хочацца…

— Не згадзіцца з такой думкай нельга, — адгукнуўся з дальняга кутка Балотнікаў.

Відаць, усіх здзівіла тое, што гэта сказаў Балотнікаў. За апошнія некалькі хвілін ён сказаў больш слоў, чым за апошнія суткі.

Калянчук паклікаў Белянкова да сябе і ціха сказаў:

— Разведаеш усё навокал дота. Калі ззаду ад нас немцы — не ідзі. Аб асцярожнасці я табе не кажу. Астатняе ты ведаеш сам, — і яшчэ цішэй, ужо зусім шэптам: — Жывым не давайся, Міша.

— Будзь упэўнены, Валодзя.

Байцы пачулі прыдушаны гук пацалунка — сябры пацалаваліся. Потым Калянчук сам асцярожна адчыніў цяжкі люк і выпусціў Белянкова.

Яшчэ марудней пацягнуліся гадзіны. Ад напружанага чакання пачынала балець цела, як быццам ад непасільнага цяжару. Кожны гатоў быў лезці ў любое пекла, абы не сядзець вось так у гэтым халодным доце. Гэта разумеў камандзір. Ён выйшаў на сярэдзіну дота і ціха спытаў:

— Хто хоча спаць?

Жадаючых, канечне, не знайшлося.

— Ніхто не хоча? Я разумею, зараз цяжка заснуць. Несвоечасовы сон — страшная рэч. Я чытаў, што ў час Крымскай вайны адзін генерал два тыдні рыхтаваў захоп Балаклавы, усё планы чарціў, дыспазіцыі складаў, а калі пачалася атака — ён заснуў у сядле ад знораснасці. Нам трэба берагчы сілы. Балотнікаў, Увараў, Цішковіч і Кац могуць спаць цяпер, астатнія на чале са мной будуць дзяжурыць.

Але ніхто нават не зварухнуўся.

Калянчук укруга абышоў дот і пaглядзеў у кожную амбразуру. Чатыры з іх зліваліся з цемрай ночы. Праз дзве іншыя былі бачны доўгія светлавыя слупы пражэктараў у далечыні. Зрэдку цемру прарэзвалі пункціры трасераў. Не магло быць сумнення, што там праходзіў новы рубеж абароны. «У такім выпадку тут павінна быць галоўная канцэнтрацыя немцаў — іх штабы, кухні, артылерыйскія пазіцыі, абоз», — падумаў ён. Але навокал было пуста і ціха, і толькі на шашы рэдка гурчэлі маторы. Шумеў вецер. Урываўся ў амбразуры.

Было холадна.

— Відаць, пойдзе снег, — заўважыў Цішковіч, самы старэйшы з байцоў, паважны стары рабочы.

Ад гэтых звычайных слоў, якія кожны чуў не раз позняй восенню, зрабілася яшчэ халадней.

— Як ты думаеш, вернецца Міша? — спытаў раптам Калянчук.

Пытанне было крыху недарэчнае і здзівіла байцоў, але ўсе зразумелі, што ён не гэта хацеў сказаць, што яму проста хацелася пагутарыць ад шчырага сэрца, як гутарылі яны не раз пры цяжкім становішчы.

Максімыч злавіў у цемры руку Каленчука і па-сяброўску паціснуў яе. Яму таксама хацелася сказаць простыя, шчырыя словы, назваць па-ранейшаму Валодзем, але ведаючы яго, стрымліваўся. Калянчук, відаць, зразумеў гэта і сам ціха сказаў:

— Максімыч, раскажы анекдот. Усё адно хлопцы не спяць.

— Ой, злітуйцеся, таварыш старшына, — жартліва заенчыў Азынбекаў. — Мая будзе спаць, калі Максімыч будзе казаць, а мне трэба дзяжурыць. Раскажыце вы <…>

— Але, таварыш старшына, Азынбекаў праўду кажа. Раскажыце, не так будзе цягнуцца час.

Каленчуку, відаць, спадабалася такая думка. Вясёлы жарт, анекдот заўсёды дапамагалі яму ў цяжкія моманты. Ён сеў побач з Максімычам, і ў голасе яго зазвінелі ноткі вясёлага смеху:

— Што ж гэта такое расказаць, каб было падобна на наша становішча? Гм… — ён зрабіў паўзу і потым раптоўна спытаў: — Увараў, ты дзе працаваў да вайны?

Здзівіўся Увараў, бо пра гэта ўсе ўжо добра ведаюць.

— Я? У тэатры, — адказаў Увараў.

— У тэатры? Акцёрам?

— Не. Дэкаратарам опернага тэатра.

— Так, думка правільная, — пацвердзіў камандзір. — А што ж нам рабіць?

* * *

— Выбірацца, паўзці да сваіх, хутчэй паўзці, пакуль ноч, пакуль цёмна, пакуль немцы не агледзеліся, — скорагаворкай, заікаючыся, зашаптаў Верабнікін.

— Што-о? — працяжна, ва ўвесь голас запытаў Калянчук і зрабіў крок да Верабнікіна. — Уцякаць? Хто яшчэ хоча ўцякаць?

Наступіла напружаная цішыня. Было чутна толькі цяжкае дыханне Каленчука. І ў гэты момант там, дзе праходзіла лінія абароны, заляскаталі кулямёты, завыў мінамёт, густыя ленты трасераў павіслі ў паветры. Дзесьці далей у баку гулка ўдарылі палкавыя гарматы. Усе павярнуліся да паўночных амбразураў. Праз хвіліну бой таксама раптоўна як і ўспыхнуў, пачаў затухаць, і тады першы загаварыў Азынбекаў.

— Куды ўцякаць? Хто кажа ўцякаць? Мая біцца тут да апошняй патрон.

— Вы абражаеце нас гэтым жаданнем, таварыш старшына, — сказаў Увараў і дадаў: — За намі — Ленінград.

— Чуў, Верабнікін? — спакойным ураўнаважаным голасам сказаў Калянчук, хоць таму, хто добра ведаў яго, няцяжка было ў гучанні яго голасу пачуць хваляванне, злосць. — За намі — Ленінград… І мы пакінем гэты дот толькі ў двух выпадках: ці калі нам загадае камандаванне, ці калі нас вынесуць адсюль мёртвымі…

— Мы застаёмся тут да дня. Мы будзем біць немцам у спіну, калі яны пачнуць сваю новую атаку. Што будзе далей — будзем бачыць. А зараз… — Калянчук зрабіў паўзу: — Ты вельмі змарыўся, Міша? — ласкава, па-бацькоўску, спытаў ён Белянкова.

— Я? Не. А што?

— Трэба дабрацца да штаба. Пойдзеш ты…

— Ёсць, таварыш камандзір, ісці да штаба, — цвёрдым шэптам паўтарыў Белянкоў.

— Проста гэта ў цябе гучыць, Міхаіл: узяў і пайшоў. Я ведаю, што ты ўмееш памерці так, як належыць камсамольцу. Але справа ў тым, каб не памерці, а дайсці, іменна дайсці, абавязкова дайсці… Разумееш ты? — на апошніх словах Калянчук узвысіў голас.

— Разумею… Я дайду, — цвёрда адказаў Белянкоў.

Яны зноў пацалаваліся, і ён пайшоў, узброіўшыся аўтаматам і ручнымі гранатамі.

А праз некалькі хвілін пасля яго сыходу пачуліся цяжкія крокі некалькіх пар ног і нямецкія словы.

Затаіўшы дыханне, байцы чакалі, кожны каля сваёй амбразуры, сціснуўшы аўтамат ці ручкі кулямётаў. Праз амбразуры было бачна, што снег накінуў на зямлю сваю тонкую белую коўдру. На каменнях, кустах, купінах снегу не было і гэтыя няроўнасці зямлі нібы зеўралі, скаліліся сваёй чарнатой. Максі-

мыч і Азынбекаў заўважылі чорныя постаці, якія рухаліся. Даклалі камандзіру. Калянчук падышоў, паўзіраўся. Немцы прайшлі міма і спусціліся з узгорка.

Рэштку ночы правялі ў гэтакім жа напружаным чаканні. Чакалі немцаў, чакалі Белянкова ці сувязістаў, чакалі світання.

— Відаць, у жыцці чалавека няма хвіліны, калі б ён нічога не чакаў, — сказаў Максімыч.

Каленчуку спадабаліся гэтыя словы, і ён расказаў смешны анекдот аб чаканні. Пасля ён прыгадваў цікавыя выпадкі са свайго першага акружэння ў пскоўскіх лясах. Гаварыў ён шэптам, але звычайным, спакойным, роўным голасам і так захапляюча, што ў асобныя хвіліны байцы нібы забывалі, дзе яны. Расказваў ён аптымістычна, у расказах яго жыццё заўсёды перамагала смерць, і станоўчыя героі былі чэснымі, адважнымі, рашучымі людзьмі — такімі, якім, байцы ведалі, быў ён сам. Ад расказаў рабілася цяплей на сэрцы, мацавалася ўпэўненасць у перамозе.

* * *

Я не мог больш стрымліваць сваёй цікавасці і, скарыстаўшы працяжнае маўчанне ўсіх, звярнуўся да Балотнікава:

— Балотнікаў, што ты рабіў да вайны?

Ён, відаць, прывыкшы да таго, што да яго ніхто не звяртаўся з пытаннямі аб яго мінулым, і таму здзівіўся ці разгубіўся і адказаў не адразу:

— Працаваў слесарам у Віцебску і вучыўся.

— А ў час вайны?

Ён не адказваў так доўга, што Калянчук не вытрымаў і паўтарыў пытанне.

— Быў у немцаў, у лагеры ваеннапалонных, — нейкім дрыжачым голасам адказаў ён.

— А потым? — задаў чарговае пытанне Калянчук.

— Уцёк, — коротка адказаў Балотнікаў і такім голасам, што пасля цяжка было задаць якое-небудзь пытанне. І ніхто не задаў яго. Але ён загаварыў сам.

— Уцёк… Але на сэрцы — стопудовы камень. Вінаваты я перад вамі, таварышы. Калі адступалі ў жніўні, папалі ў акружэнне, я, замест таго, каб прабівацца да сваіх, пайшоў дамоў. Захацеў перачакаць, — у голасе яго пачулася іронія. — Адляжацца ў мацеры на печы. Ну, і адле́жаўся… у лагеры, сярод тысяч трупаў… І хочацца сказаць мне немцам дзякуй: яны расплюшчылі мне вочы, далі магчымасць зразумець, хто яны, і па-сапраўднаму палюбіць тое жыццё, якім я жыў да вайны… Радзіму палюбіць. Мне сорамна ў вочы паглядзець вам… Я вярнуўся, каб мяне судзілі, а мяне вось куды… Гэта вялікі гонар, таварышы, — голас яго задрыжаў ад хвалявання. — Вялікі гонар абараняць гэты горад, — ён памаўчаў і потым больш ціхім і спакойным голасам: — Я быў у Ленінградзе… Гэта такі горад… такі…

— Мы ведаем самі, які гэта горад, — перабіў яго Увараў.

Ленінградцу Увараву, які больш за ўсё на свеце любіў свой горад, стала крыўдна, што маўчун, дэзерцір у мінулым, хваліць ягоны горад.

* * *

Калянчук паверыў Балотнікаву, але, успомніўшы, як пільна падбіраў людзей маёр Ратаў для гэтага гарнізона, адчуў несправядлівасць у тым, што ў лік сталых і выпрабаваных ва ўсіх агнях воінаў далі гэтага хлапчука, дэзерціра, ваеннапалоннага. Але ён не сказаў больш ні слова. Маўчалі і другія. Вельмі доўга цягнулася цяжкая, незразумелая цішыня.

Падаў снег. Асобныя сняжынкі праз амбразуры залятàлі ў наша сутарэнне. Ад выпаўшага снегу рабілася святлей, хоць паверхня зямлі здавалася незнаёмай, дзіўнай.

Незаўважна надышоў ранак.

Пасвятлела неяк адразу, і ўсе ўбачылі недалёка ад дота, пад узгоркам, каля парэшткаў трох зруйнаваных будынкаў немцаў і артылерыйскую батарэю, кухні, склады. Яшчэ праз некалькі хвілін з другога боку і крыху далей льга было разгледзець калоны аўтамашын.

Немцы сапраўды былі наўкола і пад самым носам. І кожны чалавек гарнізона зразумеў, што толькі нейкая дзіўная выпадковасць не дала ім магчымасці адшукаць нас і што нікуды совацца нельга. І адразу ж прагучала ціхая і ўпэўненая каманда Каленчука:

— Падрыхтавацца да бою!

У некалькі хвілін усё было падрыхтавана.

— Нападаць першымі будзем мы! — сказаў Калянчук. — Нечаканасць і раптоўнасць — вялікая сіла.

Віднела хутка. Ужо і ў доце можна было разгледзець твары кожнага. І былі яны, твары, усе падобныя адзін да аднаго. Кожны клапатліва правяраў сваю зброю. Верабнікін, які адначасова выконваў абавязкі падносчыка боепрыпасаў і санітара, рыхтаваў медыкаменты, бінты.

У гэты момант немцы, відаць, заўважылі дот: чатыры салдаты пачалі паднімацца на ўзгорак, кіруючыся на дот і, відаць, не падазраючы аб нашай прысутнасці.

— Эх, і разану я іх, — з нейкай, здалося мне, радасцю і захапленнем прашаптаў мне Азынбекаў, навёўшы свой кулямёт у гэтыя чатыры постаці.

Кароткая каманда Каленчука:

— Агонь!

І чатыры амбразуры паласнулі магутнымі струменямі агню і металу. Першымі ўпалі чатыры немцы, якія паднімаліся на ўзгорак. За імі ўпала некалькі чалавек каля кухні. На батарэі ўсчалася страшэнная паніка. Відаць, выконваючы загад афіцэра, разлікі кінуліся да гармат, і гэтая неразумнасць загубіла іх усіх: усе яны былі скошаны кулямётам Азынбекава раней, чым падрыхтавалі хоць адну гармату да стральбы. Азынбекаў пачаў біць па двух прычэпах, нагружаных снарадамі. Грымнуў вялізны выбух. За ім другі, у цэнтры батарэі. Нас асляпіла, пасыпалася зямля, дошкі, кавалкі металу, далягляд заслаўся дымам і сажаю.

Хутка сажа асела.

У дадатак па пажарах пачала біць наша артылерыя. Асобныя снарады разрываліся недалёка ад дота, засыпаючы яго зямлёю.

— Здорава! — радасна крыкнуў Калянчук. — Малайчына Міша! Дайшоў! Ну, хлопцы, трымаемся. Мы ім, чарцям, пакажам…

Высокі, дужы ён стаяў сярод дота, трымаючы ў руцэ снарад і ўсміхаўся шырокай дзіцячай усмешкай, аскальваючы зубы, якія ззялі на чорным, некалькі дзён нябрытым твары. Яго ўсмешка перадалася і іншым. Нават Балотнікаў і той усміхнуўся, праўда, вельмі каротка і, як быццам, употайкі.

— Цяпер чакай іх з-за ўзгорка. Балотнікава папярэджваю, чаго кідацца да чужых амбразураў. Пільнуй сваю.

Балотнікаў не сказаў ні слова.

На шашы, што праходзіла каля разбітай батарэі, паказаліся грузавікі з салдатамі. Відаць там, у тыле, шум бою прынялі за контратаку нашых войск і дасылалі падмацаванне. Мы падпусцілі першых шэсць машын на карацейшую адлегласць і расстралялі з трох кулямётаў. Два грузавікі загарэліся.

Не кончылі мы яшчэ страляць па грузавіках, як Увараў крыкнуў:

— Немцы! З усходу!

Яны выпаўзлі з-за ўзгорка, з усходняга яго боку, і, падняўшыся, з крыкам кінуліся ў атаку. Ім удалося прабегчы не больш як дзесяць метраў і вельмі нямногім вярнуцца назад, схавацца за ўзгорак.

Наступіла працяжнае зацішша.

Новая атака пачалася з шашы. Чатыры танкі выкаціліся з лагчыны і, прыкрываючы сабой аўтаматчыкаў, папаўзлі на дот. Мы падпусцілі іх бліжэй і расстралялі з гарматы. Тры загарэліся, адзін застаўся мёртва стаяць на месцы <…>

* * *

Балотнікаў аглядаўся на іншых, якія вялі бой, і нарэшце не вытрымаў і перайшоў да амбразуры Азынбекава.

— Назад! На сваё месца!

Балотнікаў, не спяшаючыся, перапоўз назад.

Неўзабаве па пажарах пачала біць наша артылерыя. Асобныя снарады разрываліся недалёка ад дота, засыпаючы яго мёрзлаю зямлёй.

— Здорава!

Калянчук бачыў, што Верабнікін трусіць і ў такім становішчы здольны з мухі зрабіць слана. Але і сам ён быў нездаволены Балотнікавым. Правяраючы зброю, Калянчук спыніўся каля яго і сказаў:

— Марудна страляеш!

— А навошта?

З-за ўзгорка, шашы, з-за спаленых машын выпаўзла каля двух дзесяткаў нямецкіх танкаў, за імі — аўтаматчыкі.

Танкі набліжаліся з маланкавай хуткасцю і не пераставалі засыпаць дот снарадамі. Звінеў, гуў жалезабетон, трэскаўся, абсыпаўся. Ад гэтага страшэннага гулу звінела ў галаве, гублялася здольнасць думаць. Але людзі ўпарта вялі агонь, не зважаючы на тое, што тварылася навокал. Калі ж наступіла нейкая выпадковая секундная цішыня, усіх скалануў страшны крык. Верабнікін стаяў пасярод дота і хутка распранаўся, скідаў гімнасцёрку.

— Браткі! Ратуйцеся! Здавайцеся! Вось я зараз кашулю зніму. Белы сцяг выкінем. Нельга далей трымацца, нельга. Ратуйцеся! Хутчэй…

* * *

На хвіліну ўсе разгубіліся і паглядзелі на мёртвага камандзіра, чакаючы яго каманды, яго дзеяння.

* * *

Ніхто не чакаў гэтага, нават не думаў у часе бою, што давядзецца змагацца яшчэ з адным ворагам — нясмеласцю.

* * *

Аб сваім становішчы яны не гаварылі. Для кожнага было зразумела, што яны будуць змагацца — выконваць сваю баявую задачу. Аб смерці ўжо ўсе абвыклі думаць. Добры салдат павінен думаць аб жыцці, калі хоча перамагчы. У доце знаходзіліся добрыя садаты, і кожны з іх быў упэўнены ў сваім таварышы. Праўда, кожны ведаў, што Верабнікін часам трусіць, як струсіў і цяпер,

але наогул гэта быў нядрэнны баец, ваяваў ён нямала часу, і былі выпадкі, што ён у баях рабіў учынкі, якія можна было б назваць гераічнымі. Усе не ведалі толькі аднаго чалавека — Балотнікава. І кожны думаў, хто ён такі? Што ў яго наўме? І чаму ён так упарта маўчыць? Але больш усіх непакоіўся камандзір. У думках ён лаяў сябе, што раней не заняўся як належыць гэтым маўчуном, не высветліў усіх яго якасцей.

«Трэба хоць зараз распытаць яго добра… Што ён за чалавек?»

І Калянчук, скарыстаўшы працяжнае маўчанне, звярнуўся да байца:

— Балотнікаў, што ты рабіў да вайны?

* * *

Супрацьтанкавая гармата пад камандаю самога Каленчука біла па аўтамашынах. І хутка там, дзе стаялі, схаваўшыся ў лагчыне аўтамашыны, забушавала полымя. Грымелі выбухі, кідаючы высока ў неба густыя клубы жоўтага і чорнага дыму: сярод машын было шмат танкавых бензазапраўшчыкаў.

Байцы, натхнёныя такой раптоўнай удачай, радасна пераміргваліся, крычалі адзін аднаму на вуха жартаўлівыя словы. У гэтым баі не прымалі ўдзелу два чалавекі: Балотнікаў і Кац. На іх долю выпалі паўночныя амбразуры, і адтуль немцы не з'яўляліся. Кац пільна сачыў з вяршыні ўзгорка і за вялікім валуном, чакаючы іменна адтуль першай атакі немцаў на дот. Балотнікаву не сядзелася. Ён нервова <…>

Агонь спынілі так жа раптоўна, як пачалі, і адразу немцы заварушыліся, выціраючы пыл з кулямётаў. Выведзенае з цярпення нямецкае камандаванне не магло больш мірыцца, што нейкі адзін дот трымаецца цэлы дзень і наносіць ім такія вялізныя страты.

Калянчук кінуўся да гарматы, ранены Азынбекаў да супрацьтанкавага ружжа, і яны ў першую ж хвіліну падбілі тры самыя бліжэйшыя да іх танкі.

Але раптам камандзір схапіўся рукою за шчаку і адхіснуўся. Нейкі кароткі момант ён пастаяў так, а потым апусціў руку і пачаў падаць. Па шчацэ пацёк чорны струмень крыві. Я падтрымаў яго. Ён намагаўся нешта сказаць, але не змог: кроў пайшла з рота, пацякла па барадзе. Тады ён энергічным і апошнім рухам рукі паказаў на гармату.

— Браткі! Ратуйцеся! Здавайцеся! Вось я зараз кашулю зніму! Белую кашулю выкінем! Нельга нам трымацца без камандзіра! Нельга! Ратуйцеся!

Гэта нізкая баязлівасць нашага таварыша аглушыла нас больш, чым сотні выбухнуўшых над нашымі галавамі снарадаў і мін.

З жудасцю глядзеў на яго цяжкапаранены Цішковіч, адхіснуўся ад яго, як ад заразнага, Кац. Толькі Азынбекаў і Балотнікаў нічога не бачылі, а працягвалі біць па немцах, адзін з супрацьтанкавага ружжа, другі — з кулямёта. Але нечакана Балотнікаў азірнуўся, убачыў труп камандзіра, распранутага Верабнікіна і ўсё зразумеў. Адным махам ён апынуўся каля баязліўца і схапіў яго за каўнер.

— Што здавацца, гад? Каму? Немцам? Зноў у лагер? Эх ты, гніда! — і са страшэннай сілай ударыў Верабнікіна спінай аб сценку дота.

Верабнікін цяжка ахнуў і ўпаў на патронныя скрынкі.

— Біцца! Біцца да апошняга! Жывым і раненым! Камандую я! — грымнуў Балотнікаў і кінуўся да свайго кулямёта.

Але немцы не з'яўляліся. Толькі часцей пачала біць наша артылерыя.

Мы схамянуліся толькі тады, калі з-за ўзгорка выпаўзлі нашы савецкія танкі, а да дота беглі чырвонаармейцы, а наперадзе іх усіх — Міша Белянкоў і маёр Ратаў.

— Браткі мае! — радасна абняў маёр Каца, ускочыўшы ў дот. — А Калянчук дзе, дзе Валодзя?

А Белянкоў ужо схіліўся над трупам Валодзі Каленчука і са слязамі на вачах гаварыў:

— Валодзя! Сябра мой! Не давялося табе дайсці да Берліна. Але мы дойдзем і адплацім за тваю смерць.

* * *

Балотнікаў секунду глядзеў на яго шырокімі вачамі, намагаючыся зразумець, у чым справа. І, зразумеўшы, пабялеў, задрыжэў усім целам, адным скачком апынуўся каля трупа і схапіў яго за каўнер нацельнай кашулі.

* * *

Зноў наступіла зацішша. Пайшоў снег густымі камякамі. Сістэматычна і раўнамерна біла гармата. Настрой гарнізона быў добры.

Калянчук наліў усім па чарцы і прапанаваў закусіць. Усе з апетытам пачалі есці сухары з мёрзлымі кансервамі.

— Уяўляю морду нямецкага генерала, — смяяўся Увараў.

— Але і шумок у іх там зараз!

— І радасць у нашых хлопцаў.

— А сняжок нам нашкодзіў.

Сапраўды, густы снег закрываў нават шашу. Гэта прымусіла гарнізон насцярожыцца.

І раптам іх аглушыў вялізны выбух, за ім другі, трэці. Праз хвіліну ўсё навокал загуло, засвістала і замест белага пушыстага снегу перад амбразурамі пасыпаўся пясок, камень, копаць. Раззлаваныя немцы пачалі біць па нас вялікай колькасцю сваіх артылерыйскіх і мінамётных батарэй. Білі з усіх чатырох бакоў. У адказ ім загаварылі нашы гарматы, каб адцягнуць увагу ад нас. Снарады выбухалі каля самага дота. Праз некалькі хвілін асколкам быў цяжка паранены Цішковіч. Гэты шалёны артылерыйскі налёт цягнуўся доўга і змоўк раптоўна. І адразу ж з усіх бакоў праз заслону снегу і копаці, пылу пайшлі ў наступ нямецкія аўтаматчыкі. Яны беглі з крыкамі і стралялі з аўтаматаў, некаторыя падбеглі так блізка, што дакінулі да дота ручныя гранаты. Але назад з іх не вярнуўся ні адзін, дзесяткі зялёных трупаў засталіся ляжаць на схілах узгорка.

Немцы аблілі дот дажджом куль з кулямётаў і аўтаматаў.

Адна куля заляцела ў амбразуру і папала ў грудзі Увараву. Ён схапіўся за грудзі і ўпаў. Калянчук кінуўся да яго, падняў галаву.

— Бывайце, таварышы. Стойце. Біце іх. За Ленінград…

Ён заплюшчыў вочы і хвіліну памаўчаў.

— Бывай, Валодзя. Тут у кішэні адрас маці, зайдзі да яе. І заява ў партыю.

Пачалася новая атака. У часе яе ў Каца заела кулямёт. За гэтыя некалькі секунд два немцы дабеглі да дота і ўскочылі на яго.

— Рус, здавайся! — крыкнулі яны адтуль і пачалі кідаць гранаты, жадаючы папасць праз амбразуру ў дот. Адна граната разарвалася ў амбразуры, і асколкі паранілі ў плячо Максімыча. Заўважыўшы гэта, Калянчук раптоўна адчыніў люк і з пісталета забіў гэтых двух вельмі ўжо спрытных немцаў. Калі наступіла паўза, Верабнікін нахіліўся да Каленчука і дрыжачым голасам пазваў Балотнікава:

— Балотнікаў, як страляеш?!

Балотнікаў спакойна, павольна так і ўсміхаецца, увесь час усміхаецца.

Я паназіраў за ім.

— Гэта ж проста страшна ў такі час усміхацца, — гаворыць старшына. — Ці па немцах ён страляе? Ці ад немцаў… Усміхаецца.

Калянчук спыніўся каля Балотнікава.

— Марудна страляеш. Трэба хутчэй…

— А навошта страляць без карысці? — павярнуўся Балотнікаў і ўсміхнуўся нейкай дзіўнай радаснай усмешкай.

Гэта ўсмешка здзівіла і абурыла Каленчука. Ён пры ўсёй сваёй <нрзб> не мог стрымаць злосць і груба крыкнуў:

— Дрэннае надвор'е для сушкі зубоў!

Балотнікаў прамаўчаў і адвярнуўся да амбразуры.

* * *

Зацішша было нядоўгае. Скарыстаўшы густы снег, немцы падкацілі гарматы, і мы заўважылі, што каля шашы немцы згуртаваліся для атакі.

Зноў усё задрыжэла ад шматлікіх выбухаў. Адзін цяжкі снарад папаў у дот. Жалезабетонны каўпак загуў ад удару, пасыпаліся дробныя кавалкі бетону. За першым снарадам папаў другі, трэці… Нарэшце ўдарыў снарад такой магутнасці, што столь дота дала трэшчыну, агаліліся стальныя бэлькі. Цяжкія кавалкі бетону ўпалі, паранілі Азынбекава.

Перапалоханы, аглушаны Верабнікін не ведаў, што рабіць, не чуў, што крычыць яму на вуха Азынбекаў.

## У порце

Мы не спім другія суткі. І другія суткі без адзінага перапынку знаходзіліся каля гармат. Красавіцкі мароз даходзіў да 15. Але мы так перамёрзлі і так страшэнна змарыліся, што ўжо не адчувалі ні холаду, ні голаду, ні цяжкасцей.

На працягу апошніх сутак толькі ў светлы час немцы адзінаццаць разоў вялікімі злучэннямі пікіруючых бамбардзіроўшчыкаў атакавалі порт і караблі каля прычалаў. Ноччу іх самалёты без перапынку ішлі па адным, падоўгу кружыліся над горадам, кідалі асвятляльныя бомбы. І ўсю ноч мы вялі загараджальны агонь. Гарматы білі да чырвані ствалоў, а зараджаючыя і падносчыкі снарадаў выбіваліся з апошніх сіл. Бомбы часта падалі ў некалькіх кроках ад батарэй, а то і зусім на батарэі.

Ад гэтай сутачнай страшэннай кананады гудзела і звінела ў галаве, і многія з байцоў страцілі слых. Але кожны чалавек бачыў, што ўсе атакі немцаў былі гераічна адбіты. Немцы страцілі толькі ад зенітнага агню 7 самалётаў, ды 12 самалётаў былі збіты нашымі знішчальнікамі. І ні адна іх бомба не патрапіла ні ў адзін са шматлікіх вялізарных транспартаў, ні ў жыццёвыя часткі порта. Работа ў порце не спынялася. Гудзелі маторы пад'ёмных кранаў, пераносячы грузы з трумаў караблёў на чыгуначныя платформы і ў вагоны. Адзін за адным з порта выхадзілі доўгія эшалоны і накіроўваліся на поўдзень.

Наша батарэя стаяла амаль у самым порце, каля чыгуначнай лініі. І нам давялося страляць бадай што больш за ўсіх.

Наступіла ранне наступнага дня.

І зноў неба было чыстым і ясным. Надвор'е ціхае, марознае.

Зноў чакалі масавага налёту бамбардзіроўшчыкаў. Повар разносіў снеданне да кожнай гарматы. Але на марозе есці не хацелася. Змораныя байцы <…>

* * *

Кошалеў штурхнуў мяне:

— Таварыш камандзір! Контр-адмірал…

Я аглянуўся.

Да гарматы ішоў Упаўнаважаны Дзяржаўнага камітэта абароны па прыёме і разгрузцы суднаў у Мурманскім порце контр-адмірал Папанін.

Мы бачылі яго ўжо некалькі разоў. Разы са тры ён заходзіў да нас на батарэю. Але на гэты раз ён кіраваўся проста да нашай гарматы.

Я падаў каманду «Зважай!» Хто спаў, у адзін момант схапіліся і застылі на месцы, незаўважна папраўляючы рамяні, шапкі.

Я выбег яму насустрач і даклаў:

— Таварыш контр-адмірал! Гарматны разлік № 4 другой батарэі знаходзіцца на дзяжурстве.

Ён проста працягнуў мне руку, потым так жа проста прывітаўся з байцамі.

* * *

Кароткім позіркам аглядзеў нашу гаспадарку і спыніўся на закліку на гармаце.

— За Белоруссию! — прачытаў ён.

— За Беларусь! — паправіў яго наводчык Андрэй Засека, малады вясёлы мінчанін.

Папанін усміхнуўся сваёй, знаёмай кожнаму савецкаму чалавеку, вясёлай папанінскай усмешкай.

— Беларус?

— Так точна, таварыш контр-адмірал. Нас чацвёра тут, беларусаў.

— Ах вось у чым справа! Правільна, хлопцы! Кожны наш чалавек, дзе б ні быў ён, павінен біць ворага за родны край, за родны дом… Добра, браточкі. Садзіцеся, — і ён першы сеў на снарадныя скрыні і пажартаваў. — Не выбухнуць? Страшна ўсё-такі…

Вясёлыя, гордыя за такога госця, байцы паселі навокал, стараючыся не прапусціць ніводнага слова Папаніна.

— Горача, хлопцы? — спытаў ён.

— Усё разам, — адказаў жартаўліва Засека, — і горача, і холадна. Пячэ з двух бакоў.

— Нічога, хлопцы. Тым, хто наступае зараз непасрэдна на Беларусь, магчыма, гарачэй. Мы павінны дапамагчы ім… Усё гэта, — ён кіўнуў у бок, дзе разгружаліся транспарты, — без малейшай страты павінна прайсці да іх. Яны чакаюць гэтых танкаў. Яны вельмі патрэбны ім, пакуль у нас не хапае сваіх. Прыйдзе час, калі ў нас будзе дастаткова сваіх… Хутка прыйдзе…

Мы слухалі затаіўшы дыханне. Падышло яшчэ некалькі байцоў і камандзіраў, запыталі дазволу прысутнічаць і ціха стаялі каля гарматы.

— Стралялі ўчора мы добра… Але павінны страляць лепей… Заўважылі? Порт не спыняе сваю работу і ў часе баявых трывог і бамбардзіровак. Раней мы спынялі работу, рабочыя хаваліся ў бамбасховішчы. А ўчора адзін кранаўшчык, стары ленінградзец, чалавек ва ўзросце 56 год, адмовіўся кідаць работу і працягваў яе і тады, калі падалі бомбы. Раю пазнаёміцца з гэтым дзядулем. Аляксей Якаўлевіч Сакалоў. Кранаўшчык крана № 3… Ён глядзіць на вас, браточкі. На маё запытанне ён так і адказаў: «Што я, кажа, не салдат ці што? Яны страляюць, калі на іх сыпяцца бомбы, а я павінен у зямлю лезці, як крот? Не палезу!» І злосна так заявіў… Што, бачылі? — Папанін вясёла падміргнуў

і ўсміхнуўся. — І нават паслаў мяне да прабабулі… «Мне, кажа, напляваць, што ты сам Папанін. А з крана не пайду». Вось, які старык! Яго падтрымалі ўсе другія рабочыя. І, бачыце, порт работае дзень і ноч. А гэты стары прапрацаваў 27 гадзін без змены. 27 гадзін! Разумееце? Гэта ж геройства… Больш, чым геройства…

Контр-адмірал вясёла ўсміхаўся, аглядаючы байцоў. Яны бадзёра ўсміхаліся яму ў адказ, і ніхто ўжо не адчуваў зморанасці і не хацеў спаць.

— Глядзіце ж, не падвядзіце старога…

— Не падвядзём, таварыш контр-адмірал! — громка адказалі некалькі галасоў.

— То ж, братачкі… Спадзяёмся на вас…

Падышоўшы сувязіст Вася Дзядкоў высунуўся наперад і, горда ўсміхаючыся, сказаў:

— А мы з вамі старыя знаёмыя, таварыш контр-адмірал…

— Да ну?

— Я вам кіно круціў у Нар'ян-Мары, калі вы ляцелі на Паўночны полюс.

— Сур'ёзна?

— Чэснае слова. Я ж галоўны кінамеханік кінатэатра горада Нар'ян-Мар…

У гэты момант прагучаў сігнал трывогі.

Байцы кінуліся да сваіх месц.

Папанін падхапіўся, аглядзеў неба і адышоў у бок, назіраючы работу нумераў гармат.

— Ляцяць? — здзіўленым голасам спытаў ён. — Ну, страляйце, браточкі, а я баюся… Я куды-небудзь далей…

І накіраваўся ў бок прычалаў, дзе магутныя краны працягвалі свае работы, выгружаючы цяжкія грузы з караблёў на чыгуначныя платформы.

Байцы з гонарам і любоўю глядзелі яму ўдагонку, рыхтуючыся добра спаткаць няпрошаных гасцей. І спаткалі так, як паабяцалі Папаніну.

Байцы, карыстаючыся кароткай цішынёй, схіліліся на гарматныя скрыні, на платформу гарматы і раптоўна засыналі.

Суп замярзаў у кацялках.

— Таварыш камандзір! — звярнуўся да мяне старэйшы з байцоў майго разліку Кошалеў, выпіваючы суп проста з кацялка. — Скажыце мне, як ты чалавек адукаваны, чаму так здараецца… Тут жа ніколі не было такога трывалага надвор'я… За пяць хвілін, як правіла, тры змены. А то — на табе! Двое сутак яно спрыяе немцам. Нешта тут не так… Трэба разабрацца, трэба навесці парадак, — з гумарам бурчэў ён і пачынаў будзіць заснулых.

А мне і самаму хацелася хоць на хвіліначку заплюшчыць вочы. «Не заснуць, — наіўна думаў я, — а толькі заплюшчыць вочы». Але я ведаў, што заплюшчыць вочы — значыцца, заснуць, а я, як камандзір, не маю на гэта права. Я павінен глядзець за байцамі, накарміць іх, не даваць доўга спаць, каб не замёрзлі і падрыхтаваць гармату да наступнага бою.

Удвух з Кошалевым мы пачалі гарызанціраваць гармату, правяраць прыцэлы, рыхтаваць боезапас. Потым я ўзяў пакулле і старанна выцер закапцелы ад парахавых газаў ствол і надпіс на ім вялікімі белымі літарамі: «За Беларусь!»

У разліку з сямі чалавек было чатыры беларусы, і мы напісалі на сваёй гармаце гэтае самае роднае для нас слова.

***Уступнае слова і падрыхтоўка тэксту***
***да друку Алесі Шамякінай.***

## Казімір КАМЕЙША



### БЯССОННЕ

У зіме,
у начы,
у самой глыбіні
Ціха дрэмле наш дом
памяркоўнай дрымотай.
Белы попел астыў,
дагарэлі агні.
Ці вароты паскрыпваюць недзе,
ці боты?

Згоды ў думках няма.
Ах, якая лухта…
Быццам белыя пчолы,
варушацца зоры.
Свеціць з поўначы цьмяна
заспаны ліхтар,
Закурэлы,

як твар у шахцёра.

---

**Камейша Казімір Вікенцьевіч** *нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя». Цяпер — у альманаху «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кнігі прозы «Духмянае дзіва» (1984).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

Ну які гэта сон тут,
на ўскраі трывог,
Дзе бярложыцца пушча
самотнай ваўчыхай?!
— Ты паслухай душу! —
мне падказвае Бог. —
Ты пачуеш яе,
бо за вокнамі ціха.

Паслухмянец…
Ты слухаўся ўсюды і ўсіх,
А душы ані разу сваёй
не паслухаў.
Не пужайся,
як раптам пачне галасіць
Ці стагнаць,
нібы хворая,
нудна і глуха.

Мы вось так і жылі:
кожны сам па сабе.
Нешта скажа яна —
ну а я не пачую.
Я сягоння з вялікага горада збег
І ў куточку сваёй маладосці начую.

Я даўно ўжо забыў таямніцы яе,
Нешта ў цемры разбіў,
зачапіў
ці адрынуў.
Не маім салаўём яна сёння пяе,
Не майму падпявае чамусьці ўспаміну.

Нешта глумнае зноў
прагуло на шашы,
Шуганула ля вокан імглістая вея.
Калі цёмна ў начы,
але светла ў душы,
Трэба верыць:
і ноч, як душа, пасвятлее.

* * *

Як вербы ля ракі,
паніклыя,
Плятуцца недзе ўдалеч дні.
Цяпер у маразоў канікулы,
Але зіма ўсё ж на кані.

Палоззем роўна раскрамсаная,
Ля ціхіх вокан хутарскіх,
Бяжыць яна, дарога санная,
Бяжыць у памяць напрасткі.

У сена і ў кажух захутаны,
Увесь прыпудраны да броў,
Ты недзе на далёкім хутары
Калодзеж скалыхнеш вядром.

На стрэшцы — наледзь барадатая,
Ланцуг — як ледзяны клубок.
І піша штось над белай хатаю
Рукою сіняю дымок.

Акно смяецца, ў печы паліцца,
Смала духмяніцца з карча.
І ў сене вераб'і купаюцца,
Як на патэльні той, сквірчаць.

А ў сенцах пахне свежанінаю
І нечым гэтакім сваім.
Жыццё пацешыць і хвілінаю,
Як бачыш вечнае ты ў ім.

## УРОЧЫШЧА ДРЫВЕЗНА

*(З успаміну пушчанца)*

Размах не той, але ўсё тая ж далеч
Смяецца з-пад зялёнага брыва.
Якая далікатна-маладая
Плыве, да сонца цягнецца трава!

Зялёным швом,
                    вясны зялёнай ніткай
Прышыты дзень да памяці самой.
Там ствол бярозкі, нібы ствол зеніткі.
Над ім — зялёны выбуху дымок.

Заблытаўся ланцуг слядоў даўжэзны.
І я заплакаў ля бярозкі той.
…Ад жаху, бы дрыгва, дрыжыць Дрывезна,
Сціскаецца блакаднаю пятлёй.

Утопіцца ў халоднай багне кладка.
Крыжасты над зямлёй гудзе кашмар.
Прайсці праз смерць — якая тут загадка?!
Аступішся — загадкі ўжо няма.

А я малюся:
                — Адступіся, багна!
Я сам аглух у гэтае глушы.
Ты што глядзіш у вочы гэтак прагна,
Няўжо мне хочаш вочы патушыць?

Дзе попелам абдасць,
дзе грозным варам.
Які ён страшны, вогненны ашчэр!..
А праз ствалы дзярэцца Дырлевангер,
Сабакамі ашчэрыўся гушчэр.

Палаюць, растаюць у дыме вёскі,
Дыміцца, плача на ствалах смала.
Пасекла напалам маю бярозку,
І дзень, і страх пасекла напалам.

Хіснуўся ствол ад гневу звар'яцела,
Пасыпаліся трэскі ў цёплы мох…
А крона ўсё ляцела і ляцела,
У цёмны захінутая дымок.

* * *

За шатамі пушчы густымі
Мой дом захінуўся ў вясну.
А я за сталом з маладымі
Вясёлае зелле цягну.

Куды з маладымі цягацца,
Які там з мяне цягавік?!
Загадкаю скрозь на загадцы
Скрамсаны жыцця чарнавік.

Кіпела, гуло і вірыла…
Не варта яго ўваскрашаць.
Якое тут дзіва тварыла
Мая не святая душа!..

Ніякае гэта не дзіва,
Іду па жыцці не адзін я,
Бо ходзіць па свеце жанчына,
І сэрцам мая, і вачыма.

Дзе трэба, мяне падтрымае,
Падасць цераз далеч руку.
Сустрэне і ў познім трамваі,
І ў раннім чужым цягніку.

Яна і слязу маю вытра,
І ўсмешкай дабавіць святла,
І будзе цягнуць, ды не вырве,
Як корань, мяне з-за стала.

Віхляе сцяжынка крывая,
Варушыць марудна траву.
Я сумна, напэўна, спяваю,
Хоць шумна, вясёла жыву.

* * *

Усё ў гэтым садзе смешнае.
Хоць кіслы антон, а ўсміхаецца.
І птушка не райская, — грэшная
У лісцях вясёла купаецца.

З прыгадкаю ўсё ды аглядкаю,
З пчалою чужою залётнаю.
Тут кот з паляўнічаю хваткаю
Вачыма страляе зялёнымі.

Мой сон тут,
накрыўшыся ватнікам,
Матыў свой анёльскі зацягвае.
Цкавалі мяне тут выжлятнікам,
Лячылі грахі мае дзягаю.

Што згадваць гады тыя грэшныя,
Смак райскі спазнаў вельмі рана я:
І вусны з гарчынкай чарэшневай,
І шчочак румянец шафранавы.

Спляталіся з небам і зорамі
Тут колісь галіны гарэзныя.
Чужы маладзік сцізорыкам
Іх сёння балюча надрэзвае.

Крывулі, заломы пацешныя
Ён рэжа і згладжвае нарасці.
Усё ў гэтым садзе смешнае,
Апроч маёй сумнай старасці.

## ВЕРШНІК

Так было. Ён сёння зноў прысніўся.
Ён з начлегу выплыў праз туман.
Скокнуў і за грыву ухапіўся —
І растаў, і знік, як ноч сама.

Той, якога помню я з дзяцінства,
На якую дзіўную вайну,
Проста з ночы,
з роднага дзядзінца,
Так адчайна раптам ірвануў?

І ляціць,
ажно мільгаюць стрэхі,
І ападам бухаюць сады.
І нага выскоквае са стрэмя,
Блізка ад зямлі і ад бяды.

Дайце веры,
дайце болей ветру
І надзеі не парвіце ніць!..
І ляціць,
з вачэй знікае вершнік.
Мне яго і вершам не спыніць.

* * *

За навіссю зорнай гадоў
І думна, і ветрана штосьці.
Бягуць два радочкі слядоў
Здалёку, з самой маладосці.

Гарэлі, згасалі яны,
Знікалі раптоўна, як знічкі,
У ціхай даліне вясны,
Каля зялёнай спаднічкі.

Дзе белыя ножкі плылі
Па ягаднае сцяжыне,
Мы з кубка вясны адпілі —
І сталіся тут жа чужымі.

Цяпер у зацішку хоць плач —
Ці вернецца наша бязмежжа? —
Сядзіш, як забыты цыркач,
Якога прагналі з манежа.

За навіссю грознай гадоў
Няма і не будзе спакою.
Там сіні чмяліны грудок
Падперазаўся ракою.

Там казкі пачатак яшчэ,
Там столькі раскошы і шалу.
На ўсё гэта мала вачэй,
Жыцця нават гэтага мала.

Не ведаеш, бегчы куды,
У цудзе якім апынуцца.
Хітруюць, напэўна, гады,
Маршчынамі горка смяюцца.

Усё адшугала, як вал,
Кругамі пайшло ў далячыні.
І самы цяжкі перавал,
Як горб, у цябе за плячыма.

Спявае ля скроні «віць-віць»
Знаёмая райская пташка.
А люлька дарогі дыміць.
Ці хопіць яшчэ на зацяжку?

* * *

Вечар зноў асыпаў плёсы
Расяністым срэбрам.
Расплятае ветрык косы
Маладзенькім вербам.

Моцным духам травастою
Дыхае лагчына.
І брыдуць, і нешта тояць
Вечар і жанчына.

А яна травінку смокча
З кропляю дрыготкай.
А яна ўсё — моўчкі, моўчкі
Ля хлусні салодкай.

І святла палоска скача
Над яе шчакою.
Зараз скажа, нешта скажа.
Скажа, ды такое…

Пазірае неба строга
Зорнымі вачыма.
Не пытайцеся нічога,
Як маўчыць жанчына.

Можа, ў сэрцы нейкі даўні
Бунт гудзе адчайны.
А шчаслівы той, хто здатны
Прачытаць маўчанне.

## УЦЁКІ

Ад Рубяжэвіч да Ячонкі
Ніякіх слоў не прамаўляй.
Калыша ноч свае начоўкі,
І ціша спіць, як немаўля.

Агні сплятаюцца ў сузор'і
І разбягаюцца ў начы.
І ты з прыціхлаю слязою
Заснула на маім плячы.

Мяне чужыя фары слепяць
І вусны нечыя клянуць.
Мне там, ля Нёмна, будзе лепей
У шчасце наша павярнуць.

Няхай рванущца ланцужкамі
Агні за нетраю лясной.
О, як марудна мы ўцякаем
З няшчасця і ў няшчасце зноў!

За лёс не схопішся рукамі —
Замком сашчэплены яны.
Кусты імчацца ганчакамі,
І вецер свішча ў два акны.

Не расшчамляй, надзея, пальцы,
Не бойся ям і круцізны!
Мы ў той, адной, гарачай спайцы,
Дыханнем злучаны адным…

* * *

Захутаўся ў дрымоту дом даўно,
А ты ўсё свеціш і здалёк, і зблізу,
За павароткай саменькай лясной,
Акно, каранаванае карнізам.

Карону зноў абселі вераб'і,
Далёка іх акно не адпускае.
А што яму я дрэннае зрабіў,
Што сэрца мне балюча так сціскае?

Гарыць акно, а дзверы на замку.
Усё, аж да маленства, там замкнёна.
Праз цемру толькі працягну руку —
І адхіснуся, быццам ад праклёну.

Нібыта крадучыся, бег ці поўз
І гэтак шмат растраціў у дарозе.
Не ведаю, дзе конь мой,
дзе мой воз,
Усё, здаецца, знікла там, на возе.

Нясмела, быццам сонца праз туман,
Знаёмы твар здалёку заірдзее.
Здавалася, надзеі ўжо няма,
І вось яна, хоць змрочная, надзея.

У хустцы, без ніякіх там карон,
Стаіць яна ля плота, каралева.
І неба наша звонкае, як звон,
І пушча скрозь — направа і налева.

І дочкі нашы проста з крапівы,
Як матылёчкі, пырхаюць на волі,
На вы са мною толькі Астравы,
А Навікам на вы я не дазволю.

Каронаю замкнуўся родны плот,
На ім раса брыльянціста іскрыцца.
І крапіва, і чэмер, і асот —
Усё ў кароне нашай прамяніцца.

Ды перальецца ў дзіўны сон яно
І выльецца ў балючае бяссонне.
Зноў свеціць мне здалёк маё акно.
На ім вазон адцвіў, але не сохне.

* * *

Ты не сышоў з аблокаў,
Зямны, як ліст лясны.
Прыйшоў з-пад Налібокаў,
З пушчанскае вясны.

Ніхто цябе не песціў,
Жыў, як усе жывуць.
Ну як тваю хоць песню
Па імені завуць?

Імя яе — Дарога.
А лёс яе — хада.
І за яе нічога
На свеце не шкада.

А хто б скупога ўважыў
І слухаць захацеў?
Казаў, як пушча кажа,
Рос, як яна расце.

То ціхі і здзіўлёны,
З лагодай у вачах,
А то шуміш, аж кроны
Ад ярасці трашчаць.

Звярок і той не ў крыўдзе
За выхадкі твае.
А іншы потым прыйдзе —
Хай пра сваё пяе!



## ВІКТАР ПРАЎДЗІН

# ПЯЦЬ ЦУКЕРАК АД ФРЫЦА

*Апавяданне*

**Зося** Іванаўна з цяжкім сэрцам даглядзела трывожныя навіны, усхваляваная ад убачанага і пачутага, доўга мацала рукамі вакол сябе, шукаючы пульт, пакуль не знайшла яго пад падушкай, выцягнула і выключыла тэлевізар. У думках прачытала малітву за ўратаванне людзей на далёкім Гаіці, што перажылі землятрус, узгадала бязвінна загінуўшых ад тэрарыстычных выбухаў і, наракаючы на кволасць чалавечага жыцця, яго залежнасць ад прыродных нягод і асабліва ад бяздумнай жорсткасці, неміласэрнасці самога чалавека, з цяжкасцю ўстала з рыпучай канапы. Усунула ногі ў мяккія валёнкі, накінула на сутулыя плечы руды кажушок, якім толькі што прыкрывалася, і па звычцы абышла ўсе пакоі прасторнай, па-зімняму сцішанай хаты, каб упэўніцца, што на ноч святло ўсюды выключана.

У настуджанай верандзе, наадварот, пстрыкнула выключальнікам, запаліла вулічны ліхтар, блізка-блізка прыпала да акна і пахукала ў размаляванае марозам шкло. Потым доўга цёрла яго цёплай далонню аж пакуль добра не разгледзела незвычайна белы панадворак. На вуліцы шчыравала завіруха, і цяпер паўсюль былі відаць бялюткія снегавыя сумёты.

Позняя зіма, нарэшце, паказала характар і за адзін тыдзень замяла дарогі і сцяжынкі, засыпала дзверы і студню, прыстаўленую да сцяны хаты шырокую лаўку ўкрыла суцэльным пухавіком аж пад самыя вокны. Невысокі плот паменшаў больш як напалову, і цяпер завостраныя штыкеціны нагадвалі шлёмы-пікі ваяроў-рыцараў. Пявучы свавольны вецер то галосіць недзе ў паднябессі, то бясшумна, па-гаспадарску далікатна, нават пяшчотна прыцярушвае снегам самыя дальнія і непрыступныя закуткі панадворка.

---

***Праўдзін Віктар Аляксандравіч** нарадзіўся 11 мая 1955 года ў горадзе Ліда. Дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі ў вёсцы Гарадзец Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці. Служыў у Ваенна-Марскім флоце. Скончыў Мінскую вышэйшую школу Міністэрства ўнутраных спраў СССР і атрымаў спецыяльнасць юрыст-справавед. Працаваў у праваахоўных органах, намеснікам галоўнага рэдактара і адказным сакратаром часопіса «Нёман», першым намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», першым сакратаром грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі». Цяпер на творчай працы.*

*Аўтар кніг прозы «Візіцёр з Поўначы» (1990), «Боль» (Споведзь міліцыянера) (1994), «Эксгумацыя» (1997), «Возвращение из преисподней» (1998), «Шлях на Галгофу» (2003), «Танцевальный марафон» (2007), «Нелюбімыя гінуць» (2010) і іншых.*

Зося Іванаўна ніколі не любіла, нават баялася снежных сумётаў. Чысціць снег моцы не ставала, а сусед Эдзік без пляшкі гарэлкі шуфля ў рукі не возьме, для пацехі жартачкамі адмахнецца: «Будзем, суседка, вясну чакаць, глядзіш, само і растане...» Толькі няма за што купляць тыя пляшкі, а сёлетняй зімой — кожны дзень мяцеліца.

Пакуль жывы быў гаспадар, асаблівай увагі не звяртала на гэткія дробязі, як снег, зрэшты, як і на іншае: нарыхтоўку дроў і брыкету, каб вада была ў хаце, назапашана сена для кароўкі, каб былі поўныя засекі зерня і камбікорму, мядовыя соты на стале... Здавалася, што ўсё робіцца неяк само, і ціхае вясковае шчасце ніколі не скончыцца... Але памёр любімы муж, чалавек працавіты, негаваркі, і прывычнае ўтульнае жыццё крута памянялася, здавалася, калі і не спынілася, то стала нейкім непаваротлівым, нетаропкім, як запаволеным.

Няма больш гаспадаркі, засталося некалькі курачак-нясушак ды галасісты пеўнік. Нават пчаліныя вуллі аддала людзям, каб не згінулі пчолкі без дагляду. Цяпер доўгімі зімовымі вечарамі саграваюць душу ўспаміны. З гадамі часцей успамінаецца радаснае, прыемнае і харошае, што было ў жыцці, і Зося Іванаўна, здараецца, чакае вечаровай цішыні, каб пагартаць альбомныя фотаздымкі і наноў перажыць радасныя імгненні вяселля, і народзіны дзяцей, і ўваходзіны ў новы дом, і пасадку свайго саду, і ўручэнне ордэна за сумленную працу... А яшчэ яна чакае вясны і цяпла. Летам дочкі прывязуць на канікулы ўнукаў, і зноў ажыве старая хата, і сонейка ў ёй стане болей, і ў садзе птушачкі зашчабечуць весялей.

Сын Пятрок жыве як набяжыць. Усё і заўсёды робіць па-свойму, аб прыездзе не папярэджвае, а наляціць, як сягонняшні шумлівы і марозлівы вецер, за тыдзень выстудзіць і выпусташыць цярплівую матчыну душу сваёй неўтаймаванай вольнасцю і зноў кінецца-рынецца ў Маскву за «доўгім рублём», пакінуўшы па сабе неразвейны, казытліва-ўдушлівы пах таннага тытуню ды смярдзючай самагонкі.

Нечакана цяўкнуў сабака, і Зося Іванаўна спахапілася, прачыніла на вуліцу дзверы, гукнула:

— Тузічак, забылася на цябе, бяжы сюды...

Невялікі кудлаты сабачка паўторнага запрашэння не чакаў. Ён радасна завіскатаў, выкуліўся з перакошанай, прытуленай да хлява будкі і праз некалькі хвілін мокрым снежным камяком закаціўся ў веранду.

— У гэткую непагадзь які з цябе ахоўнік? — далоняй змахваючы з поўсці снег, ласкава прыгаворвала гаспадыня. — Сцерагчы няма чаго, хіба толькі снег... Так што начуй у хаце.

Тузік весела забрахаў і высока заскакаў, цэлячыся халодным, мокрым носам і чырвоным шурпатым языком у руку гаспадыні.

— Малайчынка, усё разумееш, — засмяялася жанчына і адчыніла дзверы ў калідор, — бяжы на кухню, кашай накармлю дый сама гарбаткі пап'ю.

Акрамя кашы Тузіку перапала і костачка з супу. Яна збіла сабаку з панталыку, і ён доўга не мог вызначыцца, што з'есці першым: то костачку ўгрызне, то кашы лізне. Урэшце Тузік ухапіў апетытны пачастунак, куляй вылецеў у калідор. Вярнуўся без смакаты наструнены і неспакойны і, пакуль апустошваў чыгунок з кашай, чуйныя вострыя вушы прыслухоўваліся, лавілі кожны падазроны шолах у хаце. Гаспадыня плюхнула вады, але Тузік піць не стаў, ён, як нешта ўспомніўшы, зноў крутнуўся ў калідор. Праз секунду-другую вярнуўся горды і вясёлы, у зубах — смачная костачка.

— Жук-хітрун табе мянушка, а не Тузік, — ціха засмяялася Зося Іванаўна, — няўжо ад мяне хаваў?

Каб Тузік мог гаварыць, пэўна, нешта і адказаў бы, але ў яго была справа больш важная, чым слухаць гаспадыню і ўгадваць яе настрой. Толькі трэба ўтульней уладкавацца каля печы на квадратным саматканым дыванку — і можна ўсю ноч з асалодай грызці заслужаную костку.

Зялёны чай, змяшаны з чабарком і мятай, нарэшце, запарыўся і цяпер густы духмяны водар перабіваў пахі кухні, нават Тузік узняў галаву, прынюхваючыся, павёў бліскучым носам і гучна чмыхнуў, незадаволена закруціў мордай.

Зося Іванаўна дастала з халадзільніка тварог, паставіла на стол шкляную цукарніцу і раптам угледзела, што яна пустая. Пакорпалася ў адной шуфлядзе, другой — цукру не было. Яна не знайшла ні варэння, ні мёду, анічога, чым любіла падсаладзіць чай.

— Хоць бы цукерачку якую, адну маленечкую, — перабіраючы ў кухонным століку мяшэчкі, слоікі, каробкі і шукаючы ў іх што-небудзь салодкае, шаптала Зося Іванаўна.

Нечакана яна знерухомела, быццам наткнулася на нейкую нябачную перашкоду. Да гэтага лагодны і ўціхаміраны твар імгненна спалатнеў, у адчайных шырока расплюшчаных вачах мільгануў ні з чым непараўнальны, амаль жывёльны страх, і адразу Зося Іванаўна адчула, як бязлітасны холад студзіць рукі і ногі, вужакай запаўзае ў грудзі, калючай стрэмкай стукаецца ў сэрца, выпрабоўваючы яго на трываласць. Яна павольна засунула на месца шуфляды, зачыніла дзверцы буфета і стомлена апусцілася на табурэтку.

Тузік, адчуўшы нешта нядобрае, узняў галаву, адзін раз гаўкнуў, быццам запытаўся, што здарылася, і ўважліва-запытальна глядзеў на гаспадыню, але тая не звяртала ўвагі на ўлюбёнца. Гэткія адносіны сабаку не спадабаліся, і ён крутнуўся да печы, падхапіў з падлогі костку, порсценька вярнуўся, стаў на заднія лапы і паклаў сваю смакату гаспадыні на прыпол. Пасля чаго сеў насупраць, адрывіста цяўкнуў, маўляў, аддаю самае смачнае, толькі не сумуй, і, чакаючы пахвалы, весела забарабаніў хвастом.

Але і цяпер Зося Іванаўна безуважнымі, невідушчымі вачамі глядзела на Тузіка і не бачыла яго. Дрыжачыя, бяскроўныя губы, расцягваючы словы, шапталі адно:

— Х-а-ч-у ц-у-к-е-р-а-ч-к-у, а-д-н-у, м-а-л-е-н-е-ч-к-у-ю...

Набеглі шчымлівыя і ўсё яшчэ нявыплаканыя слёзы. Даўкі камяк сціскаў дыханне. Нібыта даўно забытыя, гэтыя чатыры словы нечакана ўскалыхнулі некалі параненую душу, пакутлівае пачуццё ўсёпаглынальнай трывогі міжволі вяртала ў маленства, у цяжкія ваенныя гады...

* * *

Сямігадовай Зосі спускацца з цёплай печы, як і выходзіць на вуліцу, катэгарычна забаронена. І не таму, што цяпер зіма і ў яе няма валёнак, а таму, што ў іхняй хаце жыве чужы чалавек. З гэтага часу любімы занятак дзяўчынкі — праз дзірачкі ў старым, прапахлым печчу, тытунём і гарбузнымі семкамі кажусе назіраць за даўгалыгім худым немцам, які перад Калядамі ўваліўся ў хату на адну ноч, ды так і застаўся.

Ён спіць на ложку старэйшых сясцёр Зінкі і Клавы, якія перабраліся на печ, і Зосі ад гэтага толькі радасна. Цяпер яна ведае не толькі іх сакрэты, але і вясковыя навіны. Праўда, з пачутага не ўсё разумее, але пытанняў не задае. Ёй прыемна чуць, як шэпчуцца сёстры, з імі не гэткія ўжо і страшныя бясконцыя цёмныя ночы, асабліва калі прачынаешся ад немцавага моцнага храпу. Калі ж немец паварочваецца на бок і заціхае, Зося чуе, як недзе выюць ваўкі, толькі яна баіцца храпу больш, чым тых ваўкоў, пра якіх толькі чула і ніколі не бачыла. А немца і бачыць штодня, і чуе штоноч.

Старэйшая Зінка расказвала, што раней, калі ўзімку па начах вылі ваўкі, у кожным двары брахаў сабака, а цяпер няма каму не тое што добра гаўкнуць, нават цяўкнуць, усіх сабак пастралялі. А яшчэ расказвала, як раней, да немцаў, у аўчарню да цёткі Хрысціны залезлі ваўкі і падушылі ўсіх авечак. Тады татка па начах амаль не спаў. Ён запальваў ліхтар і кожную гадзіну абыходзіў хлявы і святлом адпуджваў ваўкоў ад кароўкі, свіней, авечак.

Заўсёды, калі Зося ўзгадвала бацьку, на вачах наварочваліся слёзы, і яна ціхенька плакала, шкадуючы, што цяпер не сустракае яго з працы, не чуе голасу і смеху, не спявае і не танцуе пад ягоны галасісты гармонік. Пасля таго, як чырвоны мухамор, — рупар на слупе каля клуба абвясціў пра вайну, і праз тыдзень па вёсцы ўжо грукаталі, аж хісталася хата і сыпалася тынкоўка, цяжкія танкі з крыжамі на баках, гыркалі смярдзючым дымам вялізныя машыны, на дзень, ноч і яшчэ дзень расцягнулася калона чужых салдат, татка знік.

А потым стала ціха, як і не было той абвесткі, але бацька ўсё роўна дадому не вяртаўся. Дзеці асмялелі, ішлі на вуліцу, і рэдкіх машын ужо не баяліся, а наадварот, чакалі тых немцаў, якія гарлапанілі песні, падыгрываючы сабе на нябачаных дагэтуль губных гармоніках.

Здаралася, ляціць гэткая вясёлая кампанія па вёсцы, песні равуць, жменямі направа-налева цукеркі раскідваюць, фотаапаратамі шчоўкаюць і рагочуць з дзяцей, бачачы, як тыя поўзаюць па зямлі, вышукваючы ў дарожным пыле іх пачастункі. А калі цэлая калона спынялася каля студні і паўдня натужліва рыпеў журавель над калодзежам, быццам склікаючы дзетвару з бліжэйшых хат, тады і шакаладак перападала, і пахучага пячэння.

Часта раздавалі каляровыя паштоўкі з вірлавокім немцам, у якога пад носам быў недабрыты пучочак валасоў. Ён важна стаяў у атачэнні маленькіх дзяўчатак, якраз Зосіных гадоў, і ўсе як адна — рыжанькія ды кучаравенькія, а за імі высіліся ўбеленыя снегам горы. Зося паказала паштоўку маці і здзіўлена запыталася, адкуль гэтулькі рыжых, калі ў іх на ўсю вёску толькі адна — сястра Зінка? Маці спаліла паштоўку ў печы, а дачцэ сказала, што ў гарадах жыве нашмат болей людзей чым у іхнім Карыцені...

Матчын адказ Зосю не задаволіў, але дзяўчынку цікавіла нешта большае, чым рыжыя людзі. Ужо некалі дзён запар яна прыглядвалася да маці, падлашчвалася, чакала моманту, каб запытацца пра вайну і татку. Зося не магла ўцяміць, чаму вайна гэта дрэнна, калі яна назбірала цэлую кучу нямецкіх цукерак? Каб пра гэта ведаў татка, напэўна, ён нікуды б не знікаў.

Выслухаўшы дачку, маці спужалася, не ведала, што адказаць, і, каб быць далей ад граху, забараніла і Зосі, і старэйшым выходзіць на вуліцу, калі ў вёсцы з'яўляліся немцы. А пра мужа зноў змаўчала, пабаялася прыўзняць заслону сакрэтнасці і хоць нешта патлумачыць дапытлівай дачцэ, якая ўсё разумела па-свойму ды яшчэ любіла размаляваць пачутае сваёй бязмежнай фантазіяй і некаму па вялікім сакрэце пераказаць, і няважна каму, свайму ці чужому. Каб гэткае здарылася — тады і сапраўды не чакай дабра.

Зрэшты, Зосю заўсёды турбавала, а цяпер, зімой яшчэ больш хвалюе, мучыць таямніца: куды ж знік татка? Чаму яго не шукала і не шукае мамка, не пытаюцца пра роднага брата цётка Хрысціна і дзядзька Іван, і наогул, дзяўчынцы пачало здавацца, што, акрамя яе, ніхто татку нават не ўспамінае. Праўда, яшчэ летам бацькам цікавіўся вусаты дзядзька з вінтоўкай і белай павязкай на рукаве.

Ён увайшоў у хату, і маці як падмянілі, яна ва ўсім старалася дагадзіць госцю. Мітуслівa выставіла на стол пляшку гарэлкі, падсмажыла яечню са скваркамі, сама напаўняла стограмовік і бутэльку не хавала за кожным разам, як рабіла заўсёды. Госць з кожнай чаркай рабіўся больш добрым і лагодным, а потым і зусім закружыўся па хаце ў танцы, ягоныя доўгія рукі з бруднымі, чорнымі пазногцямі пацягнуліся да маладой гаспадыні, але маці вокамгненна падхапіла на рукі Зосю, і той адступіўся.

Выпіўшы ўсю бутэльку і з'еўшы патэльню скварак, ён, вясёлы і жартаўлівы, пачаў збірацца сыходзіць. Зося наважылася і папрасіла знайсці татку і наказаць, каб ішоў дадому, бо яна чакае і вельмі сумуе. Вусаты п'яна зарагатаў: «Лізавета, чуеш, чаго хоча дачка?.. Вуснамі дзіцяці глаголе ісціна... Так што трымайся новай улады і свайму перадай...» Паабяцаўшы дзяўчынцы выканаць просьбу, госць шурпатай далонню раскудлаціў ёй валасы і, хістаючыся, пасунуўся на выхад, але

ў самых дзвярах прыпыніўся, памацаў кішэні, потым доўга, па чарзе ў іх корпаўся і нарэшце выцягнуў агрызак чырвонага алоўка, які і падарыў Зосі.

Але другім разам вусаты ўжо не быў гэткім добрым. Як увайшоў у хату, адразу штурхнуў маці, ды так, што яна адляцела на сярэдзіну хаты і паваліліся. Зінка кінулася бараніць маці і таксама атрымала добрага кухталя. Вусач крыкнуў, каб носу на вуліцу не паказвалі і, моцна бразнуўшы дзвярамі, выйшаў. Маці кінулася ўслед, але дзверы былі ўжо нечым падпёртыя звонку, і яна загаласіла: «Толькі кароўку не забірайця...»

Зося праз акно бачыла, як вусаты стрэліў у Тузіка, а потым разам з іншымі мужчынамі, у якіх таксама былі стрэльбы і павязкі на рукавах, выцягваў з хлява свінку і кабанчыка, звязваў лапы і крылы гусям, запіхваў іх у мяхі і складваў на падводу. Другую падводу загрузілі мяхамі з зернем, наверх ускінулі барану і стары хамут. Потым зламалі плот і наўпрасткі, па градах, выехалі на вуліцу. Але праз некалькі мінут вусаты вярнуўся, накінуў карове на рогі вяроўку і звёў Чарнушку з панадворка.

Надвячоркам того ж дня да іх прыбегла перапалоханая Нюся, стрыечная Зосіна сястра, і напрасілася начаваць. Яна ўжо дарослая, скончыла школу і збіралася ехаць у Мінск вучыцца на дакторку, але пачалася вайна. Яны з маці, перапыняючы адна адну, устрывожана шапталіся да самай поўначы, Нюся нават плакала, і тады Зося ўпершыню пачула пра паліцаяў. Як ні сілілася зразумець, хто ж гэта такія, уцяміць не змагла, так і заснула. А раніцай нечакана зразумела, што паліцай гэта якраз і ёсць той самы вусаты дзядзька, які ходзіць па тых хатах, дзе няма мужчын. Ён сквапны злыдзень, ён б’е дзяцей і жанчын, страляе сабак, гвалтам забірае чужое.

Раніцай пра гэта сказала Зінцы і Клаве, але сёстры толькі адмахнуліся ад малечы, як ад назойлівай мухі. Нюсі ўжо не было, і Зося са сваім адкрыццём пасунулася да маці, якая матыжыла грады і ратавала тое, што можна было ўратаваць пасля ўчарашняга нашэсця паліцаяў. Выслухаўшы дачку, яна моўчкі ўзяла яе за руку, прывяла ў хату, і толькі цяпер Зося ўбачыла ў другой руцэ маці крапіву-жыгучку.

— Гэта табе, дачушка, для памяці...

І пякучка пайшла гуляць па голых, худых нагах...

— За што, мамка? — галасіла Зося.

— Каб памятала, што вайна — гэта гора... Каб ведала, што немцы і паліцаі — злыдні... Каб нікому не задавала аніякіх пытанняў і не размаўляла з чужымі... Каб не шукала бацькі... Каб сядзела на печы і, пакуль не скончыцца вайна, гаварыла толькі са мной... — Лізавета выкінула крапіву, падхапіла Зосю на рукі, прыціснула да грудзей і горка заплакала, загаласіла: — Памятай, дачушка, памятай!.. Інакш немцы і паліцаі нас не пашкадуюць... Яны і мяне, і цябе, і сясцёр з ружжа... Як беднага Тузіка...

* * *

Матчыну навуку Зося запомніла надоўга, дый пук крапівы-жыгучкі штодзённа нагадваў аб сабе, ён напамінам вісеў на сцяне за печчу сярод іншых высушаных лекавых траў і кветак. Дзяўчынка больш ні з кім не дзялілася думкамі, перажываннямі і меркаваннямі, як бы гэтага ні хацелася, ні карцела. Яна на ўсё жыццё запомніла, якім вострым, пакутным агнём пячэ жыгучка, як нясцерпна свярбяць чырвоныя пухіры на спіне і нагах, і праз гэта нават Нюсю ўслых не ўспаміналa і пра яе не пыталася. Цяпер Зося, абы хто чужы ў хату, вокамгненна хавалася на печы і ўжо без матчынага дазволу не высоўвалася. Навука спатрэбілася вельмі хутка, яшчэ і крапіўны сверб не прайшоў.

Паліцаі з Дземенкі наляцелі ў вёску, быццам крыклівае вараннё, праз некалькі дзён пасля таго, як Нюся ў іх начавала, і па чарзе перетрэслі ўсе

хаты, хлявы, лазні, пуні з сенам, паўсюль шукалі сястру. Шукалі, як нікога дагэтуль. Толькі Нюсю не знайшлі, яна гэтаксама «знікла», як некалі і некуды «знік» бацька. Малады паліцай, дыхаючы Зосі ў твар смярдзючый гарэлкай, дапытваўся: «Дзе бацька?..», «Дзе хаваецца Нюся?..» , «Ці ходзіць куды па начах маці?..», «А можа татка сам дадому прыходзіць?».

Зося маўчала, толькі чухала і чухала свярбучыя пухіры, раздзёрла іх да крыві, і паліцай адступіўся. Больш таго, калі ён запытаўся ў маці, што з дачкой, чым яна хварэе, Лізавета, не міргнуўшы вокам, заявіла: «Напэўна, тыф!»— і паліцаяў быццам скразняком вымела з хаты.

Толькі пасля вайны Зося даведалася, чаму гэтак настойліва шукалі Нюсю. Той малады паліцай вучыўся разам з сястрой у школе і быў у яе закаханы. Калі прыйшлі фашысты і ён стаў іхнім прыслужнікам, то адразу заслаў сватоў да Томчыкаў і атрымаў ад варот паварот. Бацька здрадніка — таксама паліцай, і не абы-які, а іхні начальнік, успрыняў адмову не толькі як асабістую абразу, але і як «ганьбу новай уладзе», ён і наставіў сына на розум, каб той не спускаў знявагі, дамогся свайго і сілай прымусіў дзяўчыну выйсці замуж.

Нюся спярша начавала ў суседзяў, потым хавалася ў радні па дальніх вёсках, але закаханы паліцай не пакідаў яе ў спакоі, не адступаўся, паўсюль высочваў і праследаваў. Ад ганьбы дзяўчыну ўратавалі партызаны, якія на другі год вайны з’явіліся ў дальнім, аж за Убалаццем, лесе, і Нюся стала сапраўднай партызанкай. А паліцай у адплату за зняважаны мужчынскі гонар пачаў часта наведвацца да яе састарэлых бацькоў.

Спярша падлашчваўся, рабіў багатыя падарункі, узамен прасіў, каб яны паўплывалі на дачку і ўгаварылі вярнуцца дадому. Нюся не вярталася, і тады няўдачлівы, але неўтаймаваны жаніх прыдумаў свой план, як ажаніцца на дзяўчыне. Ён прымусіў старых распрануцца да споднікаў і пад дулам вінтоўкі праз усю вёску павёў на расстрэл да шумлівага шматвяковага дуба, што рос на ўскрайку сяла.

П’яная хеўра паліцаяў сунулася следам, яны весела рагаталі, свісталі і здзекліва ўлюлюкалі, падначвалі маладзёна-хаўрусніка, каб «зяць» — крый божа — не прамахнуўся ў будучую цешчу...

Смялейшыя вяскоўцы выходзілі на вуліцу, каб развітацца з суседзямі, мужчыны моўчкі схілялі галовы, бабы жагналіся. Калі згорбленая Міроніха толькі паспрабавала загаласіць, да яе імгненна крутнуўся таўстаморды руды паліцай і прыкладам вінтоўкі збіў з ног, накруціў даўгую сівую касу на руку і пацягнуў змярцвелую ад жаху жанчыну па пыльнай дарозе, быццам яна і не чалавек, а мех бульбы.

«Міроніху за што?» — разам загулі, загаманілі людзі. — Адпусці старую...»

Руды кінуў жанчыну, зняў з пляча вінтоўку і, каб прымусіць усіх замаўчаць, стрэліў у паветра. Гамана сціхла і паліцай адрывіста закрычаў: «Мы вядзём на расстрэл ворагаў рэйха, таму ўсім загадваю весяліцца... Па сваёй блізкай смерці плачуць толькі камуністы і жыды... Так сказаў наш фюрэр...» — Ён кляцнуў затворам і наставіў вінтоўку на людзей, п’яныя, бясколерныя вочы гарэлі шалёным агнём. — «Ну, выходзь, хто супраць фюрэра?..»

Невядома, чым усё магло скончыцца, калі б нехта з паліцаяў не паклікаў таўстамордага вылюдка выпіць самагонкі. Той азірнуўся, аблізнуў сасмяглыя тоўстыя губы і, убачыўшы, што хаўруснікі ўжо далекавата, плюнуў, брыдка вылаяўся і шпарка запыліў па дарозе.

Нюсіных бацькоў паліцай-аднакласнік падвёў да дуба, прыставіў да агромністага гузаватага ствала і завязаў вочы. У надвячоркавай гулкай цішыні адзін за адным прагрымелі два вінтовачныя стрэлы і... па шурпатым ствале дрэва жанчына ціха асунулася на зямлю, быццам здарожаная прытулілася, прысела на хвілінку адпачыць. Напружаную, нядобрую цішыню парушыў хтосьці з паліцаяў: «Зелянеўскі, а ты і сапраўды дурань, калі яе застрэліў...»

Імгненна працверазелы Зелянеўскі стаяў разгублены, зніякавелы, па васпаватым, спалатнелым твары каціліся буйныя кроплі поту, рукі дрыжэлі. Ён глядзеў то на сінявы, кволы дымок з дула вінтоўкі, то на Нюсіну маці, якая яшчэ некалькі гадоў таму прывячала яго, школьніка, у сябе дома, і, пакуль не падрос, нават дазваляла ў іхняй хаце пераждыць лютыя маразы, каб не бегаў у школу з далекаватай Дземенкі. І цяпер ён яе забіў... Яго знямелыя, бясколерныя губы шапталі адно: «Я цэліў у дуб...»

«Малады, нявопытны, папраўку на вецер не ўлічыў...» — блазнавата хіхікнуў таўстаморды паліцай, той, што цягаў Міроніху за валасы. Ён, хістаючыся, пасунуўся да дуба, на хаду перазарадзіў вінтоўку, сказаў: «Першы блін заўсёды камяком... Калі што не так, дапамагу... каб не мучылася...» Але праз хвіліну, зрываючы павязкі з вачэй «расстраляных», ён гучна рагатаў: «Хлопцы, усё нармальна... Баба самлела, відаць, ад спуду... А стары маладзец, трымаецца... Так што нясі, стралок, самагонку, будзем прыводзіць тваю радню ў норму...»

Усё, што рабіў Зелянеўскі, было загадзя прадумана і складала частку яго звыроднага, нялюдскага плана. Ён меркаваў, што пра расстрэл нехта перакажа Нюсі, і дачка нідзе не дзенецца, прыбяжыць ратаваць бацькоў, а тут засада. Выбару аніякага не будзе: ці ўсёй сям'ёй пад дуб на расстрэл, ці замуж.

Напэўна, гэтак магло і здарыццца, але сталася нечаканае: хтосьці з фашысцкіх прыслужнікаў перадаў пра паліцаева жаніхоўства нямецкаму начальству хутчэй, чым гэтая вестка дайшла да Нюсі. Няўдалага жаніха адправілі ў карны атрад некуды пад самы Мінск. Праз год ён вярнуўся закаранелым забойцам і першае, што зрабіў, гэта спаліў пустую Нюсіну хату. Цяпер рукі ў яго не дрыжэлі, твар не пацеў, калі гвалціў і забіваў людзей.

Партызаны завочна вынеслі смяротны прыгавор Зелянеўскім, але падонкам неверагодна шэнціла, з усіх засад і баёў бацька і сын выходзілі сухімі з вады. Толькі калі Чырвоная Армія дашчэнту разграміла мясцовы нямецкі гарнізон, Зелянеўскіх удалося злавіць… Неймаверна вялікім быў людскі боль і пагарда да нелюдзяў... Іх прывязалі да танкаў і... парвалі на часткі...

* * *

Для маленькай Зосі першы год вайны стаўся сама цяжкім і трагічным. Ужо і лета праляцела, як адзін дзень, і восень прашапацела праліўнымі дажджамі ды раннімі прымаразкамі, наступіла завейная, жудасна-халодная зіма, якая для дзяўчынкі была сапраўдным выпрабаваннем.

І без таго нуднае аднатоннае жыццё лютымі маразамі зрабілася яшчэ больш сумным, шэрым і невясёлым, без прыгод і смеху. Заставалася адна забаўка — назіраць за даўганогім худым немцам ды ціхенька пасмейвацца з яго нязграбнай постаці, кручкаватага носу, які пацешна раздзімаўся, калі ён прынюхваўся да варыва ў чугунках. Калі ж пастаяльца дома не было, Зося, падрабляючыся пад немца, апярэзвала сябе бацькавым раменьчыкам і перадражнівала чужынца, ягоную блытаную мову, як настойліва, прыдзірліва і жорстка Ёлупень, а гэтак за вочы звалі немца, вучыў маці і сясцёр свайму «нямецкаму парадку».

Ён прымушаў звяртацца да сябе не інакш, як «гер Фрыц», здароўкацца і развітвацца — «гутэн так і аўфвідэрзейн, гер Фрыц», замест — калі ласка толькі «біттэ, гер Фрыц». А калі немец быў на падпітку, гэтага «біттэ» яму было мала, ён патрабаваў большага ўшанавання і прымушаў рабіць пачцівыя паклоны, і каб абавязкова прысядалі, узяўшыся пальчыкамі за канцы спаднічак. І кожны раз і маці, і дочкі рабілі выгляд, што фашыста не разумеюць, і тады ён хапаўся за вінтоўку, прыцэльваўся ў кагосьці з дзяцей і, шалёна вылупіўшы вочы, крычаў: «мая пуф-пуф, стреляйт киндер на драй, если не делайт рэверэнц…» Пасля як праспяванага «а-й-н... ц-в-ай... д-р-а-й..» Ліза-

вета паспешліва прысядала, за ёй тое самае паўтаралі дзяўчаткі, і задаволены Фрыц апускаў вінтоўку.

Тыдзень таму Фрыц атрымаў пасылку з дому і дапазна, аж запаўнач, чытаў і перачытваў пісьмы, прыплюснуўшы блізарукія вочы, разглядваў дасланыя фотакарткі, прымерваў вязаныя шкарпэткі і світэр. А калі выцягнуў круглую зялёную бляшаначку і скруціў накрыўку, у Зосі аж дыхаўку перахапіла, яна і на печы пачула духмяна-спакуслівы пах мядовых цукерак-ледзянцоў.

Той ноччу Зося доўга не магла заснуць. Толькі прыплюшчыць вейкі, а перад вачамі — бляшаначка з чырвонымі, бліскучымі прысмакамі. «Мне б хоць адну, самую маленечкую...» — шаптала Зося і, быццам мядовую цукерку, смактала сухую нясмачную фасоліну.

А раніцай здарыўся цуд. Фрыц піў чай і падабрэлым расчуленым позіркам углядаўся ў фотакартку, на якой былі ягоныя «фрау і кіндэр». Зося сядзела на печы, звесіўшы ногі, і не зводзіла вачэй з цукерак, якія смактаў немец, зрэдку сёрбаючы кіпень з алюмініевага кубка. У нейкі момант іх позіркі сустрэліся, і Фрыц нечакана падміргнуў, усміхнуўся. Потым двума пальцамі ўзяў цукерку, устаў, падышоў да разгубленай дзяўчынкі, моўчкі паклаў цукерку ёй у далонь і гэтак жа моўчкі вярнуўся да стала, нават не патрабуючы сваё «біттэ».

Зося не верыла ў сваё шчасце. Яна моцна сціснула кулачок і хацела нырнуць у сваю схованку, пад кажушок, але было позна, Зінка з Алай ужо ўбачылі пачастунак. Калі немец пайшоў, Зінка вострым нажом раскалола цукерку на чатыры маленькія частачкі, і яны таксама пілі салодкі чай, як яшчэ зусім нядаўна, да вайны. Наступнай раніцай Зося таксама чакала «цуда», але яно не паўтарылася ні на другі дзень, ні на трэці... А на пяты...

На пяты дзень яна ўбачыла на падаконніку забытыя Фрыцам цукеркі. У хаце нікога не было, і праз хвіліну Зося ўжо трымала ў руках чароўную, пахучую бляшаначку. «Нічога не здарыцца, калі я толькі на іх пагляджу...» — падумала дзяўчынка і, здавалася, толькі дакранулася да накрыўкі, а яна і адскочыла. «Як іх многа!..» — вырваўся з Зосіных грудзей узнёслы крык.

Што здарылася потым і як некалькі спакусных мядовачак аказалася ў роце, дзяўчынка нават не зразумела. Яна не смактала, а з упартай заўзятасцю грызла цукеркі, торапка глытала калючае і непеalready жаванае, ад болю ў горле на вачах праступілі няпрошаныя слёзы.

Нечакана Зося ўцяміла, што робіць нешта вельмі-вельмі благое, яна толькі на імгненне ўявіла раз’юшанага, хуткага на расправу Фрыца, і раптоўны невыносны жах спаралізаваў цела. Цяпер ужо бяссільныя слёзы адчаю градам сыпанулі з вачэй. Яна хацела пазбавіцца, выплюнуць цукеркі... і не змагла. Дзяўчынка міжволі, як заведзеная, жавала і глытала мядовую смакату, не зважаючы на страх, на слёзы, на саланаваты прысмак, жавала, пакуль у роце нічога не засталося.

Той кароткі зімовы дзень Зосі здаўся бясконца доўгім і невыносна пакутным. Чакаючы Фрыца, яна з заміраючым сэрцам прыслухоўвалася да галасоў і крокаў, аж да самых прыцемкаў падбягала да акна і, расхінуўшы ўжаўцелыя фіранкі, углядалася ў марознае шкло, сілячыся хоць нешта разглядзець на вуліцы. Нервовае чаканне настолькі змучыла, што Зося нечакана для сябе заснула на шырокай лаве за шафай. Падхапілася, калі немец, седзячы за сталом, гучна сёрбаў суп і адразу паглядзела на падаконнік — цукеркі ляжалі на месцы. Маці, соўгаючы чыгункі, увіхалася каля печы. Напэўна, гэта і разбудзіла дзяўчынку. Зося, каб не прыцягваць да сябе ўвагі, ціхенька залезла на печ, захінула ляжанку занавескай, што да гэтага ніколі не рабіла, і, ловячы кожнае слова, кожны шорхат, забілася ў дальні кут. Фрыц дасёрбаў суп, гучна скамандаваў:

— Матка, зуп гут, давайт каша...

Калі чарга дайшла да чаю, Зося падпаўзла да занавескі і трошкі, на адно вока, адхінула. Немец якраз штукаваў над бляшанкай з цукеркамі, здымаў

накрыўку. Калі бляшаначка раскрылася, Фрыцаў лабаты твар знерухомеў, на шчоках ходарам забегалі жаўлакі. Ён здзіўлена паглядзеў на гаспадыню і, як некага шукаючы, абвёў позіркам хату. Калі ягоныя вочы ўтаропіліся ў занавеску, Зося адхіснулася, схавалася пад кажухом. У гэты момант дзяўчынка была пераканана, што немец не толькі ўбачыў яе, але і прачытаў патаемныя думкі, даведаўся, хто злодзей. Яна заплюшчыла вочы, абхапіла галаву далоньмі і сціснулася ў чаканні помсты. Зося быццам бачыла, як немец устае, кляцае вінтоўкай і цэліцца ў маці. У скронях, у кожным пальчыку гулка тахкала сэрца, яе нудзіла, у жываце нясцерпна і балюча бурліла...

— Ма-ма, ма-ма-чка... — адчайна закрычала дзяўчынка.

Маці скідвае кажух, прыхінае яе да сябе і Зося чуе пах варанай бульбы, гарэлай свечкі і нямецкіх кансерваў, з якіх маці гатуе Фрыцу кашу.

— Што з табой, дачушка? — шэпча Лізавета. — Гарыш уся...

Зося разумее: калі маці жывая, значыцца ўсё абышлося, Фрыц не здагадаўся, і ёй становіцца добра, толькі ўсё яшчэ баліць жывот і нудзіць.

— Жывот... Мне трэба на двор... — выдыхае шчаслівая дачка і тут жа атрымоўвае кухталя.

— Чаго крычыш і пужаеш?.. Не маленькая... Бяжы ў сенцы...

Раніцай наступнага дня дзяўчынка зноў бачыць цукеркі на падаконніку і адразу ўспамінае ўчарашнія перажыванні.

— Не-е, больш да вас я не дакрануся, — шэпча Зося, паказвае язык ледзянцам і ціха смяецца, — вы нясмачныя і брыдкія, брыдкія, брыдкія...

Але калі Зося застаецца ў хаце адна, зялёная спакуслівая бляшаначка зноў у яе руках. Накрыўка імгненна злятае і... бледны твар дзяўчынкі выцягваецца ў нямым здзіўленні, робіцца па-даросламу сур’ёзным. Яна не верыць сваім вачам і, дакранаючыся пальчыкам да кожнага ледзянца некалькі разоў іх пералічвае. У бляшаначцы ўсяго пяць цукерак...

Дзяўчынка ўспомніла татку, які па выструганых палачках рыхтаваў яе да школы і патроху вучыў матэматыцы. Калі нешта не атрымоўвалася, ён любіў паўтараць, што і курыца ўмее лічыць да трох. Зося была старанны вучаніцай, бо вельмі ж не хацелася быць падобнай на іхніх чубатак, няхай сабе і добрых нясушак. Але цяпер яна думала пра Фрыца, пра ягоныя любімыя словы-загады «айн, цвай, драй». Раптам ён, як тая курыца, ведае толькі да трох? Тады дзве цукерачкі лішнія...

Зося раздзяліла ледзянцы на два і тры, але «свае» два ўзяць не спяшалася, толькі панюхала. І тут яна ўзгадала патроны, што прыносіў Фрыц, ссыпаў іх у кучу на прыкрыты анучкай стол, а потым цэлы вечар лічыў і рассоўваў у спецыяльныя скураныя футаралы, якія месціліся на шырокім рамяні.

«Значыцца, Фрыц не курыца... Ён хітры і наўмысна пакінуў пяць цукерак, каб мяне ўпільнаваць...», — зрабіла выснову Зося, апошні раз панюхала цукерачкі і паклала бляшаначку на падаконнік. Потым туды-сюды прайшлася па рыпучай дошцы, якую бацька не паспеў памяняць, і цяжка ўздыхнула:

— Хоць бы Ёлупень хутчэй іх з’еў...

І раптам яе вочы заблішчэлі, засвяціліся хцівымі агеньчыкамі.

— Я прыдумала...прыду-у-мала... — гарэзліва засмялася Зося, радасна заскакала, закружылася і не пачула, як у хату ўвайшла маці.

— Твае прыдумкі заўсёды кепска заканчваюцца, — стоячы ў прачыненых дзвярах, паблажліва сказала Лізавета і пераступіла высакаваты парог.

Ад яе настылай на марозе вопраткі клубілася халодная пара, каўнер заінеў, з-пад хусткі выбілася пасма чорных валасоў і таксама серабрылася інеем.

— Прызнавайся, дачушка, што на гэты раз удумала?

— Прыдумала гульню ў школу, — не міргнуўшы вокам зманіла дачка. — Няхай Зінка з Клавай мяне вучаць, як татка.

Зося ведае, што маці, як і ўсе вяскоўцы, адбывае прыдуманую старастам працоўную павіннасць, яна пілуе і сячэ дровы для сем'яў паліцаяў і камендатуры, а старэйшыя дочкі дапамагаюць, дровы складваюць. Зараз яна дастане чыгунок з бульбай у шалупінні, прынясе мёрзлай і ад гэтага яшчэ смачнейшай капусты, яны пачакаюць сясцёр і ўсе разам паабедаюць.

Потым маці з Зінай і Клавай пойдуць на працу, а Зося да самых прыцемак застанецца адна.

Сёння малодшая сястра не румзала, не хныкала і не прасілася, каб яе ўзялі з сабой. Яна доўга глядзела ў акно, пакуль маці і сёстры не зніклі за паваротkай. Пасля гэтага рашуча раскрыла Фрыцаву бляшаначку і з помслівай усмешкай паклала ў рот першую цукерачку. Зося смактала мядовачку роўна на немцава няспешнае «а-й-н... ц-в-ай... д-р-ай...». Потым праз губы выціснула яе на далонь, пачакала, пакуль ласунак абсохне, і паклала яго на месца. Усе цукерачкі і другая, і трэцяя... і пятая былі абсмактаныя і, пасвяжэлыя, зноў апынуліся ў сваім бляшаным футаральчыку. «Гэта табе за татку, за вайну, за Тузіка, за ўсіх нас...», — прашаптала дзяўчынка і пераможна залезла на печ.

Зося бачыла, як вечарам Фрыц палічыў цукеркі і паклаў на месца, але дзяўчынку не насцярожыла тое, што чай немец піў з цукрам. Яна была на сёмым небе ад шчасця, шчыра радавалася, што гэтак лоўка абвяла вакол пальца Ёлупня і прыдумала для чужынца сваю помсту. На наступны дзень зрабіла тое самае, і зноў перамога, немец праверыў цукерачкі, насупіўся і нічога не сказаў, толькі пра нешта доўга-доўга думаў.

Гэтая цукерачная вайна доўжылася чатыры дні, а на пяты здарылася бяда. Зося заканчвала сваю помсту, смокчучы чацвёртую цукерачку, як нечакана пацягнула скразняком, яна азірнулася і ледзь не самлела ад страху. Перад ёй стаяў Фрыц, у шапцы, але без шыняля і ў адных шкарпэтках. Ён свідраваў дзяўчынку сваім жудасным немігатлівым позіркам, вузкія губы скрывіліся ў злой пагардлівай усмешцы.

— Ты, Зосья, кляйн воришка... Я тебья паймайт и буду немножко ўбивайт...

Ён балюча сціснуў Зосіны пашчэнкі, раскрыў рот і брудным пальцам выкалупнуў з-пад языка празрыстую рэшту чацвёртага ледзяша. Фрыц паклаў цукерку на стол і тыцнуў пальцам пад самую столь:

— Экзэкуц должна давайт урок... Мы будем ждаць матка и сестриц...

Лізавета ўвайшла ў хату, убачыла голае цельца маленькай дачкі. Яна, дачка, вісела галавой уніз. Маці так і асела ў дзвярах. Зіна з Клавай, галосячы, доўга пырскалі на маці вадой, пакуль тая ачомалася. Фрыц моўчкі сядзеў на табурэтцы пасярод хаты, каля яго высілася калодка, на якой секлі дровы, побач ляжала сякера. Убачыўшы, што Лізавета расплюшчыла вейкі, ён устаў, кіўнуў галавой на Зосю:

— Матка, ты плохой воспитать... Кляйн дочшер воришка... Она брать конфет... Теперь я буду воспитать... Буду сеч руку... Вор должен ходит без рук...

У Лізаветы перад вачыма зноў захісталася столь, усё плыло і круцілася. Яна глядзела на Фрыца і не магла зразумець, дзе сапраўдны: фрыцаў была поўная хата, яны таўкліся вакол Зосінага худзенькага цельца, нешта крычалі, размахвалі сякерамі, тупалі нагамі... І раптам жанчыну нешта як штурханула ў грудзі: «Ён жа хоча скалечыць маю дачку...» Яна падхапілася, дзе толькі сілы ўзяліся, і кінулася фашысту ў ногі, моцна абхапіла, загаласіла:

— Паночку, гер Фрыц, адпусці дачушку... Яна больш не будзе...

— Она должен помнить, — спускаючы на падлогу ледзь жывую Зосю, гундосіў фашыст. — І старшие дочшер наука.

— Фрыц, даражэнькі... Мы яе крапівай...

— Глупый матка... Где зима крапива?..

— Мы яе дзяжкай...

— Что ест дяжка?

— Клаўка, хутчэй нясі бацькаву дзяжку, — разумеючы, што немца можна ўгаварыць, крыкнула маці.

Убачышы дзяжку, Фрыц зарагатаў:

— Дзяжка корошо, но дзяжка запоздаль... Всё запоздаль, кроме сеч рука... Но Фриц короший, я выгоняйт Зося на улиц...

— Зося, дачушка, ты адразу бяжы да суседзяў, пакуль Фрыц не перадумаў, — Лізавета паспешліва настаўляла дачку. — Дадому не вяртайся, я сама за табой прыйду... Калі можна будзе.

Яна хуценька крутнулася за шафу, сабрала што цяплейшае і хацела апрануць дачку, але фашыст выхапіў адзенне з рук, кінуў на падлогу.

— Найн, она пойдёт голый...

— Як, голая? — разам ускрыкнулі і маці і старэйшыя дочкі. — Яна ж замерзне...

Фашыст убачыў, як Лізавеціна рука пацягнулася да сякеры і, не раздумваючы, ударыў яе кулаком у твар. Жанчына, як падкошаная, без памяці ўпала на падлогу, немец адной рукай падхапіў Зосю, у дугую ўзяў вінтоўку і, нешта па-свойму гундосячы, выйшаў на двор. Спярша Фрыц хацеў пакінуць голую дзяўчынку на ганку, але нечакана передумаў. Ён закінуў вінтоўку за плечы і, ухапіўшы перапужаную Зосю за ногі, вынес яе на вуліцу, ваўкавата агледзеўся, быццам маятнік, разгайдаў маўклівае і як нежывое маленькае цельца і з усёй моцы шпурлянуў у вялікі снежны сумёт.

Апошняе, што памятала дзяўчынка, гэта халодны, калючы снег, які апаліў цела, цалкам праглынуў, набіўся ў вочы, вушы, рот. Яна спрабавала крычаць, спрабавала выбрацца са снежнай пасткі і не магла. Чым больш варушылася, тым глыбей і глыбей правальвалася ў снежную бездань. А потым нечакана зрабілася лёгка, цёпла і ўтульна, як на печы. У нейкі момант Зосі здалося, што яна птушкай, верабейчыкам выпырхнула з сумёта і паляцела над лесам, полем, роднай вёскай... А на вуліцы ўжо цвілі сады, і не было вайны, і татка быў дома, а ў чыстым, цёплым паветры пахла не цукеркамі, а сапраўдным ліпавым мёдам...

* * *

Зося Іванаўна зрабіла глыток чаю і паставіла кубак на месца.

— Ну вось, зноў трэба гарбатку грэць, — сказала яна. Прыняла з прыполу костку, кінула яе сабаку. — Тузік, а што гэта ты вытвараеш?

Тузік неахвотна вільнуў хвастом і пакрыўджана адвярнуўся.

— Успомніла вайну, сябе маленькую, сясцёр, маму маладую... — Цяжка ўздыхнула Зося Іванаўна, запаліла пліту, зноў паставіла чайнік на агонь. — Ты надзьмуўся, а я і цябе ўспомніла... Ну, можа, не цябе, а іншага Тузіка, але пасля яго ў мяне ўсе сабакі — Тузікі, так што, лічы, цябе.

Зося Іванаўна піла духмяны несалодкі чай і нават не зважала на гэта. Яна думала пра тое, якое жыццё няроўнае, пакручастае і несправядлівае. Калі памірала ў снежным сумёце, ёй пашэнціла, што міма сумёта на машыне праязджаў Курт і ў святле фар заўважыў голыя ножкі. Спярша падумаў, што лялька, бо ў каго падымецца рука на жывое дзіця, але вырашыў праверыць і дастаў са снегу дзяўчынку.

Адзін немец хацеў забіць і амаль зрабіў гэта, другі ўратаваў. Аднёс да суседзяў, расціраў снегам і спіртам. Потым кожны дзень наведваўся, прыносіў розныя лекі.

Напрыканцы зімы партызаны зрабілі засаду на Фрыца, а тут і Курт прытарахцеў на сваёй машыне, каб праведаць Зосю... Абодвух і расстралялі...

Зося Іванаўна дапіла гарбатку і ўголас сказала:

— А мне наканавана ўсё жыццё ўспамінаць і фашыста Фрыца, і харошага немца Курта...

## АРКАДЗЬ НАФРАНОВІЧ



### ПАРТЫЗАНСКІ ГАРМОНІК

Зімняй ночкай пагоднай,
Светлай летняй парой
Гаварыў ён лагодна
З партызанскай душой.

З ёй лунаў у нябёсах,
Прыпадаў да зямлі.
І на снезе, на росах
Кветкі-зоркі цвілі.

Выплывалі з былога
Бэз ля хат і язмін,
Дый сцяжынкі, дарогі
Ў зіхаценні рабін.

Залацісты бляск планак,
Неўтаймоўнасці дух…
Партызан, партызанак
Зазываў ён у круг.

Даланя — у далоні,
Сэрца з сэрцам пяе.
Галасісты гармонік
Сумаваць не дае.

---

**Нафрановіч Аркадзь Іосіфавіч** *нарадзіўся 26 красавіка 1936 года ў вёсцы Юшкавічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Былы непаўналетні вязень нацызму. Скончыў Лепельскае педвучылішча (1956). Служыў у Савецкай Арміі. Потым скончыў геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1968). Працаваў настаўнікам у сельскіх школах.*

*Аўтар паэтычных кніг «Мядзельскі мерыдыян» (1995), «Мелодыі роднага краю (1995), «Святло Нарачы» (1998), «У пошуках ісціны» (2005), «Горад музыкі і сонца» (2009) і інш., аповесці «Мая адысея» (2001).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча (2001).*

Часам ён нечакана
Так глыбока ўздыхне —
Зразумееш: спазнана
Гора шмат на вайне…

Прапяе, каб унукі
Ад герояў-дзядоў
Бралі іх і навуку,
І святую любоў.

Партызанскі гармонік
Баявы славіць шлях.
Быць яму, як і сёння,
У надзейных руках.

## ДАРОГА Ў АПРАМЕТНУЮ

*Дыптых*

### 1. Горкая праўда вайны

Жорны лёсу — няўжо за грахі
Гэткае страшнае мліва?
…Золкі ранак, паўстанак глухі,
Скрып тармазоў візгатлівы.

Скрыгат дзвярэй — і нашу пасцель
Сырым абдае паветрам.
Грознай камандай ляціць: «Шнэль! Шнэль!»
Рупімся выйсці да ветру.

З нейкай рачулкі бяром ваду,
Людцаў — глядзець ды дзівіцца.
Следам за бацькам з кубкам іду —
Таксама нясу вадзіцу.

Сыта-вантробны смех немчуры,
Вецер самотна скуголіць.
Змурзана неба…
                    Гараць кастры —
Спешна кухарым у полі.

Перад сабою нясуць чыгуны
З ежай жанкі да вагонаў.
Гэтае горкай праўды вайны
Мне не забыць да скону.

### 2. Рухомы астрог

Мчыцца наперад лакаматыў,
Круцяцца колы праворна.

Чорную грыву дым распусціў,
На сэрцах бясконца чорна.

Чорная ноч ад сажы чарней,
Сон у таварным вагоне.
Мы пад прыцэлам пільных вачэй,
Трэція суткі ў палоне.

Бацька і маці, сястра і брат
Побач са мной на падлозе.
Божканне, ўздыхі і немаўлят
Плач у рухомым астрозе.

Мчыцца цягнік, каб нас перадаць
Дзяржаве, крывёй прапахлай.
Горычы, крыўды, болю пячаць
На тварах панурых, счахлых.

Мы для фашыстаў проста нулі,
Наша свабода распята.
Ці дачакаем волі калі,
Права вярнуцца дахаты?

## Я — ВЯЗЕНЬ

Я — вязень, маленькі вязень,
І смерць мне глядзіць у твар.
Хто за мяне у адказе —
Я ж толькі жывы тавар?

Быў плакаць нават не ў сілах —
Аслабнуў так ад бурды.
Здавалася, кроў у жылах
Спыніцца — і назаўжды.

Хоць бізуном і не секлі,
Націнкай я вяў і сох.
Як выжыў у страшным пекле,
Адзін сёння знае Бог.

* * *

Гады бягуць, ды не забыты
Імёны тых, хто ў бой ішоў.
Іх кроў дарэмна не праліта —
Такая праведная кроў.

Яны ў суровую часіну
Сваё жыццё — бясцэнны дар —
Прынеслі на алтар Айчыны,
Высокі і святы алтар.



УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ

# ПАКЛАНІСЯ ЛЮБОВІ

*Лісты да ўнука*

## 1

Мой светлы сонечны Унук!

Табе ўсяго некалькі гадзін ад народзін, я цябе яшчэ не бачыў, але, ведай, ты жаданы, чаканы і багаты. Хачу, мой любы спадчыннік, каб ты адразу зразумеў і ацаніў сваё багацце. У цябе вялікі род Ліпскіх, і ты ў ім — самы зялёны лісток. Ліпеньскі. Летні. Ты кугікнуў у добрую пару: усё буяе, расце, цягнецца да сонейка, аблашчана яго цяплом, гаючай расой, спевамі галасістых птушак.

У цябе, Унук, любячыя бацькі — Марына і Лёня. Ты маеш мудрую і прыгожую сястру Машу. Ты багаты дзедам, які піша табе гэтае пасланне, дзвюма чароўнымі бабулямі, якія гатовы цябе пеставаць і няньчыць. У цябе ёсць дзядзькі, стрыечныя браты, сястра. А твой радавод Ліпскіх вядомы ажно з семнаццатага калена. І ведай, дружа, у ім не было нягоднікаў, здраднікаў, забойцаў, горкіх п’яніц, злодзеяў, лайдакоў, хлусоў, шматжэнцаў. І ў гэтай чысціні багацце!

Ім ты мусіш не толькі карыстацца, але абавязаны ўзбагаціць наш радавод, унесці свой жыццёвы каравай, важкі і прывабны. Ты павінен вырасціць на магутным дрэве Ліпскіх сваю, прыкметную галіну.

Пакуль жа ты толькі лісток, зялёненькі і чысценькі. Мы ўсе адразу, авансам любім цябе, гатовы саграваць сваім душэўным цяплом.

Мама корміць цябе сваім малачком. А наперадзе ў цябе малако магазіннае, а неба сёння сонечнае можа захмарыцца, а з мора можа падзьмуць вецер, а з-за вугла раптам выскачыць шалёны сабака...

---

*__Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч__ нарадзіўся 6 мая 1940 года ў вёсцы Шоўкавічы Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі тэхнікум харчовай прамысловасці (1960) і завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі БДУ (1966). Працаваў на Гарадзейскім цукровым заводзе, у рэдакцыі Нясвіжскай раённай газеты «Чырвоны сцяг», у апараце ЦК ЛКСМБ, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. З 1978 года — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка». З’яўляецца старшынёй праўлення Беларускага дзіцячага фонду.*

*Аўтар кніг прозы: «Аўцюкоўцы» (1995), «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод» (1998), «Мама. Малітва сына» (1999), «Каралева белых прынцэс» (2000), «Бацька» (2004), «Мы» (2006), «Янкаў вянок» (2009) і інш.*

*Лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра і Васіля Віткі, Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2001).*

Хлопчык мой! Як жа мне хочацца, каб ты ўзгадаваўся мужным і моцным, спагадлівым і добрым, шчодрым і ўсмешлівым, лагодным і бадзёрым, разумным і панятлівым. Гэтаму ўсяму вучыся змалку, пакуль вакол цябе плойма дабракоў.

Крывінка мая! Зірні на свет яснымі вачыма, зразумей яго і выберы сваю дарогу. Толькі ніколі-ніколі не забывай, мой любы, зямлю, на якой ты ўдыхнуў паветра. Яна называецца Беларусь. Палюбі яе да слёз. І тады ты станеш Чалавекам на гэтай зямлі, і толькі тады ўбачыш і адчуеш прыгажосць усяго сусвету. Упусці ў душу, мой родны, напеўную і старажытную мову беларусаў і ты адчуеш, як душа твая напоўніцца гаючым нектарам, і ты зразумееш, да цябе дойдзе, не можа не дайсці, што за родную мову, за нашу зямлю, за гістарычны скарб народа, у які ўваходзіць і род Ліпскіх, трэба змагацца.

А пакуль што, дружа, адпачывай, налівайся маміным малачком, наталяйся ліпеньскім водарам. Хай жа святочным і радасным будзе твой жыццёвы шлях. Хай ва ўсім і штодня спрыяе табе анёл-ахоўнік. Хай падмагае табе сам Бог. Ведай яшчэ адно: Ён жадаў твайго з’яўлення на свет. Здолей аддзячыць Яму за гэта!

*Твой дзядуля Валодзя*
*2 ліпеня 2005 г. (субота)*
*«Узгор’е-2»*

**2**

Дарагі наш хлопчык!

Сёння ўбачылі тваю маму Марыну. Выйшла да нас у квятастым халацiку. Без звыклага ўжо жывоціка, у якім ты спачываў. Стомленая. Бледная. Але са шчаслівай усмешкай:

— Пупсіка прыносілі... Карміўся... Ля грудзей і заснуў знясілены...

Якая сусветная навіна!

Папіў мамінага малачка. Упершыню ў сваім жыцці паснедаў.

Я пазіраў на тваю маму і прыгадваў сваю маму Марыю, тваю прабабку. Вельмі ж яны падобныя: твая Марына і мая Марыя. Маленькія, але моцныя. За дзяцей гарой! І дзеці ў іх як у Бога за пазухай.

Мая мама Марыя нарадзіла мяне, калі ёй было 42 гады. Яе прывезлі на кані ў Горвальскую бальніцу, за 15 кіламетраў ад нашых Шоўкавіч. Я нядаўна пабываў у Рэчыцкім раёне, наведаў вёску Горваль, знайшоў тую мясціну, дзе стаялі драўляныя пабудовы даўнейшай бальніцы.

Ці не паверыш, Унук, я, ссівелы, упаў на зарослы дзірваном падмурак і зарыдаў. Божа! Вось тут мама мяне нарадзіла. Як я ўдзячны маме за Божы падарунак — жыццё!

На тым месцы, дзе была сельская радзільня, узняліся ў неба дзябёлыя сосны, паміж імі стаяць агрубелыя дрэвы акацый. Зусім недалёка працякае рака Бярэзіна. Імклівa нясе свае воды ў Дняпро. Іх спатканне адбываецца літаральна праз які кіламетр. Прыгажосць райская! Тут я ўбачыў свет. Мо таму пажыццёва і люблю прыроду. Яна — мае крылы, маё люстэрка, мая падзарадка душы.

Кажуць, прымала роды ў маёй мамы акушэрка Марыя Канстанцінаўна Качаноўская. Узяла мяне на рукі, парадавалася:

— Які слаўны хлопчык!.. Хай жа жыве ў міры і спакоі!..

Перадала мяне ў маміны цёплыя рукі. І я, відаць, як і ты, мой Унук, прыпаў да матуліных грудзей, напоўненых касмічнай энергіяй.

А праз год пачалася вайна. Пра яе ты пачытаеш у кніжках, у тым ліку і ў маіх.

Дзяцінства маё было апалена тым страшным ліхалеццем. Вёску і хату нашу спалілі. Мы хаваліся і жылі ў лесе. Бальніцу, дзе я нарадзіўся, ворагі разрабавалі і таксама спалілі. Забілі акушэрку, якая прымала роды ў маёй мамы.

Я стаяў ля абеліска нявінным ахвярам у Горвалі, і сэрца маё разрывалася. Знясільваў сябе адным пытаннем і не знаходзіў на яго адказу: чаму людзі становяцца звярамі? Завошта дубасім брат брата ажно з пары Каіна і Авеля?! Мы ж усе на зямлі — радня...

Хлопчык мой, ты нарадзіўся святочнымі днямі. Усе мы адзначаем дзень вызвалення Беларусі. Мы жывём у міры больш за шэсцьдзесят гадоў. Ацані гэта, будучы абаронца. А напачатку жыцця ўпусці ў сваё жыццё доктара Святлану Юр’еўну Нагібовіч, якая шчыравала над тваёй мамай, каб ты цэленькі і здаровенькі з’явіўся на свет. Запомні: ты нарадзіўся ў Мінску, у сэрцы Беларусі, у раддоме па вуліцы Бельскага. Не забудзь гэта!

А самае галоўнае, мой хлопчык, навучыся змалку быць удзячным чалавекам. Ацані подзвіг мамы Марыны, таты Лёні. Часцей радуй іх. Жыві і давай жыць іншым!

Мы цябе яшчэ не бачылі, але ўжо бязмежна любім. Здолей ацаніць гэта. І хай душа твая напоўніцца любоўю! А пакуль што спяваю табе дзедаву калыханку:

Люлі-люлі,
Маленькае!
А спі доўга,
Расці скора
Бацьку-маці
На пацеху...

*3 ліпеня 2005 г. (нядзеля)*
*Дзень незалежнасці Беларусі*

**3**

Пупсік!

Мыю вокны ў тваёй кватэры. Бацька твой Лёня і сястра Маша наводзяць марафет у пакоях. А мне, самаму вёрткаму, даверылі шкліны. Ведай, шыбін у вашых лоджыях, дзвярах і рамах столькі, каб іх падлічыць, трэба закончыць адзін клас.

Мне здаецца, мой Унук, я не проста мыю вокны, а праціраю сівыя аблокі, якія няспешна плывуць у сонечнай прасторы. Яны, вечныя нябесныя падарожнікі, як бы хочуць прыпыніцца над вашым домам у Сухарава, запеленгаваць навіну аб тваім нараджэнні і разнесці яе па ўсёй Зямлі.

Будзь паважлівым, мой Нашчадак, да гэтых аблокаў. Яны заўсёды над намі, багата чаго бачылі і ведаюць. Часцей узірайся ў іх, у неба і зоры. І ты адчуеш у сабе крылы, захочацца ўвысь, туды, дзе загадкавая вечнасць. Як жа гэта важна: жыць на зямлі, наталяцца сокамі прыроды і цягнуцца да касмічнага сонца. Усё жывое так робіць: гонкія сосны і беластволыя бярозы, росная трава і звонкі трапятун-жаўрук. Рыба часам хоча падскочыць да неба. Певень успырхвае на жэрдку, калі захоча пасняваць. Нават воўк уздымае галаву да зор, калі жадае выць на ўсё наваколле пра сваю долю.

Вось якая гэта магічная штука — вышыня. Але ж помні, з яе можна і зляцець, калі не ўтрымаешся на ёй. Яна можа і скатурхнуць цябе, калі ты ўявіш, што ўхапіў удачу за бараду.

Даруй, Унук, за павучанні. Яны не вычытаныя. Да іх я дайшоў сам, па жыццёвых пуцявінах. Яны дарагія мне. Хачу, каб і ты іх зразумеў, глыбока ўпусціў у душу. Чым раней гэта адбудзецца, тым больш упэўнена будзеш крочыць па жыцці.

А пакуль што я мыю вокны ў тваёй кватэры. Заадно праціраю і аблокі, якія наплываюць на шыбіны.

Чакаем цябе!

*4 ліпеня 2005 г. (панядзелак)*
*г. Мінск*

**4**

Мой дружок!

Сёння ўпершыню ўбачыў цябе. Твая мама Марына таямніча правяла ў залу. І там я сустрэўся з табой ва ўсёй красе.

Ты ляжаў на шырокай бацькоўскай пасцелі. Ад таго, што ты малюпаська, канапа здавалася бязмежным палеткам. На ім — ты, сонны і замілаваны каласок. Ляжаў на спінцы, ручкі ўгору. Пальчыкі сціснуты ў кулачкі. Чорныя валосікі на галоўцы. Шчочкі, як у хамячка. І пульхныя, сысунковыя губкі. Ногі раскінуты ўшыркі. Ты адпачываў на волі, у любячай цябе аўры, спакойны, сыты і задаволены. Вось такім мужычком запомніў цябе.

Сэрца маё залілося пяшчотай, жаласцю і трывогай. Якім вырасцеш? Кім будзеш? Ці ўпусціш у сябе Бога? Ці зможаш змагацца з нячысцікам? Ён жа пачне з часам падсоўваць табе горкую слодыч: тытунь, піва, легкадумнасць, непаслухмянасць, грубасць, грошы, золата, зазнайства... Будзе чакаць, каб ты клюнуў, спакусіўся, падтрымаў яго, «рыбака». Будзь асцярожны, прадбачлівы, мой унук!

Па генах ты атрымаў дабрыню і працалюбства Ліпскіх, наша чыстае сумленне, любоў да зямлі сваёй і роднай мовы, уменне радавацца жыццю і цаніць кожны новы дзень. Хай жа ўсё гэта і стане мерай тваёй волі, твайго характару, твайго росту і сталення.

Ацані, унучак, тую бязмежную любоў, якой ты спавіты з першага свайго жыццёвага дзянёчка. Ведай, далёка не ўсім дзецям перападае такая спадчына. Сярод народжаных ёсць сіроты, падкідышы, бязбацькавічы, нежаданцы, адлучэнцы, дзетдомаўцы, апякуемыя, прададзеныя, скалечаныя, забітыя. Як навучышся чытаць, а галоўнае, калі пачнеш усур'ёз задумвацца пра жыццё, вазьмі ў рукі маю кніжку «Бацькі і дзеці» і няспешна ўпусці яе ў сваю душу. І тады ты ўсвядоміш цяперашнюю маю радасць-трывогу за цябе.

Ты ляжыш на бацькоўскай пасцелі. Спіш. Спачываеш. Мы ўсе з замілаваннем пазіраем на цябе, агортваем цябе любоўю і надзеяй. Набірайся сіл, хлопчык. У цябе наперадзе цэлае жыццё. Сваё. Непаўторнае. Загадкавае. Хай жа яно стане змястоўнай кнігай, запатрабаванай людзьмі, якая перадасца ў памяць новых пакаленняў беларусаў.

Скажаш, дзед паставіў высокую планку для цябе. А без яе, дружок, нічога не дасягнеш у жыцці. Хай высокая мэта свеціць перад табой.

*Твой дзед*
*10.07.2005 г. (нядзеля)*

**5**

Ура! Ура!

Наш пупсік мае імя!

Запомні, дружок, пад нумарам 1967 табе выпісана Пасведчанне аб нараджэнні. Відаць, столькі (1967!) немаўлят нарадзілася ў Фрунзенскім раёне г. Мінска на 2 жніўня 2005 г. Менавіта ў гэты дзень, праз месяц пасля тваіх народзінаў, ты засведчаны ў дакументах, як грамадзянін Беларусі, — Ліпскі Анатолій Леанідавіч. З чым цябе сардэчна і віншую!

Мой унучак, ты займеў чалавечае імя. Цяпер трэба спраўдзіць яго перад бацькамі, перад людзьмі, перад радзімай, перад самім сабой. Імя павінна прыкіпець да цябе, прырасці, каб ты і тваё імя сталі маналітам.

Анатоль! Ведай, акадэмік Мікалай Васільевіч Бірыла адшукаў на Беларусі звыш трыццаці варыянтаў твайго імя: Анатолій, Натоль, Анатолік, Анатолька, Антоль, Антолік, Антолька, Толь, Толенька, Толечка, Толік, Толіч, Толька, Талюша, Таляй, Таляка, Талян, Талянка, Таляш, Толічак, Талічок, Таляйчык, Таляйка, Талясцік, Таляшта...

А як жа цябе будуць называць? Да якога наймення больш дапасуешся сваім характарам, сваёй працай, сваёй хадой па жыцці? Загадак пакуль болей, чым адгадак.

Гартаю праваслаўны каляндар, разгортваю зборнікі народных прыкмет. Што даведваюся?

Ты нарадзіўся 2 ліпеня, і цябе па-царкоўнаму іменаслову маглі назваць Засімам, Зосімам. Менавіта гэтым днём царква ўслаўляе імя такога святога. Але сярод сучасных хлопчыкаў і хлопцаў я не чуў падобнае імя. Яно цяпер не моднае, хаця з грэчаскай мовы і перакладаецца — жыццёвы.

Цябе бацькі і сястра Маша назвалі Анатолем. Імя паходзіць са старажытнай зямлі Грэцыі. І азначае — усходні, узыходзячы. Ты узышоў на ўсходзе!

Тваё імя мелі тры святыя Анатоліі: сваціцель, мучанік, прападобны. Патрыярха Канстанцінопальскага Анатолія царква ўслаўляе 3 ліпеня. Гэта па дні месяца амаль супадае з тваім з'яўленнем на свеце. Так што імя тваё далёка не выпадковае. Пранясі яго па жыцці ў чысціні і святасці!

А яшчэ помні, унук, ты нарадзіўся ў пару, калі цвітуць ліпы, калі пчолы пачынаюць заліваць соты воскам, запасаюцца ліпавым мёдам на зіму. Пчолы, Божыя ўгоднікі, рыхтуюць воск на царкоўныя свечкі. Гэта адзіныя прыродныя стварэнні, якім даручана такая святая справа. І стараюцца яны выканаць яе ў ліпені. Месяц твой і паходзіць ад назвы дрэва ліпа. І прозвішча тваё ад ліпы — Ліпскі. Колькі прыемных знакаў, сімвалаў закладзена ў тваім, Анатоль, імені, у дні твайго нараджэння! Спраўдзі нашы надзеі, унук!

*Твой дзед*
*2.08.2005 г. (аўторак)*

**6**

Наш любы Толік!

Праз месяц і два дні, 4 жніўня, ты здзівіў нас усіх і пацешыў. Найперш, канешне, сваіх бацькоў — Марыну і Лёню. У дзве гадзіны сорак пяць хвілін ночы ты першы раз у жыцці ўсміхнуўся!

А было так.

Ты расплюшчыў свае вочы-пацерачкі. У пакоі цёмна, за акном — ноч, зорнае неба. А дзе ж нянькі? Чаго іх няма вакол цябе? Ты незадаволена крактануў, і тут жа два знаёмыя, усмешлівыя твары нахіліліся над табой. Бацькі як бы і не спалі: «Толічак, Талюсік, прачнуўся?..»

Лёня замяніў табе памперсы, і два бацькоўскія твары зноў зашчыравалі над табой. «Ну што, сынуля, будзем карміцца?» — спытала мама. І ў гэтае імгненне сонечны промнік ускочыў на твой тварык, пульхныя твае вусны расплыліся ва ўсмешцы і асвяцілі бацькоў неабсяжным шчасцем. Сваёй усмешкай ты аддзячыў ім за начныя клопаты пра цябе, за іх пяшчоту да тваёй персоны.

Кажуць, чалавек пачынае ўсміхацца, смяцца тады, калі напакутуецца. Ты дзевяць месяцаў жыў у цемры і адзіноце. Ты перажыў народзіны. Ты пачынаеш адкрываць для сябе зямны рай. І ты ўсміхнуўся! Божа, хай на гэтым і закончацца ўсе твае зямныя пакуты. Навучыся, унук, радавацца жыццю (гатоў гэта паўтараць у кожным пісьме)! І навучыся смяяцца. Гэта цэлая навука, калі смех не дурны, не ідыёцкі, а па-чалавечы мудры, дасціпны, душэўны.

Напэўна ж, як падрасцеш, возьмеш у рукі маю кнігу «Аўцюкоўцы». У ёй ты адкрыеш для сябе ўсмешліва-гумарных людзей, Каласкоў і Калінак, якія адвечна гаруюць і заўсёды жартуюць. Яны ўмеюць смяяцца з саміх сябе, з суседзяў, з начальнікаў. Яны ўмеюць пераносіць нягоды. Яны ўмеюць у чорным бачыць светлае. Як і ты, Толік, цёмнай ноччу ўпершыню ўсміхнуўся. Хай жа ўсмешка радасці і задавальнення заўсёды падарожнічае з табой.

Мы радуемся, унук, кожнаму твайму руху, позірку, гуку. Хочацца ўсцешна дачыркнуцца да твайго кірпатага носіка, ушчыкнуць твае шчочкі-булачкі, палашчыць твае мініяцюрныя пальчыкі. Мы, уся твая блізкая радня, аж млеем ад шчасця, што ты нарадзіўся. І гэта праўда. Але ж ведай, унук, пра народзіны дзіцяці ёсць і іншае меркаванне. Вось што пісаў геніяльны італьянскі скульптар, жывапісец, архітэктар, паэт Мікеланджэла Буанароці (1475—1564) свайму пляменніку Ліанарду, калі той задумаў святкаваць нараджэнне сына:

«Гэта пышнасць мне не падабаецца. Недапушчальна смяяцца, калі ўвесь свет стогне. Наладжваць такую ўрачыстасць толькі дзеля таго, што нехта з'явіўся на свет, па меншай меры смешна. Радавацца можна і трэба, калі памірае чалавек, які з годнасцю пражыў сваё жыццё».

Вось такія пірагі, Талян. Насмоктвайся ўдосталь мамінага малачка. Купайся ў аўры сямейнай любові. Ды ведай, што давядзецца і табе, хочаш таго ці не, «смактануць» не толькі прыемнага і салодкага, а і горкага. Не адчайвайся! І хай табе ў цяжкія хвіліны дапаможа добрая ўсмешка.

*Твой дзядуля*
*4.08.2005 г. (чацвер)*

**7**

Родны Таляйчык!

Твае першыя госці да дзеда з бабай супалі з нашым святам. Мы дажылі да сапфіравага вяселля — сорак пяць гадоў сумеснага жыцця. Парадуйся, бо каб не наш сямейны саюз, не было б тваёй мамы Марыны, не было б і цябе. Мы ваш жыццёвы сок, карані радаводнага дрэва. А вы, унукі — Антон, Маша і ты, Толік, — на вяршыні сучаснага нашага радаводу.

Сваё сапфіравае вяселле мы адзначалі на дачы, у нашым загарадным жоўта-зялёным доміку. Працавалі на зямлі, цешыліся наліўнымі яблыкамі,

гронкамі сліў на сагнутых галінах, дарамі кітайскага лімонніку, зялёнымі газонамі, кустамі парэчак, цыбатым маліннікам. Якое хараство!

І раптам (зусім нечакана!) каля нашага доміка супынілася жоўтая машына. І вы ўсе Ліпскія — Лёня, Марына, Маша і ты, пупсік, завіталі на наша лецішча. Прыйшлі з шампанскім і букетам гарадскіх кветак. Вось і пачалося свята!

Я даўно ўжо не піток, але стрэліў шампанскім тут жа на агародзе. Усе прыгубілі шыпучага напою, апроч, канешне, Машы і цябе. Ты палежваў у паходнай сумцы-люльцы і шырокімі вачыма адкрываў новы для сябе краявід. Божа, ты ўпершыню ў жыцці бачыў жывыя дрэвы, ягадныя кусты, кветкі на градах. Ты здзіўлена пазіраў на драўляную люстру ў пакоі. Каб жа ты, мой хлопчык, на ўсё жыццё захаваў вочы адкрывальніка, каб ніколі не стаміўся дзівавацца ўсім прыгожым.

А яшчэ, Толік, нам, дзеду і бабе, хацелася, каб і ты некалі сустрэў сваё каханне, завёў сям'ю, спадчыннікаў, і вось гэтак жа адзначаў сваё сапфіравае вяселле.

Зразумей, кім бы ты ні стаў, на каго б ні вывучыўся, якой бы кар'еры ні дасягнуў, колькі б грошай ні займеў, галоўнае багацце — у любові і каханні. Яны, і толькі яны, ствараюць моцны сямейны саюз, ад якога ідуць новыя галіны спадчыннасці.

Прызнаюся, мы з тваёй бабай Нінай сустрэліся нібыта выпадкова, але ў жыцці няма нічога выпадковага. Мы жылі ў розных вёсках, у розных сем'ях, але самае важнае — у адзін час. І гэты гаспадар-час звёў нас у мінскім тэхнікуме. Яна была з доўгай касой, у паркалёвай сукеначцы, з адкрытай усмешкай, з нецалаванымі губамі. Нас аб'яднала тое, што мы любілі сваю маладосць і хацелі шчыра кахаць...

А як толькі закончылі вучобу ў тэхнікуме і атрымалі пуцёўкі на працу ў розныя раёны, перапалохаліся не на жарт. Мы ж маглі страціць адно аднаго. Як тады жыць? І навошта тады жыць?

Во, браце, як бывае. Калі і на цябе нахлыне калі-небудзь такое пачуццё, то ведай, ты сустрэў сваю суджаную, табе трэба жаніцца.

Канешне, унук, мядовым бывае толькі першы месяц жаніцьбы. А далей нечакана падступаюць адказнасць, клопаты, радасці-турботы, рэўнасць, цяжбы, у голасе метал, у позірку — халоднасць, у кашальку — вецер, у сябрах — нявернасць, сярод родзічаў — непаразуменне. Усё гэта трэба ўмець бачыць, адчуваць, пераадольваць. Тады цярплівым Бог надасць сілы, каханым захавае іх пачуцці, верным сям'і і вянчальным клятвам падорыць дзяцей.

Дарагі ўнучак! Ты сёння агледзеў наш дачны маёнтачак. Па ўсім відаць, ён табе спадабаўся. Наведвайся сюды часцей, наталяйся, адпачывай тут колькі захочаш. А калі вырасцеш, пабудуй сабе хату сам. Па сваім гусце і настроі. На свае грошы. Пасадзі свае дрэвы, кусты. І дачакайся на сапфіравае, а, можа, на залатое ці брыльянтавае вяселле сваіх унукаў. Ды не забудзься прыгадаць на ім дзеда Валодзю і бабу Ніну, якія ў маладосці і сталасці нястомна люлялі радаводную калыску.

*Твой сапфіравец*
*24.09.2005 г. (субота)*
*«Узгор'е-2»*

**8**

Дарагі Анатолій!

Табе сёння ажно тры месяцы. Запомні: у гэты час ты важыў сем кіло і дзвесце грамаў, а выцягнуўся на 62 сантыметры. Расцеш, набіраешся моцы!

І гэтым радуеш усіх нас. Асабліва маму Марыну. Яна проста іскрыцца ўся ад радасці, хаця ой як нялёгка даюцца ёй твае грамы і сантыметры. Здолей, хлопчык, ацаніць гэта ўсё, калі падымешся на ногі, калі прасвятлее розум, калі сам станеш бацькам.

Мне ўсё болей карціць ведаць: кім жа ты станеш, якім будзеш, чаго дасягнеш у жыцці? Усё гэта пакуль за сямю замкамі, у тайнах будучыні.

І я адкрываю розныя гараскопы, хачу зазірнуць у твой заўтрашні дзень.

Само імя Анатоль пранікнута нейкай усходняй пышнасцю, багаццем, уладарнасцю. Нездарма ў такі ж дзень, як і твой, нарадзіліся некалі рускі мастак Макоўскі, аўстрыйскі кампазітар Глюк, італьянскі паэт Пятрарка, першы прэзідэнт Конга Лумумба. Яны пакінулі свой след на «пяску часу». Хацеў бы, каб і твой след, Анатоль, быў прыкметным.

Пішуць, што ты будзеш спакойным дзіцём, рана зацікавішся чытаннем, кнігамі. Хацеў бы, унук, каб ты палюбіў родную мову, тады прачытаеш і мае кнігі: пра дзяцінства тваёй мамы — «Марынчына казка», пра дзяцінства тваёй сястры — «Наша Маша», пра дзяцінства дзядзькі Ігара — «Рыгоркавы прыгоды», пра дзяцінства дваюраднага брата Антона — «Антонік-Понік». З узростам, кажуць, у цябе праявяцца воля, упартасць і ты пачнеш «гнуць сваю лінію». Усё гэта добра, але толькі не перагні, не пераўпарціся, не стань фанабэрам, тым парнакапытным, які вырашае ўсе спрэчкі толькі касцяным чэрапам і вострымі рагамі.

Гараскопы сцвярджаюць, што ты будзеш працалюбівым. Хай жа твой пот і ўмельства будуць грашавітымі, плённымі. Ты нарадзіўся пад знакам Рака, дык сцеражыся, хлопчык, каб у кар’еры не быў падобны на рака, які рухаецца то ўперад, то назад. Табе прарочаць вяршыню славы ў бізнесе, у музыцы, у тэатры і літаратуры. Ракі валодаюць фенаменальнай памяццю і могуць стаць выдатнымі фізікамі, філосафамі. Яны імкнуцца ісці сваёй дарогай, любяць блізкіх людзей, трымаюцца сямейных звычак і традыцый.

Апошняе, унук, мне асабліва падабаецца. Бо ці ж можна рабіць нейкія крокі ўперад, калі не будзеш ведаць свайго радаводу? Мне здаецца, з першага свядомага вітка жыцця ты павінен зразумець, ад якіх людзей ты паходзіш, узяць ад іх лепшае і пайсці далей. Канешне, усё гэта лёгка жадаць, а выконваць не так проста. Але ведай, дружок, Ліпскія ўпартыя ў сваіх намерах і справах, людзі гонару. І гэта не галаслоўна, бо ведаю па сваім жыцці. Хай жа ўсе лепшыя рысы Ліпскіх хаця б за апошнія семнаццаць каленаў радаводу ўвасобяцца ў табе, Анатоль. Я жадаю гэтага. Хачу. Прашу. І патрабую!

*Твой добры і строгі дзядуля*
*2.10.2005 г. (нядзеля)*

**9**

А тваёй сястрычцы, Анатоль, сёння адзінаццаць гадоў. Табе, нагадаю, тры месяцы і два дні.

О, Маша ўжо багата чаго ведае!

Яна апантана штурмуе школьныя падручнікі.

Яна самаахвярна ходзіць у музычную школу.

Яна авалодвае рытмікай сучасных танцаў.

Яна вучыцца спяваць у ансамблі «Радзімічы».

Пабывала ў Польшчы, Балгарыі, на Чорным моры, у Аўцюках, Шоўкавічах, Дабужы.

Яна ўмела карыстаецца камп'ютэрам, мабільнікам, ездзіць на веласіпедзе. Рулявала татавым аўто. Склала вершык «Коцік» (надрукаваны ў «Вясёлцы»). Умее маляваць, плаваць, сябраваць, гуляць. Любіць сябе, дзяцей, сабак, кошак, хамякоў, чарапах...

Машыны заганы: упарціцца есці, часта страчвае апетыт; баіцца павукоў, мух, камароў («Дзядуля, прагані, бо не засну»); не адважваецца ездзіць на ліфце (аднойчы з мамай заселі ў ім); аматарка пераТрэсці дзядулеў пісьмовы стол, бабуліны шафы...

Ведай, Толік, мама Марына назвала Машу лепшай дачкой на свеце. А я назваў яе лепшай унучкай на свеце.

Расці і станавіся лепшым на свеце. А пакуль што Маша забаўляе цябе, хоча, каб ты падарыў ёй на імяніны сваю сонечную ўсмешку.

О, шчочкі твае пульхныя расплываюцца, у вочкі ўскочылі іскрыстыя промнікі, і ты паказваеш Машы і ўсім нам свой бяззубы роцік. Дзякуй за падарунак!

Машы давяраюць патрымаць цябе. І яна з гонарам бярэ цябе на рукі. Вы, брат і сястра, падаліся мне адным цэлым, блізнятамі. Побач стаяла шчаслівая мама. Яна вас хацела, чакала, вынасіла, нарадзіла. Вы — яе кроў, плоць, яе любоў і яе жыццё. Ці ж маеце права, дзеці, крыўдзіць маму, не слухацца яе, не шанаваць яе?

Уздымайся, Талян, на ногі ды пачынай разбірацца што да чаго.

А пакуль паспі яшчэ разок, бо твая юная нянька не можа болей забаўляцца з табой. Яна ідзе з сябрамі ў дзіцячае кафэ.

*Твой дзед*
*4.10.2005 г. (аўторак)*

## 10

Дарагі Таляйчык!

Святкуем імяніны тваёй мамы. Ёй — трыццаць тры гады. А помніцца яна ў тры месяцы, у тры гады, у трынаццаць гадоў.

У тры месяцы яна была вельмі падобнай на цябе, цяперашняга. Пазірала наўкол нябеснымі вочкамі, гудзела пад настрой, а без настрою — плакала. Ведама ж, дзяўчынка, вучылася какетнічаць, «ламаць» губкі.

Мы з Ігарам, тваім дзядзькам, прыдумлялі ёй імя. У той час твайму дзядзьку як цяпер тваёй сястры Машы было адзінаццаць гадоў. Ён панапісваў на паперках розныя дзявочыя імёны, мы пазгортвалі паперкі ў трубачкі, кінулі іх у маю зімовую шапку і цягнулі.

З усіх імёнаў, якія мы вылавілі з той шапкі, найбольш легла на душу імя Марына. Яно блізкае да Марыі. Так звалі дзвюх тваіх прабабуль — маю маму і маму Марынінай мамы. Мы пазванілі ў раддом і сказалі, як назвалі нашу дачку і сястру. Вось так і ўзаконілася на свеце яшчэ адна Марына, твая мама.

Калі Марыне было тры гады, мы аддалі яе ў «людзі». Хадзіла ў дзіцячы садок, спасцігала там азы мудрасці, хітрасці, спагады і сяброўства. Тое ж чакае і цябе, Толік, рыхтуйся жыць у суполцы з аднагодкамі, людзьмі розных узростаў. Твая мама вытрымала гэты экзамен. Яна і па-сёння сябруе з некаторымі сваімі дзетсадаўцамі.

А ў трынаццаць гадоў непазбежна для кожнага чалавека наступае цяжкі ўзрост. Чаму цяжкі? Ды таму, што заканчваецца бесклапотная пара дзяцінства і наступае ранняе юнацтва. Ты ўжо як бы і не дзіцё, а яшчэ і не юнак. З табой

сюськаюцца, як з малым, а ты хочаш быць дарослым. Зубы прарэзаліся (апроч зубоў мудрасці) і пачынае праразацца характар. Прыкметнымі становяцца грубасць, непаслухмянства, нервознасць. Хочацца быць дарослым і самастойным, ды не заўсёды гэта атрымліваецца. І выспявае рэвалюцыйная сітуацыя, калі нізы ўжо не могуць цярпець, а вярхі не могуць упраўляць.

Аднойчы, прызнаюся, Толік, мама твая вельмі раз'юшыла мяне. У нечым схлусіла мне, відаць, не прызналася пра двойку (тады ў школах была пяцібальная сістэма), альбо прагуляла ўрокі. Я вельмі пакрыўдзіўся на яе. Хацеў перацягнуць рэменем, але спяшаўся раніцай на працу, а яна — у школу. Паабяцаў: «Вечарам цябе адлупцую».

За дзень мая злосць улеглася, заснула. Мне ўжо зусім не хацелася караць дачку. Але ж я паабяцаў. Ды й было за што. Ох, Толік, каб жа ты ведаў, як я мучыўся, перажываў, як не хацеў ісці дамоў, як баяўся сустрэчы з Марынай.

Я ўсё-такі выканаў сваё абяцанне. А пасля мы, абняўшыся, сядзелі на канапе і разам плакалі. Так што лепей слухацца адзін аднаго, чым канфліктаваць, лепей прыносіць адзін аднаму радасць, чым засмучэнне.

Хай жа, дружа, на ўсіх віражах твайго жыцця будуць паразуменне, згода, любоў з бацькамі, сястрой, раднёй і ўсімі людзьмі, якія наўкол. Бо як ты будзеш ставіцца да людзей, так і яны да цябе.

А пакуль што мама твая ў свае трыццаць тры ляжыць на ложку з табой, малюпаськам, і цярпліва чакае, пакуль ты, сонны, не адвалішся ад яе грудзей. Яна шчаслівая, што ты апетытна кормішся. Здолей калі-небудзь ацаніць гэта.

*Твой дзед*
*27.10.2005 г. (чацвер)*

**11**

Звоніць Маша, дакладвае:

— Мы з мамай — на кухні. Тата з Толікам — спяць.

Усё як у Дамастроі: жанчыны ля печы, мужчыны адпачываюць.

Уяўляю: на ложку — доўгі Лёня і кароценькі Толік. У Лёні сон змораны, але чуйны. Толік жа спіць бесклапотна, уволю, з асалодай, як прадаўшы пшаніцу.

Здаецца, бачу: Лёня спіць, а на вуснах затрымалася стрыманая ўсмешка. Ён — шчаслівы! Побач ціха сапе сынок, на кухні — любімыя Марына і Маша.

Твайго Лёню, Таляйчык, выхоўвала адна мама. Так атрымалася, бацька рана пакінуў іх і сям'ю. Лёнік рос хлопчыкам спагадлівым. Змалку навучыўся шкадаваць і шанаваць маму. Таму і вырас добрым, цярплівым, ласкавым. Душа яго ўмее разумець і спачуваць. Вочы яго ўмеюць бачыць. Рукі яго не цураюцца любой працы і робяць усё адмыслова, дасканала. Калі ён за нешта бярэцца, то можна быць упэўненым — усё будзе зроблена з вышэйшай якасцю. А ў гэта ўсё ўваходзіць рамонт кватэры і машыны, «лячэнне» бытавой тэхнікі і электрапрыбораў, сталярныя і малярныя работы. О які твой бацька, Толік!

Пад твой чарговы юбілей (пяць месяцаў!) мы наведалі вашу сям'ю. Ты набраў ужо 8,8 кг, рост — 67 см. За пяць месяцаў пацяжэў на 5 кіло і 860 грамаў, выцягнуўся на 17 см. Тэмпы волатаўскія!

Ты пазіраў на нас сваімі вялікімі вачыма-вішнямі, спачатку зламаў быў губкі, бо ўбачыў малазнаёмыя постаці, пачуў нязвыклыя галасы, не зусім хатнія, да якіх не прывык. А пасля ўсміхнуўся, прызнаў сваіх — бабулю і дзядулю. Дзякуй за гэта, унучак!

Бацька Лёня ўзяў цябе на рукі. Некалькі разоў гушкануў угору, і тварык твой расцвіў пралескай. Ты адчуў палёт і ўзрадаваўся.

Бацька паклаў цябе пузікам на свае шырокія далоні і пачаў гайдаць. Ты ўзняў угору тварык. Вочкі блішчэлі радасцю, а шчочкі рассунула шырокая ўсмешка.

Ты ўсцешыў мяне, Толік, што ўмееш радавацца палёту. Табе даспадобы моцныя бацькоўскія рукі. Трымайся іх, хлопчык. І расці падобным на свайго бацьку Лёню.

Што ні раблю, ты перад маімі вачыма, Толюсь. Здаецца, ты ўсё разумееш, толькі сказаць не можаш, усё хочаш рабіць, толькі сіл малавата...

Не паспелі мы вярнуцца ў сваю кватэру ды нацешыцца ўспамінамі ад сустрэчы з табой, як тэлефон прынёс свежую навіну. Пазваніла твая мама Марына:

— Толік перакуліўся са спінкі на жывоцік!.. Сам!.. Упершыню!..

Віншуем з перамогай, унук!

Хай часта і ва ўсім добрым табе спадарожнічае яго вялікасць Шанец і яе вялікасць Удача!

*Твой дзядуля*
*3.12.2005г. (субота)*

**12**

Мой дарагі ўнук!

Ужо даўно ўсе спяць. Спіць Мінск. І неба над ім спіць. І ўсе птушкі спяць на заснежаных дрэвах. І ты прыцмокваеш губкамі ў сне.

А мне чамусьці не спіцца.

Думаю пра Машу, якая захрыпела ад марожанага. Думаю пра Антона, які падхапіў вятранку. Думаю пра цябе, Толік. Пра вас, унукаў, мае начныя думы. А значыць, пра ваш і свой заўтрашні дзень.

Мяне ўстрывожыў аповед тваёй мамы, Толік.

Калі табе быў месяц, адзін артапед вызначыў у цябе варуснае[1] палажэнне ступняў. Прасцей кажучы, ступні павернуты ўнутр. Гэта, сказалі, з’ява звычайная ў немаўлят, трэба рабіць масажы. Мама твая Марына атрымала ўрокі і пачала раўняць табе ножкі. З гэтай задачай лёгка справілася.

А ў пяць месяцаў другі артапед сказаў: «Не тое выпраўлялі. Трэба раўняць левы тазабедраны сустаў. У ім — абмежаваная рухомасць, дысплазія». Твае мама і тата вылечаць цябе, будзь упэўнены. Але думкі мае пра медыкаў, якія вольна ці нявольна будуць спадарожнічаць табе ў жыцці. Падрастай хутчэй, вывучвайся ды пачынай нешта выпраўляць у гэтым свеце. Клопатаў — непачаты край!

А галоўнае, Толік, беражы здароўе. Умей змагацца за яго, як гэта робяць цяпер твае бацькі. Не шкадуй часу, цярпення і грошай на здароўе. Ды дбай не толькі пра моц цялесную, а і чысціню душэўную. Бо калі душа пустая, яна пажырае цела.

Пакуль мы з мамай гаварылі пра цябе, ты знямаў порцыю пюрэ з чарнасліву. Пры гэтым чамусьці трымаўся ручкай за правае вуха. А калі табе надакучыла есці і слухаць, пачаў кугікаць, пакрэктваць, гудзець, як бы казаў:

[1] Медыцынскі тэрмін (заўв. рэд.).

«Хопіць балбатаць пра мае ногі. Канчайце смуткаваць. Дай, мама, малачка пасмактаць».

— Зараз будзем карміцца! — усміхнулася табе мама Марына.

А ты, Толік, ад радасці ўздрыгнуў ножкамі. Твая правая рука злавіла левую, і яны моцна абняліся, сашчаперыліся. Ты як бы сказаў маме: «Дзякуй, родная, за разуменне!»

Хай жа заўсёды пануе ў тваёй душы разуменне, спагада, а на твары — шчырая ўсмешка.

*Твой сябра*
*11.12.2005 г. (нядзеля)*

**13**

Мой сябручок!

Ты прызнаў мяне: мой голас, мой твар, маю заснежаную прычоску, мае рукі. І вось я трымаю цябе ля сэрца. Ты яшчэ раз зірнуў мне ў вочы і асляпіў усмешкай. Дзякуй табе, дружа, за такі падарунак.

Усе мы цешымся табой. Сочым, як ты расцеш, дужэеш. Вось ужо і куляешся са спінкі на жывоцік. Надуваеш шчочкі і цягнешся ручкамі да каляровай цацкі. Ухапіць яе пакуль не ўдаецца. Але не сумуй, усё наперадзе. Галоўнае — побач з табой добрыя людзі, якія хочуць, каб ты вырас добрым.

Ведай, Толік, далёка не каля кожнага дзіцяці такая казачная аўра, як вакол цябе. З газет я навыразаў трывожных нататак, якія аб’яднаў адной назвай «Цунамі над намі, у нас». Дык вось што адбывалася ў тым годзе, у якім ты нарадзіўся.

У вёсцы Бяседавічы Хоцімскага раёна маладая мама забіла дачушку, якой споўніўся толькі адзін месяц. Дзіцё плакала, і маці пачала сцішваць яго, біла далонню па галаве.

Не ўяўляю, каб ласкавыя рукі тваёй мамы Марыны білі цябе, Толік. Ты для яе анёлчык, Божы промнік. Гэткім жа светлячком свецішся і ў маіх вачах. Як можна ўздымаць руку на такіх? За што?

Нованароджаную дзяўчынку знайшлі ў кантэйнеры для смецця ў Мінску.

У адной з хат вёскі Перахрэсце Ляхавіцкага раёна знойдзены паўжывы хлопчык. Дактары не выратавалі яго. Смерць наступіла ад пералому лобнай косткі, грудзей, разрыву пячонкі.

А ў Оршы прадзед выкінуў праз акно свайго двухгадовага праўнука. Каго выкінуў? Мо паэта, музыканта, мастака? А мо будучага міністра, прафесара? Хто яму даў такое права? Гарэлка? Дурнота? Нервы? Божа, чаму дапускаеш такія здзекі над дзецьмі?

Толік дарагі, даруй, крыху настрашыў цябе. Але ведай, у жыцці ёсць казкі і драмы. Сярод людзей ёсць нелюдзі. Сярод дзяцей ёсць жаданыя і нежаданыя. Назапашвай у сабе добрую энергію, душэўную пяшчоту, якой мы ўсе агортваем цябе.

Вось ужо Маша, сястрычка твая, вярнулася з музычнай школы і танцуе перад табой. З магазіна прыйшоў твой тата Лёня, сядзіць каля твайго ложка і не зводзіць з цябе ўлюбёных вачэй. Мы з бабуляй гасцюем у вас. Пазваніў, хоча прыехаць і зірнуць на цябе твой дзядзька Ігар. Цешся, што ў цябе столькі дабрадзеяў. І не падвядзі нас ва ўсім сваім жыцці!

*Твой дзядуля*
*22.12.2005 г. (самы кароткі дзень, чацвер)*

## 14

Анатоль!

Ты пакуль малеча, а з табой гаворыць пакуль яшчэ не старэча. Але не крыўдуй, што павучаю, мо не цікава разважаю. Упусціў цябе ў сваю душу, цяпер вось яе варушу.

Ты нарадзіўся ў Мінску. Ты — мінчанін! Сталічны хлопец! І маці твая Марына, і бацька Лёня, і сястра Маша — усе мінчане-мінчукі. Маладзее і прыгажэе горад, у якім вы жывяце. Яго ведае ўвесь свет.

А мая малая радзіма, Толік, памірае.

Вёска Шоўкавічы, як будзеш калі-небудзь шукаць яе, знаходзіцца за 89 кіламетраў ад Гомеля, за 39 кіламетраў ад Рэчыцы. Калі ехаць з Мінска, то пасля Бабруйска, Парыч, Светлагорска, Баравікоў павернеш налева. І сярод лесу, балота, сенажаці знойдзеш грудок, на якім некалі жылі шоўкаўцы.

Тут у 1795 годзе было 11 двароў. У 1897 годзе — 54 жыхары. Найбольшы росквіт вёскі адзначаны ў 1930 годзе — 38 двароў і 208 жыхароў. Пасля была вайна. Вёску нашу спалілі фашысты. Дзесяць жыхароў забілі, а 25 вяскоўцаў загінулі на фронце.

Цяпер у Шоўкавічах стаяць некалькі хат, у якіх летам рояцца дачнікі, дзікія і свойскія. Дзікія — гэта прышэльцы, якія пра нас мала ведаюць. А свойскія — гэта гарадскія дзеці і ўнукі памерлых шоўкаўцаў, якія наязджаюць у родныя хаты, калі зашчыміць сэрца ад успамінаў.

Пасярод вёскі ўбачыш, ад вуліцы метраў мо сто, тоўсты, каржакаваты, на два абхваты дуб-волат. Вось ён і ёсць сведка ўсіх Ліпскіх, якія жылі ў Шоўкавічах з XVIII стагоддзя. Многія з іх тут звекавалі і цяпер спачываюць на мясцовых могілках. Там можаш знайсці земляныя грудкі і крыжы па маіх бацьках — Марыі Адамаўне і Сцяпану Іванавічу. Гэта твае прабабуля і прадзед. Там жа магілкі маіх сястры Ліды, братоў Пеці і Колі, пляменніка Шурыка, цётак Анэты, Каці, Раісы, Марылі, Жэні, дзядзькоў Мікалая, Івана, прадзеда Янкі, прабабулі Праксэды...

Мне хочацца, Толік, пракласці да нашага сямейнага дуба асфальтаваную стужку-сцяжынку. Па абодва яе бакі пасадзіць дрэўцы ў памяць усіх шоўкаўскіх радаводаў — Ліпскіх, Трацэўскіх, Мілютаў, Бабічаў, Корзунаў, Маркавых, Новікаў, Паўловічаў, Кулачэнкаў... Ля тых імянных дрэўцаў бачацца мне лавачкі, бяседка, кветкі, траўка. А пры ўваходзе на алею памяці хачу пакласці камень-валун і напісаць на ім усіх шоўкаўцаў.

У энцыклапедыі «Гарады і вёскі Беларусі» ёсць невялікі артыкул пра нашы Шоўкавічы. У ім пазначана: «Шоўкавічы — радзіма беларускага пісьменніка У. С. Ліпскага». Я ўславіў, як мог, сваіх землякоў у кнігах: «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод», «Лаўрэнавы працадні», «Адпяванне жывых», «Мама. Малітва сына», «Бацька. Пісьмы сына», «Шоўкавічы», «Мы. Аповесць пра нашы прозвішчы». Цяпер хачу ўвекавечыць Шоўкавічы і шоўкаўцаў у простым і сціплым мемарыяле.

Падтрымай мяне, Анатоль Леанідавіч, як вырасцеш. Не дай згаснуць памяці пра маю малую радзіму Шоўкавічы, пра ўсіх маіх землякоў. Шоўкавічы і твае карані. А дрэва без каранёў — слуп, бервяно, палена, жэрдка. Табе дадзена Богам цэлае жыццё, каб падсілкоўваць, жывіць нашы карані маладой энергіяй. Не стаміся гэта рабіць ва ўсе дні зямнога раю. Будзь памятлівым, дбайным, руплівым спадчыннікам!

*Твой дзядуля*
*25.12.2005 г. (нядзеля, Ражство каталіцкае)*

## 15

Мой мілы Толік!

У тваім жыцці наступіў першы Новы год — 2006! Год Сабакі.

Нібыта настрой павінен быць святочным, а я ў заклапочанасці: што прынясе нам, Ліпскім, новы год? Якім ён будзе для Беларусі, для ўсіх людзей?

На вуліцы адносна цёпла. Снегу мала. Вучоныя даказваюць, што набліжаецца змена клімату на Зямлі, будзе пацяпленне, рухнуць адвечныя леднікі. Трэба, кажуць, рыхтаваць новы Ноеў каўчэг...

Нешта і напраўду робіцца на нашай планеце. То ўздымуцца велічныя акіянскія хвалі і абрынуцца на інданезійскі бераг, на якім адпачываюць тысячы людзей. То затопяцца цэлыя гарады ў ЗША, то снегам заваліць Францыю, то пачне рухацца ў наш бок смяртэльна-вялізная камета.

Вой, Толічак, толькі не палохайся. Супакойваю цябе, а сам баюся за цябе. Расцеш вельмі чуйным да ўсяго. Круціш галоўку ў той бок, дзе гучыць новы голас, адкуль даносяцца нейкія гукі. Можаш узірацца туды ды раптам і заплакаць. Не спадабалася табе нешта, страшна зрабілася. Малюпаха родны, сэрца маё сціскаецца, калі ты плачаш. Усцешвае, што плачаш без слёз. Ва ўсялякім разе я іх не бачыў. Значыць, твой плач — гэта форма пратэсту, патрабавання, смеласці, праяўлення характару. Яно і праўда, мужык павінен быць з характарам, бо ён па прызванні — воін, абаронца, сын, муж, бацька.

Ты прыязджаў у першы дзень новага года да нас у госці. Падрос. Пацяжэў. На фотакартках хораша глядзішся, умееш пазіраваць. Мне асабліва па душы тая фотка, дзе мы з табой ляжым на пузіках. Дзед і ўнук — розніца ў 65 гадоў. Каго ж ты, Талян, праз 65 гадоў убачыш побач з сабой, кім, якім будзеш сам? Як бы мне хацелася ўявіць гэты кадрык, але маёй фантазіі не хапае. Ведаю адно, будзе імклівы час, эпоха высокіх тэхналогій, навуковых адкрыццяў, новых прыродных катаклізмаў. Не згубіся, Толік, у гэтым віры XXI стагоддзя, захавай добрую памяць пра ўсіх Ліпскіх і сам здолей перадаць эстафетную свечку ў надзейныя рукі.

Ідзе гулянне па ўсёй Беларусі. Людзі п’юць, пускаюць у неба ракеты. Тэлевізар перапоўнены вясёлымі перадачамі, спяваюць, танцуюць, жартуюць знакамітыя артысты. Расіяне перакрываюць газ Украіне. У Іраку страляюць. У высокім небе лятаюць касманаўты, іх прозвішчы ўжо мала хто ведае, не так, як першых адкрывальнікаў космасу — Юрыя Гагарына, Германа Цітова, Валянціну Церашкову...

А ты, Толік, спакойна спіш. І правільна робіш. Зараджай жыццёвыя батарэйкі, каб яны выручалі цябе ва ўсіх будучых выпрабаваннях. Пацягнула дзеда на рыфмы, і вось якое навагодняе пажаданне атрымалася табе, Анатоль:

У год Сабачы
Жадаю табе ўдачы.
Стань на ногі і пайдзі,
Моц у ручках ты знайдзі.
А галоўнае — загавары,
Пра сябе ўсё раскажы.

*Твой дзед*
*1.01.2006 г. (нядзеля)*

## 16

Залаты мой унук!

Сёння дзень народзінаў Сына Божага — Ісуса. Вялікае свята ў хрысціян усяго свету. Знакавы дзень.

Хочацца спавядацца.

Дык ведай, мой хлопчык, што выстукала маё сэрца ў Ражство Хрыстова. Атрымалася даравальная малітва.

Даруйце, Бацькі, што рэдка цалую ваш крыж на шоўкавіцкім пагосце, але мае кнігі пра вас ёсць па ўсёй Беларусі. Вашы партрэты вісяць у маім кабінеце, і я кожны дзень малюся перад Вамі.

Даруй, жонка Ніна, што да сівых валасоў не стаў дамаседам, не заўсёды кручуся пад рукой на кухні, але ў нас ёсць райская кватэра ў цэнтры Мінска, жоўта-зялёны домік на Лысай гары. У нас ёсць спагадлівыя дзеці, унукі, зяць і нявестка. Нас яны шануюць. У нас багата сяброў. А ў хатняй бібліятэцы — сорак маіх аўтарскіх кніжак, у якіх жывеш і ты, мая жонка.

Даруй, сын Ігар, што не навучыў цябе быць ваяўнічым, кар'ерным, прагавітым да грошай, хто ж ведаў, што на ўсіх нас нечакана абрынецца воўчы капіталізм. Але ты вырас і ідзеш па жыцці сціплым і добрым, цярплівым і сумленным. Ты падарыў нам нявестку Таню і ўнука Антона. Умееш жыць на свае сродкі, без гвалту, плачу, амаральшчыны. З цябе атрымаўся вопытны архітэктар, арыгінальны мастак, надзейны сын, верны муж, любячы бацька, разборлівы сябра.

Даруй, дачка Марына, што аднойчы ў дзяцінстве адшлёпаў цябе, што ні разу не пабываў у інстытуце, дзе ты вучылася, што не прыняў актыўнага ўдзелу ў тваёй службовай кар'еры. Мяне ўсцешвае, што ты прабіваешся па жыцці сваёй сцежкай, можа, у гэтым ёсць такі-сякі бацькаў прыклад. Маё сардэчнае прызнанне за тое, што ты знайшла, пакахала і ўзбагаціла род Ліпскіх мужам Лёнем, што ты, мужная і добрая, падаравала нам чароўных дзетак — унукаў Машу і Толіка. Ты стала Мамай. Я пішу гэта слова з вялікай літары і веру, што ты заслужыш ад сваіх дзяцей такой жа святасці, з якой я напісаў кнігу пра сваю Маму.

Даруйце, браты Пеця і Коля, сёстры Ліда, Клава, Люба, што рэдка сустракаўся з вамі, што мала распытваў вас пра жыццё, што мала падмагаў вам. Вы ў маім сэрцы сёння і кожны дзень, колькі мне наканавана дыхаць.

Даруйце, сябры, што не хапае часу на вас.

Даруйце, аблокі і зоры, што не так часта ўзіраюся ў вас, бо хочацца глыбей зазірнуць у карані свайго радаводу, у гісторыю Беларусі.

Даруйце, чытачы, што не да ўсіх дайшоў, даехаў, куды мяне клікалі, бо на маім пісьмовым стале ляжыць шмат чыстай паперы, а ў галаве — рой думак, задумак, творчых планаў.

Даруй, Божа, што не хаджу ў царкву, што не заўсёды жыву па тваіх запаветах, але крочу па жыцці з чыстым сумленнем. Перад ім, перад людзьмі мне не сорамна.

У душы буяе Вясна, у жылах кіпіць маладая кроў. Хай будзе так сёння, заўтра, і ва ўсе дні майго зямнога жыцця. Амінь!

*7.01.2006 г. (Ражство праваслаўнае, субота)*

## 17

Ох, браток Толік!

Ну й маразы абрынуліся на Мінск. Да мінус трыццаці пяці. Выйдзеш на вуліцу, дыхне ветрык — няма паратунку. Нос і вушы заходзяцца ад калючых

шчыпаёў. З вачэй слёзы высякаюцца. Людзі не гатовы да такіх выпрабаванняў, бо прывыклі да больш лагоднага надвор'я.

Вось такая твая першая зіма!

Табе добра, ты ў цяпле кватэрным, у цяпле маміным, бацькавым, сястрычкі тваёй Машы. Трэніруеш рукі, ногі, голас. Але расказаць пра сябе пакуль нічога не можаш. Затое мама Марына рассакрэціла твой рэжым. Я засведчу яго, можа, гадоў праз дваццаць табе будзе цікава ведаць, як ты бавіў час лютымі, студзеньскімі днямі 2006 года.

8:30 — пад'ём. Расплюшчваеш вочкі і не крычыш, не клічаш маму, а ляжыш, разглядваеш люстру, круціш ручкамі коўдру. Пасля падаеш голас: «Эй вы, бацькі, пара мяне карміць!»

Мама нясе цябе ў ванную, накідвае на цельца новую апранаху. І вы ўжо на кухні.

На снеданне — ці аўсяная, ці грэчневая, ці рысавая каша. Любіш найбольш аўсяную. Я таксама. Пасля мама частуе цябе сваім малачком.

Пачынаюцца гулі. Мама дае табе ўсялякія брынчалкі. Ручкі твае ўжо моцна трымаюць іх. Сама ж чытае кніжку. Ты, бывае, цягнешся ручкай і да кніжкі. Ці то вокладка спадабалася, ці то хочаш ведаць, што там напісана, чаму мама так пільна ўзіраецца ў яе?

11:00 — зноў на бакавую. Чаму б пасля яды і гуляў не дрымануць! Сон твой кароткі, як-ніяк дзень, святло. Усе на працы, а твая праца — сон.

Пасля сну — яблык працёрты, малачко. Гулі.

14:00 — цмокчаш маміна малачко. Няспешна, доўга, аж пакуль не зморыць сон. Мама кладзе цябе ў каляску, адкрывае фортку. Калі было цёпла, то выкатвала каляску на лоджыю, а то і на вуліцу. Цяпер, маразамі, спіш у пакоі. Спіш гадзіны тры.

Яшчэ адзін пад'ём. Зноў водная працэдура. А на кухні цябе частуюць агароднінай — бульба, капуста, морква. Ясі неахвотна, а ўсё таму, дружа, што не зусім рассмакаваў гэты далікатэс, асабліва бульбу. Без яе беларусу і ні туды, і ні сюды. Бульбашы мы, браток!

Пасля падвячэры — сок, малачко. І зноў — гуляй душа! З цацкамі. На бацькавых руках-гушкалках. Маша перад табой вытанцоўвае, спявае.

21:30 — пачынаецца глыбокі начны сон. Я думаў, да раніцы. А мама Марына ўсміхнулася:

— Як бы не так. Ноччу ў нас яшчэ два перакусы. П'ём малачко.

Вось такі, Толік, у цябе панскі рэжым!

Жадаю табе паболей райскіх дзён у зямным жыцці!

*Твой дзядуля*
*16.01.2006 г. (панядзелак)*

**18**

Дарагі Толік!

Сёння цябе наведала баба Ніна, мая жонка, з якой мы «знайшлі» тваю маму Марыну.

Прашу яе, дапытваю, каб расказала ўсё падрабязна пра цябе. Дык вось што выцягнуў з яе:

— Толік — харошы хлопчык. Спакойны. Не крыкса. Гукі ягоныя вельмі складаныя. Свая мова ў яго. Па ёй Марынка ўжо ведае, чаго ён хоча: ці есці, ці на ручкі, ці новую цацку. Усё яму цікава. Калі разглядвае што-небудзь, то

пазірае доўга. Адразу паварочвае галоўку туды, адкуль чуе голас. Машыну музыку, калі іграе на піяніна, уважліва слухае. Скрывіў губкі, як хацела яго ўзяць, а пасля даўся на рукі. Плача рэдка. Гудзець можа і моцна, і ціха. Голас прыгожы. І сам ён прыгажун, не адвесці вачэй...

Вось такі ты на сёмым месяцы свайго жыцця.

*22.01.2006 г. (нядзеля)*

**19**

Чароўны Толік!

Пацешыў ты мяне. Ці не паверыш, гулялі з табой у хованкі. Табе сем месяцаў, а мне — уга колькі.

Як было?

Ты ляжаў на Машыным ложку попай угору. Трымаўся на локціках, разглядваў усё наўкол. Дзіва што, адкрываеш для сябе і ўзоры шпалеры, і плафоны на люстры, і карціны на сцяне, і шафу з кнігамі. А я ў гэты час любуюся табой, адкрывальнікам «амерык». Тварык у цябе сур'ёзны. Вочы цікаўныя, шырока адкрытыя. Валаскі на галаве рэдкія, з пралысінкай. Малы мудрэц!

Я прылёг з другога канца ложка. Адгарадзіўся ад цябе пялёнкай-перагародкай. Паціху вытыркваю з-за яе сваю галаву і кажу: «Ку-ку». Ты ўлавіў гульню і скупа ўсміхнуўся. Я з правага боку вытыркнуўся, а ты мяне ўжо там як бы чакаў і шырока раскрыў роцік, нешта кугікнуў. Я з левага боку пачаў высоўвацца, а ты ўжо туды пазіраеш. На маё «ку-ку» адказваеш рогатам. Задрыгаў ад радасці ножкамі.

Вось так мы і пагулялі ў хованкі.

А праз якую гадзіну я быў ужо ў школе, выступаў там. І ты, Толік, са сваёй шчырай радасцю дапамог мне ўбачыць іншыя хованкі. Вучні хаваюць ад сваіх настаўнікаў сапраўдныя веды жыцця і выдаюць толькі тыя, кніжныя, за якія выстаўляюцца ацэнкі. Настаўнікі хаваюць ад вучняў свае сямейныя стасункі, якія, хочуць яны таго ці не, а ўплываюць на іх настрой у класе. Дарослыя часам маскіруюць свае недахопы пад вартасці, якіх у іх няма, а якія яны прыватызуюць сабе, злоўжываючы службовым становішчам. Дзеці з бацькамі гуляюць у хованкі, за якімі, бывае, хаваецца распуста, хлусня, паказная павага. Начальнік са службоўцам загульвае ў хованкі, хавае ад яго свае сапраўдныя намеры, а часам і зробленыя грошы...

Ой, Толік, замарочыў я тваю галаву нейкімі складанасцямі. Вырасцеш — сам разбярэшся што да чаго. А пакуль што, саколік, будзь і заставайся чыстым, Божым пасланнікам сярод нас. І хай твае ясныя вочы ніколі не затуманьваюцца. І хай твая адкрытая ўсмешка будзе заўсёды прыемнай табе і нам, хто вакол цябе.

Не хавайся ніколі ад цяжкасцей, не хавайся ў хлусню. Рыхтуй сябе да высокага суда Справядлівасці і Сумлення. Ад яго не ўвільнуць нікому, ні мёртваму, ні жывому.

*Твой дабрадзей — дзед без лапцей*
*24.02.2006 г. (пятніца)*

*P. S. Толік!*

Учора быў Дзень абаронца. Тваё першае мужчынскае свята.

Мы з бабуляй падарылі табе канверт з грашыма. На іх мама Марына і тата Лёня купілі табе заморскага харчавання.

Набірайся сіл, Абаронца!

## 20

Мой незабыўны ўнук!

Незабыўны, бо не зыходзіш з памяці. Пра цябе нельга забыць. Нельга не прыгадваць твае ўчэпістыя ручкі, твае поўныя, ружовыя ножкі. Асабліва незабыўныя — вочы.

Іншы раз я крыху баюся тваіх вачэй. Ты так пранікнёна пазіраеш на мяне, як бы пранізваеш наскрозь, як бы фатаграфуеш ці заносіш усяго мяне ў свой камп'ютэр.

Я розных вачэй наглядзеўся: добрых, адкрытых, сытых, хітрых, скрытных, падманлівых, сляпых, касых, лупатых. Ведаю, што вачыма можна песціць, свяціць, страляць, стрыгчы, сячы, упіцца, цешыць, чытаць, шукаць, ненавідзець. Вочы могуць на лоб палезці. З іх калі-нікалі іскры сыплюцца. З вока на вока можна гаварыць. У вочы можна рэзаць праўду-матку. Яны могуць быць затуманенымі, пацямнелымі, светлымі, не пазычанымі ў сабакі. Ёсць вочы, якіх няма куды дзець, якіх няма дзе схаваць.

А ёсць вочы незапарушаныя, чыстыя, свежыя, іскрыстыя. Такія ў цябе, Толік. Як жа яны мне падабаюцца! Хачу глядзецца ў іх, як у люстэрка. Імкнуся разгадаць, што і як бачаць твае вочы.

Ты адкрываеш для сябе твар, прычоску, усмешку мамы Марыны. Ты пасвойму ўспрымаеш бацьку Лёню, сястру Машу. Цікава, а якім упусціў у сябе дзеда свайго? Як ацанілі мяне твае вочы, што ўбачылі?

Ведай, дружа, мне гадоў і багата, і вельмі мала. Мне ўсё здаецца, што ўзрост пашпартны і прыродны не заўсёды супадаюць. Бо чаму ж мне, сівому, хочацца быць хлапчуком, хочацца з табой сябраваць, хочацца пагуляць з тваімі цацкамі, хочацца часцей бачыць цябе? Але мне не хапае дваццаці чатырох гадзін у суткі. Прагне душа ўсяго: працы, творчасці, сяброў, пачуццяў. І прыехаць да цябе ў Сухарава застаецца толькі марай.

Карыстаюся тэлефонам, званю тваёй маме і даведваюся нешта новае пра цябе.

— А наш Толік новы рэкорд паставіў! — хваліцца Марына.

— У чым?

— Як лёг спаць у дзесяць вечара, дык у восем раніцы толькі прачнуўся.

— Ого! — дзіўлюся я і чую тваё гудзенне, як бы ты сам расказваеш мне, які ты спагадлівы сын. Сам выспаўся і даў паспаць бацькам.

Што магу сказаць?

Малайчына!

Гэтак і далей дзейнічай: жыві сам і давай жыць іншым!

*Твой дзед-барадзед*
*28.02.2006 г. (аўторак)*

## 21

Шчабятун Толік!

Мама паведаміла радасць: ты ляжаў на жывоціку ды раптам стаў на карачкі і пры гэтым закрычаў Тарзанам. Ого! Віншую цябе з новай перамогай і бязмежна цешуся, што падымаешся на ногі. Уставай, браток, з каленяў. Непрыстойна палежваць спакойна. Цябе чакае загадкавы, цунамны дваццаць першы век.

А тое, што крычыш Тарзанам — добрая прыкмета. Быў такі герой фільмаў Тарзан, моцны і дужы хлопец, які жыў сярод дзікай прыроды, сябраваў

з усімі звярамі. Яны яго паважалі і пабойваліся, бо бегаў ён па джунглях і скакаў па дрэвах лепш за самага спрытнага ляснога жыхара. А крык яго быў страшны, поклічны. Ён меў пры ўсім тым добрую, справядлівую душу. Чалавечую! Таму яго ўсе і любілі. І ён хацеў любові.

Толік любы! Падымайся хутчэй на ногі. Заступіся за нас усіх. Адгані ад дзядулі і бабуляў старасць. Дай з замілаваннем дажыць тваім бацькам да залатога вяселля. Абарані сястрычку Машу, таленавітую ва ўсім дзяўчынку, каб збыліся ўсе яе мары, каб ніхто не крыўдзіў яе, каб яна ніколі не хварэла.

Адным словам, Талян, хопіць спаць і палежваць. Хочацца разбудзіць цябе заклікам нашага прарочага паэта Янкі Купалы:

Дык прасніся хутчэй,
Беларускі мужык!
Глянь! Усталі ўсе,
Як свет божы вялік!

Гэты верш «Што ты спіш?» паэт напісаў роўна сто гадоў назад. Ён праўдзівы і сёння: і для мяне, і для цябе, Анатоль. Хачу, каб ты як найхутчэй зразумеў трывогу Янкі Купалы. А калі ўстанеш трывала на ногі, Тарзанавым голасам пракрычы на ўвесь свет:

Глянь! Усходзіць ужо
Зорка праўды святой
І няволю-бяду
Сваёй зніме рукой!

Вось такі сур'ёзны ліст атрымаўся на радасную вестку пра твой чарговы чалавечы подзвіг.

Заставайся здаровенькі.

*Твой дзед-падбухторшчык*
*2.03.2006 г. (чацвер)*

**22**

Толюсь!

У тваіх гуках, у тваёй неразборлівай «мове» праслухваюцца пэўныя склады: «Ба-ба-ба... Мэ-ма-мэ...» Што гэта? Успамін пра бабу, якая наведвала цябе? Жаданне бахаць, спаць? Аповед пра цацку, якае бабахае ў тваіх ручках і пасля бабахае, падае на падлогу? А «мэ-ма» — гэта «мама» ці «няма»?

Ох, Толік, заблытаў ты нас ушчэнт. Пачынай па-нармальнаму гаварыць. Так хочацца пачуць ад цябе свядомыя словы. Думаю, справядліва будзе, калі найперш вымавіш «мама». Ведай, твая мама Марына ўклала ў цябе сваю душу, пяшчоту, цярпенне, любоў. Яна корміць цябе сваім малачком. Яна шчаслівая, калі ты наярваеш замежныя кашы, калі плюхаешся ў ваннай, калі дрыгаеш ножкамі і махаеш ручкай, робіш «пакуль» перад сном.

Ты павінен, Толік, першым вымавіць слова «мама». Навучыся, унук, шанаваць і берагчы маму. Складзі ёй сваю паэму, песню, малітву. А пакуль што паслухай малітву пра маю маму, а тваю — прабабулю Марыю:

«Мама — ты жывая вада для мяне, мора духоўнага багацця. Ты — жыццёвая зорка, па якой звяраю свой шлях на зямлі. З тваім вобразам буду і далей сустракаць узыход сонца, радавацца кожнаму падараванаму мне дзянёчку. І не стамлюся гэта рабіць датуль, пакуль будзе гарэць мая свечка.

Мацуй, Мама, мяне ў веры, надзеі, любові. Будзь і надалей мудрай дарадцай на жыццёвым шляху. Ахоўвай ад усялякага ліха, якое пільнуе жывых на кожным кроку. Прысніся, каб апярэдзіць бяду.

Мама! Ты ў сэрцы маім. Цяпер, і ўвесь час, і на вякі вякоў. Амінь».

Спакойнай ночы, наш слаўны малыш!

*Твой дзед*
*8.03.2006 г. (серада. Дзень Жанчын)*

**23**

Слухай, Толік, казку.

Жыў-быў Хлопчык, ды такі маленькі, што не ўмеў ні гаварыць, ні хадзіць. Толькі і ведаў, што дрыгаў нагамі, разглядваў невядомыя хатнія прадметы ды нешта гаварыў на сваёй тарабарскай мове.

І вось аднойчы завітаў да хлопчыка невядомы яму дзядзька. Быў ён апрануты яшчэ па-зімоваму, хаця па календары наступіла вясна. У вокны ўжо зазірала раніца. Чыстае неба асвятлялася ўзыходзячым сонцам, а зямля была пакрыта снежнай коўдрай.

Гадзіннік паказваў палову сёмай. Усе ў кватэры яшчэ спалі. Госць ціха прысеў калі драўлянага ложка Хлопчыка і пачаў азіраць пакой. Злева — шафа з кнігамі, посудам, тэлевізар, музычны цэнтр. Справа — шырокая канапа-пасцель. На сцяне ў рамцы — фота маладых, прыгожых бацькоў. Прама — шырокае акно і дзверы, выхад на веранду.

Першым з усёй сям'і расплюшчыў вочы Хлопчык. Ён кінуў позірк на спячых маму і тату. Прыкмеціў побач з сабой нейкага незнаёмца. Быў ён прыемны, як ранішняе святло, якое разлілося па пакоі. Хлопчыку падалося, што незнаёмец як бы падміргвае яму, весяліць. Ён працягнуў ручку да дзядзькі, але той быў няўлоўны і недасягальны. Тады Хлопчык нацягнуў на сябе коўдрачку, як бы схаваўся, а Дзядзька і не збіраўся пакідаць яго. Толькі рабіўся больш радасным. Раптам ён заманіў у спальню Сонейка. Яно ласкава пазірала з неба на Хлопчыка, як бы ўсміхалася яму. І хлопчык павесялеў.

У гэты міг прачнулася мама, ласкава загаварыла:

— Ужо не спіш, сынок... Гуляеш сам з сабой...

Хлопчык павярнуў галоўку туды-сюды, як бы хацеў сазаць, што ён не адзін, з ім незнаёмы дзядзька, але мама зразумела ўсё па-свойму:

— Мой дарагі цярплівец... Сонейка ўзышло. Раніца наступіла. А мама нямаць не дае...

— Дай-ай-ай... — адгукнуўся Хлопчык...

Гэту казку, Толік, можна баіць кожны дзень, бо той Дзядзька, што зазірнуў да цябе раніцай у госці, і быў Новы Дзень. Добра, што ты сустрэў яго з настроем, прымаеш з радасцю, умееш гуляць з ім.

А падрасцеш, зразумееш, што азначае жыць учарашнім днём, чаму трэба зазіраць у заўтрашні дзень, якім трэба быць да канца дзён сваіх, што мусім рабіць з дня ў дзень, што такое чорны дзень, белы дзень, судны дзень, чаму нельга жыць абы дзень да вечара.

Адказы, Толік, простыя. Трэба навучыцца ўспрымаць кожны новы дзень, як Свята, як Божы Падарунак. Тады ён запомніцца і стане тваім багаццем.

Нашы дні на зямлі — наш скарб! Давай не забываць пра гэта, Толік.

*Твой казачнік*
*14.03.2006 г. (аўторак)*

## 24

Першы раз убачыў, як ты поўзаеш.

Цябе можна назваць партызанам. Рухаешся павольна, ціха, па-пластунску. Адзін локцік уперад, пасля другі. Левую каленку падцягнуў, правую следам. А вочкі ўпіліся ў зялёны шарык, які ты надумаў узяць.

І вось жаданая цацка ў тваіх руках. Маша падстаўляе кубак, і ты кідаеш шарык у пасудзіну. Перамога!

У нашай Беларусі, Толік, ёсць усенароднае свята — Дзень Перамогі. Яго адзначаюць у знак нашай перамогі над фашыстамі ў гады Другой сусветнай вайны. Ведай, мой хлопчык, беларусы заплацілі за гэту перамогу дорага. Загінулі 2 мільёны 200 тысяч чалавек. Гітлераўцы разбурылі, спалілі больш як 200 гарадоў і 9200 вёсак. У тым ліку і нашы Шоўкавічы.

Во, бачыш, Толік, якія ўспаміны ўсплылі пасля тваёй перамогі. Яна далася табе меншымі стратамі. Ты натрудзіў рукі, нацёр каленкі. Дагнаў шарык! Радасць усім нам! Тата твой Лёня нават пажартаваў:

— Трэба нашаму Толіку купіць аўтамат і некалькі гранат — будзе напраўдашні партызанік!..

Цяпер з вайны можна і пажартаваць. Тады было не да жартаў, не да гуляў. Вось чаму забываць праўду пра вайну — грэшна.

Жадаю табе, мой дарагі ўнук, каб ты навучыўся здабываць у жыцці малыя і вялікія перамогі. І хай яны будуць у цябе штодня. І ва ўсім! І каб ты ніколі-ніколі не перажыў таго, што перажыў я, твой дзед, — спаленыя ворагам дзіцячыя цацкі...

*23.03.2006 г. (чацвер)*

## 25

Анатолька!

Твайму стрыечнаму брату Антону — семнаццаць. Здаецца толькі ўчора ён быў такім, як ты цяпер. Нарадзіўся ў пятніцу. І сёння пятніца. Ён першы, хто зрабіў мяне дзедам. А было мне тады ўсяго 49 гадоў. І я ўпершыню задумаўся, што я сталы чалавек, а можа, нават і стары.

Цяпер жа, калі ў нас ужо тры ўнукі, адчуваю сябе маладым. Вы, мае малыя спадчыннікі, вярнулі мяне ў дзяцінства, у свет цацак, у дзівоснае царства адкрыццяў і наіўных радасцей. Вы ўлілі ў мяне сваю сонечную плазму. Хочацца лётаць!

Чамусьці ў дзень нараджэння Антона, старэйшага ўнука, хочацца пажадаць і яму, і Машы, і табе, Таляйка, каб вы ўсе дажылі да майго, дзедавага, узросту і адчулі сябе акрыленымі, юнымі забіякамі.

Помню, калі Антону было тры гады, Ігар і Таня прывезлі яго да нас на дачу. Квятасты касцюмчык на ім: кофтачка з кароткімі рукавамі, шорцікі. На галаве — белая кепачка з матэрыі. Ходзіць па сцяжынцы. Вакол яго — кветкі. З вуснаў злятае адно і тое ж слова:

— Фундзя, Фундзя, Фундзя...

Пытаю ў Антоніка:

— Што робіш, Фундзя?

— Спяваю... — памаўчаў імгненне і кажа: — Толькі я — не Фундзя. Ты — Фундзя. А я — Кафундзя!..

Сказаў і пабег на вуліцу. А мне зрабілася смешна і радасна. Люблю людзей, якія дораць радасць.

Такім ёсць Антон.

Такой ёсць Маша.

Такім падрастаеш ты, наш усмешлівы і цікаўны Таляйчык. Пра якога Фундзю ты заспяваеш? Якім Кафундзем абзавеш мяне?

*Твой дзед без барады, а з табою — хоць куды*
*28.04.2006 г. (пятніца)*

**26**

Здарова, Толік!

Сёння табе дзесяць месяцаў!

І трэба ж так супала — сёння Радаўніца. Па-іншаму называецца Радуніца, Праводны дзень. Усе беларусы памінаюць памёрлых. Ёсць даўнейшая прымаўка: «На Радаўніцу да абеду пашуць, па абедзе плачуць, а к вечару скачуць». Да абеду працавалі ў полі, на гаспадарцы. Пасля ўсе збіраліся на могілках. Прыбіралі магілкі, каля іх расцілалі абрус, даставалі з торбаў пітво, яду дый успаміналі добрым словам родных і блізкіх, хто адышоў у вечнасць. А пасля чаркі расчуленыя людзі маглі і песню зацягнуць, якую некалі любілі дарагія ім людзі.

Я, Толік, сёння не быў на могілках, але цэлы дзень мая душа плакала. Няма са мною мамы Марыі і бацькі Сцяпана, сястры Ліды, братоў Пятра, Колі, пляменнікаў Сашкі і Шуры, дзядзькоў, цётак. Прыгадаліся шоўкавіцкія мужчыны Раман Маркаў, Іван Новікаў, Мікола Пылінскі, Рыгор Бабіч, Іван Сыцька, з якімі касіў на сенажацях каля рэчачкі Стоўпінкі. У сэрцы нашу памяць па мілай цешчы Марыі Рэўтовіч, па яе дачцы Валі. У вечнай памяці — мой настаўнік Міхаіл Рудзішкін і доктар Людміла Перапеча. Не магу паверыць, што ўжо ляжаць у зямельцы мае сябры-пісьменнікі Іван Шамякін, Іван Чыгрынаў, Анатоль Грачанікаў, Аляксандр Капусцін, Павел Кавалёў, Васіль Вітка, Мікола Чырык. Адляцелі ў нябесны вырай героі маіх кніжак Зінаіда Тусналобава-Марчанка і яе муж Іосіф, Васіль Купрэвіч, Анатоль Нятылькін...

Налічыў сто трыццаць чатыры чалавекі, якіх мне захацелася прыгадаць на Радаўніцу, якіх нашу штодня ў сваім сэрцы. Кожны з іх — гэта свая аповесць жыцця. Яны жылі сумленна і пакінулі на зямлі свае чыстыя Імёны.

Толік дарагі! Ты толькі-толькі прыйшоў на нашу чароўную зямельку. Ты абавязкова навучышся хадзіць, гаварыць, думаць. Што б ты ні рабіў, па якіх бы сцяжынах ні крочыў, ніколі не забывай, родны, тых, хто быў да цябе. Яны пракладвалі табе дарогу. Яны любілі жыццё і ўслаўлялі, як маглі, наш край. Вазьмі ад іх усіх усё лепшае і тады (толькі тады!) ты зробіш крок уперад. Твая хада па жыцці стане прыкметнай. І ты зразумееш тады, для чаго пасланы на нашу Зямлю.

*Твой павучальнік*
*2.05.2006 г. (аўторак)*

**27**

Дарагі Талюсік!

Кажуць, табе вельмі падабаецца запаленая лямпачка. Пазіраеш на яе, разглядваеш і гаворыш: «Ва».

Мама Марына перакананa, што гэтак ты называеш лямпачку, як новую цацку. Нават пажартавала:

— Наш Толік, напэўна, электрыкам будзе.

А ў мяне тваё «Ва» выклікала іншае меркаванне. Мо ты папярэджваеш сам сябе і маму, што зыркая лямпачка здольна зрабіць «ва-ву»? А можа, хочаш спытаць: «На колькі ва-т лямпачка?» Ды, на жаль, не хапае ў тваім «рэпертуары» патрэбных літар.

Хто ведае, мо і напраўду зацікавішся электрычнасцю. І не толькі як электрык, а як вучоны-адкрывальнік.

Во, браток, што выклікала ў мяне тваё «ва»!

*Твой дзед — Ва-лодзя*
*3.05.2006 г. (серада)*

**28**

Таляш!

Як жа забудзеш тваё гасцяванне ў нас, за сямейным сталом. Сабраліся мы з нагоды майго дня нараджэння. На стале — поўна яды, напояў розных. За сталом — самыя родненькія: дзеці і ўнукі. Ты сядзеў на каленях у бацькі Лёні. Блакітненькі касцюмчык на табе, пад колер майскага неба. Вочы твае цікаўныя хочуць усё бачыць. Вушы твае чуйныя хочуць усё чуць. І здаецца, ты ўсё-ўсё разумееш, што адбываецца за святочным сталом.

Вось Ігар, твой дзядзька, а мой сын, сказаў добрыя словы пра мяне. Зазвінелі бакалы. Табе спадабалася музыка крышталю. А мо ты зразумеў што да чаго і пачаў рабіць «ладкі-ладачкі». Як бы апладзіраваў мне, імянінніку, як бы падтрымліваў Ігараў тост. Пацешыў ты нас усіх, Таляйчык! А доктарка Наталля Ільінічна Бароўская, якая таксама гасцявала ў нас, кінула рэпліку:

— Дабрэнныя ў вас унукі, а гэты дык вунь які!..

Вось што гавораць пра цябе, наш дарагі вундэркінд. Дык жа ці маеш права не спраўдзіць надзею?

Табе, дружа, ідзе адзінаццаты месяц, а мне споўнілася ўжо 66 гадоў. Скажу табе па сакрэце: я прадаўжаю жыць у дзяцінстве, у юнацтве. Я не адчуваю старэчасці ў вачах, у хадзе, у жаданнях. Мне хочацца, як і табе, пазіраць на свет вялікімі вачыма здзіўлення, радасці і захаплення. Вачыма любові! Гэта, браток, самае галоўнае. Захавай такое пачуццё ў свае 66 гадоў. І толькі тады спаўна ацэніш мой настрой у дзень сённяшніх імянін. Вось што напісаў пра мяне паэт, мой сябар Мікола Чарняўскі. Мы з ім разам працуем у «Вясёлцы». Яму можна верыць:

Ёсць «Я», ёсць «Мы»,
Стаяць тамы,
Дзе дух вяшчуе вёскі.
Стаяць тамы,
Нібы дамы,
Дзе боль жыве і песні,
Дзе дні ўсё поўняцца жыццём
І шчырасцю сардэчнай,
Дзе ўсё сагрэта пачуццём
І дабрынёй спрадвечнай.
Хай прыбаўляецца гадкоў
І ўнукаў гаманкіх, як пчолкі,
А над пасевамі радкоў —
Заўжды праменяцца вясёлкі!

Дарагі Толік-саколік! Ты мне апладзіраваў у мае 66 гадоў. Ты гуляў са мной у хованкі, мы разам лавілі зялёны шарык. Ты ўсміхаўся мне. Гэта твае падарункі! Самыя дарагія! А я хачу дарыць табе сваю бязмежную любоў. Жадаю перадаць табе сваю энергію, сваё ўменне радавацца кожнаму падараванаму мне дзянёчку зямнога раю.

На нас з табой пазірае чыстае неба. Хай жа з таго глыбіннага, загадкавага космасу ніколі не прыляцяць разбойныя каметы. Хай яны абмінуць нашу зялёную планету, на якой жывеш ты, мой унук. Хай жа розум ніколі не пакіне сучасных зямных правіцеляў, і яны перастануць размахваць грознай зброяй. Хай жа вечна прылятаюць з выраю да нашых хат белакрылыя буслы. Хай вясною захлёбваюцца ад спеваў салаўі. Хай квітнее наша Беларусь, а ў ёй хай шчасліва жыве беларусік Толік Ліпскі.

*Гэтага ўсяго жадае табе дзед Вова*
*6.05.2006 г. (субота)*

**29**

Таляй, кінь цацкі, не гуляй. Паслухай, дзе пабывалі мы з тваёй бабуляй Нінай і татам Лёнем.

Селі ў машыну і пакацілы на маю радзіму, у вёску Шоўкавічы.

Завезлі кветкі на магілкі маіх бацькоў, братоў, сястры. Пахадзілі па двары брата Пятра. Дзверы забіты, калодзеж закрыты. Ля студні сядзеў сумны кот. Цярпліва чакаў гаспадароў. Не ведаў, а можа не хацеў верыць, што яны ўжо ніколі не вернуцца ў сваё дворышча.

Лёня мяне сфатаграфаваў на лавачцы пад акном, на фоне счарнелых бярвенняў. Другі кадр — каля сцірты дроў, якія рэзаў, калоў і складваў некалі мой працавіты брат.

На вуліцы — лічаныя шоўкаўцы: Адам, Сарафіна, Валерык, Надзя... Колька Трацэўскі (ён ужо двойчы дзед, а ўсё роўна — Колька) вынес на апазнанне старынную фотку. Ёй больш за сто гадоў.

Агульнымі намаганнямі высветлілі: на фота — Марыя Ліпская. Мая цётка, бацькава сястра! Яна была першай у Праксэды і Янкі Ліпскіх. Далей пайшлі дзеці — Іван, Тодар, Мікалай, Анэта, Сцяпан (мой бацька), Каця, Раіна, Жэня. Усяго было дванаццаць. Род прадоўжылі дзевяць.

Чакай, а чаму фота маёй цёткі Марыі захоўваецца ў Колькі Трацэўскага? Аказваецца, на прыполе Марыі Ліпскай сядзіць гадавалая дзяўчынка. Гэта Холька, Харціна. Яна і ёсць Колькава мама! Божа, дык яго мама — мая дваюрадная сястра. Я Кольку — дваюрадны дзядзька, а ён мне дваюрадны пляменнік. Так во, пад сівыя валасы, мы з ім параднiліся!..

А далейшы наш шлях ляжаў у вёску Дабужу, за дзесяць кіламетраў ад Шоўкавіч. Там, у маленькім паселішчы на некалькі хат, сярод лясных азёр, гаючых лугоў, у лазе, сярод дзікай прыроды, звекавала мая сястра Люба. Яна выйшла сюды замуж за Івана Корбута, нарадзіла дачку і двух сыноў.

Пра юбілярку я склаў вершык:

Восемдзесят гадоў, як госці,
Завіталі ў хату Любы.
За сталом шматлюдна штосьці,
Ды ўсе госці — любы!..

Зрыфмаваў і прызнанне юбіляркі, якое ёй спадабалася:

Ад Дабужы, як ад ружы,
Накрасавалася.
У Дабужы, як у лужы,
Намардавалася...

Муж Любы Іван Корбут рана памёр. Цяпер яна жыве з Іванам Пракопенкам. Жывуць душа ў душу, з любоўю і павагай адзін да аднаго.

Толік дарагі!

Той дзень, ноч і раніца — на ўсё жыццё. Сястра Люба была шчаслівая ад гасцей, увагі і падарункаў. Спявала нам франтавыя і лірычныя песні. Абяцала дажыць да ста гадоў. А вакол яе хаты, у лазняку, наярвалі свае песні салаўі. Воддаль хорам кувалі зязюлі. У азёрах уздымалі кругі хваль шчупакі, язі, плоткі. Але на нашы кручкі не захацелі падчапіцца. Нас абляпілі хмары нахабных мошак. На твайго тату напаў сабака Туман. Мы сустрэлі ў лесе вожыка і пацешыліся ім. Бачылі буслоў — гаспадароў балот. Слухалі канцэрты жаб...

Гасцявалі разам з намі мая сястра Клава з Калінкавіч (ёй — 84 гады), яе дочкі Таня і Люба, дзеці, унукі і праўнукі юбіляркі. Сярод іх былі Даша і Маша.

Дашы — два годзікі. Яна дачка Любы, а Люба — дачка Клавы, а Клава — дачка маёй сястры Любові Сцяпанаўны, у якой мы святкавалі васьмідзесяцігоддзе.

Машы — усяго пяць месяцаў. Яна дачка Волькі, а Волька — дачка Клавы, а Клава, як я ўжо казаў, дачка маёй сястры Любы.

Даша і Маша — праўнучкі маёй сястры. Твае равесніцы! Твая блізкая радня.

Для чаго ўсё гэта паведамляю?

Хачу, каб ты, Толік, ведаў іх, каб у дарослым жыцці прызнаў іх. І каб не паўтарыў нашу з Колькам Трацэўскім памылку, калі на колішняй фатаграфіі мы з падмогай старажылаў ледзь апазналі маю цётку, а яго бабулю Марыю Ліпскую. Яна нарадзіла яму маму Хольку, а мне дваюрадную сястру.

Трэба ведаць, дружок, радаводную паднаготную, тады адчуеш сябе зямным багаццем, якім адчуваю сябе я.

*Твой дзядуля*
*21.05.2006 г. (нядзеля)*

**30**

Мілы дружок Толік!

Ты мілы не таму, што маленькі, бездапаможны, наіўны. У цябе мілае, любае ўсё: і носік-курносік, і вочкі — зіхатлівыя зоркі, і валосікі, як саспелыя калосікі, і ручкі — заграбастыя грабелькі. Усё цягнеш да сябе, каб разгледзець, пазнаёміцца, запомніць. А калі хто новы перад табой, прыхінаешся да мамы, пазіраеш з-пад ілба. Саромеешся ці хаваешся? Але ж вельмі пацешна і міла.

Мама расказвала, неяк раніцай ты прачнуўся першым. Толькі-толькі ўзыходзіла сонца. Падняўся ў ложачку, устаў на ножкі. Стаяў, пазіраў на спячых маму, тату і нешта муркаў, гудзеў. Можа, калыханку бацькам спяваў, як яны

табе звечара? Можа, прыгадваў Машыны песні? А можа, нараджалася ў тваёй душы свая песня пра новы дзень, пра сонца і маму?

Цябе, натхнёнага спевака, прыкмеціла мама Марына. Адно вока яе спала, а другім яна сачыла за табой. Радавалася, што ты прачнуўся ў добрым настроі, не будзіш яе. А ты, Толік, паспяваў, пастаяў дый зноў прылёг у ложак. І заснуў яшчэ разок.

Мне захацелася гэты міг твайго жыцця, тваіх паводзін апісаць у пісьме да цябе. Проста так, для гісторыі, для тваёй біяграфіі. А мо калі-небудзь і гэты эпізодзік спатрэбіцца табе.

Кажуць, у першыя пяць гадоў дзіця назапашвае ў сабе столькі ўсяго, што гэтага «ўсяго» хапае яму на астатняе жыццё, што тое «ўсё» і фарміруе яго характар, зараджае яго мозг. Дык налівайся, дружок, энергіяй дабрыні і Божай любові да зямной прыгажосці. Эталонам той дабрыні і прыгажосці, павер, з'яўляюцца твае мама Марына і тата Лёня. Шануй іх!

*Твой дзед Вова*
*24.05.2006 г. (серада)*

**31**

Дарагі Толік!

Адчыняю дзверы, а ты паўзеш у калідорчыку. Супыніўся, пазіраеш на мяне здзіўлена: «Хто ты? Чаго прыйшоў?» А я ж, Толік, у сваю кватэру прыйшоў. Ты — мой госць. Засаромеўся. Губкі скрывіў, хочаш плакаць. Пасля перадумаў, пачаў разглядваць сівога дзеда. Даверыўся пайсці да мяне на рукі. Адчуў, відаць, што не пакрыўджу.

Ох, Толік, сёння якраз Міжнародны дзень абароны дзяцей. Першы дзень лета. Табе заўтра адзінаццаць месяцаў. Ад каго і ад чаго трэба абараняць такіх як ты?

Калі зазірнуць углыб праблемы, то робіцца жудасна. Дзяцей трэба абараняць ад вірусаў, хвароб, якія ж вельмі прыставучыя да малых. Іх трэба абараняць ад чарнобыльскай заразы, якая нябачным нячысцікам падкошвае іх здароўе. Іх трэба абараняць ад алкаголю, тытуню, наркотыкаў, СНІДу. Ад спакусы жыць легкадумна. Ад распусты, зладзейства, чэрствасці, раўнадушша, злосці, эгаізму. А калі гэтымі якасцямі валодаюць дарослыя, то трэба бараніць і ад такіх «апекуноў». Сярод іх могуць быць бацькі, якія цураюцца дзяцей, б'юць і забіваюць іх. Мусім бараніць і ад таўстаскурых чыноўнікаў, і ад вытворцаў, якія не могуць зрабіць для дзяцей добрую, якасную ежу, прыгожую вопратку, зручны абутак, цікавыя цацкі. І ад медыкаў трэба бараніць, якія не здольны вылечыць дзяцей. А як выратаваць іх ад касмічнай каметы, якая збіраецца ляцець да Зямлі і сутыкнуцца з ёй?..

Ведай, Толік, я шмат гадоў узначальваю Беларускі дзіцячы фонд, уваходжу ў склад Нацыянальнай камісіі па правах дзіцяці. Твой дзед — заступнік пакрыўджаных дзяцей. Хачу быць і тваім абаронцам. Мая зброя — любоў. Хачу і цябе ўзброіць гэтай самай ваяўнічай, выверанай і надзейнай зброяй.

Пойдзем, Толік, у мой кабінет. О, бачыш, Мішка пухнаты сядзіць на батарэі. На лямпе падвешаны званочак. Каля кніжак сядзіць усмешлівая малпачка. Шафу вартуе зайчык-вушасцік. А вось гэтага чудзіка, лупаценькага і паласаценькага, крані за левую ручку, і ён праспявае табе сваю чароўную мелодыю. Ты, мой сябручок, ужо забыўся плакаць, паверыў мне, лэпнуў сваёй цёплай далонькай па маім носе. Вось і паразумеліся, вось і пацешыліся адзін

адным. Як жа інакш? Мы ж — блізкая радня. Мы — Ліпскія! Давайма жыць у згодзе і сёння, у Міжнародны дзень дзяцей, і заўтрашнім, будзённым днём, і ва ўсе дні Божага раю на зямлі. Як жа інакш?..

*Твой дабрадзей*
*1.06.2006 г. (чацвер)*

**32**

Слухай, Толік!

Быў на дачы. Паліў у печы. Доўга назіраў за агнём. І думаў пра цябе, сябручок.

Не адразу той агонь у печы ўзяўся ў сілу.

Кволымі, жаўтляватымі языкамі ён спачатку асцярожна лізаў паленцы дроў. Яны яму былі «не па зубах». Шукаў лёгкай здабычы — паперкі, стружкі, тоненькія і сухія дошчачкі. Тыя языкі агню кідаліся ў розныя бакі. Над імі кучаравіўся сівы дым, як бы хацеў прытушыць іх. Але яго цягнула ў комін, у неба, да аблокаў.

Я перажываў за агонь у печы. Гэтак жа, як хвалююся і за цябе, Толік. Твой жыццёвы агеньчык пакуль што «аблізвае» ўсё, што наўкол цябе. Табе карціць бачыць і чапаць рукамі ножку крэсла, ручку шафкі, кнопку пульта. Хочацца стукнуць лыжкай па талерцы, разгледзець люстра, учапіцца ў ручнік, не ведаючы яшчэ, для чаго ён вісіць у ваннай...

Агонь у печы бярэцца ў сілу. У языках полымя адчуваецца энергія, і яны ўжо смялей абдымаюць паленцы, вось-вось авалодаюць імі. І мне, пячніку, весялей. Агонь не згасне. Будзе жар, цяпло.

Думаю, а што дало сілу агню?

Канешне, мой падпал, маё жаданне, але ж і сам агонь, бачу, хоча гулянкі з дрэўцамі, горача абдымае іх. Мне падалося, у печы разгараецца любоў, ад якой — і цяпло, і вуголле, і попел.

Бачыш, Толік, я табе часта нагадваю пра любоў. І недарэмна! Яна ўсюды. І ва ўсім. Без яе няма жыцця ні ў чалавека, ні ў птушачкі, ні ў раслінкі-былінкі. Усё размнажаецца толькі любоўю. Усё жыве толькі дзякуючы любові, яе энергіі і агню.

У печы — полымя агню. Паленцы патрэскваюць ад задавальнення, чырванеюць, вылучаюць той вулкан цяпла, які сядзеў у іх. Уяўляеш, каб не агонь, дык яны маглі б проста згніць, спарахнець і не парадавалі б чалавека.

Шугае агонь у печы.

Думкі шалеюць у маёй галаве.

Становіцца цёпла і ўтульна ў хаце.

Печ, мая душа, уся хата напоўнены жыццёвай асалодай, пачуццямі любові. Божа, хай будзе так заўсёды мне, майму ўнуку Толіку і ўсім людзям!

*3.06.2006 г.*
*(субота, Узгор'е-2, яно ж — Лысая гара, пра якую ёсць цэлая паэма)*

**33**

Мой незабыўны дачнік Толік!

Ты — жаданы госць нашага жоўта-зялёнага доміка пад Мінскам. Мне доўга будуць сніцца тыя два дні і адна ноч, якія ты правёў разам з намі.

Вось тваe ножкі ў карычневых чаравічках тэпаюць па бетоннай сцяжынцы, якую я некалі заліў ад хаты да кухні. Мама падтрымлівае цябе за рукі. Яны — над галавой, як крылы. Ты ідзеш! Першыя крокі! Божа, якая светлая радасць кружыць маю галаву!

Прыпыніўся. Цябе прывабіў мой сіні ветрачок над цяпліцай. Я за яго некалі ў Германіі ўпёк ажно пяць марак і атрымаў ад жонкі добрага прачуханца. Я ж тады купляў гэту забаву для сябе, і не ведаў, што ты будзеш у мяне, што мой ветрачок пацешыць цябе.

Я, Толік, як і ты, усё яшчэ адкрываю непазнаны свет. Слухай, перад тым, як вы прыехалі на дачу, я ледзь не сутыкнуўся нос у нос з кратом. Нечага завіхаўся каля цэментаванай ямы для смецця. Раптам бачу, о Божа, зямля шавеліцца. Крот! Я прысеў і замёр, пачаў цярпліва чакаць, пакуль сляпы шахцёр вылезе наверх. От была б сустрэча! Колькі я там сядзеў, не ведаю, але, відаць, даўгавата, бо мяне пачала ўжо шукаць Ніна Іосіфаўна. Паклікала паліваць грады. Шкада! Так і не сустрэў землякопа.

І ты, Толік, адкрываў цуды на дачы. Убачыў маленькія яблычкі-завязі, пацягнуўся ручкай да іх. Убачыў агонь і замілаваўся: што за жоўта-цёплая скакалка? Прыкмеціў муху на акне, насцярожыўся: чаго тая крылатая журчалка хоча? А як жа смешна было табе, калі я пачаў надзяваць на тваю галоўку ўсе свае дачныя шапкі, кепкі, капелюшы. Асабліва спадабаўся ты нам у таджыкскай цюбецейцы. І ты ўсміхаўся на ўсе свае чатыры зубы.

Спаў ты на дачы, як пшаніцу прадаўшы. І апетыт быў багатырскі. Ты ўхапіў у рукі лусту хлеба. Пацягнуў яе ў рот, адкусіў ладны кавалак і пачаў жаваць, як згаладалы касец, араты, дрывасек. Смешны ты быў, Толік, у той момант. І вясёлы. А яшчэ — кампанейскі, бо мы таксама закладвалі за абедзве шчакі і хлеб, і шашлыкі, і бульбу з гуркамі.

Раніцай мы з татам тваім хадзілі на рыбалку. А возера цераз дарогу ад нашай хаты. Як жа ты смяяўся, калі злоўленыя карасі танцавалі перад табой. Што рабілася ў той міг у тваёй галоўцы?

Мы з табой, Толік, гулялі ў хованкі, у дражнілкі. Нюхалі кветкі. Перадавалі адзін аднаму мячык. Мне хацелася дацягнуцца да тваёй чароўна-дзівоснай вышыні. Мне хацелася, дружа, тваімі вачыма бачыць усё наўкол. Дык дзякуй табе за шчодрасць!

*Застаюся тваім верным сябрам*
*17.06.2006 г. (субота)*

**34**

Дарагі Талюн!

Бачыў, як бацька пасадзіў цябе ў машыну на сваё, шафёрскае крэсла. Ты ўхапіўся ручкамі за руль, крутнуў яго туды-сюды. Вочы твае заіскрыліся. Ад радасці ты аж прыпадняўся і зноў гэпнуўся ў крэсла. Пачаў азіраць прыборы, узяўся за ручку перадач хуткасці, як бы прыкідваў, што трэба зрабіць, каб машына завялася і паехала.

Лёня паказаў табе рычажок, якім уключаюцца «дворнікі». Ты спрытна ўчапіўся правай рукой у яго, націснуў уніз, і па шклінах пачалі бегаць ачышчальныя шчоткі. Каб жа ты бачыў у той міг свае вочы. У іх — і часовы сполах, і трыумф перамогі, і шчасце адкрыцця, і нечаканасць навізны. О Божа, уразумі мяне, кім вырасце гэта дзіця!

Адчуваецца, Толік, у цябе развіваецца пачуццё кіроўца. Бач, ты ўжо хочаш руляваць машынай «Жыгулі». Ты спрабуеш кіраваць мамай і татам:

дайце паесці, хачу спаць. Табе падавай усё новыя цацкі. Я ўзяў цябе на рукі. Ты разгледзеў дзеда, даверыўся, а тады кіруючай рукой пачаў паказваць, куды цябе несці. Паднёс цябе да кветак, цягнеш руку ў бок дрэва, маўляў, пайшлі туды. Агледзелі галіну з лісцікамі і яблычкамі, падавай табе цяпліцу. Хочацца бачыць домік, у якім цвітуць памідоры. Во які ты кіраўнік!

А ты ж яшчэ не ведаеш, што ёсць прафесія кіраўніка. Яна ў розных іпастасях: прэзідэнт, прэм'ер-міністр, міністр, дырэктар, старшыня, начальнік, упраўляючы, рэктар, рэдактар... Кім жа ты станеш у жыцці, мой унук Толік?

Ты — трэцяе калена Ліпскіх, якія вырваліся з балотных Шоўкавіч у вялікі свет. Табе доўга давядзецца тлумачыць, што гэта за прафесіі — кіраваць касой, плугам, валом, канём? Як называецца чалавек, які робіць бочкі, цэбры, маслабойкі? А хто вырабляе авечыя шкуры і шые кажухі, хто ён? Цябе хутчэй зацікавіць камп'ютэр, Інтэрнет, космас, навука. Гэта цяпер прэстыжна для маладых. Мне нават зайздросна робіцца, пра што ты даведаешся, што зможаш зрабіць. Але ж і боязна, Толік, за цябе. Малюся, каб новы, імклівы век не надламаў цябе. Вытрымай, дружа, усе нягоды. Ты ж трэцяе калена гарадскіх Ліпскіх!

І я, здаецца, ведаю сакрэт тваёй моцы. Упусці ў сваю душу тых далёкіх продкаў, якія потам здабывалі хлеб, якія самі сябе кармілі і адзявалі. Бывала, і галадалі, і хадзілі абарванцамі, а дзяцей гадавалі. Ім, як паходню, перадавалі сваё сэрца, на іх спадзяваліся. Ведай іх паімённа, Толік, і помні. Палюбі іх! У гэтым твая моц і вера. У гэтым твой крок наперад!

Ты, Толік, ужо цяпер умееш саромецца. Пацешна гэта ў цябе атрымліваецца. Апускаеш галоўку ўніз, калі да цябе азываецца незнаёмы чалавек, пасля асцярожна пазіраеш з-пад ілба, як бы прыкідваеш, ці варта даверыцца. Гэтак жа робіш, калі табе кінуць заўвагу ці памахаюць пальцам. Сарамлівы ты мой, заставайся такім і ў дарослым жыцці. Без сораму чалавек становіцца нахабным, эгаістычным, жорсткім. Я б не хацеў, каб такім быў мой унук Толік, Анатоль Леанідавіч Ліпскі.

*Твой дабрадзей*
*18.06.2006 г. (нядзеля)*

## 35

Толік-усміхун!

А ты — аўцючок. У цябе ёсць пачуццё гумару, жартаў. І гэта мне вельмі падабаецца.

Мы сядзім з табой на падлозе. Вакол нас — твае цацкі. Ты паказваеш, як трэба разбіраць пірамідку. Зняў сіні круг. Пасля зялёны, чырвоны, жоўты. Я пагладзіў цябе па галоўцы, і ты зазіхацеў, як валачобнае яйка. А калі я пачаў тыя кругі круціць ваўчком, ты ад нечаканасці ажно зарагатаў, бо і не ведаў, што яны могуць быць такімі вёрткімі.

Разабралі твае пластмасавыя пасудзінкі, якія «сядзелі» адна ў адной. І ты раптам ухапіў ротам адну за абадок і замармытаў. Смяшыў мяне. Я, каб не быць даўжніком, узяў ротам іншую. Мы нахіліліся адзін да аднаго і чокнуліся той пасудкай. Нашы ілбы сутыкнуліся, вочы сустрэліся, і мы разам усміхнуліся. Як жа весела і панятліва з табой, дарагі Толік.

Падрастай хутчэй, і мы з табой паедзем на Аўцюкоўскі фестываль гумару, які адкрыў і нарадзіў твой дзед Валодзя. Ведай, дружок, смех — дар Божы. Лепш весяліцца і жартаваць, чым журыцца і бедаваць. Навучыся ствараць сабе, бацькам і ўсім людзям добры настрой.

Паслухай шчэбет лясных птушак. Яны ўслаўляюць узыход сонца!

Прыгледзься да ранішняй расы на траве. У срабрыстых кроплях — водар, прахалода, здаровая бадзёрасць Зямлі-матухны.

Убач у кветках задорную вясёлкавасць. Яны дораць нам усмешку прыроды. Умей зразумець іх і аддзячыць.

Божа, колькі ўсяго дзівоснага наўкол, ад чаго святлее душа, ад чаго хочацца спяваць. Я пачынаю лялякаць нейкую мелодыю, і ты, мой слаўны хлопчык, падгэпваешся, пахітваеш галоўкай. Танцуеш!

Хай жа добры настрой будзе тваім жыццёвым спадарожнікам. Вучыся мудрасці ў маіх аўцюкоў-землякоў, якія адвечна гаруюць і заўсёды жартуюць. У іх жываты баляць толькі ад смеху. У іх смех — і лекі, і паратунак, і ласунак. На сняданак — жартаў абярэмак. На абед — усмешкі кабет. На вячэру — анекдотаў умеру. Жадаю і табе такіх пачастункаў.

*Твой дзед-аўцюк*
*20.06.2006 г. (аўторак)*

**36**

Мой панятлівы Толік!

Пытаюся ў цябе:

— Дзе Маша?

Зірнуў на ўваходныя дзверы, ціха вымавіў:

— Ма-а...

На тварык твой ускочыў сум.

Каторы ўжо дзень няма дома Машы. Яна — ў далёкай Японіі, выступае з фалькларным ансамблем «Радзімічы». Няма сястрычкі. Ніхто так не забаўляе Толіка, як умее яна. Ніхто так не вытанцоўвае перад ім, як яна. Ніхто так не спявае яму, як яна. Вось і сумуе брацік па гарэзлівай Машы. Ведае, помніць, што яе няма дома. На яго мове — «ма».

Першае свядомае слова ты, Толік, склаў з двух складоў «ма» — «ма-ма». Марына расказвала, як ты аднойчы падпоўз да яе і жаласлівым, ціхім голасам праенчыў: «Мама». Гэта азначала: «Мамачка, вазьмі мяне на рукі...» Тую тваю просьбу Марына ўспрыняла як падарунак.

А на Восьмае сакавіка, да Дня жанчын, ты моцна праспаў усю ноч. Не трывожыў маму. Гэта і быў твой падарунак Марыне. Яна хваліцца ім, расказвае ўсім пра яго. І ганарыцца, што бярэцца ў сілу і розум панятлівы сынок.

Вучыся, унук, і надалей рабіць падарункі бацькам, усім нам, хто побач з табой. Зразумей, прыемней даваць, чым браць. Што аддаў, тое і тваё. Павер, гэту мудрасць варта не толькі ўсвядоміць, а ёй трэба карыстацца ў паўсядзённым жыцці. Мне здаецца, яна — ад самога Цара Нябеснага, ад нашага выратавальніка Сына Божага.

Калі вырасцеш, пачытай уважліва Біблію, і ты зразумееш, як Хрыстос не шкадаваў сябе для людзей, як ён беззапаветна служыў ім. Нават і тым, хто яго крыўдзіў. Дзе сёння тыя крыўдзіцелі, уладары? Іх ніхто не помніць. А Хрыстос уваскрос і ўслаўлены ўсімі сумленнымі вернікамі, якія ёсць на планеце Зямля.

Унук Толік, усе мы, твая радня, рыхтуемся да твайго першага юбілею. Вось-вось табе споўніцца адзін год. Думаем пра падарункі табе. Але ўсе яны нішто ў параўнанні з тым, што ты дорыш нам: сваю мілую, адкрытую ўсмешку, прызнанне нас, твой добры пагляд на белы свет, у які ты прыйшоў гасцяваць.

Дзякуй, родны Толік, за твае падарункі ўсім нам. Ім, павер, няма цаны.

*Твой дзед*
*25.06.2006 г. (нядзеля)*

## 37

Дарагі Толік-юбіляр!

Роўна год назад ты нарадзіўся. Твой жыццёвы гадзіннік адчэкаў табе адну поўную зямную мерку.

Не ведаю, калі ты сёння прачнуўся, а я — у пяць раніцы. Сонца толькі-толькі прыняло працоўную вахту. Прыветліва рассеяла па небе сваё прывабнае святло, азірае прыродныя абшары. Зноў дорыць людзям цёплы летні дзянёк.

Сяджу з вудачкай ля дачнага азярца. Над вадой праплывае сіваваты туманок. Карась плёснуў хвастом, пусціў кругі, як бы дражніў мяне: «Я тут, лаві мяне!» Тую раніцу, Толік, запомню, бо яна была твая, азораная тваім днём нараджэння. Той раніцай лавіліся карасі, але маленькія. І я іх з радасцю адпускаў на волю. Кожнаму даваў наказ: «Жыві ды не трапляйся на кручок!» Такое ж пажаданне хачу адрасаваць і табе, Толік. Помні, кручкі, на якіх асякаюцца і карасі, і людзі, — вельмі вострыя, замаскіраваныя і балючыя.

На маё вудзільна села шэрая птушачка. Адпачыла і паляцела сваім маршрутам. Відаць, з маладых, бо надта рахманая. Мяне пацешыла, далася разгледзець сябе, даверылася мне, чалавеку. Думкі мае зноў паляцелі да цябе, Толік, і выліліся ў новае пажаданне: «Каб жа на тваім шляху, мой хлопчык, заўсёды траплялiся надзейныя прычалы, станцыі, прыпынкі, і каб на іх цябе сустракалі дабрадзеі».

Мы з бабуляй Нінай вязём табе ў падарунак тры буйныя ружы: чырвоную, белую, бэзавую. Самі вырасцілі. Градка клубніц падарыла табе кошык сакавітых ягад. А галоўнае, мы дорым табе сваю бязмежную любоў.

Ты сустракаў нас з мамай і татам у прыхожай. Божым анёлчыкам сядзеў на Лёневых руках. На табе — белая тэнісачка з сінім гальштукам, джынсавыя блакітныя шорцікі, белыя шкарпэткі. Абрадаваўся гасцям, усміхаўся.

Толік, ад цябе нельга адарваць вачэй. Ты мілы і прывабны, кантактны і непасрэдны. Ты выпраменьваеш саму дабрыню. Каб жа ты ведаў, як я радуюся гэтаму, як удзячны тваім бацькам, якія ўмела, з любоўю ўздымаюць цябе на ногі.

Ты паказаў нам усё, чаму навучыўся за год. З апетытам паеў і кашкі, і супчыку, папіў мамінага малачка. «Іграў» нам на піяніне, прытанцоўваў пад мелодыі. Гуляў з мячыкам і шустра поўзаў па пакоях. Гудзеў, як машына. Перагледзеў усе сумкі гасцей...

Ты цешыў нас сваім даверам. Ішоў да ўсіх на рукі. Кожнаму мог зрабіць «букі-букі». Кожнаму дарыў сваю сонечную ўсмешку. А як жа інакш! З табой у юбілейны дзень былі самыя блізкія людзі — бабулі Ніна і Валя, дзядзькі Ігар і Саша, дваюрадныя браты Антон і Ваня, дзядзіна Таня, твае бацькі Марына і Лёня і, безумоўна, я — твой летапісец.

А яшчэ мы набралі па тэлефоне далёкую Японію, дзе цяпер твая сястрычка Маша, і ўсе пагаварылі з ёй. Яна радуецца за цябе, Толік, і чакае хуткай сустрэчы. Шкада, што ты пакуль не ўмееш гаварыць. Але, веру, прыйдзе час і ўсе мы, твая радня, пачуем тваю мову. Хачу, каб твой голас пачула ўся Беларусь. Хай пачуюць яго блізкія і далёкія краіны. І тая ж Японія, у якой цяпер спявае з ансамблем «Радзімічы» твая сястра Маша.

*Твой дзядуля Валодзя*
*2.07.2006 г. (нядзеля)*

*P. S.* Твае гадавыя дасягненні, Толік: набраў 10,9 кілаграмаў, вырас на 78 сантыметраў. Пераганяеш равеснікаў на 900 грамаў і на 3 сантыметры. Заключэнне доктара: «Фізічнае развіццё вышэй сярэдняга, гарманічнае».

Так трымаць, Талян!

## Эльвіра ЯРЧАК



### СВЯТЛО МАЁЙ РАДЗІМЫ

Святло бяроз ліецца мне ў душу,
Святло бяроз — святло маёй Радзімы,
Маёй любові, чыстай і адзінай,
Якой найбольш у свеце даражу.

Тут чысціня блакітная снягоў,
Блакіт вясновы мілых мне нябёсаў,
І тут майго прадвызначэнне лёсу
Ад першых да апошніх берагоў.

Грамнічны дождж зямельку акрапіў,
І Стрэчанне надзею падарыла,
І зноў мацнеюць для узлёту крылы,
Перад цяплом і холад адступіў.

І недаверу крышацца ільдзінкі,
Калі пра беларускі край пішу.
Святло бяроз ліецца мне ў душу,
Святло бяроз — святло маёй Радзімы.

### КУПАЛАЎСКІ ШЛЯХ

Ад хацінкі, што ў Вязынцы
Светла вітае прадвесне,
Ад крынічкі ў Акопах
І сцежкі ў лясных Бараўцах

***Ярчак Эльвіра Іванаўна*** *нарадзілася 20 сакавіка 1939 года ў Мінску. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1960). Настаўнічала на Мінишчыне.*

*Вершы друкаваліся ў рэспубліканскай перыёдыцы, у калектыўных зборніках «Бацька наш Нёман» (2001), «Галасы роднай старонкі» (2006), у «Анталогіі беларускага санета» (2002).*

Набіралася сілы
Купалава вольная песня
І да неба ўзляцела,
Ўзнялася да сонца, як птах.
І палі, і пагоркі,
Дубы, і бярозы, і клёны
Так трывожылі сэрца,
Прыносілі радасць і боль,
Што, здаецца, і сёння
Мелодыі вершаў натхнёных
Адгукаюцца рэхам,
Каб мы іх пачулі з табой.
Я іду па шляху,
Што Даўгінаўскім трактам завецца,
А навокал катэджы,
Як замкі магнатаў, стаяць…
Тут калісьці, паэт,
Ты паліў, крыжаваў сваё сэрца,
Не забыліся людзі,
Што гэта дарога твая.
Пралятаюць стагоддзі,
Імчацца гады і падзеі,
На халодных узмежках
Гісторыя косіць траву…
Мне ж так хочацца верыць,
І цепліцца ў сэрцы надзея,
Што Купалаўскім шляхам
Даўгінаўскі шлях назавуць.

## ПАМЯЦЬ

Чэрвень зноў на зямлі раскашуе,
Птушкі песняй вітаюць зару.
«Ўсемагутны, — малюся, прашу я, —
Зберажы ад бяды Беларусь».
Паспяваюць пшаніца і жыта,
Бульба хораша ў полі цвіце.
Аніхто і нідзе не забыты
Ў гэты сонечны летні дзень.
І не сполахі навальніцы,
І не выбухі перуна, —
Ветэранам і сёння сніцца
Тая жудасная вайна.
Душы мёртвых лунаюць у небе
Жаўрукамі над мірнай зямлёй,
Прарастаюць на цёплай глебе
Дрэўцам, кветкай сярод палёў,
Ля акопаў і на курганах,
На балотах сівых і ў гаях…
Мір вам, воіны, партызаны,
Вы яго здабылі ў баях.

* * *

Паслухайце, як летняю парой
Стракочуць конікі на затравелым лузе,
Звініць жыццё, і па нябачным крузе
Імчыць Зямля за сонечнай зарой.

А Сонца ўжо выходзіць у зеніт,
Смяецца з апантанасці людское,
Пытаецца, здаецца, з неспакоем,
Ці чуем мы, як жаўранак звініць.

## ПЕСНЯ

Птушкі лясныя
Аб шчасці спяваюць,
Водар галовы дурманіць,
Не, не прысніў я —
Цябе сустракаю,
Сэрца мне сёння не маніць.
Тут, пад сасною,
Спыніся, Алеся,
Я цябе доўга чакаю,
Пойдзем са мною,
Заблудзімся ў лесе,
Сон баравы адшукаем.
Сэрцу балесна,
Што трацім імгненні,
Шлях наш да ісціны горкі,
Ты ж мая песня,
Маё летуценне,
Ты мая светлая зорка.
Ціха старонкай у паднябессі
Хмаркі кудысьці сплываюць,
Пойдзем са мною,
Заблудзімся ў лесе,
Сон баравы адшукаем.

## НА ЛАГОЙСКАЙ ШАШЫ

Па Лагойскай шашы прабягаюць машыны,
Самазвалы грукочуць і «Волгі» імчаць.
Ля Лагойскай шашы летам спеюць ажыны,
А пад восень рабінаў сузор'і зіхцяць.
Я люблю гэты шлях і знаёмыя вёскі
Між лагчын і пагоркаў, ля смольных бароў,
Дзе ў зялёных палях карагодзяць бярозкі,
Выглядаючы дужых асілкаў — дубоў.

Тут касіла вайна маіх родных і блізкіх,
У трывожнай Хатыні не змоўклі званы.
Тут і сёння праходзяць каля абеліскаў
Чалавечыя цені — ахвяры вайны.
Паэтычныя сцежкі на тракце сышліся
Тых, каго мы шануем і помнім заўжды, —
Тут Купалаўскім жаўранкам звоняць мне высі
І Гілевіча мовай шапочуць сады.
А ля помніка слаўных дывізій гвардзейскіх,
Што паклалі сыноў у акопах лясных,
Сціпла ранняй вясною сінеюць пралескі
І вартуюць яліны салдацкія сны.
Гэты край апазнаю і ўдзень я, і ўночы.
Бачу, як на пагорках расквеціўся бэз,
Як дзяцінства маё тут сцяжынкамі крочыць
Па маліны ў Астрошыцкі сонечны лес.
…На Лагойскай шашы шум машын не сціхае,
І жыццё на шляху не спыніць, не суняць.
Хай жа будзе ён вечны, як памяць людская,
Хай рабіны, як свечкі, на ўзбоччы гараць.

ЯЎГЕН КАРШУКОЎ



# СПАДЧЫНА

*Апавяданне*

Я вяртаўся з чарговай камандзіроўкі. Сядзеў у зале чыгуначнай станцыі, цярпліва чакаючы поезда, і з ціхім, але глыбокім смуткам успамінаў свой апошні камандзіровачны дзень... Быў ён для мяне асаблівы, калі не сказаць незвычайны: заставаўся ад службовых спраў час, і я вырашыў наведаць палескі раённы гарадок, дзе прайшлі мае школьныя гады. У ім ужо даўно не было нікога з радні, пайшлі з жыцця і мае бацькі, знік і наш маленькі дамок... На яго месцы новыя гаспадары ўчастка ўзвялі шыкоўны катэдж. І сёння, трапіўшы ў райцэнтр, я доўга стаяў перад гэтым чужым мне жытлом, сіратліва прыхіліўшыся да старой уцалелай бярозы, і са скрухай думаў пра хуткаплыннасць нашага жыцця.

Не пакідалі мяне гэтыя невясёлыя думкі і тут, на чыгуначнай станцыі. Але нечакана з сумнага здранцвення мяне вывеў малады звонкі голас:

— На Мінск чакаеце?

— На Мінск...

— І я ў сталіцу. Доўга яшчэ нам тут загараць?

— Парадкам...

— Пакіну каля вас свае рэчы ды пайду па білет.

— Калі ласка...

Перада мной, усміхаючыся, стаяў невысокі, ладны хлопец у вайсковай форме. Яго кірпаносы твар свяціўся такой прывабнай лагоднасцю, а вочы выпраменьвалі столькі радасці, добразычлівасці і маладой сілы, што я міжволі залюбаваўся ім: ні даць, ні ўзяць салдат Броўкін з вядомага кінафільма... Нават, як у яго, Броўкіна, з-пад фуражкі выбіваліся непакорлівыя светлыя валасы.

---

***Каршукоў Яўген Іванавіч*** *нарадзіўся 1 студзеня 1932 года ў вёсцы Давыдавічы Калінкавіцкага раёна ў сям'і настаўнікаў. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ (1956). Працаваў у раённых газетах на Гомельшчыне, на Гомельскай студыі тэлебачання, у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісе «Вожык», апараце СП БССР, выдавецтве «Юнацтва», часопісе «Нёман».*

*Аўтар кніг прозы «У дарогу» (1963), «Не без таго...» (1967), «Сустрэча» (1969), «Бывай, кампанія!» (1977), «Перад Новым годам» (1980), «Пісьмо жонцы» (1982) і інш., кніг для дзяцей «Змоўшчыкі» (1975), «Пасланне нашчадкам» (1987). Перакладае таксама з рускай, украінскай і польскай моў.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.*

Па-гаспадарску спаважна, не спяшаючыся, ён паставіў каля маіх ног дарожны чамаданчык, зняў з пляча рэчавы мяшок, у якім знаходзілася нешта вуглаватае, вялізнае, апусціў на сядзенне і, робячы выгляд, што дужа задыхаўся, жартаўліва сказаў:

— А каб яго, гэтае сонейка... Восень восенню, а прыпякае! Пяшэчкам з сяла тэпаў... Швагер, капіталіст бессаромны, не падвёз на сваёй тачцы! Відаць, бензіну пашкадаваў...

Але ўсё гэта было сказана мякка, без крыўды, з той жа лагоднай усмешкай на твары.

Вярнуўшыся ад білетнай касы, мой вясёлы спадарожнік сеў побач і пачаў расказваць нейкія займальна-жартаўлівыя гісторыі са свайго салдацкага жыцця-быцця. І мне было прыемна слухаць яго чысты юнацкі голас, чуць, як ён, па-сяброўску заглядваючы ў вочы, смяецца — шчыра, ад усёй душы, намагаючыся і мяне далучыць да свайго добрага настрою.

— Б’юся аб заклад, салдат: ты або закахаўся, або атрымаў спадчыну! — пажартаваў я. — У цябе такі выгляд...

Перастаўшы смяяцца, уражаны хлопец утаропіўся ў мяне.

— А вы... што? Як вы здагадаліся? Я ж на самай справе атрымаў спадчыну!

Цяпер ужо я не мог стрымаць свайго здзіўлення і, каб хутчэй згладзіць гэтую няёмкую паўзу, тым жа жартаўлівым тонам спытаў:

— Ну і як? Вялікая... спадчына?

— Ды не... Дом! Дзед мой яшчэ ўвесну памёр і на мяне пакінуў завяшчанне. Вось і ездзіў у сяло разбірацца з гэтай справай.

Зрабіўшыся адразу сур’ёзным, хлопец памаўчаў крыху, дапытліва пазіраючы на мяне — ці варта працягваць гэтую сумную размову? Але звычка гаваркога чалавека ўзяла верх. Заўважыўшы на маім твары зацікаўленасць, ён пажвавеў, горда ўзняў галаву:

— Ведаеце, які ў мяне дзед Андрэй быў? Чалавек! Дзевяноста гадоў пражыў. Замахнуўся і на сотню, ды франтавыя раны падвялі... Усю вайну на трыццацьчацвёрцы! Уяўляеце? І падбівалі яго, і гарэў у танку... Потым, калі ён моцна хварэў, я ўжо ў арміі служыў. У кожным пісьме дакладваў дзеду ўсё чыста — як у вучэбцы яго вайсковую спецыяльнасць механіка-вадзіцеля асвойваю. Задаволены быў! У сваім завяшчанні так і напісаў: «Майму ўнуку, будучаму танкісту, завяшчаю...»

Усё нібыта праяснілася, і я падумаў, што на гэтым і скончыўся расказ хлопца. Але ён пазіраў на мяне з нейкай загадкавай усмешкай. Вось-вось нешта скажа, нешта зробіць, аб чым я нават не здагадваюся.

І сапраўды: шчоўкнулі замкі дарожнага чамаданчыка, і мой спадарожнік хуценька дастаў з яго канверт з фатаграфіямі. Адзін здымак, пажаўцелы ад часу, ён урачыста падаў мне:

— Глядзіце! Вось мой дзед у сорак пятым... Прага...

Я беражліва ўзяў працягнуты мне стары здымак і не мог адарваць позірку ад постаці бравага, зухаватага танкіста: сфатаграфаваны разам з жыхарамі горада, ён стаяў каля сваёй баявой машыны, і на абветраным мужным твары гуляла белазубая ўсмешка — дакладна такая ж, як і ў яго ўнука. У шырока адкрытых вачах свяцілася радасць і гонар воіна-пераможцы. А за яго спінай на фоне старых уцалелых будынкаў красаваліся іншыя чырваназорныя машыны...

— Ну і ну! — толькі і мог прамовіць я ў захапленні. — Пашанцавала табе, хлопча... Такі гераічны продак! А як жа ты... абышоўся са спадчынай? — не ўтрымаўся я. — Прадаў дом ці сабе пакінуў?

Хлопец абвёў мяне крытычным позіркам, здзіўлена пацiснуў плячыма і раптам весела рассмяяўся:

— Ды навошта мне, вайскоўцу, гэты дом? Я сваё жыццё вызначыў... А ў мяне там, у сяле, старэйшая сястра замужам за адным фірмачом. Бачылі б вы, як ён мяне ўлашчваў! І смех, і грэх... Я яго адразу раскусіў: пакінь яму дзедаў дом! Пад магазін ці што? Падсунуў мне паперчыну — падпішы, адмоўся ад спадчыны на карысць сястры... Я і падпісаў. Няхай карыстаюцца... Абыдуся... А мая спадчына — вось яна, глядзіце!

З таго ж самага дарожнага чамаданчыка хлопец выняў скураны мяшочак і асцярожна павыкладваў з яго сабе на калені ордэны і медалі.

— Баявыя!.. Дзед іх толькі ў святочныя дні насіў. Табе, кажа, пакіну, унучак. Дадасі сваіх — малайчына будзеш!

Сноп сонечнага святла прабіваўся ў залу чакання праз вузкае акно, і ў яго яркіх промнях ордэны і медалі блішчэлі, як жывыя. Удосталь налюбаваўшыся ўзнагародамі, хлопец сабраў іх. Павярнуўшыся да мяне, зноў хітравата заўсміхаўся.

— А тут, у рэчавым мяшку, угадайце, што ляжыць?.. Не ўгадаеце! Таксама спадчына: акардэон... Трафейны. Яго ўжо ніколі і нікому не аддам: памяць. Як вяселле ці свята якое — усё сяло да дзеда ішло: сыграй, Андрэй! Нікому не адмаўляў, іграў... Мяне вось навучыў.

І, гарэзліва бліснуўшы вачыма, хлопец раптам прапанаваў:

— Хочаце, я вам сыграю любімую песню дзеда Андрэя?

Не чакаючы маёй згоды, ён асцярожна вывярнуў з рэчавага мяшка акардэон. Звыкла ляглі на клавішы пальцы... Загучала да болю знаёмая мелодыя песні. Хвалюючая, журботная, яна ўскалыхнула памяць, вяртаючы ў той далёкі час, калі выпраўлялі на фронт бацькоў і каханых... Простыя, сардэчныя словы помніліся і мне:

На позицию девушка провожала бойца.
Тёмной ночью простилася на ступеньках крыльца.
И пока за туманами видеть мог паренёк,
На окошке на девичьем всё горел огонёк.

Парня встретила славная фронтовая семья.
Всюду были товарищи, всюду были друзья,
Но знакомую улицу позабыть он не мог:
«Где ты, милая девушка, где ты, мой огонёк»?

Хлопец пеў задушэўна. Мне падалося, што і я непрыкметна для сябе пачаў падпяваць... Але за спінай у мяне пэўна чуўся голас спявачкі. Я азірнуўся і ўбачыў пажылую жанчыну. На вачах у яе блішчэлі слёзы...

— Дзякуй, сынок! — ціха сказала яна хлопцу, калі змоўк яго акардэон.

Што нагадала жанчыне старая франтавая песня, не цяжка было здагадацца. Хацеў і я расказаць майму жыццярадаснаму спадарожніку пра трагічнае і слаўнае мінулае, неяк асабліва, цёпла падзякаваць яму, але пасажыры ўжо заварушыліся, заклапочана пачалі прабірацца да выхаду: на станцыю вось-вось павінен быў прыбыць наш поезд..

**Сяргей ПЯСЕЦКІ**

# ПЯТЫ ЭТАП

*Раман**

## 2

У камендатуры 8-й пяхотнай дывізіі ў Бабруйску дзяжурны афіцэр прагледзеў дакументы Забавы.

— З якой мэтай патрэбны вам пропуск?

— Хачу даведацца пра службовае прызначэнне таварыша Андрэя Смоліна, які служыць у 8-й дывізіі.

— Сумняваюся, каб у штабе дывізіі гэта было вядома. Лепш за ўсё ў палку…

— Палкоў тры і яшчэ кавполк. Невядома, дзе шукаць.

— Калі ласка, вось пропуск…

Праз паўгадзіны Забава быў у штабе дывізіі. Агледзеў памяшканні. Звяртаўся да некалькіх пісараў, распытваючы іх пра таварыша Андрэя Смоліна, нарэшце выйшаў на вуліцу.

Быў страшэнна стомлены. Хацелася спаць. Чатыры дні быў у дарозе. Аб'ехаў некалькі местаў. Акалічнасці склаліся так, што нідзе не мог выспацца… На вакзалах піў «моцную», падробленую, напараную з содай гарбату; выпаліў мноства цыгарэт і драмаў на хаду.

Да цягніка засталося 4 гадзіны, таму пайшоў да крэпасці. Мінуў цудоўны бор, які ахінаў крэпасць, які быў напалову высечаны. Валы і абарончыя равы мелі вартыя жалю стан. Усярэдзіне крэпасці большасць будынкаў былі разбураныя і дагэтуль не адноўленыя, хоць не было дзе рассяліць салдат. Велізарныя комплексы будынкаў змрочна зеўралі чорнымі праёмамі акон і дзвярэй. Некаторыя пабудовы ляжалі ў друзе.

На адным з шырокіх пляцаў муштравалі жаўнераў, якія неахвотна выконвалі каманды. Забава сеў на ганку нейкага будынка і прыглядаўся да людзей, што снуўдалі, як мурашы. Адна група жаўнераў спявала:

*Мы кузнецы, и дух наш молод,*
*Куём мы счастия ключи…*

Пайшоў далей… Ішоў, як аўтамат… Часам яму здавалася, што ён стаіць на месцы, а наўзбоч праплываюць будынкі.

«Дзіўна», — думаў. Але зараз жа стомлены мозг падказваў: «Гэта не будынкі рухаюцца, гэта ты ідзеш». Ішоў і шаптаў: «Ага. Гэта я іду… іду...»

*Куём мы счастия ключи…*

Вілася ў паветры песенька жаўнераў.

«…Шчасця ключы… — шаптаў Забава, — шчасця… Ах, як хочацца спаць…»

У вагоне Забава забіўся ў купэ, у якім ехалі некалькі вайскоўцаў. Сеў у кутку ля акна і, калі цягнік рушыў, адразу заснуў. Прыснілася яму, быццам

---

* Працяг. Пачатак у № 4, 2010 г.

апынуўся ў вялікай зале, у якой замест адной сцяны стаялі вялікія жалезныя краты. У той зале было поўна вясёлых людзей. Усе смяяліся. Невядома, як і калі — як гэта звычайна адбываецца ў сне — сярод іх апынуліся дзве вялікія птушкі, падобныя да буслоў, але значна большыя. Людзі, якія знаходзіліся ў зале, падыходзілі да іх і кожны аднолькавым рухам торкаў птушку пальцам у бок. Птушка, незадаволеная, рабіла злосны жэст дзюбай, крычала: кэ-эр, і нязграбна адскоквала назад. Забаву было шкада птушак, і дурная весялосць тых людзей злавала яго. Хацеў, каб птушкі адгэтуль збеглі. Так яно і сталася. Птушкі наблізіліся да кратаў і хоць пранты тырчэлі густа-шчыльна, лёгка, нібы гумовыя, праціснуліся паміж імі і — зніклі…

Потым мроілася яму, што ляжыць на лузе. Цяплынь… Зялёнатраўе… Весялосць… Свяціла сонца. Да яго ішоў малады прыгожы казельчык; рожкі толькі што прабіліся. Наблізіўся прыскокамі да Забавы, выцягнуў да яго пыску… блізка, блізка і нечакана аблізаў яму нос і вусны. Забава рэзка адхіліўся і... прачнуўся.

Перад ім стаяў чэкіст:

— Дакументы…

Забава падаў яму пасведчанне і адпускны білет. Чэкісты прагледзелі іх і пайшлі далей.

У Менску ён узяў танную пралётку і паехаў у кватэру Брагіных.

Быў вечар. Імжэў дождж. Мінакі паўзлі па вуліцах, як цяжкія мокрыя жукі.

Забава быў трохі ўсхваляваны. «Зараз я пабачу Зосю», — думаў, адчуваючы, як усё больш і больш ахоплівае яго хваляванне. Зазваніў у парадныя дзверы вялікай хаціны.

— Хто там? — пачуў праз момант добра яму вядомы нізкі голас Зосі.

— Я… Раман…

— Ой… Ромусь, — пачуўся ўсхваляваны жаночы голас. Дзверы хутка адамкнуліся.

— Хадзі сюды… І ціха… Ах, Божа, каб я ведала…

Забава не мог зразумець Зосі, якая была гэтак усхваляваная, быццам чагосьці баялася. На прывітанне нават не пацалавала яго…

— Ці ведаеш ты, Ромку… я замужняя, — прамовіла неўзабаве з відавочным намаганнем.

— А… та-ак.

Забава ўжо не дзівіўся… Прыкмеціў у ёй шмат чужога, чаго не бачыў раней. Не зваў ужо яе як раней — адным з пяшчотных імёнаў, але афіцыйна: Соф'я Паўлаўна.

Прыйшла маці Зосі. Прыязна прывітала яго.

Забава распавёў ім добра прыдуманую гісторыю перажытага ад 1920 года, з якой вынікала, што служыў у цэнтральнай Расеі і на Украіне, а нядаўна перасяліўся ў Бабруйск. У Менск прыехаў па тэхнічную літаратуру.

Пастанавілі пазнаёміць Забаву з мужам Зосі не як яе былога жаніха, а як іх далёкага сваяка, каб не раўнаваў.

— Ромчык, я была вымушана выйсці замуж. Было нам гэтак цяжка. Я думала, што ты не вернешся… — казала Зося.

— Што рабіць? Спазніўся… А хто муж?

— Начальнік станцыі.

— Камуніст?

— Так, партыйны…

Брагін, чалавек старамодны, вясёлы, гасцінны, вельмі ўсцешыўся прыезду Забавы.

— Казаў вам, што вернецца. Што? Га? Мая праўда. Але спазніўся… прамарудзіў… Ну, нічога … мы маем для яго іншы арэх… Ой, мо-оцны, — смяяўся, паказваючы вачыма на малодшую дачку.

Эльжбету Забава не пазнаў. З дзяўчынкі-падлетка вырабілася ў выдатную дзяўчыну, ззяючую нейкай пышнай, пачуццёвай прыгажосцю. Трымалася манерна вольна і шумна. Апраналася проста напаказ і біла ва ўпор кожным жэстам, кожным паглядам.

«Вох. Стоадсоткавая куртызанка. Акула вырасла, — думаў Забава з адценнем прыкрасці і цікавасці адначасова. — Якая цудоўная постаць. Гэта падкрэсліваюць і вопратка, і рухі».

— А Эльжбета Паўлаўна ў партыю не ўступіла? Цяпер яно так модна… — спытаў яе Забава.

— Не-е… — адказала пявуча, прыгожым рухам галавы адкідваючы валасы назад.

— Навошта ёй нейкая там партыя? — засмяяўся Брагін. — Яна сама партыя… Партыя Лізкі наймацнейшая ў Саветах. Перад ёй аніякі марксіст не ўстоіць, — дадаў жартаўліва. — А сам пан партыйны?

— Не… Не люблю ні палітыкі, ні дадатковай нагрузкі акрамя працы; а партыя накладвае нагрузку… Калі я павінен стаць благім камуністам, якіх бачу паўсюль тысячы, дык жадаю застацца добрым грамадзянінам.

— Праўдачка ваша, — з відавочным задавальненнем пахапліва пацвердзіў Брагін. — Мой прынцып. Я гэта не раз казаў…

Дапазна гулялі ў прэферанс. Забава знарок гуляў дрэнна, даючы магчымасць выйграваць сваім партнёрам: Брагіну і Зосі, чым паддаваў ім настрою. Пасля гульні Брагін дзесьці сышоў, а калі вярнуўся, сказаў:

— У нас, мой дарагі, трохі зацесна. Мы цябе закватаруем у суседкі. У іх месца даволі. Цэлы пакой вольны, заўсёды да твайго распараджэння.

— Дзякуй і прабачце за турботы…

— Якія там клопаты. Не бяда. У іх табе будзе выгодна. Жыве там удава з дачкой… Вельмі акуратная, хоць і полька. Затое дачка яе: д’ябал. Падшыванец горшы ад хлапца… камсамолка. Ды табе якая розніца? Але ты й памужнеў. Цяжка пазнаць. Рады вельмі, ве-ельмі...

Праз гадзіну Забава ляжаў у ложку ў малым пакойчыку і пры святле лямпы чытаў «Правду». Неўзабаве патушыў святло. Доўга ляжаў з расплюшчанымі вачыма. Раптам уздумалася яму засмяяцца, ахоплівала яго ўсё большая весялосць. «Партыя Лізкі — наймацнейшая ў Саветах. Перад ёй ніякі марксіст не ўстоіць», — успомніў словы Брагіна.

## ДЗЁННІК РАМАНА ЗАБАВЫ

*Менск, 30 жніўня 1922 г.*

Першая гадзіна ўначы. Спаць не магу… Паразважаўшы, вырашыў пісаць *дзённік* і ў Саветах, калі гэта будзе магчыма і калі на гэта хопіць часу… Раскрыцця *дзённіка* не баюся, бо ніколі жывы бальшавікам не здамся. Зрэшты, гэта будуць розныя лісткі з нататніка, якія, вярнуўшыся ў Польшчу, далучу да адпаведных мясцінаў *дзённіка*. Такім чынам захаваю шмат уражанняў, якія, іначай, могуць развеяцца.

Гэтак часам цягне да такой працы, як курца да цыгарэты. Прыемна дзяліцца ўражаннямі з кімсьці, каго любіш і паважаеш, і я, калі пішу *дзённік*, уяўляю, быццам побач сядзіць мой запаветны сябар… добры, паблажлівы,

разумны друг — Кастусь… Чую яго ціхі, роўны голас: «Памятай, Ромка, што кніжка — гэта цуд. А цуд тым дзіўны, што заўсёды магчымы і даступны… Чалавек жыве некалькі дзясяткаў гадоў, пакутуе, вучыцца, працуе, церпіць і цешыцца; насычаецца досведам сваім і чужым — з кніг, слоў або ўчынкаў. Нарэшце, піша кнігу і ўкладвае ў яе частку самога сябе — свайго духоўнага і фізічнага зместу, а ты бярэш яе ў рукі і можаш заўсёды ёю карыстацца».

Я шмат чытаю. Пераважна начамі. Добрых кніг трапляецца мала, бо чытаю, што патрапіць пад руку… Перашкаджае неналаджанае жыццё… Заўважыў, што не ўмею добра чытаць, гэта значыць, што падчас чытання не зусім уяўляю герояў, іх учынкі. Можа, гэта таму, што не веру кнігам… Дзеці кнігам вераць і выразна бачаць герояў; сочаць за кожным іх рухам, чуюць кожнае слова, жывуць з імі. А я страціў гэтую здольнасць, бо … не веру… Разгортваю кнігу. Чытаю. Усё выкладзена гэтак хораша, ладна і складна, як у гадзінніку: цік-так, цік-так, а ў жыцці — як у клеці. У кнізе героі гэтак хораша прамаўляюць, а ў жыцці нават людзі адукаваныя не ўмеюць выказаць уласных думак. У кнізе кожны герой важны, няма аніводнага лішняга. А ў жыцці?… Цяпер я чытаю не як калісьці, бо калісьці блізка прымаў да сэрца лёсы герояў. А зараз я чытаю: «Сядзеў на канапе змрочны чалавек. Ён сутаргава сціскаў выпешчаныя далоні. На пародзістым твары быў выраз невымоўнага адчаю…» Чытаю і спаць мне хочацца, і злосць ахоплівае. Не веру, каб тое, што перажыў герой, магло выклікаць стан, калі ён «сутаргава сціскаў выпешчаныя далоні», а «выраз невымоўнага адчаю на ягоным пародзістым твары» можа надоўга сапсаваць настрой. Бачу, што мяне ашукваюць і пры гэтым не па-мастацку, але нейк бракаробна, таму не дамся. Ёсць кнігі, якія люблю і якім веру, якія адкрываюць вочы на жыццё… Але не ўмею іх знаходзіць…

Сённяшні дзень для мяне вельмі важны. Сёння пайду на спатканне з маім дарагім сябрам. Ён на тую сустрэчу не прыйдзе, *дзённік* не прачытае, бо… не можа, але я прыйду і пішу я для яго, бо ён так жадаў. А можа… Можа, цяпер з ціхай усмешкай чытае тыя вершы, якія пішу з думкай пра яго… Можа, і туды прыйдзе… Усе прыйдуць… Можа…

Я пяты дзень у Менску ў сям'і Брагіных. Павінен ужо вяртацца, але чакаў сённяшняга дня — 1 верасня 1922 г.. Бо паабяцаў з'явіцца на дамоўленую некалі ў гэты дзень сустрэчу тром таварышам, у тым ліку Кастусю… Павінен стрымаць слова.

Жыву ў малым пакойчыку ў спадарыні Жарскай, жанчыны векам за 50, полькі з Вільні (віленскай полькі), калісьці даволі добра матэрыяльна забяспечанай, а зараз прачкі, якая ледзьве ліпее з уласнай працы. Ейны муж, чыгуначнік, памёр ад тыфусу ў 1920 г. Пасля ягонай смерці кабеціна засталася адна з дванаццацігадовай дачкой Юлькай. Камічныя скаліліся адносіны маці з дачкой. Маці, жанчына набожная, не магла даць рады з дзяўчынай, якая хутчэй да падшыванца, хлапчука была падобная. Калісьці абвясціла матцы, што ўступіла ў камсамол. Маці махнула рукой: «Рабі, што хочаш. Потым пашкадуеш».

У маім пакойчыку, аддзеленым перагародкай ад астатняй кватэры, былі шчыліны, захінутыя абвіслымі шматкамі шпалераў. Праз іх мог пры выпадку назіраць за ўсёй кватэрай Жарскай, памяшканне тое складалася з аднаго вялікага пакоя і кухні насупраць маіх дзвярэй. Зранку мог бачыць, як спадарыня Жарская малілася, а потым ішла на працу. Юлька ўставала пазней, «па-шляхецку», як казала маці. Свістала, спявала… Часцяком чуў урыўкі з папулярнага ў Саветах «Яблычка»:

*Ленін з Троцкім мне спяваюць:*
*«Піражкі гарачыя».*
*Пра мяне Саветы дбаюць,*
*Болей не заплачу я.*

Часта спявала такое, што сорамна і пісаць тут… Часам напявала папулярную, зусім бессэнсоўную прыпеўку ў такт маршу:

*Па вуліцы хадзіла*
*Нявеста кракадзіла.*
*І ўся яна зялёная была.*

*Убачыла француза —*
*І цап яго за «пуза»!*
*І ўся яна зялёная была.*

*Убачыла «кітайца»*
*І цап яго за…*
*І ўся яна зялёная была.*

Заўчора падгледзеў праз шчыліну наступную сцэну. Да Юлькі прыйшла сяброўка Жэня, дзяўчына трохі старэйшая за яе. Нешта тамака доўга балаболілі, хіхікалі, потым Жэня казала:

— Паглядзі, ці ў мяне прыгожая хада?

— Ну, ідзі.

Пятнаццацігадовая дама склала вусны сэрцайкам, прымружыла вочы, схіліла галаву набок і, ненатуральна выгнуўшыся, выстаўляючы грудзі, прайшлася перад Юлькай. Тая з вялікай сур'ёзнасцю сачыла за ёй.

— Ну, як? — спытала Жэня, скончыўшы парад і набіраючы ў лёгкія паветра.

— Хада ў цябе нішто сабе, прыгожая, — сур'ёзна цэдзячы словы, прысудзіла Юлька, — толькі мала ср…й круціш.

Я ледзьве гучна не засмяяўся.

Юлька прыбірае мой пакой. Стукае, уваходзіць, робячы сур'ёзную міну; падмяце, прыбярэ ў пакоі і выйдзе. Хацеў даць ёй трохі грошай, але не ўзяла. Напэўна маці папярэдзіла яе, каб не брала. Я прынёс з места танныя цукеркі, якія прадаваліся на рынку з-пад прылаўка. Узяла іх ахвотна… Гойсае для мяне ў места па цыгарэты. Рыхтуе гарбату.

Часта да мяне наведваецца хтосьці з Брагіных. Аднойчы прыйшоў сам Брагін. Зрабіў таямнічы выраз, зачыніў дзверы на ключ і шматзначна падміргнуў:

— Успомнім мінулае, га?

Паставіў на стале пляшку самагонкі… Стары любіў выпіць. А калі падпіў, пачаў скардзіцца, што ён «*лішні чалавек*».

— Разумееш, мой дарагі, — казаў Брагін, — кожная птушка на зямлі мае сваё месца і абавязак, які лёгка і весела выконвае, які надае сэнс ягонаму жыццю. А я нішто. Наогул: ці можа хто чалавеку паказаць на ягоны абавязак? Не. Чалавек сам яго знойдзе, тады шчаслівы будзе — як птушка. А мы ўсё на чужых месцах або зусім без месца — падвешаныя ў прасторы.

Я ўмею гутарыць са старэйшымі людзьмі, а найперш умею іх слухаць; гэта найболей ім падабаецца, а мне не шкодзіць; такім чынам набыў давер у Брагіна.

Прыкідваюся, што закаханы ў Лізу, раблю гэта натуральна, каб акрамя яе не прыцягваць нічыёй увагі. Яна прыгожая — проста ззяе пачуццёвай прыгажосцю адаліскі, гультаяватай і страснай. Пазіраю на яе з захапленнем у

вачах, а калі заўважае гэта — перабольшваю сваё захапленне. Сказаў ёй, што нагадвае мне нейкую славутую кіназорку і што нават прыгажэйшая за яе. Заўважыў, што ёй гэта спадабалася.

У савецкай кнігарні купіў некалькі выпадковых кніг. У падарунак даў Зосі «Вайну і мір» Талстога, Лізцы «Саніна» Арцыбашава. Атрымаў ад яе ўдзячную ўсмешку і фотаздымак, на якім была апранутая ў цыганскі строй. Сказала, што ў тым строі была на баль-маскарадзе і атрымала ўзнагароду (і ў Саветах ёсць балі, але там забаўляецца не буржуазія, а толькі эліта — чырвоная, зразумела). Што да майго стаўлення да Зосі, імкнуся скіраваць яго на шляхі сентыментальных успамінаў пра нашае ранейшае каханне, што — да агульнага задавальнення — цалкам у мяне атрымоўваецца.

Пазнаёміўся з Зосіным мужам, Іванам Рыгоравічам Кобзавым. Паводзіць сябе як ідэйны камуніст, але па нейкіх дэталях я заўважыў, што пэўныя «буржуазныя забабоны» яму не чужыя. Думаючы, што я сваяк Марылі Брагінай, гаварыў са мной вельмі шмат на розныя тэмы… Даведаўся, што лічыць мяне «выключна прыстойным хлопцам», сярод «нашай ушчэнт сапсаванай моладзі», а гэта, мусіць, з той прычыны, што я выказваў вялікае захапленне «каласальнасцю» ягонай працы і адказнасці. Гэта чалавек гадоў за пяцьдзесят, поўны, трохі астматычны; гаворыць павольна і ўвесь час дадае: «вы разумееце»? Пэўна, працуе з ідыётамі, якія не могуць зразумець самых простых рэчаў. Заўважыў, што ў Зосі ён пад абцасам, проста камічны ў імкненні дагадзіць жонцы, намагаецца апярэдзіць ейныя пажаданні, рухі і нават думкі. А тая ставіцца да яго з абразлівай абыякавасцю. Заве яго «Чушкам» — быццам парася. Гэтае інтымнае «Чушка», шматкроць гучна прамоўленае Зосяй, зрабілася для мяне брыдкім, і я ледзь не з агідай глядзеў на Кобзава, які ласціўся да жонкі. Гэтае адно слова канчаткова патушыла жар майго былога кахання да яе. Як я цяпер выказаўся: «*жар майго былога кахання*». Я так не кажу, не пішу, і нават не думаю; гэта чужы ўплыў — кніг…

Заўважыў, што Кобзаву дорага абыходзіцца ўтрыманне хаты, і асабліва жонкі, якая капрызная і любіць прыгожа апранацца. Уяўляю, колькі могуць каштаваць зараз у Саветах яе модныя сукенкі, лёгкія халацікі, шаўковыя панчошкі. Прамаўляў самому сабе: «Так, спадар Кобзаў: роўнасць роўнасцю, братэрства братэрствам, ідэя ідэяй, але пакуль свет існуе, прыгожая жанчына будзе бясконца больш дарагая за брыдкую і яе цела ўяўляе куды большую каштоўнасць для нармалёвага мужчыны, чым усе сацыялістычныя тэорыі разам узятыя. Брыдкую, старую ты загоніш у прачкі — як спадарыню Жарскую; а перад прыгожай самкай будзеш ты віляць хвосцікам, сліну пускаць… Сам станеш рабом».

Аднойчы, калі жонкі не было ў хаце, Кобзаў паказаў мне спальню, перапоўненую не гэтулькі густоўнымі, колькі каштоўнымі рэчамі. Паказаў мне велізарны двухспальны ложак.

— Мораны дуб, — крэкнуў шматзначна. — Сапраўдны чорны дуб. Набыў пры нагодзе, усяго 50 рублёў, залатых. Адна драўніна чаго каштуе. Масіў. Учатырох ледзьве паднялі. А паглядзіце разьбу. Цуд.

— Так… фактычна… — падтакваў я без вялікага пераканання, дзеля ветлівасці.

— А гэты туалет. Гістарычная, можна сказаць, рэч. Мастацтва. Вока нельга адарваць… Як?

— Прыгожы туалет…

— А той кілім… Натуральны, персідскі. Прывёз з Самарканда. Таксама набыў выпадкова. Пакуль яго саткалі, можа, не адна пара вачэй патухла. Шэдэўр.

— Сапраўды…

— А гэта як вам падабаецца? — штурхануў мяне локцем і па-змоўніцку падміргнуў, паказваючы карціну, намаляваную алейнымі фарбамі, павешаную над ложкам. Зараз вокны адвешу…

Падняў прыспушчаныя занавескі і павярнуўся да мяне.

— … Зося хацела выкінуць на гарышча; кажа: «Навошта гэтае свінства ў спальні, тут не лазня, каб голыя дзеўкі па сценах віселі». Ледзьве яе пераканаў, што гэта твор мастацтва. Толькі калі сказаў, што нагадвае яе саму, такая самая прыгожая, змякчэла… Звярніце ўвагу на гэты цёплы тон цела, на гульню цягліцаў на сцёгнах, на гарачую хвалю медных валасоў. Гэта ўзбуджае… Адчуваеце, як паліць?

— Вядома… Трохі паліць…

Успомніў вершы, якімі крыкнуў «паэт рэвалюцыі»:

*Нам не трэба крупы з неба*
*Ды на прышлае спадзеўкі!*
*Мы сягоння хочам хлеба,*
*Нам сягоння трэба дзеўкі!*

Неўзабаве Кобзаў заўважыў, як Зося ветліва да мяне ставіцца, таму таксама пачаў выказваць знакі павагі, магчыма хочучы тым самым зрабіць прыемнасць жонцы або знайсці ў маёй асобе хаўрусніка. Вось гэта быў палітык… Паслядоўны матэрыяліст…

У Брагіных я пазнаёміўся яшчэ з адным ягамосцем, таксама камуністам. Быў ім Міхал Озімаў, сакратар губвыканкама. Найпершы залётнік да Лізкі… Яна сваіх каханкаў пазначыла нумарамі, і нават надала ім гербы. Учора сказала мне, што я таксама маю *дэвіз*. Спытаўся: «Які?», адказала, што гэта сакрэт, але магчыма калі-небудзь мне скажа… толькі трэба «заслужыць». Таму той Озімаў адчуў да мяне відавочную антыпатыю як да суперніка. Я і вухам не павёў, і нават знарок наймацней дагаджаў пры ім Эльжбеце. Зося таксама не любіць яго; кажа, што гэта насупа і сугней. Сказаў ёй, што знарок заляцаюся да Лізкі, каб тым самым яму насаліць. Яна засмяялася і сказала: «А хай яму будзе, гэтай мэме, добра».

Двойчы быў у спадарыні Ядвігі. У іх пачуваюся найлепш. Тут, у Брагіных, усё нейкае ненатуральнае, усё здаецца фальшывым. Брагін — кансерватар, летуценіць пра «старыя, добрыя часы»; Кобзаў камуніст, закаханы ў мяшчанскія анучы; Озімаў — пыхаваты, як той паўлін, камуніст, педант, эгаіст, які лічыць сябе найвышэйшым і універсальным аўтарытэтам, боствам, што пабліжва сыходзіць да простых смяротных. Маці Зосі — нервовая, падазроная, дрыжыць за кожны кавалак хлеба, скупая і бурклівая. Зося — хатні тыран, амаль істэрычка, якая «згарэла на алтары ахвяравання для ўласнай сям'і», выходзячы замуж за старога, нялюбага мужчыну. Лізка — пра яе не буду пісаць… пакуль што... У сямействе Двалінскіх пачуваюся як ва ўласнай сям'і. Усе шчырыя, добразычлівыя, простыя. Спадарыня Ядвіга мяне здзівіла, і нават сур'ёзна занепакоіла… Калі быў у іх апошні раз, сказала:

— Я маю для спадара падарунак.

— Які падарунак?

— Вось, калі ласка, — падала мне некалькі шматкоў паперы. Гэта былі два загады з V Корпуса і некалькі загадаў з 4-й дывізіі пяхоты. Загады непасрэднай каштоўнасці не мелі, але сам факт набыцця іх праз спадарыню Ядвігу сведчыў пра тое, што яна мае крыніцы і што рабіла захады ў тым кірунку.

— Няхай спадарыня будзе ўважлівай… гэта не жарт. Спадарыня ведае, чым гэта ёй пагражае?

— Ведаю добра. І хай мяне спадар не палохае. Вы хочаце дапамагчы нам выбрацца адгэтуль. Носіце праз мяжу лісты і рэчы… Таму і я магу таксама трохі рызыкнуць для спадара. Не будзем пра гэта гаманіць. Ёсць іншая справа, пра якую згадвалі… Я размаўляла з адным чэкістам. Згодзен на ўсё. Спадар можа яму верыць — як мне. Пазнаёмлю вас, калі пан жадае, альбо сама зраблю, што трэба. Толькі адно пытанне… вельмі важнае.

— Калі ласка?…

— Ён какаініст. Каб яго цалкам мець у руцэ — можа вельмі спатрэбіцца пану — варта даваць яму, часам, трохі какаіну.

Пані Ядвіга з гэткім запалам казала пра пэўныя справы, так добра арыентавалася ў метадах працы, што вельмі здзівіла мяне. «Яна — прыроджаны шпіён — думаў я. — У патрэбны момант зможа шмат зрабіць».

Узяў ад яе загады, не таму, што былі мне патрэбныя, але каб зрабіць тым ёй прыемнасць, і сказаў, каб больш без мяне анічога не рабіла, бо буду гневацца і нават буду асцерагацца да іх прыходзіць, бо могуць за ёй сачыць і разам з сабою яна праваліць і мяне. Паабяцала больш гэтага не рабіць.

Сёння ўвечары хачу аднесці два здымкі Кастуся ягонай маці. Даўно яе не бачыў. Цікава, што ў іх навага… Як прынялі вестку пра смерць Кастуся? Мне трохі непрыемна туды ісці, але думаю, што для іх гэта будзе дарагая памятка пра яго … А я?… Я памятаю пра яго заўсёды… Зрэшты, я маю *дзённік*.

Ціха… Так ціха, быццам застаўся я адзін у цэлым свеце…

## III. «ТРОЕ АДСУТНЫХ»

*Чалавек, які збіўся са шляху мудрасці,*
*апынецца ў зборні мерцвякоў.*

Прытчы Саламонавыя, 21. 16

**1921 год**

Было іх чацвёра, дужых, маладых, здаровых. Жыццё і энергія ў іх віравалі. Сядзелі вакол стала, курылі папіросы.

— Дык што там за такая «важная справа»? — спытаўся Забава, гледзячы па чарзе ва ўрачыстыя твары сяброў.

— Кажы ты, Кастусь — адказаў Часлаў. — Ты найлепей пра гэта скажаш, бо што я … Ведаеш сам: не ўмею языком малоць.

— Так, няхай Кастусь кажа, — махнуў галавой Алесь. — Гэта мой праект, таму не жадаю, каб ты думаў, што мне гэта трэба пазарэз...

Канстанты сядзеў задуменны… Прыгладзіў далонню валасы над высокім ілбом і зірнуў на сябра.

— Добра — сказаў, — добра… Справа, Рамане, такая: мы хочам вяртацца ў Менск. Навошта бадзяцца нам па чужых кутах. Мы пакінулі там бацькоў, знаёмых… Пакінулі там палову нашых сэрцаў. Ты пакінуў бацьку… Жывём тут, а думкі заўсёды там, сярод сваіх. Мы злачынстваў супраць Саветаў не рабілі — хіба толькі служба ў чужым войску, але гэта тлумачыцца тым, што мы ўступілі ў войска падчас акупацыі. Мы прыйдзем у ЧК, прадставім дакументы і заявім, што жадаем жыць і добрасумленна працаваць у Саветах, у сваім горадзе, як лаяльныя грамадзяне. Напачатку могуць хай сабе часова нас арыштаваць, але сур’ёзных наступстваў не можа быць, бо калі б мы нават на фронце трапілі ў няволю, дык былі б толькі палоннымі, а не зняволенымі. Зрэшты, калі нас нават арыштуюць, то сваякі за нас запаручацца. Хіба не? Зрэшты, гэта Беларусь, і мы, як беларусы, маем права вярнуцца на бацькаў-

шчыну, нягледзячы на тое, пад якімі ўладамі яна знаходзіцца… Вось, мы і пытаем цябе: ці жадаеш ты далучыцца?

Раман быў здзіўлены.

— Як гэта? Самому аддацца ім у рукі? Хлопцы, я там быў. Я ведаю, што тамака робіцца… Вядома, я пагаджуся, але не такім чынам. Навошта гэтак рызыкаваць? Я з табой, Кастусь, у пекла пайшоў бы. З вамі таксама… Але не так… Пойдзем са зброяй… Схаваемся, а адзін няхай з'явіцца… Пабачым, як усё будзе. Калі ўсё скончыцца шчасліва для аднаго, тады і астатнія з'явяцца, а калі справа будзе шваx, тады зробім іначай…

— Я казаў, што ён не пагодзіцца, — уздыхнуў Алесь.

— Не, Раманку, — сказаў Часлаў, — калі так, дык мы пойдзем адны. Мы хочам, каб усё пайшло сваім парадкам. Трэба і тое мець на ўвазе, што з трыма, калі мы з'явімся, іначай будуць лічыцца, чым з адным. Мы аніякія тамака ні буржуі, капіталісты ці контррэвалюцыянеры… Вяртаемся дадому, да працы, не маючы на сумленні ніякіх злачынстваў — ані крымінальных, ані палітычных. Мы прыйдзем шчырая, адкрытыя… У гэтым наш козыр. Чаго нам баяцца?

Доўга размаўлялі сябры. Забава, згодна дамове, павінен быў застацца ў Вільні і чакаць ад іх вестак, а тады таксама ісці да іх у Менск.

Справу акрапілі. Калі падвыпілі ўжо, хтосьці падаў наступную прапанову: «Вы ведаеце што, хлопцы? Невядома, што здарыцца з намі. Прызначым сабе сустрэчу на будучыню, праз пэўны час. Я нешта такое чытаў… Як бы гэта было хораша, га?.. Адзін у Вільні, адзін у Менску, адзін у Маскве, іншы яшчэ тамака дзесьці, і ў прызначаны час усе мы збіраемся на сустрэчу. Як?

Прапанову дружна прынялі, і Кастусь напісаў пратакол:

***Вільня, дня 19 траўня 1921 г.***

*Мы, ніжэйпадпісаныя, клянёмся,нягледзячы на адлегласць і жыццёвыя акалічнасці, з'явіцца на ўмоўленую «сустрэчу сяброў», у дзень 1 верасня 1922 года, а гадзіне 9-й вечаравай парою, у Менску, у Губернатарскім садзе на беразе Свіслачы, насупроць летняга тэатра «Рэнесанс».*

*Нез'яўленне можа апраўдаць толькі: смерць, цяжкая хвароба або турма. Іншыя прычыны будуць лічыцца за адыход ад Лучнасці Чатырох Сяброў.*

Канстанты Соліч, Часлаў Галін, Аляксандар Жалоўскі, Раман Забава.

Назаўтра Забава развітаўся з імі на віленскім вакзале… Калі цягнік рушыў, пацалаваў сяброў і па чарзе апошні раз паціснуў іх далоні.

— Будзь здаровы. Хутка пабачымся, — сказаў Алесь.

— Чакай ліст з Менска, — прамовіў Часлаў.

— Не засмучайся, Раманік. Вучыся, працуй… Усюды жыць можна, — кінуў яму Кастусь, ужо з цягніка, які рушыў.

— Шчасліва, шчасліва. Пішыце… — крычаў ім Забава.

Доўга чакаў ліста, але не дачакаўся яго. Замест ліста праз два месяцы атрымаў вестку, што трох ягоных сяброў расстралялі ў Менску, куды з'явіліся і самі аддаліся ў рукі ўладаў… Іх прыставілі да сценкі як контррэвалюцыянераў, якія прыбылі на тэрыторыю Краіны Саветаў дзеля арганізацыі «белагвардзейскіх бандаў».

«Так, нейкія падлюгі на іх крыві зрабілі службовую кар'еру», — падумаў Забава. Яму прыйшлі ў галаву словы аднаго беларуса з Вільні, які, расказваючы пра жахі ўсё яшчэ рэвалюцыйнага тэрору ў Менску, адзначыў, што «*гэтым* кроў беларуса што вадзіца».

* * *

Вечар быў цёмны. Вецер гойсаў па вуліцах, ляпаў аканіцамі, ламаў платы, кружыў у паветры і кідаў у твары мінакоў мокрае, халоднае лісце.

Забава пралез праз плот у сад сямейства Солічаў, бо брамка на падворак была зачыненая (не хацеў неспадзявана ўваходзіць праз парадныя дзверы). На падворку спыніўся насупраць асветленых вокнаў кухні; рэшта хаты патанала ў цемры.

«Можа, хто выйдзе?» — падумаў Забава. Было яму вельмі сумна. Колькі ж гэта разоў калісьці ў гэтай хаце, пры жыцці Кастуська ладзілі вясёлыя забавы, на якіх збіралася гэтулькі моладзі… Цяпер не мог адгадаць, што робіцца за сценамі. Толькі прадчуванне казала яму, што анічога добрага.

Хтосьці ўвайшоў у кухню і стаў ля акна.

«Гэта Мікалай», — падумаў Забава, пазнаючы старэйшага брата Кастуся. Падбег да акна, ускараскаўся на дыбачкі і ціха пастукаў у шыбу. Мікалай спалохана зірнуў у акно… Прыгледзеўся.

— Хто там? — пачуў Забава ягоны голас.

— Выйдзі на якую хвілю, — адказаў голасна.

Мікалай азірнуўся ўнутр пакоя і адшчапіў акно.

— Хто там? — паўтарыў устрывожаны.

— Я… я… Раман.

— Ра-а-ман?

Сполах адбіўся на твары Мікалая, які збялеў на палатно.

— Зараз выйду… зараз… — прашаптаў.

Неўзабаве быў на падворку. Забава адчуў, што Мікалай дрыжыць усім целам — не ад холаду, але ад хвалявання.

— Скуль вы? Навошта сюды прыйшлі? Што вы рабілі?

— Я прыйшоў з Польшчы. Прынёс вам два фотаздымкі Кастуська… Думаў, што гэтым усцешыцеся.

— Ідзіце адгэтуль. Нічога не трэба… Ніякіх фотаздымкаў. Маці як вар'ятка. Пятрусь на эпілепсію захварэў. Страшэннае няшчасце. Не трэба чапаць ранаў…

— Няўжо нельга было яго выратаваць?

— Мы рабілі ўсё, што можна. Маці ў дошку разбівалася, каб выцягнуць яго з іх лапаў, але іх так там спялюшылі, што ... што мы анічога зрабіць не маглі…

— А што ў вас дома?… Навогул, што чуваць?

— Дол… магіла… Ідзіце адгэтуль… Не… Пачакайце… Дайце, калі ласка, здымкі… для сябе захаваю…

Забава сціснуў халодную далонь Мікалая.

— Да пабачэння…

— Бываце.

* * *

Хутка дзевяць... У Губернатарскім садзе рэдка развешаныя вялікія бляклыя ліхтары раскідваюць па алеях трапяткія, бледныя пасмы святла. Велічныя ліпы ціха стаяць у роздуме над берагам ракі. Пуста і глуха; толькі вецер гойсае алеямі, гуляючы сарваным з галінаў дрэў лісцем.

Забава ўвайшоў у сад (дакладней, у парк) з вуліцы Падгорнай і скіраваўся ўлева, у першыя прысады над берагам Свіслачы… Ішоў павольна, узіраючыся ўглыб прысадаў, у чорныя хвалі ракі, што пераліваліся, як сталь, пры бляcках ліхтара.

Прайшоў да канца прысадаў і спыніўся насупраць доўгага моста. Выняў гадзіннік.

…Без пяці дзевятая…

Паволі пакрочыў назад… Пасярэдзіне алеі сеў на лаўку і стаў глядзець перад сабою. Жаласна плёскалі аб бераг халодныя хвалі ракі…

…Дзевятая…

Раптам прыкмеціў углыбіні прысадаў тры мужчынскія постаці. Сэрца ягонае ўстрапянулася.

«А раптам?»

Мужчыны наблізіліся да яго. Адзначыў аднаго вайсковага ў шынялі і будзёнаўцы з вялікай чырвонай зоркай; на поясе вісеў у кабуры наган; на рукаве былі нашытыя тры чырвоныя ромбы.

«Буйная рыбка», — падумаў Забава.

З вайскоўцам крочылі два цывільныя. Адзін з іх трымаў пад пахай тоўста набіты партфель… Гучна размаўлялі.

Забава змрочна ўзіраўся ў іх. Правую руку трымаў у кішэні, моцна сціскаючы шурпатую ручку парабелума. Зняў рэвальвер з засцерагальніка, з асалодаю чуючы лёгкую, сухую, характэрную пстрычку. Тры мужчыны наблізіліся да яго…

Перасталі размаўляць, пазіраючы на самотнага чалавека ў вайсковай форме, з пазнакай на шапцы, што выдавала ў ім тэхніка, які сядзеў з дзіўным выглядам.

«Няхай толькі зачэпяць», — думаў Забава, адчуваючы як нарастае ў ім цяжкая хваля злосці. — «Я ім зачаплю».

Правакацыйна прымружыўся і закапыліўшы ніжнюю губу глядзеў ім у вочы. Мінулі… Азірнуліся… Вайсковец спыніўся, відаць, хацеў штосьці сказаць.

— Хадзем, Вася, што табе? — прамовіў нецярпліва адзін з цывільных.

Пайшлі далей. Зніклі ў цэнтральнай прысадзе. Ішло на дзесятую гадзіну. Забава падняўся. Прымружыў вочы. Уявіў велізарную, дужую постаць Часлава, яго добрыя вочы і дзіцячую ўсмешку; флегматычны твар Алеся і іранічны бляск ягоных вачэй; задуменнае аблічча Кастуся… ягоныя самыя дарагія яму вочы, сумныя, глыбокія, мілую ўсмешку сябра… Да ягоных вушэй даляцелі апошнія словы развітання на вакзале ў Вільні: «Не засмучайся, Раманку. Вучыся, працуй… Усюды жыць можна».

«Усюды?! Толькі не тут», — падумаў Забава і ўзгадаліся яму зноў словы беларуса з Вільні: «*Гэтым* кроў беларуса што вадзіца».

Павольна пакрочыў у кірунку моста. Спыніўся над берагам ракі і доўга пазіраў углыб прысады.

«Трое не прыйшлі... Трое...» — прашаптаў, і праз хвілю дадаў у думках: «*Нез'яўленне апраўдана*». Жудасны смутак ахапіў ягонае сэрца…

Енчыў і плакаў вецер у галінах ліпаў; трывожна дрыжэла і шаптала лісце. Вакол віравалі мёртвыя пасмы святла ліхтароў.

Змрочна і глуха плюскацелі чорныя хвалі Свіслачы.

* * *

Дарога была жахлівая. Ногі грузлі ў ліпкім глеі, які прагавіта засмоктваў і скоўваў ступакі. Здзяйсненне кожнага кроку патрабавала высілкаў. Забава больш крочыў па размоклай раллі, чым па дарозе. Вочы, хоць і прызвычаеныя да цемры, не маглі заўважыць анічога нават за крок перад сабою.

Было позна. Жадаючы абавязкова перайсці мяжу да світанку, ішоў вельмі хутка, хоць почасту спатыкаўся аб камяні, правальваўся ў канавы і ямы, слізгацеў па глiністых пагорках і мокрай траве.

Вакол аніякіх прыкмет жывога духу. Ні голасу, ні святла. Панаваў тут толькі вецер, вольна гойсаючы па адкрытай раўніне. Пустэча, нават сабака нідзе не забрэша.

У левай руцэ Забава трымаў электрычны ліхтарык, у правай — рэвальвер. Быў гатовы ў любую хвіліну асляпіць ворага бляскам ліхтарыка і стрэльнуць куляй з рэвальвера.

Калі чалавек працяглы час ідзе ў поўнай цямрэчы, яго пачынае агортваць нейкае соннае бяссілле, і ён вымушаны намаганнямі волі абуджаць у сабе ўвагу. Можна, ідучы доўга ў такой цемры, бачыць даволі шмат цікавых рэчаў, выснаваць шмат арыгінальных думак, весці доўгія размовы з вымроенымі асобамі… Закалыханы аднастайнай, манатоннай хадою, мозг працуе сам па сабе, па-за нашым кантролем, а цела падсвядома падпарадкоўваецца мэтанакіраванасці руху. Пачуццё гэта вядомае людзям, змушаным начамі вандраваць.

Забава доўга спускаўся адхоністай дарогай у яр паміж двума пагоркамі. Унізе была студня. Знайшоў яе ў цемры. Ледзьве падняў вочапам жураўля вядро вады і доўга піў, хоць не меў вялікай смагі. Піў на запас, бо ведаў, што далей акрамя каляінаў і калужын, аж да памежжа, вады пры дарозе не будзе.

Пачаў ісці ўгару. З намаганнем, крок за крокам, караскаўся па слізкім адхоне. Трохі развіднела. Дзе-нідзе з-за хмараў вызіралі цікаўныя зоркі. З блізкай адлегласці ўжо можна было адрозніць абрысы дрэў, хмызоў.

Злева, пры дарозе, вырасла з цемры доўгая, драўляная будыніна. Забава спыніўся… Стаяў на самай вяршыні ўзгорка. Наблізіўся да будынка. Адно акно, не вельмі шчыльна занавешанае гардзінай з сярэдзіны, прапускала праз вузкія шчыліны святло. З-за акна даносіліся чалавечыя галасы.

«Што гэта можа быць»? — падумаў Забава. Ціха наблізіўся да акна, каб зазірнуць праз шчыліну ўсярэдзіну. Адчуў каленам мокрую, слізкую лаўку. Паставіў адну нагу на лаўку і адразу інстынктыўна тут жа адчуў ля сябе чыюсьці прысутнасць. Замёр на месцы… Павярнуў галаву направа, і ў гэты самы момант балюча ўдарыў яму ў вочы яркі прамень кішэннага ліхтарыка.

— Стаяць! Рукі ўгору!

Не змарудзіў і імгнення — тройчы стрэліў перад сабою, у тое месца, адкуль свяціў ліхтарык, і скокнуў убок. Ліхтарык пакаціўся па зямлі, рэфлектар патануў у чорнай жыжы лужыны. Бліснуў ліхтарык Забавы і адразу патух (у ягоным святле паспеў убачыць укленчанага на зямлі, пры сцяне будынка, чырвонаармейца з карабінам у руках. Руля была накіравана ў бок Забавы. Забава скокнуў улева і прысеў. Тут жа бухнуў стрэл; агонь лізнуў начны змрок… Забава стрэліў у адказ, двойчы. Пачуўся стогн. Ціха зрабіў некалькі крокаў на сярэдзіну дарогі, хочучы адысці ад будынка. У гэты час нябачныя ў цемры дзверы з трэскам адчыніліся і шырокі пас святла прарэзаў змрок, рассякаючы цемру начы і дарогу. У праёме паказаліся ўзброеныя людзі. Забава з нейкім садысцкім задавальненнем, сціскаючы зубы стрэліў па іх чатыры разы. Убіў у ручку парабелума новую абойму, перазарадзіў рэвальвер і ціха пайшоў ускрайкам дарогі. Праз некалькі імгненняў ззаду пачуліся стрэлы, крыкі, і, трохі пазней, тупат коней.

Забава сышоў з дарогі і пайшоў праз палі, усё больш і больш аддаляючыся ад гасцінца. Доўга ішоў напрасткі па жудаснай бездаражжы. Часам глядзеў на компас, каб не страціць арыентацыі.

Калі ўбачыў, што (паводле гадзінніка) да світанку засталося не больш чым дзве гадзіны, скіраваў на поўнач, хочучы выйсці на гасцінец, з якога

папярэдне сышоў, кіруючыся на поўдзень, а потым на захад… Пасля гадзіны цяжкай, пакутлівай дарогі знайшоў гасцінец. Пачало добра днець. Да мяжы заставалася яшчэ больш як пяць кіламетраў. Вырашыў пайсці да найбліжэйшага лесу і там дачакацца змяркання, каб пад покрывам цемры пераходзіць у Польшчу, бо пакуль што іншых дарог за мяжу, акрамя гасцінца, не ведаў.

Дзень перачакаў у лесе, паўночней гасцінца. Яму вельмі хацелася спаць, але не ведаючы наваколля, асцерагаўся, каб яго не ўхапілі, калі засне. Пасля страляніны сённяшнім досвіткам мяжа і памежжа на гэтым адрэзку будуць узмоцнена вартавацца і патруляваца…

Блукаў па лесе. Вывучаў лясныя сцяжыны. Некалькі разоў выходзіў на ўзлесак. Нарабіў на карце гэтага адрэзку мяжы некаторыя папраўкі, бо заўважыў на ёй гэтулькі недакладнасцей. Лушчыў арэхі, збіраў позную маліну… Толькі пад вечар зноў выйшаў на гасцінец.

У лесе было ўжо цёмна, а на дарозе і ў полі толькі пачало змяркацца…

Калі наблізіўся да «другой лініі», сышоў уніз з пагорка па шырокім, звілістым, парослым маладымі елкамі адхоне… Паслухаў, паглядзеў, на колькі сягаў зрок, на прасторную сенажаць і, карыстаючы з кожнага прыкрыцця на мясцовасці, сышоў на бераг звілістай рачулкі. Доўга шукаў броду. У адным месцы заўважыў зламаную, старую вярбу, перакінутую над вадой. Доўга паўзіраўшыся і пераканаўшыся, што паблізу нікога няма, перабраўся на другі бок і неўзабаве зноў увайшоў у лес.

Паволі сунуўся наперад, уважліва ловячы вухам кожны шоргат. Прамінуў некалькі добра вытаптаных сцежак паміж мяжой і «другой лініяй». Усё сведчыла пра тое, што мяжа на задняй лініі таксама добра ахоўваецца. Уважліва вывучаў усё наваколле. За кожным кустом магла быць засада, на кожным кроку яго чакала небяспека, у любую хвіліну яго маглі сустрэць стрэлы.

Амаль гадзіну змарнаваў, каб прамінуць без малога вярсту паміж «другой лініяй» і глыбокім ярам, які ўклініўся па межавой паласе да самой мяжы. Доўга сядзеў пад старой ялінай, над берагам яра, слухаючы плюскат вады ўнізе, дзе бруілася ў капрызных паваротках рачулка. Навокал было ціха. Пачаў павольна ссоўвацца ўніз. Некалькі разоў спыняўся і ўслухоўваўся. Раптам зачапіў нагой камень, які пакаціўся ўніз. Забава спыніўся…

Праз некалькі імгненняў пачуў гучны воплеск вады і амаль адразу... стрэл, а потым другі. Даляцелі воклічы: «Стаяць!», «Хто ідзе?..», «Стой, стой!» Забава, карыстаючыся вэрхалам унізе, спрытна і ціха ўскараскаўся назад на бераг яра… Праслізнуў ягоным ускрайкам на 200—300 крокаў далей, бліжэй да гасцінца. Перад ім раскінулася шырокая адкрытая прастора. Гэта была прасека, пасярэдзіне якой і праходзіла мяжа, а за ёй віднелася чорная сцяна лесу. І гэта быў ужо польскі бок.

Сагнуўся і без пярэдыху пабег. Бег, колькі мог, аж пакуль не апынуўся на мяжы. Ззаду ў цемры чуліся крыкі і стрэлы чырвонаармейцаў, якія ўсё яшчэ палявалі на неіснуючых там, як думалі, кантрабандыстаў.

Забава, цяжка дыхаючы, паглядзеў на межавыя слупы. Стаялі на невысокіх капцах, з дзяржаўнымі гербамі і нумарамі. Стаялі ціха, панура, нібы барацьбіты-спартсмены, якія засяроджана ацэньваюць свае сілы перад пачаткам паядынку. Спыніўся паміж імі і глядзеў у кірунку чорнай сцяны лесу. Учарашняя ноч і сённяшні дзень навучылі яго іншымі вачамі глядзець на мяжу, дарогу да яе і ўсё, што было з ёй звязана. Зразумеў, што перад ім яшчэ шмат таямніц, што доўга яшчэ будзе вымушаны набірацца вопыту, перш чым навучыцца лёгка чытаць у таямнічай кнізе мяжы і памежжа. Бо пакуль што ён толькі пачаў вучыць алфавіт. Пачуваўся аточаным невядомымі, хітра

замаскіраванымі ворагамі… Ускінуў угару руку са зброяй і пагразіў камусьці нябачнаму, схаванаму ў цемры…

З-за лесу, як злодзей з-за плоту, вызірнуў адным рогам месяц і, нібы зачапіўшыся за верхавіну хвоі, спыніўся. І нібы агледзеўся навокал. Забаву падалося, што нібыта месяц паглядзеў на мяжу і заўважыў там штосьці страшнае, ад чаго жахнуўся, хацеў схавацца назад за верхавіну, але было запозна, таму адчайна адштурхнуўся ад хвоі і, ныраючы ў халодных аблоках, марудна паплыў угару… Там схаваўся за вялікай хмарай…

* * *

У той час, калі Забава страляў у чырвонаармейцаў, у Менску, у першым «падвале» ЧК капітан Антасевіч «*Крот*» затаіўся пры дзвярах сваёй камеры, чакаючы, каб чырвонаармеец, які перад зменай пералічваў арыштаваных, іх адамкнуў. У руцэ Антасевіч меў камень. Вялікі, цупкі. План яго быў просты і адважны; ён верыў у *перспектыву* поспеху.

У калідоры грукнулі адны дзверы, другія, трэція… «*Крот*» нахіліўся. Дзверы з рыпам расчыніліся насцеж. З'явіўся чырвонаармеец з вялікім ліхтаром у руцэ. І тады «*Крот*» скокнуў наперад. Са страшнай сілай адным ударам каменя разбіў галаву жаўнеру, які цяжка, бы мяшок пяску, паваліўся на падлогу калідора, губляючы ліхтар і ключы. «*Крот*» уцягнуў яго ў камеру і пачаў здымаць з яго шынель, шапку і боты, каб пераапрануцца і выйсці на падворак.

* * *

Калі Забава страляў ва ўзброеных людзей, якія з'яўляліся ў дзвярным праёме будынка, «*Крот*» ішоў з ліхтаром і ключамі, пераапрануты пад каравульнага, у кірунку выхаду з падвала ЧК. Абмінуў пастаўлены ў калідоры стол і двух салдат, якія драмалі пры ім. Не звярнулі на яго ўвагі.

Выйшаў да лесвіцы. У гэты момант наверсе адчыніліся дзверы і ў іх паказаўся намеснік каменданта ЧК Бараноў, у суправаджэнні трох чэкістаў. Ішлі ўніз. Бліснулі ліхтары… «*Крот*» ішоў уверх. Сустрэліся пасярэдзіне сходаў. «*Крот»* хацеў абмінуць іх.

— Чаму ты сыходзіш з паста? — спытаў Бараноў.

— Я зараз… — невыразна адказаў «*Крот»*.

— Гэта ж «*Крот*»! Стой! — крыкнуў адзін з чэкістаў. «*Крот»* схапіў за кабуру, дзе быў наган, павешаны на поясе чэкіста; яму ўдалося вырваць зброю, але навалiліся трое. Пачалося змаганне. Прыбеглі чырвонаармейцы. Доўга не чыкаліся — прагучалі тры стрэлы. Уцякач сканаў.

Так скончыў жыццё «*Крот*» — Антасевіч — на чорных, брудных сходах падвала ЧК.

* * *

## ДЗЁННІК РАМАНА ЗАБАВЫ

*Воўкаўшчына, 17 верасня 1922 г.*

Не пісаў ад 1 верасня, хоць меў так шмат уражанняў. Знаёмствы мае штодня пашыраюцца. Усяго тройчы быў за мяжой (сёння раніцай вярнуўся з выведкі), а новых знаёмых магу лічыць на дзясяткі. Распавяду пра іх пасля…

Сёння на польскім баку здарылася ў мяне прыгода. Увечары выправіўся пехатою з Ракава ў Воўкаўшчыну. Гэта блізка, усяго 5 вёрстаў. За тры вярсты ад Ракава ляжыць даволі вялікая вёска Бузуны. Калі ўвайшоў у тую вёску і абмінуў некалькіх хат, з брамкі аднаго двара выскачыў вялікі, чорны сабака і кінуўся да ног, хочучы грызануць. Не цэлячыся, стрэліў з браўнінга, «сямёркі», які трымаў у кішэні пад левую руку. Сабака адчайна заекатаў, вярнуўся на падворак і пачаў там то выць, то пранізліва вішчэць.

Я ішоў далей. Ноч стаяла светлая. Месяц выкаціўся на неба, але ў вёсцы было цёмна. Вуліца ўяўляла сабой штосьці накшталт яра, на дне якога ўздоўж адхонаў цясніліся хаты. Пад нагамі чвякала суцэльнае балота, з якога дзенідзе вытыркаліся, замест ходніка, камяні і дошкі. Відаць, па іх вяскоўцы скакалі і балансавалі, ідучы вуліцай. Я спачатку пераскокваў з каменя на камень, але бачачы, што гэта толькі замаруджвае шлях, боты ж і так меў заляпаныя, пайшоў проста пасярод дарогі. Быў здзіўлены, калі заўважыў, што лягчэй ісці тут, дзе лужыны; было менш балота. Таму шлэпаў напрасткі.

Ззаду, з цемры чуліся злосныя, усхваляваныя галасы. Нейкія людзі ляпалі ў вароты, дзверы і вокны, выгукваючы па імю: «*Андрэй! Дзмітрук! Тамаш! Мікіта*!». Я зразумеў, што сяляне збіраюць хеўру, каб зладзіць на мяне паляванне — адпомсціць за падстрэленага сабаку. Прыспешыў крок. Праз некалькі хвілін за мной з'явіўся людскі натоўп.

Канец вёскі быў блізка. Мне рупіла акурат пра гэта. Я мог бы звярнуць управа або ўлева, але не хацеў выходзіць на невядомую мне мясцовасць. Ведаў, што на пагорку побач дарогі, паблізу вёскі, ляжыць ва ўпадзіне вялікі камень — даволі зручнае месца для абароны. Я прыкінуў — мясцовыя сяляне маглі мець агнястрэльную зброю, якой даволі шмат накралі і пахавалі падчас вайны і рэвалюцыі. У кожнай вёсцы можна было знайсці некалькі, а можа, і дзесяткі абрэзаў.

Калі выйшаў за вёску, ззаду паўмесяцам атачыў мяне густы ланцуг сялян. Імкнуліся перарэзаць мне дарогу. Пачуліся галасы: «Гэй, ты! тамака! Чакай, ну!» Я крочыў усё хутчэй… Дабраўся да каменя. Развярнуўся да маіх праследнікаў і некалькіх разоў стрэліў з браўнінга і парабелума. Чакаў адказу, але ніводны стрэл не пачуўся з іхняга боку… Заўважыў у полі толькі адзінокія постаці сялян, якія давалі лататы да вёскі.

Я прыкмеціў даўно, што сяляне жорсткія і любяць здзекавацца з палонных — злодзеем або якім-небудзь бандзюком-уцекачом, асабліва калі іх шмат, а ахвяра слабая і безабаронная. Але яны вялікія баязліўцы, калі сустрэнуцца з сілай, адвагай, упэўненасцю ў сабе. Умеюць альбо здзекавацца, калі іхняя перавага відавочная, альбо подла выцікоўваць, як бы ўкусіць, калі адчуваюць хоць бы найменшую рызыку. Прыніжаюцца і агідным чынам ліслівяць моцнаму, нават тады, калі той ад іх анічога не патрабуе і калі гэта ні да чаго не прывядзе.

У Воўкаўшчыне я вырашыў выспацца. Пачаставалі мяне, як звычайна, яечняй, якая сёння мне падалася выключна смачнай. Калі ўсе разышліся, пачаў, нягледзячы на стому, пісаць *дзённік*.

Дзесяць дзён таму, перш чым пайсці за мяжу, бачыў цікавы сон. Я стаяў самотны адзінокі на шырокім полі, свежа заараным у вялікія цёмныя скібы. Зямля была чорная. Неба нада мной шэрае, каламутнае і толькі ў адным месцы над небакраем было трохі яснейшае. Тая светлая паласа пашыралася ўсё больш і больш — быццам паўзла ўгару і раптам, нібы з нейкай ямы, выплыў месяц. Вялікі, светлы. Падымаўся ўгору вельмі хутка. Спыніўся. Раптам я заўважыў, што месяц мае чорныя вусы, закручаныя ўверх а-ля Вільгельм II, чорныя вочы і бровы. Я здзіўлена пазіраў на гэтую праяву. Месяц жа

са злосцю глядзеў мне ў вочы, пагрозліва моршчыў лоб і сцягваў бровы. Было мне цяжка… Пачуваўся адзінокім і безабаронным. Калі прачнуўся, засталося ўва мне пасля сна нейкае непрыемнае пачуццё. «Напэўна, гэтая выведка не пройдзе мне шчасліва, — падумаў я. — Здарыцца бяда». Быў амаль упэўнены ў гэтым. Але, уявіце сабе, усё мне спрыяла. Я зусім не блукаў. Ніякіх перашкод не меў. У Менску, Гомелі, Бабруйску ўсё было нармалёва. Вярнуўся таксама шчасліва. Вось вам і сны.

У Гомелі апынуўся на невялікай гулянцы, зразумела з самагонкай, за якую плаціў я. Было там некалькі вайскоўцаў, двое цывільных — савецкіх чыноўнікаў — і тры жанчыны, супрацоўніцы нейкай савецкай установы. Пілі і жартавалі, не саступаючы мужчынам, і паводзілі сябе больш пахабна, чым вулічныя дзеўкі. Заўважу, што гэта быў дзень нараджэння майго асведамляльніка. Вось там, «у сваім коле», пачуў новыя куплеты, якія даволі добра спяваў адзін з вайскоўцаў. Прывяду тут строфы, якія засталіся мне ў памяці:

*Лёва Троцкі — генерал,*
*Літаратар і палітык.*
*У яго нястрымны шал:*
*Ён паэт, філосаф, крытык.*

*То спявае пра траву —*
*То касой па той траве.*
*Кожны мае галаву,*
*Лёва Троцкі мае дзве.*

Надта выхвалялася спевам (больш не мела чым) адна з сябровак; брыдкая, па-мужчынску астрыжаная і якая на 90 працэнтаў нагадвала мужчыну. Спявала пад акампанемент гітары «*Жаночае раўнапраўе*».

*Маня будзе камісарам,*
*камісарам, камісарам,*
*Таня будзе сакратарам,*
*сакратарам, сакратарам.*

Пакуль што мая праца нудная і нецікавая. Незвычайных прыгодаў няма — ні самалётаў, ні падводных лодак, ні каркаломных пагоняў, ні кіламетровых падкопаў, ані ўскрыцця незгаральных сейфаў. Цяпер я інакш на ўсё гэта гляджу. Цікава, як будзе далей… Людзі любяць, каб іх падманвалі. Услаўляюць хлусню. Жыццё гэта не кіно, не фільм і не сенсацыйны раман. Там мужчына, пераапрануты пакаёўкай, падслухоўвае вялікія дзяржаўныя таямніцы, а ў жыцці: у цягніках, установах, на вакзалах — усюды плакаты: «Болтун — находка для шпиона». Мая праца — праца чорнарабочага выведкі. І я часам так напакутуюся за мяжой, што вырашаю кінуць гэты занятак, як нецікавы і нявыгадны — колькі той платы; калі ж па вяртанні і кароткім адпачынку падумаю пра яе, дык адчуваю дрыжыкі і зноў хочацца мне як хутчэй ісці туды, дзе рызыка. Магчыма, мяне пакуль што забаўляе навізна, а магчыма, засмоктвае звычка.

На сёння даволі.

*Баранавічы, 20 верасня 1922 г.*

Цікавая справа. Сёння мяне пратакольна дапытвалі наконт наступных пытанняў: калі папярэднім разам я вярнуўся з-за мяжы (назаві дакладную дату і гадзіну), на якім адрэзку зваротна перасягнуў мяжу (назаві нумары слупоў), ці ведаю агента Пятрова і ці сустракаўся з ім за мяжой. Падрабязна

адказаў на ўсе пытанні. Пра Пятрова адказаў, што чуў пра існаванне такога агента і трохі ведаю пра ягоную дзейнасць, але ніколі з ім не сустракаўся.

Дзіўная рэч. Што гэта значыць? Я не хвалююся, бо я ў парадку і заўсёды такім застануся (я не патраплю ў такую сітуацыю, калі стану аднначасова служыць двум багам), толькі вельмі цікава, чаму мяне гэтак распытвалі. Што, не давяраюць? Гэта для мяне загадка і трэба абавязкова яе разгадаць. Тут заўважу, што Пятроў адзін з самых легендарных агентаў нашай выведкі. Пра ягоныя прыгоды за кардонам проста цуды распавядаюць. Паходжаннем Пятроў расеец. Быў заслужаным афіцэрам Чырвонай арміі, а пасля вайны атрымаў пасаду камандзіра памежнай паласы. Гэта быў чалавек энергічны, шчыры, праўдзівы — кожнаму рэзаў «матку-праўду» ў вочы. Менавіта з гэтай прычыны меў даволі шмат ворагаў і непрыяцеляў, якія імкнуліся яго ачарніць перад вышэйшым начальствам. Да ўсяго Пятроў быў какаіністам, але за гэтым зеллем надта не ўлягаў. Не пагарджаў і гарэлачкай, але таксама з толкам. Меў сваю прыказку: «Пі, а справу рабі». Вось ворагі Пятрова так пакіравалі нейкай справай, што яго арыштавалі. Абвінавацілі ў вялікіх парушэннях і злоўжыванні службовым становішчам. Ведаючы, з кім мае дачыненне, ён не чакаў справядлівасці ад савецкай юрыспрудэнцыі, а ўцёк з кутузкі пагранатрада і перайшоў мяжу. У Польшчы атрымаў права на палітычны прытулак. Неўзабаве пачаў працаваць у закардоннай выведцы. Працаваў надзвычай умела, нават зухавата. Калі я толькі пачынаў сваю дзейнасць, ён быў ужо славутым агентам. Роўны яму быў толькі Ян Пялінскі, але які ўвесну 1922 г. трапіў у кіпцюры ЧК у выніку здрады аднаго з найбліжэйшых паплечнікаў. Вось што гэтулькі і ведаю пра таго Пятрова.

Кола маіх знаёмых на радзіме таксама пашырылася, і ў мяне ёсць, насуперак маёй канспіратыўнай натуры, некалькі знаёмых сярод агентаў закардоннай выведкі. Не буду пра гэта пісаць, бо гэта не мае да мяне асаблівага дачынення.

Калі прыехаў у Баранавічы, дык зноўку спыніўся ва Уладзіка Каліса. Не паспеў прывесці сябе ў парадак, як прыйшоў Палкоўнік.

— «*Мы на горе всем буржуям мировой пожар раздуем*», — раўнуў ад парога цытатай. — Ну, як там ідзе паглыбленне рэвалюцыі? Бібліятэкі ўсе спалілі? Раялі, люстры ўсе пабілі?

Даў яму дзве васьмушкі махоркі. Палкоўнік усцешыўся, як дзіця цацкай.

— Толькі махорка там нечага і вартая, — казаў, напіхваючы крупкай кароткую люлечку, — ну і тытунь, усе астатнія — свінства.

Уладзік пайшоў па гарэлку, а я паказаў Палкоўніку фотаздымак Лізкі.

— Ты казаў, што з цябе добры фізіянаміст, дык вызначы мне характар гэтай «цыганкі». Цікава пачуць меркаванне спецыяліста.

Ён доўга і ўважліва ўглядаўся ў выяву Лізкі, то набліжаючы, то аддаляючы партрэт на даўжыню рукі.

— Якога колеру валасы? — спытаў неўзабаве.

— Светлыя.

— Бачу, што светлыя, але мяне цікавіць адценне.

— Пераходзяць у залаты колер.

— А вочы?

— Таксама залацістыя.

— Каціныя?

— Так… ёсць у іх нешта… тыгрынае…

— Гм… Што я табе скажу? Сам, мабыць, лепей бачыш: вочы злёгку прымружаныя, таямнічыя, выраз мае гэткі таксама няўлоўны нейкі. Уся яе таямніца ў тым, што мае сто палюбоўнікаў, а пра сто першага марыць…

— Ды яна дзяўчына… Амаль дзіця.

Палкоўнік засмяяўся.

— Я табе не распавядаю: што было, ёсць альбо будзе. Я не варажбітка. Я табе паказваю схільнасці і ідэнтыфікую характар з яе вонкавых рысаў. Тут найпершую ролю адыгрывае інтуіцыя. Можа быць цнатлівіцай, а мець душу разбэшчанай распусніцы. Гэта куртызанка… У яе павага толькі да сілы і бізуна, а да пакоры — пагарда. Жорсткасць з яе зробіць чалавека, хіба так. А пяшчота, далікатнасць яе пацешыць… Яна з тых практычных жанчын, якія ніколі не прывязваюцца сэрцам, толькі целам, але ненадоўга. Найдаўжэй розумам… Як котка: цёпла, утульна — варкоча, спіну выгінае, хвост угару; холодна, галадна, мокра — кіпцікі атрасе, чмыхне… і *adieu*, Фрузю… Любіць, каб усё кідалася ў вочы: мішуру, паставу, гучныя словы, а найперш сябе, сябе, сябе… Свае вочы, твар, валасы, вусны, усё цела, якое лічыць боскім дарам чалавецтву. Найбольшае задавальненне для яе -— знаходзіцца сярод мужчын якія абагаўляюць яе. Яна хоча адчуваць на сабе цяжкія, пажадлівыя, драпежныя, каламутныя ад юрлівасці пагляды самцоў.

— Хм, — хмыкнуў я.

— У яе разуменні свет існуе толькі дзеля таго, каб быць фонам для яе прыгажосці, мужчыны — каб ёй захапляцца і яе прагнуць, -— не спыняўся Палкоўнік. — Усё прымае за чыстую манету… Кожную ліслівасць… Што табе яшчэ сказаць?..

— Досыць — падзякаваў я яму трохі пакрыўджаны. — Некаторыя азначэнні характару былі вельмі трапныя, але беспадстаўныя.

— Правільна, — прамовіў ён, — каб вынесці справядлівы прысуд, трэба пуд солі з’есці з чалавекам. Але ёсць тыповыя ўзоры і агульныя прынцыпы, якія даюць нам магчымасць вызначыцца. У тваім выпадку тып вельмі яркі і… прабач, даволі пляскаты; як кружэлка. Мелкаватая натура, што паробіш, не крыўдзься. Яна, як сагрэтая сонцам плытнеча ў невялічкай рачной затоцы; далей у рацэ ёсць цёмныя глыбіні, невядомыя плыні, халодныя, таямнічыя, а пры беразе цёплая вада, што цячэ лена, прыемная для цела, але нясмачная... — Палкоўнік задумаўся. — І нават шкодная.

Вярнуўся Уладзік, і гутарка перайшла на іншае. Мяне заўсёды цікавілі меркаванні Палкоўніка пра людзей, паколькі былі каларытныя, шчырыя, і найчасцей надзвычай трапныя. Я дзялю людзей на вельмі нешматлікія катэгорыі, але і гэта не заўсёды. Бачу чалавека, ён падаецца мне культурным і высакародным. Пазнаёмлюся з ім бліжэй — звычайны, нудны; яшчэ бліжэй яго спазнаю — выявіцца, што гаваркі, таварыскі, бескарыслівы. Гэтак працягваецца вельмі доўга і кожны раз той самы чалавек здаецца мне іншым. Што да майго стаўлення да людзей наогул, акрэслю коратка: у мяне чалавек, нягледзячы на нацыянальнасць, веравызнанне, адукацыю, пасаду, заможнасць, выгляд, тады нечага варты, калі жывучы ў пэўным асяроддзі, не шкодзіць блізкім з таго асяроддзя, але ў меру сваіх сіл і таленту стараецца быць для іх карысным. Гэта здаецца самай справядлівай адзнакай каштоўнасці чалавека, адносна да групы, да якой непасрэдна прыналежыць.

Я прыкмеціў за сабою, што маю ўсё большую цягу да авантурніцтва. Часам гэта пераходзіць усе разумныя межы. Дайшло да таго, што пачаў правакаваць скандалы нават цвярозы.

Палкоўнік, які быў сведкам аднаго сапраўднага дэбоша, учыненага мною на рынку, паведаміў пазней, што жадае пазнаёміць мяне з пэўнымі жанчынамі. «Не такімі як твая Лёлька, — дадаў неўзабаве, маючы на ўвазе маю выпадковую палюбоўніцу, — толькі з такімі, якія могуць станоўча паўплываць на цябе, бо ты робішся дзікім». Увечары ён узнавіў прапанову пайсці ў тое, як

выказаўся, лепшае таварыства. Уладзік яго падтрымаў. Гэта мяне раззлавала:

— Што значыць «лепшае таварыства»? Не жадаю быць ціхмяным і добранькім. Хачу быць горшым.

Увечары пайшоў да Лёлькі і ў гатэлі, дзе яна стала жыве, закаціў гэткі скандал, учыніў такое буянства, са стралянінай, ламаннем мэблі і біццём шыбаў, што здарэнне прызналі вартым афармлення паліцыйскага пратакола. Паперу накіравалі майму начальніку... Ат, мне ўсё адно.

У гэтай Лёлькі я, сам таго не жадаючы, забіў вожыка. Яна па ім гэтак плакала і мне самому зрабілася вельмі шкада ні ў чым непавіннага звярка. А здарылася наступнае. Пасварыліся мы з-за драбязы, з-за поўнага глупства. Яна ў пасцелі пачала дэманстраваць ногі, залётна пытаючыся: «Ну як, прыгожыя?» Я скрывіўся: «Што тут прыгожага? Лапы як лапы». Яна ў адказ засмяялася і спытала: «А чаму так ты горнешся да іх?» Не ведаю чаму, але гэта мяне раз’юшыла. Слова за словам — пачалася сварка. Сказаў ёй штосьці крыўдлівае. Страшэнна абурылася і пачала спіхваць мяне з ложка. Я устаў, сцягнуў коўдру, разаслаў яе на падлозе, паклаў пад галаву некалькіх кніг і накрыўся сваім плашчом. Амаль заснуў, калі пачуў, што каля мяне штосьці поўзае і варушыць плашч; памацаў — вожык; калючы, зараза. Адпіхнуў яго. Зноўку лезе... Быў гэта спешчаны ўлюбёнец Лёлькі. Я раззлаваўся; намацаў на падлозе Лёлькін чаравік і некалькі разоў стукнуў у цемры наўздагад, хочучы адпудзіць вожыка, каб не перашкаджаў мне спаць. Аніяк не меркаваў, што можна такім чынам яго забіць. І ніколі б гэтага не здарылася, калі б небарака не верыў залішне людзям. Не згарнуўся ў клубок і, відаць па ўсім, адзін з маіх udараў патрапіў яму ў нос. Раніцой я прачнуўся ад Лёльчынага плачу. Усхапіўся на ногі. Што здарылася? Гляджу, а вожык ляжыць лапкамі набок. Небарака спруцянеў. Я ніяк не мог суцешыць Лёльку. Мажліва, гэта быў адзіны, бескарыслівы ейны сябар. Мушу абавязкова даведацца, дзе можна купіць вожыка... Шкада Лёлькі, шкада і вожыка. Колькі благога людзі робяць жывёлам. Адны праз жорсткасць, другія здуру, іншыя праз няўвагу. Я люблю жыўнасць, і гэткае зверства над вожыкам адтрымалася выпадкова, ад няўважлівасці.

*Ліда, 24 верасня 1922 г.*

Трэці дзень у Лідзе. Паабяцаў братам Сноўскім прыехаць да іх і стрымаў слова. У Баранавічах было сумнавата. Лёлька ўсё плакала па Ерыку (так звала вожыка), а Палкоўнік і Уладзік усё імкнуліся адвесці мяне ў «лепшае таварыства», каб утаймаваць мае буянствы. А я гэтага не жадаю... Ісці да прыстойных дзяўчат, дык я не ўмею ні элегантна апранацца, ні казаць гладкіх фраз. Манеры мае жадаюць лепшага, магу на бяду ляпнуць такое глупства, што... ого-го! Навошта мне гэта?.. Не ўсе памяркоўныя... Таму сеў я на цягнік і гайдануў у Ліду.

Браты Сноўскія вельмі ўсцешыліся майму прыбыццю. Гэта мае выпрабаваныя сябры, а з Янкам я меў нават агульныя, даволі цікавыя прыгоды.

Бавімся цэлымі днямі, а потым ідзём на вячоркі, дзе збіраецца вясёлая, непрэтэнцыёзная моладзь. Калі занудзімся, выпраўляем настрой гарэлкай… Я заляцаюся да Гэлі, дачкі гаспадара, у якога яны жывуць. Частую яе цукеркамі, ходзім у кіно, чулліва сціскаю ёй ручку… І гэта ўсё — не ведаю навошта. Абы нешта рабіць, што робяць і іншыя.

Дні ляцяць. Толькі часам, як у дзікім карагодзе, перад вачыма праносяцца абрысы людзей «адтуль». Прыгадаецца мяжа, праца, якую неўзабаве буду працягваць. І зноў — піць, гуляць, пакуль жывы. У мяне неблагі голас, і я люблю спяваць. Часта, падпіты, бяру ў рукі гітару і спяваю песенькі — пераважна турэмныя… І не прыдуманыя шлягеры, але даўнія, якія ўзніклі на катаргах,

астрогах, цэнтралах. Заўважыў, што найболей мне падабаецца адна, некалькі пачатковых строф якой прывяду:

*Маці, маці, помню я:*
*Ты мяне любіла*
*І пяшчотай поўніла,*
*Ледзь неўплач прасіла:*
*Не хадзі з басотай, сын,*
*А хадзі з панамі,*
*Бо з басотай, сын — Сыбір,*
*Доля з кайданамі.*

Калі быў п'яны, а слухачоў меў неперабарлівых, спяваў так выдатна, што ўкладваў у выкананне шмат пачуцця. Гэлька захаплялася гэткімі песнямі і заўжды прасіла, каб я абавязкова перапісаў для яе адну, якая асабліва ёй падабалася «*Далёка ў Іркуцкім краі*».

Часам мне гэтак журботна, гэтак сумна, гэтак прыгнечана. Хочацца або біць, ламаць, мяжджэрыць усё, што стане на шляху, або ўчыніць нешта добрае для ўсіх людзей. Такое, што зрабіла б іх усіх шчаслівымі. І каб мне за тое не дзякавалі, каб гэта выглядала зусім натуральна і бескарысліва. Калісьці, маючы гадоў 13, выцягнуў я з вады на Бярэзіне яўрэйчыка, які тапіўся. Некалькі хлопчыкаў глядзела на тое, як ён крычаў і нібы хапаўся рукамі за ваду. Быў спачатку я абыякавы, а потым ахапіла мяне нейкая гарачая хваля. Жудасны страх тапельца гэтак працяў мяне, што я кінуўся ў ваду на дапамогу, каб выбавіць яго ад таго страху. Так мне бачыцца тое праз смугу гадоў. Іншыя можа таму і не пасьпяшаліся таму яўрэйчыку на дапамогу, што не адчулі ягонай той пакуты. Я плаваў добра, але ён гэтак мяне схапіў, што я ледзьве трымаўся на вадзе. Іншыя хлопцы глядзелі і глядзелі на нас. Апамяталіся; схапілі са стосаў некалькі дошак (паблізу быў тартак) і кінуліся на дапамогу. Калі ўрэшце ўсё абышлося, і той дзяцюк апамятаўся і апрануўся, дык нояк няскладна дзякаваў нам. Адышлі мы амаль збянтэжаныя. За вялікія паслугі не трэба дзякаваць, бо яны з'яўляюцца шчасцем для тых, хто іх здзейсніў; гэта апраўдвае іхняе існаванне і падымае ў іхніх вачах іхную ж вартасць.

Цяжка, вельмі цяжка жыць годна ў гэтым звар'яцелым свеце. Адны не жадаюць, хоць і могуць, іншыя жадаюць, і не могуць, рэшта зусім над такімі рэчамі не задумваецца. Можа, найлепей глядзець на ўсё паводле рэцэпта Палкоўніка: праз шкло пляшкі, у якой боўтаецца што-небудзь моцнае.

*Ракаў, 30 верасня 1922 г.*

Учора раніцой прыехаў у Воўкаўшчыну. Прывіталі мяне, ледзь не сумеснымі паклонамі, тры браты Каліноўскія. Натуральна, накармілі яечняй і абвясцілі навіну:

— А ў нас бальшавіцкая банда прайшлася.

— Дзе, калі? — спытаўся я, здзіўлены, бо дагэтуль увогуле не чуў пра дзейнасць дыверсійных атрадаў з «таго» боку.

— У Бузунах прайшлі… Солтысу сабаку падстрэлілі…

Зразумела, чыіх рук гэта справа.

— Няўжо вялікая банда? — спытаў я Каліноўскіх.

— Больш як дваццаць чалавек, — сказаў Браніслаў.

— З гранатамі, стрэльбамі, левальвэртамі, — дадаў Юзаф. — Стралялі ў бузуноўскіх сялян… Хацелі вёску спаліць…

У той вечар адбылося здарэнне, якое магло мець наздвычай непрыемныя наступствы. Мяркуючы, што спынюся ў Воўкаўшчыне, я прывёз некалькі

бутэлек спірту. Зладзіў гулянку і спаіў гарэлкай усю сям'ю, нават жанчын; сам таксама быў моцна п'яны. Адвячоркам малодшы з братоў, Адам, выклікаў мяне на падворак па «вельмі важнай справе» і таямніча абвясціў:

— У Меляховіча ў склепе сядзяць людзі. У кайданках. Б'е іх, голадам морыць… Плачуць і енчаць удзень і ўначы. Каб гэта вы як іх вызвалілі… Вы ж маеце зброю. Можаце гэта зрабіць?

Я абурыўся і загадаў Адаму, які казаў ужо, што Меляховіч бальшавіцкі камісар, весці мяне туды.

Меляховіча дагэтуль я не ведаў. Як праз сон памятаю, што рабілася далей. Апынуўся ў нейкім памяшканні, дзе ўбачыў перад сабой мужчыну сталага веку, які выглядаў вельмі паважна.

— Рукі ўгору! — скамандаваў я ад парога.

Той выканаў загад. Я вывеў яго на падворак, паставіў пад варотамі велічэзнай стадолы і адмераў 20 крокаў. Напэўна, неадкладна яго расстраляў бы. Прагнуў гэтага… Якая вар'яцкая думка можа прыйсці ў замглёную гарэлкай мазгаўню? Каля мяне мітусіліся нейкія дзяўчаты (мабыць, дочкі Меляховіча) і ўмольвалі падараваць бацьку жыццё. Здолелі адвесці мяне ў бок і бацьку некуды схаваць.

Назаўтра раніцою вырушыў у Ракаў. З Адамам я больш не размаўляў, бо ўстаў вельмі рана. Не магу зразумець: навошта ён справакаваў такую авантуру, якая магла мець фатальныя наступствы, калі не для мяне, дык для Меляховіча. Нельга растлумачыць гэта нават тым, што быў я п'яны. У будучым трэба мне гэта высветліць.

Я ў карчме ў Малкі, спрытнай габрэечкі сярэдняга веку. Вычысціў зброю і прывёў у парадак рэчы. Маю 15 грамаў какаіну «*Мэрцка*» ў трох малых, жоўтых бутэлечках, па 5 грамаў кожная. Гэта не для мяне. У Менску, падчас нямецкай акупацыі, спрабаваў нюхаць какаін, але неўзабаве кінуў тое.

Заканчваю. Заўтра я іду «туды».

## IV. «БАЛБАТУН — ЗНАХОДКА ДЛЯ ШПІЁНА»

*«Я той (дастае пасведчанне), хто можа кінуць за краты цябе, твайго каня, твой воз і ўсю тваю сям'ю…»*

В. Гамуліцкі, «Пры сонцы і пры газоўцы»

### 1

Было вельмі ціха; гэтак ціха, што найменшы шоргат можна пачуць з вялікай адлегласці.

Забава, перабраўшыся праз мяжу і перайшоўшы яр і рачулку, зразумеў, што можа лёгка трапіць у пастку, калі пойдзе далей у ботах. Адрэзак гэты быў густа абсаджаны межавай аховай і добра вартаваўся на тылах, а ў лесе цяжка засцерагчыся, каб якая галінка, сухі дубчык не трэснуў пад нагамі — як здавалася чалавеку, які крадком прабіраецца праз лес — з гукам стрэлу. Забава сеў, сцягнуў боты і засунуў іх халявамі ззаду за пояс, абцасамі ўгару. Толькі тады пайшоў у шкарпэтках далей, не робячы аніякага шуму.

«Цяпер не пачуюць і толькі тады мяне заўважаць, калі на карак ім узлезу», — думаў Забава, задаволены сваёй прыдумкай.

Калі ён прамінуў некалькі вытаптаных сцяжынак і ўжо быў непадалёку ад другой лініі, пачуў шоргат адзення і крокі людзей, якія хадзілі недзе зусім

недалёка. Прысеў і некалькі хвілінаў услухоўваўся. Несумненна, невядомыя няспынна пасоўваліся ў напрамку да яго. Часам трэскалі сухія галінкі пад іхнімі ступакамі. «Можа, кантрабандысты?» — быў падумаў, але адразу адкінуў гэтую здагадку, бо ведаў, што кантрабандысты ў такое надвор'е не ходзяць за мяжу, а калі ідуць, дык праз палі, па адкрытых прасторах, дзе можна ісці без шуму і дзе ў выпадку небяспекі лягчэй уцячы. Зрэшты, шоргат чуўся то там, то тут, далятаў аднекуль здалёк. Забава не ведаў, што гэта савецкая памежная ахова праводзіла начныя вучэнні. Пачаў адсоўвацца назад да мяжы, але неўзабаве заўважыў, што і адтуль рухаюцца нябачныя ў цемры людзі. Зразумеў, што знаходзіцца паміж двума ланцугамі, якія ішлі сабе і ішлі насустрач. Успомніў, што хвілін дзесяць таму чуў на мяжы тры стрэлы, а на другой лініі — свісткі. Спачатку надумаўся ўзлезці на вялікае дрэва і там перачакаць, пакуль не пройдзе ланцуг, але разважыў, што калі яго заўважаць, будзе яму капец на месцы, бо не змог бы ні адстрэльвацца, ні куды сігануць. Тым часам шум крокаў і трэск лаўжоў зрабіўся гучным і выразным. Марудзіць нельга было ні секунды. Пайшоў направа ў гушчар маладых ялін; паблізу іх таксама чуўся шоргат… Ціхутка адышоўся, прытуліўся ў гушчыні хмызняка. І тут яму ў галаву прыйшла думка, якую зараз жа выканаў: паклаў паміж кустамі кішэнны ліхтарык, уключыў яго і пакінуў рэфлектарам дагары. І адразу адышоў адтуль на крокаў дзесятак, дзе засеў за кустоўем. Падрыхтаваў зброю.

Шоргаты, шум крокаў, трэск галін усё выразней разлягаліся вакол… А непадалёк яркі сноп святла нахабна біў угару, выхопліваючы са змроку цёмныя ствалы дрэў і чорныя лапы ялін. Павінен быў добра бачны з вялікай адлегласці. Адразу пачуўся свісток. Затупацелі шпаркія крокі. Потым паблізу ліхтарыка прагучэлі ўсхваляваныя галасы:

— Што гэта? Хто свеціць?

— Патушыць святло! Які сукін сын уключыў ліхтар?

Тут жа ля Забавы прасунуўся чалавек у доўгім шэрым шынялі, з вінтоўкай напагатове. Забава скіраваў у ягоны бок рулю парабелума.

Паблізу ліхтарыка пачалі збірацца людзі. Чуліся праклёны і моцныя мацюкі. Забава падняўся і паціху падаўся ў кірунку другой лініі — на ўсход. Ішоў і бязгучна смяяўся. Шкада было яму толькі ліхтарыка. «Нічога, — разважаў, — адслужыў сваё». Боты абуў толькі за другой лініяй, за рачулкай.

* * *

На паўдарозе паміж Ракавам і Менскам паабапал гасцінца месціцца Старое Сяло. Забава ведаў, што там можа наткнуцца на каго хочаш — і на чэкіста якога, і на пагранца. Толькі першым разам, выбіраючыся за мяжу, крочыў дарогай праз вёску, потым абыходзіў паселішча, абмінаючы яго палямі. Тым разам абмінуў яго злева, ідучы па ўзгорыстым адхоне.

Быў ужо пачатак на адзінаццатую гадзіну. Ноч стаяла гэткая ж цёмная, як з вечара, але вочы Забавы, звыклыя да цемры ў лесе, добра такі адрознівалі мясцовасць, хоць у полі было значна святлей. Прамінуў Старое Сяло і зноў адчуў пад нагамі гасцінец. Тут дарога была зручнейшая. Пайшоў шпарчэй. Да лесу заставалася амаль кіламетр; лес той цягнуўся аж на чатырнаццаць вёрст. А далей, амаль да самога Менска, дарога ішла адкрытымі палямі, толькі дзенідзе былі пасаджаны дрэвы, раслі купкі кустоўя. Месцамі пракідаліся лясы, якія лучыліся між сабою і складалі частку Архірэйскага лесу.

Забава ішоў паспешна, выбіраў сухія месцы, бо дарога, пасля апошніх дажджоў, складалася амаль з адных лужын… У пэўны момант яму здалося,

што правей дарогі нешта заварушылася. Спыніўся. Доўга і асцярожна глядзеў у тым кірунку, аднак анічога не заўважыў.

«Падалося», — падумаў і гэтак жа паспешліва рушыў далей. Калі наблізіўся да таго месца, дзе, як яму здалося, заўважыў нейкі рух (гэта было па правым баку дарогі, а ён ішоў па левым), убачыў на адлегласці ад дарогі ў шырыню гасцінца, два слупы. Засмяяўся сам сабе са сваёй памылкі, але каб мець стопрацэнтную пэўнасць, у некалькі скокаў сягнуў па гразі на другі бок гасцінца і неўзабаве ўбачыў перад сабою двух мужчын у доўгіх, шэрых плашчах.

— Рукі ўгору! — крыкнуў Забава, скіроўваючы на першага рулю рэвальвера.

Паслухмяна ўскінулі рукі ўгару.

«Салдаты ці кантрабандысты?» — думаў Забава, набліжаючыся да іх.

— На калені! — рыкнуў пагрозліва.

Паслухмяна выканалі загад, кленчачы ў брудзе.

— Зброю маеце? — спытаў Забава.

— Не… не маем…

— Хто вы, адкуль?

— Мы… мы, таварышу, з-пад Кучкуноў…

— Кантрабандысты? — строга дапытваў Забава.

— Таварышу, адпусціце нас… Дамо дзесяць рублёў золатам.

— А што ў заплечніках?

— Скуркі…

— Футра? Так?

— Так… Мардэры, фіёлы…[1]

— Здымайце заплечнікі!… Кідай!

Паспешна знялі заплечнікі і кінулі іх у гразь.

— Таварышу, вазьміце дваццаць рублёў і пусціце нас! Ніколі ўжо больш не пойдзем! — прасілі яго кантрабандысты.

— Ну, гайда! Уцякайце! І жыва!..

Паўтараць ім ці падганяць іх не спатрэбілася. Зніклі з дарогі, нібы бясследна растварыліся ў цемры. Забава падняў кінутыя мяшкі, закінуў іх на спіну і пайшоў у кірунку лесу. Там сышоў з дарогі і развязаў пакункі. Намацаў рукой цёплую бухматую поўсць.

«Што ж з гэтым зрабіць?» — падумаў.

Чуў пра тое, што скуркі носяць з Саветаў у Польшчу, зарабляючы на тым сто—дзвесце працэнтаў. Можна крыху зарабіць. Але ж не несці іх назад у Менск. З цяжкасцю спакаваў усё ў адзін мяшок і пайшоў углыб лесу. Праз сто крокаў ад гасцінца ўзлез высока на густую елку і ўвязаў пакунак між галінаў. Пашыбаваў далей. Забярэ на зваротным шляху.

«Каб толькі не знайшоў які д’ябал», — падумаў пасля. Спыніўся. Хацеў вярнуцца, каб пераканацца, ці добра схаваў сваю здабычу, але ўспомніў, што не мае ліхтарыка. Махнуў рукой і пайшоў далей.

## 2

У адным куце вялікай залы стаяла незгаральная шафа, дзверцы якой былі прачыненыя. Перад ёй стаяў вялікі стол, завалены паперамі, а за сталом

[1] Мардэры — куніцы; фіёлы — алтайскія вавёркі (заўвага перакладчыка).

сядзеў старшы штабны афіцэр Чырвонай Арміі. Паблізу высіліся велізарныя шафы, займаючы ўсю сцяну, на якой высока пад столлю віселі партрэты Маркса, Леніна і Троцкага. Паміж імі струменіла сваю чырвань пяцікутная зорка. Біла ва ўпор. Са сценаў тлустым шрыфтам крычалі плакаты: «*Увага — шпіён падслухоўвае», «Балбатун — знаходка для шпіёна», «Зрабіў справу і бывай», «Уся ўлада Саветам», «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся*». У іншых частках залы працавалі яшчэ тры вайскоўцы, а пры дзвярах парушала цішыню машыністка.

Афіцэр, які сядзеў пры металічнай шафе, чытаў нейкія паперы і падняў на Забаву запытальны позірк. Забава мякка ўсміхнуўся і нахіліў галаву наперад.

— Таварыш, калі я не памыляюся, Марозаў?

— Так.

Забава ўздыхнуў, усміхнуўся яшчэ весялей і прыціскаючы правай рукой да сцягна парабелум, сказаў прыглушаным голасам:

— Прывітанне ад жонкі і дачкі… Расце дачушка, расце і хораша выглядае… па тату тужыць. Бацька таксама перадае прывітанне…

Цёмныя вочы афіцэра выказвалі незвычайнае здзіўленне — з нямым запытам упіліся ў аблічча Забавы. А той казаў яшчэ весялей, жмурачы халодныя, рашучыя вочы.

— У мяне лісточак для таварыша… Прасілі ўручыць…

— А дзе тав... — не скончыў слоў, — бачыў іх?

— Дзе?.. Таварыш неяк дзіўна пытае… Вядома, дзе… Акрамя лісточка я маю і іншыя даручэнні… ве-е-льмі цікавыя! Але я жадаў бы сам-насам, бо гэта нібы сакрэт… справы сямейныя… Калі таварыш мае час, дык мы прайшліся б дзесьці...

Афіцэр, у званні камбата, нервова падняўся. Сабраў частку папер і зачыніў іх у сейфе. Рэшту папер схаваў у шуфлядах стала. Звярнуўся да аднаго з вайскоўцаў, якія сядзялі ля акна:

— Калі хто прыйдзе, дык вы, таварыш, задавольце. Альбо няхай прыходзяць заўтра… У мяне пільная справа…

Той у адказ хітнуў галавой і, чытаючы нейкую кнігу, далей са смакам грыз аловак.

Выйшлі на вялікі двор, а адтуль сходамі ўгару на другі паверх камбат завёў Забаву ў кватэру, якая складалася з двух вялікіх прасторных, але безгустоўна мэбляваных пакояў.

— Садзіцеся, калі ласка — паказаў Забаву плеценае трысняговае крэсла.

Забава падаў яму запоўнены дробным почыркам аркуш паперы.

— Гэта ліст ад вашай жонкі.

Камбат сквапна схапіў працягнуты яму запэцканы аркуш паперы і, звёўшы бровы, чытаў дробны, невыразны почырк. Забава пільна ўзіраўся яму ў вочы… Указальны палец яго правай рукі ляжаў на спускавой скабе рэвальвера.

— Вы былі ў нас?

— Быў.

— У кватэры?

— Так… вы напэўна жадаеце ведаць некаторыя падрабязнасці? — усміхнуўся Забава, адгадваючы думку камбата, які відавочна не верыў таму, што ён быў у кватэры яго бацькоў у Польшчы, асцерагаўся падману.

— Так… Даўно я не быў дома! Даўно…

— Кватэрка прыгожая… з параднага ўваходу чатыры пакоі. Бачыў ваш кабінет і адлітага з жалеза каня, на пісьмовым стале… І ваш замежны пашпарт, якім карысталіся пры царызме. Цікавіць мяне: што скажаце пра змест ліста?

— Тут пішуць, каб дапамог Вам у тым, чаго патрабуеце. Настойваюць на гэтым.

— Менавіта… Патрэбна мне пэўная інфармацыя… Ваенная… Спадар разумее?

— Адкуль я магу быць упэўненым, што спадар…

— Не чэкіст? — дакончыў Забава.

— Так, не чэкіст? — пацвердзіў камбат.

— А мая інфармацыя?…

— Той ягамосць, які быў у нас, мог быць злоўлены і…

— …І ўсё выдаць? Так? Не, я прысланы замест яго.

— Вы хутка арыентуецеся!

— Менавіта гэта сведчыць, што я не чэкіст. Ім уласнай арыентацыі мець нельга… Можа, прапануеце шклянку вады!

— Зараз.

Камбат выйшаў у суседні пакой і там забрынкаў шклянкамі. Забава імгненна са стоса кніг на стале выняў тоўсты сшытак. Разгарнуў яго і вылупіў адзін аркуш такім чынам, каб пры карэнчыку засталася вузкая палоска адарванай паперы. Неўзабаве камбат вярнуўся і падаў паўнюткую шклянку. Забава з неахвотай выпіў цёплую нясмачную ваду.

— Можа яшчэ?

— Не, дзякуй. Вернемся да нашай размовы. Мне важна, каб вы абсалютна пераканаліся ў тым, што я — я, а не нейкі там чэкіст! — сказаў Забава. — Палічым, што дагэтуль ніякіх грахоў на сумленні спадар не мае. А калі б іх мелі, ЧК такімі метадамі не карысталася б, бо гэта магло б Вас спудзіць. Яно лагічна, так?… У выпадку падазрэння найперш пачалі б за вамі сачыць. Ці не так?

— Так…

— А калі б гутарка ішла пра штучны доказ вашай віны, хапіла б вось гэтай карткі. — Забава паказаў яму на толькі што вылуплены са сшытка аркуш паперы.

— Не разумею.

— Не разумееце? Дык глядзіце.

Забава выняў са стоса кніг сшытак і прымерыў выдраны ў ім аркуш.

— Падыходзіць? — спытаў з усмешкай.

— Так.

— Дык вось, я мог бы запоўніць гэты аркуш вядомай мне інфармацыяй, нібыта ад вас. Кватэру я ведаю. А калі далучыць да гэтага лісты з Польшчы, дык няўжо для Рэўтрыбунала патрэбныя лепшыя доказы вашай віны?

Камбат доўга дапытліва глядзеў у вочы Забавы, а потым уздыхнуў і сказаў ціха:

— Добра… Рызыкну… Будзем гаварыць адкрыта.

Быў позні вечар, калі Забава выйшаў з будынка, дзе месціўся штаб 5 Корпуса ў Магілёве. Разам з ім выйшаў камбат. Быў спакойны, і нават вясёлы. Пасля працяглай гутаркі з Забавам быў гатовы на ўсё. Забава акрэсліў перад ягонымі вачыма даволі аптымістычную будучыню, і камбат гатовы быў лічыць за выключнае шчасце тую акалічнасць, што менавіта яму выпала доля рабіць тое, да чаго яго схіліў Забава. Так загарэўся да гэткага занятку, што пачаў нават самастойна даваць парады. Забава яго супыняў.

— Паволі. Не так горача! Мы будзем працаваць як дасведчаныя канспіратары, а не як хлапчукі. Нам трэба разлічваць кожны крок, прадбачыць кожную небяспеку, бо заляцець нам нельга… Што да мяне, дык можаце быць пэўным — я не засыплюся! Прынамсі, жывым мяне не возьмуць, а калі б гэта

нейкім цудам сталася, дык спадар можа быць упэўнены ў сваёй бяспецы. Я не з тых, з якіх можна штосьці выбіць ці там здабыць іншым якім катаваннем.

— Калі мы ўбачымся наступным разам?

— Праз два тыдні… Калі буду пісаць да спадара, дык — як дамовіліся — шыфрам. Ключ памятаеце?

— Так.

— Таму развітваюся. Прашу быць вельмі абачлівым.

— Шчасліва!

Моцна паціснулі рукі, і Забава пайшоў у кірунку прадмесця, прылеглага да Дняпра. Меў там знаёмых, да якіх мінулым разам прывёз ліст ад сваяка з Бабруйска. Запрасілі яго падчас прыездаў у Магілёў, каб жыў у іх. Забава цяпер скарыстаў ласкавае запрашэнне.

Гэта была шматлікая сям'я згалелай інтэлігенцыі, якая ледзьве магла пракарміцца, карыстаючыся дапамогай сваякоў на вёсцы.

## 3

Калі Забава ўвайшоў у кватэру Скальскіх, найперш заўважыў незнаёмага мужчыну гадоў 35, высокага росту, з цёмнымі, з усходнім разрэзам вачамі, які нядбайна разваліўся на крэсле за сталом. Апрануты быў у чэркеску, і нягледзячы на тое, што знаходзіўся ў кватэры, не зняў з галавы высокай, заламанай набакір каракулевай шапкі з чырвоным верхам. На шапцы паблісквала невялікая эмаліраваная чырвоная зорачка… Мода такая ў Саветах у тыя часы.

«Што за д'ябал?» — думаў Забава, вітаючыся з маладым Уладзімірам Скальскім і дзвюма старэйшымі сёстрамі Скальскага, Зінай і Маняй, якія ажыўлена гаманілі з мужчынам у чаркесцы.

— Калі ласка, пазнаёмцеся, — сказала Зіна, паказваючы на госця.

Забава невыразна назваў прозвішча. Першае, якое яму прыйшло ў галаву — прозвішча нейкага сябра з ранейшых гадоў. Пераканаўся, што лепш за ўсё, робячы для сябе фальшывыя дакументы, выбіраць прозвішча аднаго з колішніх сяброў, імя другога, месца нараджэння паказваць такое, якое ведаў асабіста, даты ўпісваць або на адзінку меншую, або на адзінку большую (калі сапраўднай датай нараджэння было 1 лютага 1900 гады, тады падаваў або 31 студзеня 1899 года — усё на адзінку меней — або 2 сакавіка 1901 гады — усё на адзінку наперад). Рабіў гэта з мэтай, каб выключыць памылку і добра запомніць дадзеныя, бо здаралася, што непрактычныя або нядбайныя людзі, карыстаючыся фальшывымі дакументамі, забывалі ўласнае прозвішча.

Мужчына ў чэркесцы таксама досыць невыразна назваў сваё прозвішча, штосьці накшталт: Тэпетаў або Шэпетаў, і не падняўся нават з месца, падаючы на прывітанне руку.

«Хам!» — падумаў Забава, і ў ягоных вачах мільганулі злыя іскры.

Мужчына ў чэркесцы па-ранейшаму размаўляў з дзяўчатамі. Гаварыў аўтарытарна, ганарыста. Сказы нібы выцэджваў, як згушчанае малако, праз зубы. Напэўна, гэта ў ягоным коле лічылася добрым тонам, бо калі забываўся, тады гаварыў як звычайна.

Уладзя Скальскі папрасіў Забаву ў суседні пакой.

— Ведаеш, хто гэта? — спытаў шэптам.

— Хто?

— Намеснік каменданта губчэка.

Забаве зрабілася крыўдна.

— Дык што з таго?

— Анічога… Я папярэдзіў на ўсялякі выпадак, бо гэта… не вельмі прыемна… Заляцаецца да Зінкі. Лазіць і лазіць…

Увечары падалі гарбату з манпансье замест цукру. Чэкіст піў са сподка; гучна сёрбаў гарачую вадкасць. Напіўся гарбаты і перакуліў шклянку на сподку донцам угару. Пачаў свідраваць вачамі Забаву.

— А таварыш, здаецца, прыезджы… гм?

— Так… з Бабруйска.

— Угум! Тэхнік?

— Так. Наглядчык тэлеграфа.

— М-м… А гэта... тут службова?

— Не. Па асабістай справе да камісара Магілёўскага паштова-тэлеграфнага вузла.

— Так! Зрабіў таварыш сваю справу?

— Яшчэ не… Але спадзяюся, што зраблю.

— Не сакрэт: якая справа… гм?

— Які сакрэт?… Жадаю перасяліцца ў Магілёў як марзіст, бо ў Бабруйску працую на лініі, а лінейная служба для мяне шкодная. Я маю слабое здароўе.

— Таварыш марзіст?… Добры? М-м-м?…

— Вядома, добры… Выхваляцца не буду…

— Колькі знакаў за хвіліну?

— Залежыць ад спрыту… Даваў ад 120 да 133.

— М-м-м …

Потым пацікавіўся, ці Забава партыйны, на што той адказаў: *сочувствующий*. Распытваў як арыштаванага; відаць, гэта была ягоная благая звычка. Хочучы перапыніць той допыт, Забава сам пачаў дэталёва распытваць яго пра ўсё. Чэкіст перш адказваў яму, але неўзабаве вярнуўся да размовы з дзяўчатамі. Гутарка адбывалася такім чынам, што ён гаварыў, а яны слухалі, робячы, у залежнасці ад тэмы гаворкі, адпаведныя выразы твару, якія па чарзе выяўлялі: захапленне, весялосць, жах, расчараванне…

З аповедаў чэкіста Забава даведаўся, што той сын садоўніка з Царскага Сяла.

Неўзабаве чэкіст зноў звярнуўся да Забавы:

— Ці таварыш быў на вайне, у баявых дзеяннях ці прымаў удзел?

— Не, як «спец» быў вызвалены ад службы на фронце і прыкамандзіраваны да вайсковага тэлеграфа ў Менску, — гладка хлусіў Забава.

— А я ваяваў! Так! — грукнуўся далонню ў грудзі чэкіст, пазіраючы на дзяўчыну. — Нават пад Варшавай быў. Не адзін палячышка вось гэтай рукой у зямлю пахаваны!

— Дык таварыш Польшчу трохі ведае? — спытаў Забава.

— Трохі?… Ха-ха-ха. Ведаю як сваю далонь!..

— Цікава мне, што гэта за краіна? Няўжо там добрая зямля?

— Зямля? Цьфу! Адны пяскі! Пяскі і балоты, балоты і пяскі!

— З чаго ж яны жывуць, калі гэткая неўрадлівая зямля?

— З падману! З розных сваіх фігляў!.. Гэта ж вядома, што палякі толькі з ашуканства жывуць… У карты гуляюць, рулетку круцяць, грошы падрабляюць… Хто гэтага не ведае?

— Спадар пазнаёміўся з Польшчай толькі падчас наступлення на Варшаву?

— Не, палякаў я і пасля сустракаў, бо служыў у памежным атрадзе.

— Ах, як гэта цікава! — завішчэла адна з дзяўчат.

— Таварыш напэўна і польскай мовай валодае? — спытаў Забава.

— Так! Натуральна! Ведаю дасканала! Так як расейскую… Вось да прыкладу: па-нашаму «*человек*», а ў іх «*człowiek*»; па-нашаму «*рука*», а ў іх «*ręka*». Польская мова, гэта, уласна, сапсаваная расейская мова. Некаторыя словы так пакалечылі і павыкручвалі, што цяжка і пазнаць, што яны нашыя, рускія. Да прыкладу: «*простыня*», кажуць «*prześcieradło»*; «*действительно*», кажуць «*rzeczywiście*». Жахліва сапсаваная мова. Уласна не мова, а гаворка, накшталт зладзейскага жаргону… Зрэшты, іхняя мова лепш за ўсё адпавядае іх характарам: яны думаюць, як бы каварства якое ўчыніць, хітрыя, любяць высмеяць, укусіць пакрыёма як гадзюкі, таму і мову маюць падобную: шыпяць ды сысыкаюць…

Далей пра Польшчу з вуснаў чэкіста Забава даведаўся, што ў Польшчы палякаў няма, а ёсць толькі: жыды, літвіны, немцы, украінцы і беларусы. А сапраўдныя палякі — малая купка — дзеляцца на дзве катэгорыі: паны і працоўныя. Паколькі паны бавяцца з танцоркамі ў Парыжы, а працоўныя сядзяць у турмах, дык палякаў у Польшчы няма зусім.

Кантактуючы працяглы час з расейцамі, Забава пераканаўся, што нават інтэлігенцыя мала ведае Польшчу. Менш чым Аўстралію або Аргенціну. Часам даводзілася чуць такія непрывабныя рэчы, такое цемрашальства, што ў душы смяяўся. Прыкмеціў і тое, што расейцы не любяць палякаў, завуць іх пагардліва: «*панкі, ляхі, палячкі*»… Можа, гэта спадчыннае, і як спадчына пераходзіць з пакалення ў пакаленне. Найменне «*паляк*» здаўна было ў Расеі сінонімам «*бунтаўшчыка, мяцежніка*». Палякі жадалі забіць цара, хацелі забраць Маскву, а калі гэта ў іх не атрымалася, дык папрасілі на дапамогу Напалеона і прыйшлі разам з ім. Палякі шырылі ў Расеі *смуту*, ладзілі паўстанні і рэвалюцыі, а ці гэта было за царызмам белым, або чырвоным, ці будзе яшчэ за чорным або рабым — для расейцаў усё роўна, бо лягчэй змяніць вопратку, чым скуру; лягчэй стварыць новы ўрад, чым культуру. Ксенафобія і надалей жыве ў Расеі і па-ранейшаму захоўвае сваю прыроду.

Забава нядаўна чуў такую показку: калі ў 1905 годзе была абвешчаная вайна з Японіяй, дык у адной роце фельдфебель сабраў жаўнераў і выступіў перад імі з прамоваю: «Вось, *братцы*, абвешчана, значыцца, вайна японцу! Гэта значыць: пойдзем мы ў японскую губерню біць жыдоў і палякоў, а вам усім па чарцы гарэлкі!»

Чытаючы савецкую прэсу, Забава часта сустракаў дэмагагічныя лозунгі і эпітэты, скіраваныя на палякаў як народ. Не беспадстаўна расейцы дайшлі да пераканання, што палякі гэта ашуканцы, што купаюцца ва ўсіх багаццях, здабытых нядобрасумленным шляхам — зразумела, найперш на ашуканстве рускіх. Хтосьці фабрыкаваў і прышчапляў тыя паняцці ў народ. Забава не мог пакуль што тое дарэшты зразумець. Сустракаючы ў газетах лозунгі з падбухторваннямі супраць палякаў, якія бальшавікі ўспадкавалі ад старога рэжыму і культывавалі па-ранейшаму, Забава дзівіўся гэтаму, але змушаны быў прызнаць, што шмат у чым палітыка Саветаў і надалей з'яўляецца працягам царскай палітыкі, змякчэлай, што праўда, толькі да габрэяў.

— Адным словам — жартаваў чэкіст, які ў красамоўнай гарачцы забыўся цадзіць словы скрозь зубы, — дзівакі палякі: у лыжцы спяць, а ложак на грудзях носяць!*

* У арыгінале гульня слоў: «Чудаки поляки: в ложке спят, а кровать на груди носят». Абыгрываецца ўспрыяцце польскага *łożko(ложак)* як *ложки,* а *krawat (гальштук),* як *кровати.*

Забава безуважліва слухаў яго, адначасова разважаючы: дзе яшчэ магчыма, каб госць у чужых людзей гэтак бесцырымонна, амаль нахабна распытваў госця, а ў іх гэта, відаць, рэч звычайная! «Усюды, дзе ўлезе бальшавік, — думаў ён, — першым чынам *чрэзвычайку* зробіць».

Было позна — блізілася поўнач. Чэкіст застаўся на ноч у Скальскіх. Паколькі ў кватэры было вельмі цесна, таму для яго і для Забавы паслалі на адным ложку.

Забава выйшаў на панадворак. Падаўся да адрыны, дзе стаялі нейкія старыя калёсы. Там схаваў даволі вялікі пакет, які насіў на грудзях. Адзін рэвальвер пакінуў у адзежы, а другі замацаваў пад дзяжку, падперазаную па голым целе. Калі вярнуўся ў кватэру, чэкіст ужо распранаўся; зняў кабуру з наганам і паклаў яго пад падушку. Зірнуў на Забаву і крыва ўсміхнуўся:

— Гэта на ўсялякі выпадак… Гарантыя… Часы неспакойныя...

— Слушна, — адказаў Забава, распранаючыся. Склаў вопратку на крэсле так, каб пакінуты ў кішэні рэвальвер нельга было намацаць зверху. Адначасова сачыў, каб рэвальвер, які меў пры сабе, не выслізнуў у яго з-пад дзяжкі.

— Ці таварыш жадае каля сцяны? — спытаў чэкіст.

— Мне ўсё роўна.

— Гэта добра, бо я не вельмі спакойны — аддаю перавагу каля сцяны спаць.

— Добра.

Неўзабаве патушылі лямпу. Пасля некалькіх хвілін чэкіст заснуў. Пачаў храпець і скрыпець зубамі. Забава доўга не спаў. Паліў цыгарэты.

Калі заснуў, апынуўся ў вялікім пакоі, аклееным чырвонымі шпалерамі. Са столі на доўгіх канатах звешвалася трапецыя, а на ёй практыкавалася зусім голая жанчына. Забава, здзіўлены і ўзбуджаны, глядзеў на яе. Дзесьці з правага боку мякка струменілася чырвонае святло, а з левага сляпілі вочы пражэктары, якія няспынна мянялі колер… На нагах жанчына мела чырвоныя чаравічкі, на галаве чырвоны берэт, з-пад якога выбіліся пасмы валасоў. Забава падышоў бліжэй. Тады жанчына зірнула ўніз, і Забава спыніўся, ахоплены жахам… Гэта была Лізка Брагіна. Выканала з дзесятак рухаў на трапецыі, адважных, бессаромных, падкрэсліваючы ўсе свае формы цела; рабіла гэта зухавата, задаволеная, што хтосьці за ёй назірае… Кіўнула яму галавой. Забава зразумеў, што просіць, каб зняў яе. Наблізіўся да трапецыі і ўзяў яе пад каленямі. Адчуў у абдымках гарачае, пругкае цела, з ружовай, гладкай, як костка, скурай. Прагнуў упіцца зубамі ў пругкае сцягно, да якога дакранаўся шчакой. Раптам Лізка адпусціла трапецыю і са смехам абрынулася на яго ўсім целам.

Прачнуўся. На ягонай шыі ляжала перакінутай рука чэкіста. Ён адсунуў яе, а потым з жахам адчуў, што пад дзяжкай няма рэвальвера. Пачаў шукаць яго, мацаючы рукамі пасцель. Доўга анічога не знаходзіў, нарэшце адчуў пад пальцамі ручку парабелума. Чэкіст ляжаў на ім, моцна прыціснуўшы целам да матраца. Забава, хочучы выцягнуць рэвальвер, сеў на ложку і адным рыўком вырваў парабелум з-пад чэкіста.

— Што? Што гэта? Хто тут?.. — трывожна пытаўся чэкіст, сядаючы на ложку.

— Нічога, нічога… гэта я паправіў коўдру… Скінулі яе на падлогу.

— А… я сапраўды… Угм… м-м-м...

Зноўку заснуў. У тую ноч Забава больш не спаў. Паліў цыгарэту за цыгарэтай і думаў пра свой сон.

«Не выходзіць Лізка з галавы! Што прыгожая, дык прыгожая! — успомніў падрабязнасці сну. — Трэба яе абавязкова заваяваць, бо дакучае, як стрэмка пад пазногцем!»

— М-м… — мармытаў чэкіст.

— Спі, цялё! — прамовіў ціха Забава. — Малака ты не любіш, крыві і самагонкі няма.

Калі раніцай чэкіст прачнуўся, Забава прыкінуўся сонным. А калі той апрануўся і сышоў без развітання, Забава таксама падняўся, узяў з сабой з адрыны дакументы і вымыўся… Пасля сняданку развітаўся са Скальскімі, абяцаючы прыехаць калісьці на даўжэй, і падаўся на вакзал.

Неўзабаве ехаў у кірунку Оршы. Драмаў. З глыбіні вагона даносілася песенька:

*Што я знала? Пас ды прас,*
*І была я сцерваю.*
*А цяпер я сярод вас,*
*Сёстры міласэрныя!*

З другога канца вагона хтосьці крыкнуў:

— Гэй, ты, заткні хайло! Калі голасу не маеш, не дзярыся, як старыя споднікі!

Сапраўды, голас спявак меў агідны. Змоўк, як аблізаны, і больш не азываўся.

* * *

У той час, калі Забава на магілёўскай кватэры Скальскіх вёў гутарку з намеснікам каменданта губчэка, на вакзале ў Менску чэкісты арыштавалі двух суб'ектаў з падазронымі дакументамі. Адзін заявіў, што прыбыў сюды з Польшчы, хочучы прабрацца да сваякоў у Маскве. Другі — Антон Кралевіч — паказаў, што родам з Вільні і што нядаўна ад безвыходнасці здзейсніў у эксплуататараў крадзёж 200 000 марак і, каб пазбегнуць адказнасці, збег у Саветы, дзе намерваецца сумленна жыць і працаваць. Кралевіча адканваіравалі ў губчэка, у распараджэнне судовага следчага, Стафана Нядбальскага. Другога арыштаванага накіравалі ў Маскву, на Лубянку.

***Працяг будзе.***

***Пераклад з польскай***
***Язэпа Янушкевіча.***

Мікола МІШЧАНЧУК

# «СВАЁЮ СЦЕЖКАЮ ІСЦІ...»: ПАЭЗІЯ АПАЛЕНЫХ ПЯЛЁСТКАЎ

Бяруся за артыкул не па нейчым загадзе, а паводле сардэчнага поклічу: бо ж і мой бацька загінуў на вайне, Вялікай Айчыннай. Так казала мама, хоць і не атрымала казённай афіцыйнай паперкі на гэты конт. Доўга чакала, што вернецца, адгукнецца. Не вярнуўся, не адгукнуўся. Як і многія іншыя яго равеснікі (а быў ён 1914 года нараджэння). Як на два гады старэйшы Андрэй Ушакоў, радок з верша якога выношу ў загаловак роздуму. Так, менавіта роздуму...

Некалі, яшчэ студэнтам, запомніў — ды што запомніў! — на ўсе наступныя гады зрабіў жыццёвым крэда радкі рускага паэта Паўла Когана — студэнта Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры (скарочана — ІФЛІ), аўтара зборніка «Навальніца» («Гроза»): «Я с детства не любил овал. Я с детства угол рисовал». Хацелася быць падобным да тых, хто пачынаў жыццё з пошуку самастойных сцежак-шляхоў і тым самым пераадольваў грамадска-сацыяльныя стэрэатыпы людскіх паводзін у сталінскай таталітарнай дзяржаве. Шукаць сваю сцежку, выяўляць свае здольнасці насуперак абставінам, не згубіцца ў натоўпе, стараліся маладыя людзі, якія пайшлі на вайну бараніць родны край. Матыў пошуку сябе, шляхоў самарэалізацыі, абвостраны прадчуваннем бяды, заўчаснай смерці, — адзін з галоўных у творчасці прадстаўнікоў даваеннага пакалення, выхаванага ў савецкі час. Андрэй Ушакоў, студэнт таго ж самага інстытута, у якім вучыўся згаданы вышэй Павел Коган, найбольш катэгарычны ў гэтых адносінах. У вершы «Як шмат і лёгкіх і суровых...» ён адмаўляе пазіцыю людзей, нават тых, што мелі «і розум смелы», і лічыліся здольнымі, але прыстасаваліся да абставін, ператварыліся ў «няздольных ні на што калек», спраўдзілі тым самым трапнае народнае выслоўе «ні чорту качарга, ні богу свечка», жывуць, «як мокрае гарыць». Верш гэты — поліфанічнае мастацкае палатно, сатканае і з высокіх, пафасных радкоў, і з сатырычных закідаў на адрас прыстасаванцаў, і з афарыстычных філасофскіх формул, якімі ён пачынаецца:

*Як шмат і лёгкіх і суровых*
*Дарог пралегла ў белы свет.*
*Ты сам на іх свой значыш след,*
*Сам гаспадар шляхоў жыццёвых.*
*Ды важна зразу чалавеку*
*Знайсці сябе ў сваім жыцці,*
*Сваёю сцежкаю ісці,*
*А не блукаць,*
*А не паўзці*
*Не здольным ні на што калекам.*

Як пісаў некалі Аляксандр Блок, звычайна ён спачатку вызначаў «вехі», самыя значныя вобразы, сэнсавыя адзінкі, а затым нацягваў на іх тэкставую тканіну. У дадзеным выпадку гэта тры радкі — «Сам гаспадар шляхоў жыццёвых», «Знайсці сябе ў сваім жыцці» і «Сваёю сцежкаю ісці». Найгалоўныя ж словы ў іх — займеннікі *сам*, які ўзмоцнена падкрэслівае думку пра неабходнасць выпрацоўкі ў чалавеку чуцця самадастатковасці, *сваё* (жыццё) і *свая* (сцежка). Фактыч-

на ідэя верша зводзіцца да коганаўскай раней прыведзенай формулы быцця — «Я с детства не любил овал. // Я с детства угол рисовал» (чытай: імкнуўся быць самім сабой, непадобным да іншых). Другая частка верша разгортвае выказаную ў першай сентэнцыю, уяўляе антытэзіс — выкрыццё пазіцыі прыстасаванства і растварэння асобы ў масе. Заканчваецца яна, на жаль, рытарычна, што было ў цэлым характэрна даваеннай паэзіі, якая часта карысталася лозунгамі, палітычнымі клішэ, злоўжывала прасталінейнымі вывадамі. Дзеля справядлівасці адзначым, што ад поўнай трафарэтнасці і агульнасці гэтую канцоўку выратоўвае «прарыў» у фальклор, разгорненне народнага выслоўя «як мокрае гарыць»:

*Здаецца, меў і розум смелы*
*І здатным чалавекам слыў,*
*Але не так, як мог, пражыў,*
*Пражыў, як мокрае згарэла:*
*Ні полымя, ні цеплыні,*
*Бяздарна праляцелі дні*
*Ў бясплоднай, дробнай мітусні [1, с. 165].*

Пошук сябе паэт Андрэй Ушакоў ставіў у прамую залежнасць ад універсальнага, выпрацаванага стагоддзямі паняцця с*умленне*, таго вобраза, сінонімам якога з’яўляецца вобраз *гонару* Уладзіміра Караткевіча (прыгадаем верш «Васілю Быкаву» з пранізлівымі радкамі: «Ўсё мінае — Гонар не мінае, // Бо народжаны адным сумленнем»), «чести» Аляксандра Пушкіна ў пасланні Чаадаеву («Пока свободою горим, // Пока сердца для чести живы...»). Так паэт, што загінуў на вайне, (і многія яго равеснікі-словатворцы) злучыў у непадзельную цэласнасць розныя эпохі, надаўшы найпершую ўвагу праблеме выбару актыўнай жыццёвай пазіцыі (сваёй сцежкі ў жыцці), гонару, чуцця ўласнай самадастатковасці.

І ён быў не адзінокі ў сцвярджэнні думкі пра неабходнасць пошукаў сваіх шляхоў яго пакаленнем. Змітрок Астапенка — паэт незвычайнага, загадкавага і патаемнага ў пэўнай ступені лёсу, сябра Аркадзя Куляшова, вязень сталінскай турмы, разведчык-дыверсант, закінуты ў тыл ворага, таксама востра адчуваў яшчэ, да ўсяго таго, пра што пісаў Андрэй Ушакоў, у дадатак *нялёгкасць* наканаванага яму і яго равеснікам лёсу, нібы прадчуваў, якіх ахвяр запатрабуе вайна, і заклікаў прынесці іх на алтар будучай перамогі. У адных творах («Паклянёмся любіць наш край!..») — рытарычна, у форме закліку («Паклянёмся Радзіму любіць! // Яна з верай на нас паглядае. // Ў нашых сэрцах жыве й будзе жыць // Наша даўняя клятва святая!»), так, як у большасці твораў ваеннай пары; у другіх — праз пераадоленне трагедыйнага настрою, прадчуванне бяды («На белым пагорку»). Калі згаданы першы верш — ода мужнасці, то другі, які можна назваць элегіяй, падобны да панчанкаўскіх сумна-маркотных твораў «Кожны з нас прыпасае Радзімы куток...», «Сінія касачы». Дарэчы, менавіта Панчанка, Куляшоў — майстар балады з элегійнай «падсветкай» «Над брацкай магілай» — равеснік і сябра Астапенкі, Броўка з яго «Магілай байца», «Надзяй-Надзейкай» былі блізкія і агульным пафасам, і вострым адчуваннем трагедыйнасці Вялікай Айчыннай вайны да тых, хто з гэтай вайны не вярнуўся.

Вось найбольш значныя, на нашу думку, (цяпер модна пісаць — знакавыя) наступныя радкі пра гэта з элегіі З. Астапенкі:

*Расталі ў тумане.*
*Прабеглі, як лёгкія хвілі,*
*Гады нашай рані,*
*Якіх мы тады не лічылі.*

*Вайна і пажары*
*На нашую долю прыпалі, —*
*Варожыя хмары,*
*Цалункі смяротныя сталі.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Хоць крыўдна, хоць горка —*
*Будзь мужным і цвёрдым, як крэмень.*
*На белым пагорку*
*Сваю перамогу мы стрэнем [1, с. 27—28].*

Верш напісаны ў 1943 годзе. Мінуўся час безагляднага абурэння зладзейскімі ўчынкамі агрэсараў і публіцыстычнага іх выкрыцця. Надышла пара «прымервання» на сябе, на сваё пакаленне далейшых асабістых паводзін, асэнсавання таго, што адбылося. Працытаваныя ўрыўкі з верша Астапенкі, майстэрства якога, што ішло ад пошуку вобраза-дэталі, чуцця слова і ўмення вылучыць у ім неадкрытае, новае значэнне, ад умення перадаць дынаміку, рух жыцця, выявілася ўжо ў даваенных зборніках «На ўсход сонца» і «Краіне» (абодва — 1931), сведчаць менавіта пра гэтую галоўную тэндэнцыю ў літаратуры ваеннай пары. У вершы пераадольваецца высокая публіцыстычнасць сіманаўскага «Забі яго!», коласаўскага «Шалёнага пса — на ланцуг!», так неабходная напачатку вайны, глыбейшым спасціжэннем народнай і асабістай трагедыі, праецыраваннем суровых падзей на асабісты лёс і лёс пакалення, напружанай рэфлектыўнасцю, урэшце — увагай да дэталяў мірнага жыцця. Лозунгавае ў творы «Час іхняе смерці — // Час клятвы святой перад боем», гучнае, афарыстычнае, нібы адцясняецца на іншы план мілагучнымі радкамі-ўспамінам пра дзіцячыя і юнацкія гады. Звернем увагу на тое, што сам сабою рытмічны рух радкоў, створаны чаргаваннем двух — і трохстопнага амфібрахія, запаволены. Радкі гучаць мілагучна, у першую чаргу дзякуючы алітэрацыі гукаў *л* і асанансу гукаў *а*, *і* (варыянт — *ы*). Ствараецца ўражанне, што *хвілі* перакочваюцца, наплываюць на бераг і знікаюць у далечы, нібы рачныя ці марскія хвалі. Другая працытаваная страфа гучыць нацята, сурова: мяняецца пафас сумнай радасці (элегійны) на пафас адычна-трагедыйны. Голас паэта гучыць «на высокай хвалі». Аўра трагедыйнасці акрэсліваецца алітэрацыяй гука *р*, ужытага ў словах-сімвалах бяды, трывогі, болю: *пажары* — *хмары* — цалункі *смяротнае* сталі. Гераічна-трагедыйны пафас дыктуе высокі строй, гукавае афармленне, карыстанне тропамі (тая ж алітэрацыя гука *р* — сем на чатыры радкі, параўнальна з пяццю ў папярэднім катрэне; вартае многіх параўнанне — «Будзь мужным і цвёрдым, *як крэмень*»). Але і ў заключнай страфе верша паэт вызначае стан сваёй душы на пагранiччы — паміж болем («Хоць крыўдна, хоць горка») і ўпэўненасцю ў перамозе, будучай радасцю («На белым пагорку // Сваю перамогу мы стрэнем»). Такім чынам, агульнапубліцыстычны пачатак выцясняецца індывідуальна-асабовым перажываннем.

Прадчуваннем немінучай трагедыі поўнілася і паэзія малодшага лейтэнанта Аркадзя Гейне, які закончыў да вайны Інстытут журналістыкі, працаваў у беларускіх газетах, выдаў кнігу вершаў «Шчаслівая зорка» (1939). Калі меркаваць нават па назве зборніка, вобраз шчаслівай зоркі — сінонім даўняй фальклорнай папараці-кветкі становіцца дамінантным у яго думках і ў мастацкім увасабленні рэчаіснасці. Пра гэта сведчыць і верш, што даў назву зборніку, дзе вобраз небнай зоркі паэт трактуе паводле народнага падання, дастасоўвае да чалавечага лёсу («І яе жыццё — ягоны век...»), упісвае яе ў ідылічны вясновы пейзаж («цёмна-сіняя ноч», «песня салаўіная», «зялёны сад над ракой», месяц, які «з-за высокіх ліп квітнеючых // Усміхаўся ласкавым святлом», падаючыя, «ясным бляскам палымнеючы», зоркі). Але ў канцы твора ідылія перапыняецца канстатацыяй таго, што абодва героі, ён і яна, выбралі самую шчаслівую зорку, тую, «што ў Крамлі».

Верш «Песня дзяўчыны» разгортвае перад намі ўжо іншы — трагедыйны — сюжэт. Амаль такі, як і ў славутым «Слове пра паход Ігара». Там Яраслаўна, а тут — дзяўчына адпраўляюць на вайну любага, абедзве прадчуваюць бяду. Аднак дзяўчына нашага паэта не толькі пераадолела боль, падобна сваёй папярэдніцы, але і пайшла слядамі любага, «што не выцвілі ў травах яшчэ», — асядлала баявога каня і памкнулася ў бой:

*Я каня асядлаю з любоўю,*
*Я прачышчу вінтоўку тваю,*
*І — расплоцяцца ворагі кроўю*
*За цябе у наступным баю!.. [1, с. 49].*

Верш напісаны ў 1938 годзе. Яго канцоўка гучыць гімнічна, на высокай хвалі. Вобраз дзяўчыны — зрокавы, запамінальны, паказаны ў дзеянні: «Я цябе правяла за сяло», «Я стаяла, махала рукою», «Я каня асядлаю з любоўю», «Я прачышчу вінтоўку тваю». Фразы — адточаныя, лаканічныя, пазбаўленыя тропаў. Вось, напрыклад, як усяго двума радкамі створана карціна ростані хлопца з любай дзяўчынай: «Ты сказаў мне: — Бывай, дарагая!.. // Усміхнуўся і сеў у сядло». Дынамізм тэксту надаюць дзеясловы дзеяння — 23 на 24 радкі. У жанравых адносінах гэта адначасова і ода подзвігу, і элегія, скарга, плач па забітым ваяры. Паэт адмаўляецца ад напышлівага стылю, піша проста, зразумела, як усё роўна жывапісец, што малюе ікону. Самымі трагедыйнымі ўяўляюцца ў вершы вось гэтыя чатыры радкі — пра забітага хлопца і яго сябра — баявога каня:

*Ты ляжыш і не ўстанеш ніколі,*
*Згас твой погляд навек агнявы.*
*Галаву апусціўшы, на волі*
*Ходзіць сябра твой — конь агнявы [1, с. 48].*

Чытаю такі тэкст, і адзначаю ў памяці: яго можна лёгка прадставіць кадрамі кіналенты: у траве, магчыма, у полі ці на ўзлессі, відаць, далёка ад людзей, ляжыць забіты юнак са згаслым агнявым поглядам, а каля яго ходзіць, апусціўшы галаў, верны конь, затым — па сюжэце — з'яўляецца дзяўчына, прачышчае вінтоўку, сядлае «з любоўю» каня і едзе на вялікую вайну. Папярэднія страфы таксама лёгка намаляваць, увасобіць у кадрах: праводзіны каханага за сяло — ростань — сумная вестка, што прыйшла ў хату, — выпраўленне ў далёкі шлях дзяўчыны. Значыцца, гэты твор блізка эпічны, бо мае разгорнуты падзейны сюжэт, грунтуецца на паказе мінулага і будучага (часткова) часу, а не толькі ўяўляе сабой зрэз цяперашняга імгнення жыцця, як у лірыцы. Ёсць у творы і прыкметы драматызацыі дзеяння: гэта дыялог дзяўчыны і юнака напачатку, а затым — звернуты да забітага маналог дзяўчыны. І ўвогуле верш уключае ў сябе ролевага героя, як гэта часта бывае ў песеннай паэзіі. Аўтар перадавярае дзяўчыне свае думкі, пачуцці, абагаўляе яе, стварае ў многім ідэальны вобраз каханай Дзяўчыны — вернай Сяброўкі, спадарожніцы, пераемніцы добрых спраў, патрыёткі.

Такім самым прадчуваннем бяды, глыбокімі пакутамі ад таго, што прыйдзецца Жанчыне — любай, светлай, добрай — араць зямлю, і — не выключана — ісці ваяваць са зброяй у руках з ворагам, поўнілася паэзія іншых равеснікаў вайны, у тым ліку — жанчын. І тут мы выходзім на цікавае назіранне: і верш Аркадзя Гейне, і верш Ларысы Геніюш «Беларуска» «трымаюцца» на адных і тых жа дамінантных вобразах, перазвоньваюцца рытмічна, пафасна, напісаны адным і тым жа стылем. Дзеля доказнасці выказанай думкі, правядзём міні-даследаванне. Па-першае, гераіня і аднаго, і другога твора — жанчына, якая страціла (ці страціць) на вайне мужа (каханага хлопца). Яна ўмее не толькі кахаць і працаваць (у Л. Геніюш другая іпастась жанчыны высвечваецца больш выразна радкамі:

*Ты пойдзеш у бой, а я плуг накірую,*
*каня накармлю, напаю, —*
*і так абаронім, засеем, збудуем*
*з табою краіну сваю [2, с. 201]).*

Па-другое, у абодвух творах выбудоўваецца рад сінанімічных і нават ідэнтычных вобразаў у заключнай страфе: конь, вінтоўка, кроў ворагаў, бой (у А. Гейне) — бой, плуг, конь, краіна (у Л. Геніюш). Па-трэцяе, аўтары абодвух вершаў

ашчадна ставяцца да карыстання тропамі, мінімізуюць іх колькасць у тэкставай прасторы. У А. Гейне ўсяго тры эпітэты па шэсць катрэнаў і ніводнай метафары (*сумная* вестка, *агнявы* погляд, *баявы* конь), у Л. Геніюш — толькі адзін эпітэт на тры чатырохрадкоўі (*родны* парог). Напісаны абодва твора «ад імя» жанчыны (дзяўчыны), якая дае клятву любаму на вернасць.

Матыў пошуку сябе ў паэзіі тымі, хто не вярнуўся з вайны, нібы ўзяты ў жалобную чорную рамку. Трывога за асабісты лёс, лёс роднай маці, каханай дзяўчыны, Радзімы і — урэшце — за сябе, за сваё жыццё стварала чорны колер, абвастрала пачуцці дваццацігадовых юнакоў... Яны спяшаліся як хутчэй выказацца пра набалелае, ім нібы перацінала дыханне прадчуванне хуткай бяды, небяспекі. Падобнае прароцтва, асабліва асабістай трагедыі, і ў сусветнай літаратуры не адразу выявіш. А ў нашай нацыянальнай? Хіба што незабыўны Максім Гарэцкі ў апошніх творах («Скарбы жыцця», «Лявоніус Задумекус») ды Язэп Пушча ў зборніку «Песні на руінах» паказалі не толькі грамадскую трагедыю, але і ўпісалі ў яе трагедыю асабістую. Але так, як Мікола Сурначоў, стварыць (будучы яшчэ жывым) вобраз вайны-забойцы, складнікам якога сталіся і віцязь «у стоптаным жыце», і «абсмалены колас», і «салдацкая каска», і родная старонка з яе клёнамі, хваёвымі пералескамі, «узняўшымі снег пралескамі», і любая дзяўчына, што праходзіць «полем роўным» «па зямлі асірацелай», і родная маці, якую паэт заклінае сустракаць добрым словам і частаваць тым, «чым наш край багаты», чужых сыноў-чырвонаармейцаў ніхто ў нашай нацыянальнай (калі не больш!) паэзіі не змог. Уявіце сабе: ён яшчэ ў акопах, на пярэднім краі, змагаецца з ворагам на Першым Беларускім, Бранскім, Заходнім, Чацвёртым Украінскім франтах; знаходзіцца ў Запарожжы, у Мінску, у Румыніі; ідзе за годам год — 1941—1945 (паэт загінуў на подступах да Берліна), а думкі яго — пра блізкую смерць, пра тое, хто і што застанецца, як яго не будзе. І ён спяшаецца выгаварыцца. Памяць яго абвострана неймаверна. Карціны мірнага, светлага жыцця выцеснены трагічнымі. Паэт нібы адчувае, што перамогу ўслаўяць без яго, што яму гэта не дадзена. А таму і распавядае пра *трагедыю вайны*. Ды як распавядае? Так, што мароз па скуры ідзе. Толькі зусім абыякавы і раўнадушны чалавек не можа пачуць, як напружана і арытмічна б’ецца паэтава сэрца, выштурхоўваючы напаверх не гукі, не словы, а «згусткі» нясцерпнага болю... Гэта я пра верш-шэдэўр, не заўважаны крытыкай, але роўны панчанкаўскаму «Кожны з нас прыпасае радзімы куток...» — «Стаю над попелам хаціны...». Каб не парушаць далейшай размовы пра яго, заўважу, роўны і сусветна вядомаму твору М. Ісакоўскага «Враги сожгли родную хату...», які стаўся народнай песняй. Прыгадаем гэты твор цалкам:

*Стаю над попелам хаціны,*
*Пілотку зняўшы з галавы.*
*Сяло ў жалезнай павуціне,*
*А ў сінім небе журавы.*
*А ў сэрцы?*
*Хіба ў сэрца глянеш,*
*Як у крыніцу ля сяла?*
*Маўчаць, стуліўшыся, сяляне;*
*Дзе вёска некалі была —*
*Дым рассцілаецца атрутны,*
*Агонь грызе галлё ракіт...*

*А сэрца?*
*Сэрца ў гневе лютым!*
*А ў сінім небе?*
*Ястрабкі.*

Верш надзвычай цэласны ў ідэйна-вобразным плане. У ім нельга ніводнага слова пераставіць, нельга нічога дадаць ці адняць. Ён малюнкавы: спаленая вёска — попел, атрутны дым, ненажэрны агонь — салдат са схіленай, без пілот-

кі, галавой — маўклівыя сяляне. Сама сабою жудасная карціна. Эпічны пачатак спрацоўвае, як кажуць, на ўсе сто. Вобразы-рэаліі вонкавага свету набываюць шматзначнасць і тым самым ушчыльняюць аповед. Карціну можна намаляваць і даць ёй назву. Скажам, — «На папялішчы». І такая назва — няправільная, бо няпоўная: паэт не толькі перадае словам карціну, выконваючы місію эпіка, але асэнсоўвае, перажывае яе, хвалюецца, дапытвае сябе, імкнецца як глыбей разабрацца ў сваіх пачуццях. А гэта ўжо — лірыка, антытэза, калі па Гегелю. Тэзіс ужо адбыўся — канстатацыя, бліскучая, без нейтральных слоў, лаканічная. У першых чатырох радках — застылая. Нават журавы ў небе нерухомыя. Не выпадкова ўжыты толькі адзін дзеяслоў — «стаю». Ды і ўсяго іх пяць на ўсе пятнаццаць радкоў. Знерухомеласць, нават словаўжываннем перададзеная. Гэтую знешнюю нерухомасць (рухаюцца толькі ненажэрны агонь ды рассцілаецца дым) паэт разрывае стыхіяй лірычнага перажывання, стараецца зазірнуць глыбей у сэрца:

*А ў сэрцы?*
*Хіба ў сэрца глянеш,*
*Як у крыніцу ля сяла?*

Яму цяжка зрабіць гэта, таму і з’яўляецца параўнанне — традыцыйнае, не новае, але якраз да месца: бо, сапраўды, у крыніцу, нібы ў люстэрка, можна зазірнуць; у ёй можна ўбачыць і выявы навакольнага свету, і ўласнае аблічча. Але ў заключным чатырохрадкоўі адным радком паэт адкрывае чытачам тое, што сканцэнтравалася ў яго сэрцы, — «Сэрца ў гневе лютым!»:

*А сэрца?*
*Сэрца ў гневе лютым!*
*А ў сінім небе*
*Ястрабкі.*

З тропаў асноўны сэнсавы цяжар бяруць на сябе ў вершы эпітэты трагедыйнага зместу (*жалезнае* павуцінне, дым *атрутны*, *люты* гнеў сэрца) і метафара — «агонь грызе галлё ракіт» такой сама сэнсавай напоўненасці. Слоўна-выяўленчых сродкаў няшмат (можа, таму што пра бяду не гавораць многа і высокімі словамі паводле нашай нацыянальнай традыцыі).

У вершы сышлася вобразная апазіцыя «верх-ніз». Унізе — папялішча, уверсе, — «у сінім небе журавы» (1-я страфа), на змену якім у 3-й страфе ў тым жа самым сінім небе з’яўляюцца ястрабкі. Не птушкі-драпежнікі, а нашы славутыя чырваназорныя знішчальнікі месершмітаў і іншых самалётаў ворага. Яны пільнуюць неба. Яны — гаранты хуткага пакарання ворага, надзея аўтара (і маўклівых сялян-пагарэльцаў) на справядлівую помсту.

Твор важкі, філасофскі, шматзначны: боль і надзея, маўклівасць і крык, блакіт неба і атрутны дым, скамянеласць ад гора і вера сышліся ў ім. Рыторыка зведзена да нуля. Адным словам сказана тое, пра што паэт-публіцыст напісаў бы дзесяць, а то і больш сказаў, — «блізіцца помста» (па-руску больш узвышана і ўрачыста — «грядёт возмездие»). Гэтае слова паставіла кропку ў канцы велічнай ліра-эпічнай карціны. Мы вылучым яго, бо вылучыў яго і сам аўтар, — асобным (заключным!) радком:

А ў сінім небе?
*Ястрабкі.*

У 1944 годзе быў напісаны гэты шэдэўр — узор сапраўднай патрыятычнай паэзіі, якая верыла праз слёзы, гераічнае шукала ў трагедыйным. Наш паэт, раней, чым рускі, прамовіў, сыпнуў з сэрца ў змучаны вайной народ амаль тое ж самае, што заключана ў неўміручых радках, — «И пил солдат из медной кружки // Вино и слёзы пополам».

Мікола Сурначоў — паэт ад Бога. У свае 28 гадоў ён стварыў сапраўдныя шэдэўры накшталт вершаў «Штодзень вялі мяне шляхі...», «Старонка мая, у смутку...», «Паштоўка», «Ліст да маці», «Раздум'е», «Смага», «Сон». Іх гераіня — Радзіма, якая можа выступаць у абліччы маці, каханай дзяўчыны, роднай прыроды — адметнай, непаўторнай, святой. Пра гэтую прыроду — сімвал Бацькаўшчыны — паэт піша з захапленнем, не шкадуючы самых шчырых і цёплых слоў, у першым з названых твораў:

*І толькі б дзе ні ваяваў,*
*Дзе б ні ляжаў у траншэі,*
*Такіх, як на радзіме, траў,*
*Такіх густых завеяў,*

*Такіх світанняў і крыніц,*
*Крутых віроў, палонак,*
*Такіх, як нашы, заранiц, —*
*Як на Сажы, сасонак, —*

*Я не знайшоў, як ні хацеў*
*Знайсці ў другой мясціне.*
*І доўга мой акопны спеў*
*Журыўся па айчыне.*

Ці не з самім Панчанкам спаборнічае паэт у выказванні пашаны і павагі да роднага краю? А праз колькі год такія самыя праніклівыя радкі прагучаць з вуснаў паэта-выгнанніка Рыгора Крушыны ў паэме «Кантата самотных»:

*А мы ўзраслі сярод палёў,*
*Сярод нязлічаных лясоў,*
*Азёраў, рэчак і ставоў.*
*Дзе адвячоркам сіня-цьмяным*
*Брыняе водар паплавоў.*
*Дзе пахне рутай сенажаць,*
*Дзе скарбы вартасцяў ляжаць*
*І на раллі, і ў папарох,*
*Дзе краскі радасныя ў полі,*
*Бярозы стромкія, таполі,*
*Наўсцяж абапала дарог [3, с. 156].*

Але ля вытокаў такой узрушана-патрыятычнай паэзіі стаяў Мікола Сурначоў... Як і ля вытокаў (на новым вітку) філасофскай лірыкі, нібы ствараючы грунт для з'яўлення «Новай кнігі» Аркадзя Куляшова, дзе жыццё і смерць, вялікае і малое, хваляванне і спакой, праўда і мана будуць бясконца сутыкацца, спрачацца, а стыль паэта набудзе такія рысы, як доказнасць, асацыятыўнасць, рэфлектыўнасць. Верш Сурначова «Раздум'е» — маналог-разважанне пра жыццё пасля смерці, пра пераадоленне слабасці і застыгласці, пра перамогу святлом цемры:

*І цішыня, і стогн глухі,*
*І сэрца ачарсцвела быццам,*
*І хочацца на грунт сухі,*
*Нібы на ложак, апусціцца.*

*Мацнее бой, і ты з штыком*
*Ідзеш наўпрост да перамогі.*
*І, можа быць, сустрэне дом*
*Пасля вайны зусім нямногіх.*

*І, можа я, як ветэран,*
*Паду на жоўклыя пракосы,*

*І да маіх гаручых ран*
*Нахіляцца спагадна лозы.*

*Не гэта нас турбуе! Што ж? —*
*Без перамогі свет не мілы.*
*Калі не я, жыць будзе ўсё ж*
*Зямля, што нас з табой расціла [1, с. 148].*

Верш-медытацыя, разважанне пра свой асабісты і агульны лёс, пра працяг жыцця зямнога пасля асабістага небыцця чалавека. Такіх медытацый не так і многа было напісана ў гады вайны Максімам Танкам, Аркадзем Куляшовым, Петрусём Броўкам — нашымі класікамі. Затое яны з поспехам пісаліся паэтамі, радкі твораў якіх былі абарваныя кулямі, асколкамі снарадаў, штыкамі ворагаў. Твор Міколы Сурначова — прарочы: як і многія з яго пакалення, ён не вярнуўся дадому, «паў на жоўклыя пракосы», прадбачыў трагедыю асабістую.

Шэдэўрам паэзіі, што прарочыла трагедыйны фінал жыцця тых, хто пайшоў на вайну, гаворачы словамі аўтара зборніка вершаў з лаканічнай назвай «Мы» рускага паэта Мікалая Маёрава, — «не долюбив, не докурив последней папиросы», нікім не пераўзыдзеным, стаўся верш Сурначова «У стоптаным жыце». Хоць ён і быў у цэнтры ўвагі крытыкі, мушу спыніцца на яго аналізе падрабязней... Напісаны верш на першым годзе вайны, у 1941-м, калі паэт змагаўся з ворагам на Заходнім (ці не самым цяжкім і крывавым?) фронце. Хутчэй за ўсё — восенню, падчас адступлення Чырвонай Арміі. Відаць, па асацыяцыі з канкрэтнымі падзеямі: не раз і не два аўтару твора даводзілася бачыць смерць на мірным, засеяным жытам полі. І, можа, адна з іх яго асабіста здзівіла, уразіла (цяжка знайсці слоўны адпаведнік для перадачы ўражання чалавека ад трагедыйнай сцэны) і легла ў аснову чаканных, быццам высечаных на граніце, радкоў. На дакументальную аснову і прыкладны час дзеяння «працуе» загаловак твора — «У стоптаным жыце». Дзеянне адбываецца ў прыродзе, што ацалела пасля варожай атакі («Над ім асыпаюцца // Слуцкія краскі, // Абсмалены колас // Схіліўся да каскі»), у наваколлі. Датычна героя яно спынілася і ніколі не адбудзецца («Ніколі не ехаць // Хлапцу маладому // Да блізкага гаю, // Да роднага дому»; «Ляжыць ён, як віцязь, // У стоптаным жыце»). Тры часавыя вымярэнні для віцязя ўжо не існуюць. Але для аўтара твора — пакуль яшчэ жывога выразніка думак і перадсмяротнага жадання забітага ваяра — усе тры часавыя вымярэнні існуюць, і ён, выконваючы апошнюю просьбу забітага, звяртаецца да ўсіх людзей, што ёсць і што будуць, сцішана, проста, без надрыву, шэптам, пакідаючы на канцы звароту шматзначнае шматкроп'е:

*Маці спаткаеце —*
*Ёй не кажыце...*

Шэпт аўтара — гэта шэпт маладога, прыгожага юнака, многіх-многіх яго равеснікаў. Гэта амаль «маўклівая малітва» (паводле панчанкаўскага афарызму), гэта маральнае крэда чалавека, які «не дакахаў, не дакурыў апошняй цыгарэты», — гуманіста, ласкавага і добрага сына. Такім чынам, у вершы як бы знітоўваюцца дзве пазіцыі — аўтарава і героева. Першы смуткуе і жаліцца ўсяму свету на несправядлівасць лёсу, што так сурова абышоўся з юнаком-асілкам, прыгажуном (параўнанне «як віцязь» аднаго дастаткова, каб прыйсці да падобнай высновы), другі (праз аўтара) перадае думку-просьбу забітага — не менш гуманістычную, — не трывожыць маці весткай пра яго смерць.

Стыль верша падобны іканапіснаму — лаканічны, з выразна акрэсленымі лініямі і не менш выразнымі колерамі.

Мікола Сурначоў — паэт воляю Бога. Тонкі лірык, ён душою і сэрцам адчуваў (можа, на ўзроўні панчанкаўскага і куляшоўскага адчування), што страціў народ і ён асабіста з пачаткам крывавай вайны: усё, што акаляла яго з дзяцін-

ства — суніцы, «сцяжынку праз густы хмызняк», «дзеразу» ў імхах, «луг мурожны», «прысады вакол варшаўскае шашы», «разбег дарог», «сіняе неба», «крыніцу ля сяла», «жоўтыя пракосы», «дубровы», «шнур азімых», родную маці і каханую дзяўчыну. Усе было так проста, блізка і высока. Так звыкла-будзённа і так узнёсла-рамантычна. І вось яно — страчана, можа, назаўсёды. А таму не можа паэт-воін даравАць ворагу яго «святатацтва», грабежніцтва, разбой. Як і Куляшоў, які ў паэме «Сцяг брыгады» выгукнуў на ўсю моц, на поўныя грудзі словы нянавісці да ворага, даў клятву знішчаць і яго, і ягоных нашчадкаў. Як сёння пішуць, зусім не ў адпаведнасці з гуманістычным кодэксам. А яны нашых дзяцей і нямоглых пажылых людзей шкадавалі? Не спальвалі іх у Хатынях? У сотнях Хатыняў? Як у «Memento mori» Янкі Брыля. Не шкадавалі! Спальвалі! Катавалі! Таму ў межах малога часу і Куляшоў, і Сурначоў павінны быць намі зразумелыя. Як і словы партызанскай прысягі: «Смерць — за смерць! Кроў — за кроў!». Наша ацэнка максімалісцкіх заклікаў-выгукаў паэтаў ваеннай пары пра смяротную барацьбу з захопнікамі павінна быць двуадзінай: з пазіцыі таго жахлівага часу — пазітыўнай, з пазіцыі нашага часу — аб’ектыўна-крытычнай. У выпадку першым — нам становяцца зразумелымі публіцыстычныя радкі Міколы Сурначова «Я табе спакою, гад, не дам, — // Чорнай кроўю ты адкажаш нам!» («Слова помсты»), «Мы будзем знішчаць іх няшчадней і злей, // Каб сцежкі-дарожкі да роднае хаты // Ніколі ў жыцці не знайшоў // Ліхадзей» («Прысяга ў акопах»), як і не менш суровыя радкі Змітрака Астапенкі «Час іхняе смерці // Час клятвы святой перад боем» («На белым пагорку»). У другім выпадку мы бачым, што гэтыя заклікі-выгукі ў цэлым «перакрываюцца» мяккімі, шчырымі, цёплымі радкамі любві да роднага краю, да ўсіх найдрабнейшых праяў мірнага жыцця. І менавіта гэтае замілаванне страчаным мірным жыццём сталася ратункам паэзіі ваеннай пары, вывела яе на пазіцыі міласэрнасці, спачування Чалавеку і чалавецтву:

*Я б закрыў навек спакойна вочы,*
*Каб мой любы край*
*Больш не ведаў злой пакутнай ночы,*
*Красаваў, як май.*

*Каб хадзіў навокал спеў мінорны,*
*Што я ў бітве лёг*
*За прыгожы родны край азёрны,*
*За вясну ў палёх [1, с. 101—102].*

Часцей і часцей, дабіраючыся на працу і проста ў чарговы раз прагульваючыся ў родным і такім блізкім горадзе над Бугам, — ідаць, маім апошнім прыстанку, іду да галоўнага ўваходу ў крэпасць-герой у выглядзе зоркі, каб пакланіцца тым, хто бараніў Радзіму ад ворага. Метраном адбівае секунду за секундай, а мне здаецца, што гэта б’юцца сэрцы абаронцаў краю роднага. Тых, што палеглі тут. І не толькі тут... Пад Сталінградам і Ленінградам, пад Берлінам і Прагай... Ва ўсіх кутках Еўропы, вызваленай ад карычневай чумы. І здаецца мне, што разам з сэрцамі герояў Брэсцкай крэпасці б’юцца сэрцы Андрэя Ушакова, Леаніда Гаўрылава, Аркадзя Гейне, Алеся Жаўрука, Аляксея Коршака, Міколы Сямашкі і многіх іншых мастакоў-ваяроў, многія з якіх маглі б стаць класікамі нашай літаратуры. Не сталі, бо радкі іх абарвалі кулі. Тыя ж, што засталіся пасля іх, апякаюць нашу свядомасць і сёння шчырасцю, светласцю, патрыятычным пафасам заключанага ў іх змесце:

*Так заўжды хвілінамі цяжкімі*
*Саграваеш ты, Радзіма, нас*
*Зор сваіх святлом, вялікім імем,*
*Шчыраю парадай у добры час! [1, с. 73].*

Літаратура:

1. Крывёю сэрца: Бібліятэка беларускай паэзіі. — Мінск: «Беларусь», 1967.

2. Мішчанчук, М. І. Як жыць — дык жыць для Беларусі / М. І. Мішчанчук. — Мінск, 1995.

3. Крушына, Рыгор. Выбраныя творы. 1927—1957 / Р. Крушына. — Нью-Йорк-Мюнхэн, 1957.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 5 студзеня 2010 г.

Мікола Мішчанчук
«Паэзія апаленых пялёсткаў»

**Рэзюме**

Артыкул прысвечаны аналізу творчасці паэтаў, якія загінулі падчас Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар акцэнтуе ўвагу на мастацкіх асаблівасцях светаўспрымання і стылю паэтаў, на тых тэмах і вобразах, якія былі найбольш блізкія кожнаму з іх.

Mikola Mishchanchuk

«The Poetry of Petals Adasted by War»

**The Summary**

This article is dedicated to analysis of creativity of poets which falled during the Great Patriotic War. An author lays special emphasis on characteristic propeties of ther vision of the world, of their style. He places also emphasis on themes and shapes which were kindred to each of them the most.

## «КРУГЛЫ СТОЛ» Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і часопіса «Полымя»

*Да 65-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі сабраў чарговы «круглы стол». Удзельнікамі яго сталі айчынныя навукоўцы, літаратуразнаўцы, гісторыкі, супрацоўнікі архіваў, а таксама прадстаўнікі СМІ. Адбылося мерапрыемства 3 сакавіка.*

*На «круглым стале» ўздымалася шырокае кола пытанняў. У прыватнасці, адзначалася, што за апошнія гады была падрыхтавана да друку і апублікавана вялікая архіўная спадчына. Сёння вучоныя-гісторыкі ўвесь час пашыраюць далягляды сваіх пошукаў — у навуковы ўжытак актыўна ўводзяцца не толькі раней невядомыя матэрыялы айчынных архіваў, але і сховішчаў Германіі, дзейнічае некалькі міжнародных праектаў. Дарэчы, на «круглым стале» неаднаразова адзначалася тое, што публікацыі архіўнай спадчыны дазваляюць прадухіліць магчымыя фальсіфікацыі. А нядобрасумленнае маніпуліраванне фактамі, домыслы і свядомыя фальсіфікацыі ўяўляюцца сур'ёзнай грамадскай праблемай, асабліва ў апошнія дзесяцігоддзі.*

*Удзельнікамі «круглага стала» асабліва падкрэслівалася значнасць асвятлення падзей Вялікай Айчыннай вайны ў СМІ, падручніках для школ і ВНУ. Перадача наступным пакаленням гістарычнай памяці аб гераізме папярэднікаў — адна з асноўных задач, якія стаяць сёння перад грамадствам, значны падмурак ідэалогіі. Неаднаразова выступоўцы засяроджвалі ўвагу на тым, што Вялікая Перамога стала адным з важнейшых этапаў у гісторыі беларускага народа. Падзеі Вялікай Айчыннай зрабіліся крыніцай для шматлікіх мастацкіх твораў — сапраўдных шэдэўраў беларускай літаратуры XX стагоддзя. І многія асобы пісьменнікаў, многія характары былі сфарміраваныя гэтымі падзеямі.*

*Асобныя даклады, якія прагучалі на «круглым стале» часопіс «Полымя» прапануе сёння сваім чытачам.*

# ВЯЛІКАЯ ПЕРАМОГА: ВЫНІКІ, ПАМЯЦЬ, УРОКІ

*Матэрыялы «круглага стала» ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі*

***КАВАЛЕНЯ Аляксандр Аляксандравіч**, акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар*:

Адной з праблем, якую мы будзем абмяркоўваць, з'яўляецца праблема захавання памяці аб падзеях вайны.

На беларускай зямлі каля 8,5 тысяч памятных месцаў, брацкіх магіл, абеліскаў і помнікаў. З іх больш як 6,6 тысячы — вайсковыя пахаванні, з якіх амаль 6 тысяч адносяцца да перыяду Другой сусветнай вайны. Пад імі знайшлі вечны спачын сыны Айчыны — воіны, партызаны, падпольшчыкі, мірныя жыхары, расстраляныя і закатаваныя германскімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай. Праца па ўвекавечанні гераізму і мужнасці нашых суайчыннікаў працягваецца. Штогод устанаўліваюцца новыя помнікі воінскай славы, напрыклад, у 2007 годзе іх было адкрыта 12, шматлікія манументы і памятныя знакі аднаўляюцца і рэстаўрыруюцца.

Гэта не проста павага беларускага народа да гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, але і даніна памяці тым, хто паклаў сваё жыццё на алтар Вялікай Перамогі.

Памяць пра вялікія ратныя здзяйсненні народа заўсёды з'яўлялася найважнейшай духоўнай сутнасцю ідэалогіі кожнай дзяржавы. Пры гэтым неабходна падкрэсліць, што перамога Савецкага Саюза над нацысцкай Германіяй была здабыта ў справядлівай, вызваленчай вайне. Германскія агрэсары імкнуліся самымі варварскімі метадамі знішчыць і заняволіць славянскія народы, ліквідаваць дзяржаўны суверэнітэт СССР і забяспечыць сусветную гегемонію. Навуковая распрацоўка

пытанняў гісторыі Другой сусветнай вайны сёння набывае прынцыповы характар. Захаванне і данясенне да будучых пакаленняў памяці пра гераічнасць і мужнасць народа, — адна з найважнейшых задач даследчыкаў ваенных праблем.

У гэтай сувязі я хачу падкрэсліць, што беларускі народ па сваёй сутнасці — народ-праведнік. ПРАВЕДНІК — у праваслаўі святы, які праславіўся подзвігамі і святасцю жыцця ў звычайных мірскіх умовах.

«Спасая попавших в беду воинов, — успамінаюць былыя салдаты і афіцэры, — белорусы нередко погибали сами, но солдат и офицеров Красной Армии на расправу врагу не выдавали. Никого. Ни бурят, ни карелов, ни черкесов, ни удмуртов. Оберегали всех»[1].

Адзін з удзельнікаў тых драматычных падзей так апісвае мужнасць ваяроў і не меншую мужнасць насельніцтва, што ім дапамагала: «Многих после тяжёлого ранения белорусы вырвали из лап смерти. Другие, хоть изможденные и бессильные, брели туда, куда звал высокий воинский долг — ответственность за Родину. Брели туда, где должна была быть линия фронта, чтобы стать в строй. Обессилевшие падали на этой — не повторись она больше! — дороге. Таких белорусы поднимали, ставили на ноги. Солдаты не оставались в долгу: они снова пошли в бой за свободу Белоруссии и ее народа, который помог им, горемыкам, вернуться в строй, сохранить чистой солдатскую совесть».

Вось гэтую ідэю нам неабходна ўзняць на новы ўзровень.

Сёння варта звярнуць увагу на тое, што падчас доўгага і цяжкага шляху фарміравання беларускай дзяржаўнасці нашы продкі неаднаразова давалі адпор іншаземным захопнікам, праяўлялі масавы гераізм і самаахвярнасць, адстойваючы родную зямлю. Супраць германскай агрэсіі, «націску на Усход» ім давялося процістаяць больш як два стагоддзі, да самага разгрому нямецкіх крыжакоў у 1410 годзе пад Грунвальдам, калі на пяць стагоддзяў, аж да пачатку Першай сусветнай вайны, былі спынены спробы ўварвання захопнікаў на славянскія землі. Вопыт продкаў, іх гераічныя традыцыі і духоўная сіла аказаліся запатрабаванымі і ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі старажытны германскі «Дранг нах Остен» у нацысцкім выкананні зноў абрынуў беды і няшчасці на славянскія землі ў суровым 1941 годзе.

Нельга не адзначыць, што сёння робіцца ўсё магчымае, каб унесці смуту, пасеяць недавер у шэрагах славянскага свету. Гэтыя спробы не новыя. З замшэлых куфэркаў халоднай вайны зноў і зноў выцягваюцца праекты, якія накіраваны на рэанімацыю глыбокага цывілізацыйнага расколу ў славянскім свеце. На наша вялікае шчасце, і гэта асабліва неабходна падкрэсліць, такія праекты рыхтуюцца не ў Кіеве, не ў Варшаве, не ў Маскве і тым больш не ў Мінску. Выкарыстоўваючы сілы, якія маюцца ў славянскіх дзяржавах, гэтыя праекты пастаянна мусіруюцца і накіраваны на стварэнне раздзяляльных бар'ераў у славянскім свеце. Здавалася б, Расія і Польшча столькі сіл выдаткавалі дзеля ўладжвання праблемы Катынскай трагедыі, як з'явілася праблема АУН-УПА, затым Галадамор, потым беларуска-польскія стасункі і г. д.

Але Рэспубліку Беларусь ніхто не можа пазбавіць права на гістарычную ініцыятыву выступаць аб'яднальным цэнтрам славянскага свету. Уяўляецца, што наш «круглы стол», які праводзіцца напярэдадні Вялікай Перамогі, у якім удзельнічаюць вучоныя розных навуковых кірункаў, павінен садзейнічаць кансалідацыі падыходаў у вывучэнні праблем Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў, усталяванню ўзаемаразумення паміж даследчыкамі. Адзначаючы велізарны ўклад Савецкага Саюза і краін антыгітлераўскай кааліцыі ў агульную перамогу, нам неабходна звярнуцца да народаў славянскіх дзяржаў і іх лідэраў з пытаннем

---

[1] Нежинский Валентин. Солдаты умирают с оружием. Партизанские были. — Ставрополь, 1971, с.12—13.

аб недапушчэнні палітыкі супрацьстаяння ў славянскім свеце і стварэнні Пантэона памяці, прабачэння і прымірэння.

Гэта зусім не значыць, што мы не павінны вывучаць вострых, складаных і супярэчлівых старонак гісторыі. Думаю нават, што, наадварот, могуць быць створаны сумесныя працоўныя навуковыя групы па даследаванні найбольш складаных і недастаткова вывучаных праблем агульнай гісторыі.

***САВІЦКІ Алесь Ануфрыевіч****, пісьменнік:*

Дарагія сябры, думаю, я болей за усіх сёння ўдзячны гэтай гаворцы. Чым далей у змрочную цемру стагоддзяў сыходзіць ранак 22 чэрвеня 1941 года, тым усё болей і болей набліжаецца ў светлым арэоле 9 мая 1945 года. Мы павінны ўсведамляць Перамогу як подзвіг усяго народа і трыумф духу савецкага салдата. У гэтым свяце веліч таго, чым жыла Савецкая краіна ўсе цяжкія ваенныя гады. І гэта сапраўды велічна.

Большасць нашых землякоў усведамляюць тую веліч, той скарб, які перайшоў да іх ад папярэдніх пакаленняў. У нашай краіне годна ўшаноўваецца 65-годдзе Перамогі. Прынамсі, хацелася б звярнуць увагу на некалькі кніг, што выйшлі апошнім часам. Напярэдадні 65-годдзя музея Вялікай Айчыннай вайны быў выдадзены шыкоўны фаліянт, дзе сабраныя матэрыялы з фондаў музея. Тут і літаратурныя творы, і частушкі, і франтавы фальклор. Паглядзіце, якія гэта матэрыялы! У іх выявіўся дух змагароў з фашызмам. Чытача здзіўляе трапнасць, гумар, назіральнасць, і — галоўнае — непахісная вера ў перамогу. Адкуль гэта ўсё? Як у складанейшых умовах просты чалавек, салдат ці партызан мог захоўваць усе гэтыя якасці? Але бачыце — мог. Кніга надзвычай каштоўная, бо ў ёй багацце духу і сіла характараў.

Узгадаю і яшчэ адну не менш цікавую кнігу, якая выйшла ў энцыклапедычным выдавецтве імя Петруся Броўкі. Кніга называецца «І паўстаў народ». Вялікае, аркушаў пад сто, выключна добра ілюстраванае выданне. Яно ўяўляе сабой факсімільнае перавыданне партызанскіх газет, лістовак, якія ўласнаручна пісалі самі байцы партызанскіх атрадаў. Вазьміце гэты том у рукі, паглядзіце, што гэта такое. Якая неверагодная каштоўнасць у нашых руках! Беларускі народ здолеў захаваць усё гэта, перадаць нашчадкам.

Але ёсць у нашай краіне сілы, якія мэтанакіравана б'юць па ўсім святым, імкнучыся разбурыць людскую памяць. А памяць ёсць не толькі ў людзей, яна ёсць у зямлі. Зямля Беларусі палітая і беларускай крывёю, і рускай, і ўзбекскай, і ўкраінскай, і казахскай… Яна палітая крывёю людзей усіх нацыянальнасцей, якія жылі на абсягах Савецкага Саюза. Таму наша радзіма была такая нязломная. Такая яна і ёсць.

Калі знішчыць у моладзі памяць аб тым, па якой праўдзе жылі бацькі і дзяды, не будзе ніякай дзяржавы, ніякай незалежнасці. І ніякай будучыні для народа. На гэта скіраваныя намаганні ворагаў.

Цяпер я хачу звярнуцца да прадстаўнікоў СМІ. Гэты год — год асаблівага юбілею. Чаму б у кожным нумары нашых газет і часопісаў не даваць рубрыку, прысвечаную Перамозе? Звярніцеся па матэрыялы ў той жа музей Вялікай Айчыннай вайны, у архівы. У музеі захоўваецца медаль «За адвагу», прабіты фашысцкай куляй — якая яскравая гэта была б ілюстрацыя да рубрыкі! Гэты медаль знайшлі следапыты праз трыццаць тры гады пасля Перамогі, пад Жлобінам, у заваленым выбухам акопе. Потым па нумары даведаліся, што ўзнагарода належала Сямёну Рыгоравічу Летаву, рускаму салдату. Ён атрымаў медаль «За адвагу» за баі на Курскай дузе, а загінуў тут, на палях Беларусі.

Чаму мы так саромеемся ці то баімся гаварыць пра гераізм нашых людзей у час вайны? У душы мы разумеем, што зямля наша вялікая, святая, але не гаворым пра гэта людзям проста і шчыра са старонак газет і часопісаў.

А ёсць тыя, хто не баіцца казаць адваротнае! Яны нахабна і беспардонна ўрываюцца ў гісторыю, патрашаць юныя душы, плююць у нашу памяць. Усім

сумленным людзям варта павучыцца, як трэба адстойваць свае перакананні. Я ўпэўнены, што мы не павінны прайграць змаганне за волю і незалежнасць нашай краіны, як прайграла ў свой час Камуністычная партыя Савецкага Саюза. Моцная, вялізарная партыя, а чаму яна прайграла? Толькі таму, што дактрына Далеса аказалася мацнейшая, і памагатых у яе ажыццяўленні знайшлося болей, чым змагароў за тую праўду, якой жыў народ. Калі мы сёння не схамянёмся, не паглядзім вакол сябе і не асэнсуем тое, што мы — вялікі народ, вялікая краіна, то загінем.

Часопіс «Полымя» друкаваў серыю дакументальных нарысаў пра герояў Савецкага Саюза. Прагартайце гэтыя матэрыялы. Праз кожны невялічкі нарыс паўстае Герой, Чалавек, Асоба.

Але знайшліся людзі, у тым ліку і сярод пісьменнікаў, якія замахнуліся на самае святое для нашага народа, на імёны і постаці герояў. Не дагадзіла ім ленінградка Зіна Партнова. Ужо выдадзена кніжка пра Зіну Партнову, дзе даводзіцца думка, быццам яна не сама ішла на подзвіг, не сэрца яе вяло, а нейкія асабісты. У прадмове аўтар зазначыў: «Я паспрабаваў абысціся без хцівай ідэалогіі і напісаць пра тое, што хвалявала. Але прасачыліся чуткі, што пагнаў Зіначку на смерць нейкі нядобразычлівец з ліку асабістаў»… Не, якраз без ідэалогіі ён і не абышоўся. Але ці патрэбная нам такая «ідэалогія»? Такое прыніжэнне, збэшчванне святой памяці нашага народа!

І гэта толькі ў прадмове. А ў кнізе аж два раздзелы распавядаюць пра тое, як той асабіст спрабуе згвалціць Зіну Партнову, бо яна не адказала яму ўзаемнасцю, і ўрэшце ён пасылае яе на смерць. Але доказаў таму няма.

Між тым у музеі Обальскага падполля ляжаць дакументы, якія адназначна даказваюць, што ўсе падобныя пасажы — лухта несусветная. Калі я пісаў раман пра Обальскае падполле, сам вывучаў дакументы. Мне пашчасціла цэлы год сустракацца з Фрузай Зіньковай. Яна расказвала, як усё было, якая мужнасць, якая вера вяла людзей. І дакументы яшчэ раз пацвярджаюць гэта.

Але трэба было ўтаптаць у бруд імя Зіны Партновай, бо гэтае імя стала для нас святым, яно ўвайшло ў падручнікі, на якіх вырасла некалькі пакаленняў сумленных людзей.

Калі мы не дазволім збэсціць нашу гісторыю, скарбы нашай памяці, Беларусь будзе квітнеючай незалежнай краінай. А захаванне памяці і прапаганда таго лепшага, чаго дасягнуў наш народ у сваёй гісторыі, асноўная задача і для вучоных, і для пісьменнікаў, і для прадстаўнікоў СМІ. Гэтая справа яднае ўсіх нас.

***ГНІАМЁДАЎ Уладзімір Васільевіч**, акадэмік НАН Беларусі, пісьменнік, літаратуразнавец:*

Надзвычай цікава прысутнічаць на падобных мерапрыемствах. Навуковец часам бывае не менш эмацыянальны, чым наш брат пісьменнік. Сапраўды, гісторыя як навука вымагае творчага падыходу, душэўнага, эмацыянальнага стаўлення да справы. Бо дакументы і рэчыўныя сведчанні — гэта яшчэ не ўсё. Паколькі зямля, як і паліцы архіваў, далёка не ўсё могуць захаваць і данесці да нашчадкаў. Існуе яшчэ нешта няўлоўнае...

Пісьменнік і гісторык часта дапаўняюць адзін аднаго ў сваёй працы, у перадачы наступным пакаленням вопыту папярэднікаў. Можа, там, дзе заканчвае гісторык, пачынае пісьменнік. І наадварот.

Калі я рыхтаваў даклад на пленум Саюза пісьменнікаў, прысвечаны ваеннай тэме ў айчыннай літаратуры, дык з вялікім задавальненнем перачытваў беларускую літаратуру пра вайну. Сапраўды, вялікая літаратура. І, што цікава, кожны твор з цягам часу пачынае ўспрымацца па-іншаму, глыбей, шматзначней. Канечне, у дадзеным выпадку я гавару пра лепшыя, самыя высокія ўзоры літаратуры.

Мне давялося прачытаць некалькі дзесяткаў кніг партызанскіх успамінаў. Часта гэта проста агульшчына. Мала падрабязнасцей, дэталей,назіранняў, мала

таго непаўторнага — таго, чаго мы ў першую чаргу чакаем ад літаратурнага твора.

Зусім іншае пачуццё выклікае кніга Уладзіміра Калесніка «Доўг памяці». Мне хацелася б спыніцца на ёй у гэтым маім кароткім слове. Бо кніга гэтая ў нечым знакавая і вельмі значная, калі казаць аб мастацкай значнасці. Кніга падобраму суб’ектыўная. Падобная суб’ектыўнасць і спараджае непаўторнасць, бо мастацкае светабачанне — непаўторнае.

У канцы кнігі я натрапіў на цікавую мясціну. Апісваецца партызанскі атрад, які арганізаваў Уладзімір Калеснік са сваімі аднавяскоўцамі з Сіняўскай Слабады, што на Нёмане. Аўтар не ўтойвае цяжкасцей, кранальна піша і аб драматызме тагачасных падзей, і аб тых трагічных здарэннях, якія давялося яму перажыць. Ён рэалістычна малюе і партызанскі побыт, і адносіны між людзьмі, і характары, і настроі.

Акцэнт ён робіць на думцы аб тым, што калі б вермахт прасунуўся далей на ўсход, на Волгу, а то і далей, то юнакі і там, за Уральскім хрыбтом, арганізавалі б такі самы партызанскі атрад і да канца змагаліся б і з нямецкімі фашыстамі, і з японскімі самураямі. Так піша аўтар.

На жаль, кніга яго зусім не прапагандуецца, пра яе рэдка можна пачуць. Але такая шчырая аўтарская пазіцыя, па-добраму ідэалагічная і адкрытая, калі аўтар прызнаецца ў тым, што перажываў на той час, не можа не крануць і сённяшняга чытача.

А гэтая кніга дазваляе ўявіць сабе тагачасныя абставіны, дэталі побыту, агульны лад жыцця, пачуцці і думкі. Пісьменніку надзвычай важна перадаць усё гэта. Гісторык, навуковец часам можа абмежавацца пералікам пэўных лічбаў і фактаў. Але такую карціну нельга назваць цалкам аб’ектыўнай. Для аб’ектыўнай карціны трэба паказаць і другі бок падзеі — унутраны. Звычайна менавіта яго імкнецца выявіць літаратура. Таму мы і кажам, што намаганні гісторыкаў і літаратараў у многім агульныя. І адны і другія ствараюць пэўнае духоўнае апірышча для чалавека. А сёння гэтае апірышча асабліва неабходнае ўсім нам.

***БАРАНОЎСКІ Яўген Іванавіч**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гуманітарных дысцыплін Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі.*

Паважаныя калегі! Разглядаемыя сёння пытанні, на мой погляд, сімптаматычныя, знаёмства з імі яшчэ раз падкрэслівае, што галоўным і лёсавызначальным для існавання ў Беларусі школы прафесійных гісторыкаў з’яўляецца наяўнасць багатай крынічнай базы па гісторыі партызанскага і падпольнага руху, якая сканцэнтравана сёння ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, абласных архівах, Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Ваенная гістарычная школа Беларусі арганізоўвалася, падымалася на ногі з удзелам гісторыкаў — ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Самае вялікае і значнае, што яна зрабіла, — гэта з’яднанне народа, гэта ўзвелічэнне імя Беларусі на міжнароднай арэне. Сёння з таго, што мы бачым, вымалёўваецца жаданне асобных даследчыкаў пераглядзець некаторыя прынцыповыя пытанні гісторыі, але не заўсёды гэта робіцца з апорай на дакладны характар ужываемых крыніц. Улічваючы гэта, я яшчэ раз хачу засяродзіць увагу прысутных на нявыкарыстаных магчымасцях пры рэканструкцыі падзей 1941—1942 гг., на высвятленні асаблівасцей некаторых архіўных дакументаў, на пытаннях так званага прававога поля тых, хто бярэцца на дадатковы ўлік у якасці партызана ці падпольшчыка.

Недастаткова вывучаны і ўзяты пад увагу нямецкія дакументы, якія фарміраваліся з сакавіка 1941 г. па снежань 1941 г. Без іх уліку цяжка, а часам і немагчыма зразумець складаныя падзеі, у тым ліку і дзень 26 кастрычніка 1941 года ў Мінску, які па сутнасці можна назваць пярэдаднем рашаючага кідка немцаў на Маскву. Мною былі перабраны дзесяткі, сотні такіх дакументаў, якія тычац-

ца асобных нямецкіх армій, групы армій Цэнтр, тылавых часцей, паліцэйскіх падраздзяленняў, якія дапамагаюць вызначыць этапы каланізацыі акупіраванай тэрыторыі, яе тактычныя і стратэгічныя мэты і задачы. Праз вывучэнне гэтага комплексу мы бачым, што восенню 1941 г. значная колькасць савецкіх вайскоўцаў спрабавала перайсці лінію фронту, каб далучыцца да часцей дзеючых армій. У Мінску колькасць іх складала дзесяткі, сотні чалавек. Яны жылі, галоўным чынам, у прыватным сектары і мелі сувязь, як пішуць самі немцы, толькі з «рускім раёнам». Менавіта па ім і быў нанесены першы ўдар нямецкай службы бяспекі. Трагедыя гэтых людзей у тым, што акупацыйная ўлада многіх з іх не толькі знішчыла, але і абылгала. Асабліва дасталося кіраўнікам — І. І. Рогаву, П. І. Антохіну, І. М. Бялову. На жаль, да сённяшняга дня некаторыя гісторыкі прылічваюць названых людзей да катэгорыі здраднікаў. Былыя савецкія вайскоўцы — баявая група Мінскага падпольнага ГК КПБ (сакратар І. К. Кавалёў), ёю было пачата фарміраванне больш як 20 партызанскіх атрадаў і брыгад.

Асобнае месца ў пазнанні мінулага займаюць дакументы камітэтаў дзяржбяспекі СССР і БССР. Функцыі Наркамата дзяржбяспекі БССР у ваенны час выконваліся фактычна ведамствамі органаў дзяржбяспекі, якімі кіраваў Л. П. Берыя. Па гэтай прычыне адразу пасля вайны многія дадзеныя па гісторыі зараджэння, станаўлення і развіцця ў Беларусі шырока разгалінаванага падполля аказаліся ў фондах архіўных устаноў Камітэта дзяржбяспекі СССР. Гэта стварала дадатковыя гістарыяграфічныя цяжкасці для аднаўлення праўды аб дзвюх вядучых падпольных арганізацыях — Мінскай і Магілёўскай. Больш-менш поўная праўда была адноўлена аб Мінскім падполлі да 1959 г., а аб Магілёўскім — толькі да 1964 г. Абараняць гэтую праўду патрэбна і сёння, бо маюць месца спробы зноў кінуць цень на гістарычныя дасягненні падпольных арганізацый у Беларусі. Адным з такіх сведчанняў з'яўляецца выхад у Маскве ў нашыя дні кнігі «Оккупация» (аўтар — Сакалоў), якая пабудавана на домыслах, даўно адкінутых беларускай гістарыяграфіяй. Лічу, што сённяшнія заклікі некаторых аўтараў да надрукавання ўсіх падпольных матэрыялаў запар — дарога ў нікуды, бо амаль 70 працэнтаў з іх створаны ў час існавання прадузятага абвінаваўчага ўхілу з боку некаторых саюзных органаў улады да беларускага гарадскога антыфашысцкага падполля, якое нараджалася ў 1941—1942 гадах на аснове самачыннага руху «знізу». Ніхто не пярэчыць супраць такой работы, але яна павінна тычыцца сапраўды дакладных крыніц, мець на ўвазе гістарычныя, а не камерцыйна-сенсацыйныя мэты.

На жаль, мае месца пэўная блытаніна ў самім найменні «Мінскае падполле». У пачатку яно гучала як «камуністычнае», потым — «партыйнае», потым — «патрыятычнае». У 1995 г. група гісторыкаў — І. М. Ігнаценка, К. І. Дамарад, А. М. Літвін, Г. І. Баркун, аўтар гэтых радкоў і іншыя — прапанавала ў спецыяльным звароце да выдавецтваў называць Мінскае падполле выразам «Мінскае антыфашысцкае падполле». Ён бліжэй да праўды па мэтах і задачах дзейнасці, якасным складзе радоў пярвічных падпольных груп і арганізацый, выводзіць падполле з разраду ведамасных падпольных фарміраванняў, родніць яго з антыфашысцкімі падпольнымі арганізацыямі іншых краін Еўропы і свету перыяду Другой сусветнай вайны.

У сваім звароце да ўдзельнікаў «круглага стала» дырэктар Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Аляксандравіч Каваленя заклікаў прысутных звярнуць асаблівую ўвагу на захаванне гістарычнай памяці. Нельга гэта не падтрымаць, бо нішто так не ўмацоўвае нашу маладую дзяржаву, як захаванне пераемнасці пакаленняў, як выхаванне падрастаючай моладзі на прыкладах бацькоў, дзядоў, іншых прадстаўнікоў старэйшых узростаў. У гэтыя дні спаўняецца 45 гадоў другому масаваму ўзнагароджанню ўдзельнікаў партызанскага і падпольнага руху Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (04. 1965 г.). У цэлым гэта была вялікая патрыятычная акцыя, якая ахапіла амаль усе слаі насельніцтва. На 12 чалавек павялічыўся тады лік Герояў Савецкага Саюза за

ўдзел у партызанскім і падпольным руху ў Беларусі. На жаль, сярод пяці Герояў Савецкага Саюза — удзельнікаў Мінскага антыфашысцкага падполля — не аказалася ніводнага карэннага мінчаніна, ніводнага беларуса. Хоць яны належаць да тых, хто склаў 80 працэнтаў ад агульнага ліку падпольшчыкаў.

Пытанне аб узнагароджанні — гэта таксама старонка ваеннай гісторыі. Падполле — адзіны ваенны фронт, дзе не існавала справаводства. Падпольшчыкі, якія накіроўваліся на выкананне небяспечных заданняў, верылі ў аб'ектыўную гісторыю. За яе адказваем і мы сваімі працамі, дакладнасцю іх крыніц. У 2006 г. споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння І. К. Кавалёва, рэабілітаванага ў 1990 г. па выніках трохгадовай працы 4-й спецыяльнай рэспубліканскай камісіі. Аўтар гэтых радкоў як член гэтай камісіі, які выконваў абавязкі яе адказнага сакратара, рыхтаваў адпаведную дакументальную даведку, звярнуўся ва ўказаны час у адзін з дзяржаўных камітэтаў з просьбай унесці інфармацыю аб гэтым юбілеі ў рэспубліканскі каляндар знамянальных гістарычных дат. Але зварот не пачулі. Цяжка сказаць, чым кіраваліся тыя людзі. Але ці можа гэта лічыцца вызначальным момантам?

***ВАЛАХАНОВІЧ Ігар Аляксандравіч****, навуковы супрацоўнік Цэнтральнага архіва Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук.*

У 2000 годзе пасля падрыхтоўчага перыяду па ініцыятыве германскіх даследчыкаў пачалася практычная работа па рэалізацыі міжнароднага навукова-даследчага праекта «Савецкія і нямецкія ваеннапалонныя і інтэрніраваныя. Вывучэнне пытанняў гісторыі Другой сусветнай вайны і пасляваеннага перыяду». Мэта яго — высвятленне лёсаў і месцаў пахавання савецкіх зняволеных, якія загінулі ў германскім палоне, а таксама нямецкіх ваеннапалонных, якія загінулі ў савецкім палоне. Першапачаткова праект быў германа-расійскім. З нямецкага боку ў ім браў удзел Дакументальны цэнтр Аб'яднання «Саксонскія мемарыялы ў памяць ахвяр палітычнага тэрору», з расійскага — архіўныя службы Міністэрства абароны, Міністэрства ўнутраных спраў і Федэральнай службы бяспекі Расійскай Федэрацыі. У 2002 годзе да праекту далучыліся архівісты Беларусі, у тым ліку Цэнтральны архіў КДБ Рэспублікі Беларусь, у 2004 — архівісты Украіны, у тым ліку Дзяржаўны галіновы архіў Службы бяспекі Украіны.

Аснову навукова-даследчай работы, якая праводзіцца ў межах праекта, складае апрацоўка інфармацыі, што ўтрымліваецца ў картках савецкіх ваеннапалонных. Карткі падчас Другой сусветнай вайны захоўваліся ў даведачнай службе вермахта (ВАСт). Пасля разгрому Германіі большасць картак у якасці трафеяў апынулася ў Савецкім Саюзе і атрымала найменне «трафейных картак на савецкіх ваеннапалонных». Асноўны іх масіў быў перададзены для захавання ў Падольскі архіў (у цяперашні час Цэнтральны архіў Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі), а таксама архівы органаў дзяржаўнай бяспекі, у тым ліку і Беларусі.

Рэалізацыя міжнароднага навукова-даследчага праекта вымагае вывучэння і апрацоўкі германскім, расійскім, беларускім і ўкраінскім бакамі некалькіх мільёнаў картак, заведзеных больш чым на мільён ваеннапалонных. Уся апрацаваная расійскімі, беларускімі і ўкраінскімі даследчыкамі інфармацыя перыядычна перадаецца нямецкаму боку для абагульнення і ўводу ў агульную электронную базу. Па меры неабходнасці абагуленая інфармацыя прадастаўляецца кожнаму з удзельнікаў праекта.

За перыяд дзеяння дамовы паміж КДБ Рэспублікі Беларусь і Аб'яднаннем «Саксонскія мемарыялы ў памяць ахвяр палітычнага тэрору» супрацоўнікамі Цэнтральнага архіва КДБ апрацаваны і ўведзены ў электронную базу дадзеных «Савецкія ваеннапалонныя» звесткі больш чым на 12 000 чалавек. На сённяшні

момант вывучаны ўсе трафейныя карткі (а іх больш за 20 000), якія захоўваюцца ў Цэнтральным архіве КДБ, распачата і актыўна вядзецца праца па апрацоўцы трафейных картак, якія захоўваюцца ў архіве ўпраўленняў КДБ Рэспублікі Беларусь па Брэсцкай, Гомельскай і Гродзенскай абласцях (трафейныя карткі, якія раней знаходзіліся ў архіве ўпраўлення КДБ РБ па Магілёўскай вобласці ў 1994 годзе былі перададзеныя на пастаяннае захаванне ў Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці).

Па інфармацыі, якая выявілася ў ходзе апрацоўкі трафейных картак, што захоўваюцца ў Цэнтральным архіве КДБ РБ, а таксама адабранай германскімі даследчыкамі з агульнай электроннай базы дадзеных на савецкіх ваеннапалонных, устаноўлены звесткі аб даце смерці і месцы пахавання больш чым 22 000 савецкіх ваеннапалонных — ураджэнцаў Беларусі. Дзякуючы інфармацыі, апублікаванай КДБ у беларускіх рэспубліканскіх і рэгіянальных СМІ, устаноўлены родзічы больш як 500 савецкіх палонных, ураджэнцаў нашай рэспублікі, якія загінулі ў нямецкім палоне. Большасць указаных ахвяр лічыліся да апошняга часу прапаўшымі без вестак. Звесткі аб даце смерці савецкіх воінаў, месцах іх пахавання, а таксама копіі знойдзеных у архівах дакументаў, былі перададзены родзічам падчас урачыстых мерапрыемстваў, якія праводзіліся па ініцыятыве КДБ Рэспублікі Беларусь у Магілёве (2006 год), Віцебску (2008 год), Мінску (2009 год) і Гомелі (2010).

За час удзелу ў міжнародным навукова-даследчым праекце супрацоўнікамі Цэнтральнага архіва КДБ было вылучана некалькі інавацыйных прапаноў па пашырэнні поля навуковага пошуку інфармацыі ў адносінах ваеннапалонных. Так, па ініцыятыве беларускіх даследчыкаў, якую падтрымаў і нямецкі бок, акрамя нямецкіх трафейных картак, што захоўваюцца ў архівах органаў дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь асобнымі масівамі пры фондах архіўных фільтрацыйных спраў, быў распачаты пошук і навуковая распрацоўка дакументаў у адносінах савецкіх ваеннапалонных у саміх архіўных фільтрацыйных справах на асоб, якія вярталіся на тэрыторыю Беларусі падчас рэпатрыяцыі пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Гэтыя людзі праходзілі праверку ў савецкіх праверачна-фільтрацыйных лагерах. Як правіла, архіўныя фільтрацыйныя справы ўключаюць анкету рэпатрыянта, адзін або некалькі пратаколаў яго допытаў супрацоўнікамі органаў дзяржбяспекі, адзін ці некалькі пратаколаў допыту асоб, якія ведалі рэпатрыянта, а таксама рэчыўныя дадаткі (асабістыя дакументы, фотаздымкі, лісты і інш). Часам у якасці рэчыўных дадаткаў да фільтрацыйных спраў далучаны трафейныя нямецкія дакументы, у тым ліку і карткі ваеннапалонных (пропускі, працоўныя карты, даведкі, асабовыя карткі ваеннапалонных і г. д.). У выніку гэтай працы супрацоўнікамі Цэнтральнага архіва КДБ былі выяўлены і ўключны ў электронную базу дадзеных «Савецкія ваеннапалонныя» звесткі пра больш чым 700 савецкіх ваеннапалонных.

Канкрэтныя вынікі навукова-даследчай работы, якая праводзіцца ў Цэнтральным архіве КДБ, не з'яўлюцца закрытымі і знайшлі сваё адлюстраванне ў асобных публікацыях яго супрацоўнікаў. Матэрыялы рыхтаваліся ў межах рэалізацыі міжнароднага навукова-даследчага праекта[1].

Акрамя таго, 12 снежня 2003 года ў Мінску пры непасрэдным удзеле Цэнтральнага архіва КДБ Рэспублікі Беларусь была арганізавана і праведзена ў Нацыя-

---

[1] Климкович Н. Трагедия истории. // Во имя живых. Помнить о погибших. — Дрезден, 2003. С. 16—21.; Валаханович И. А. Неизвестный плен. История одного побега из немецкого лагеря для военнопленных. // Во имя живых Помнить о погибших. – Дрезден, 2003. С. 86—103.; Казакова Е. В. Электронная база данных «Советские военнослужащие»: новые возможности исследования. // Советские и немецкие военнопленные в годы Второй мировой войны. — Дрезден — Минск, 2004. С. 122—155.

нальным архіве РБ міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Савецкія і нямецкія ваеннапалонныя ў гады Другой сусветнай вайны: асноўныя напрамкі даследаванняў».

Вопыт, атрыманы супрацоўнікамі Цэнтральнага архіва КДБ Рэспублікі Беларусь падчас навуковай апрацоўкі дакументаў у адносінах савецкіх і нямецкіх ваеннапалонных, з'яўляецца запатрабаваным і плануецца да выкарыстання іншымі ўдзельнікамі міжнароднага праекта.

***ВАРАНКОВА Ірына Юр'еўна**, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі:*

XX стагоддзе як ніякое іншае, было насычана ваеннымі падзеямі. Акрамя дзвюх войнаў, адбылося больш як дзесяць буйных лакальных ваенных сутыкненняў і незлічоная колькасць узброеных канфліктаў на тэрытарыяльнай, палітычнай ці этнічнай глебе... Практычна ўсе яны ў той ці іншай ступені закранулі жыццё беларускага грамадства, а, значыць, сталі неад'емнай часткай гісторыі Беларусі. Аднак трэба прызнаць, што да цяперашняга часу беларуская гістарычная навука з-за шэрага зразумелых прычын надавала асноўную ўвагу даследаванню буйнейшага для Беларусі ваеннага канфлікту мінулага стагоддзя — Другой сусветнай вайне. У яе ценю дзесяцігоддзямі заставаўся ланцуг ваенных здарэнняў, што прывёў да гэтай вайны і працягваўся пасля яе заканчэння. Асабліва гэта тычыцца кантэксту ўдзелу ў іх беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі. Асноўная ўстанова, якая займаецца ў нашай краіне ўвекавечаннем памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў — адпаведнае ўпраўленне Міністэрства абароны — засяродзіла сваю ўвагу ў асноўным на падзеях Вялікай Айчыннай. Аднак, як кажуць, краіна павінна ведаць сваіх герояў, поўнае веданне гісторыі з'яўляецца падмуркам палітычнай і маральнай стабільнасці грамадства.

Справа зрушылася з месца ў 2006 годзе, калі аддзел ваеннай гісторыі і міждзяржаўных зносін Інстытута гісторыі, які я прадстаўляю, пачаў працу па дзяржаўнай праграме комплексных даследаванняў «Гісторыя беларускай нацыі, дзяржаўнасці і культуры», а дакладней — па тэме «Беларусь у войнах і ваенных канфліктах XX стагоддзя». На сённяшні дзень, праз больш як 4 гады працы, дасягнуты дастаткова сур'ёзныя вынікі.

Адным з аспектаў гэтай вялікай праблемы з'яўляецца новая для беларускай гістарычнай навукі тэма ўдзелу нашых суайчыннікаў у ваенных падзеях канца 20—30-х гадоў, якія сталі пралогам Другой сусветнай вайны, у прыватнасці, ва ўзброеным канфлікце паміж СССР і Кітаем у раёне Кітайска-Усходняй чыгункі ў 1929 годзе, у вайне ў Іспаніі 1936—1939 гадоў, грамадзянскай вайне ў Кітаі і японa-кітайскай вайне ў перыяд 1923—1941 гадоў, а таксама ў сутыкненнях між СССР і Японіяй у раёнах возера Хасан (Забайкалле) у 1938 годзе і ракі Халкін-Гол у Манголіі ў 1939 годзе.

Усе яны з'ўляліся значнымі вехамі ў гісторыі міждзяржаўных адносін пярэдадня Другой сусветнай вайны, у многім вызначылі яе характар і ход падзей. Канфлікт на Кітайска-Усходняй чыгунцы стаў першым пасля заканчэння грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі сутыкненнем СССР з замежнай дзяржавай. Вайну ў Іспаніі варта разглядаць як генеральную рэпетыцыю Другой сусветнай вайны, паколькі там упершыню сусветнай супольнасцю быў дадзены бой фашызму. Баявыя дзеянні супраць японскіх агрэсараў у Кітаі, і асабліва на возеры Хасан і рацэ Халкін-Гол, дзе несумненная перавага аказалася на баку савецкай зброі, у значнай ступені прадвызначылі адмову Японіі ад планаў выступу супраць Савецкага Саюза ў перыяд Другой сусветнай вайны. Усе ўзгаданыя вышэй падзеі былі даследаваны ў кантэксце ўдзелу ў іх беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі, іх уплыву на жыццё ўсяго беларускага грамадства, на гісторыю Беларусі ў цэлым.

У няпростай міжнароднай абстаноўцы 1930-х гадоў знешняя палітыка Савецкага Саюза, накіраваная ў першую чаргу на захаванне бяспекі сваіх межаў,

мела на мэце таксама пошук саюзнікаў, для чаго прадпрымаліся меры для падтрымання стабільнасці ў краінах, якія ішлі ці гатовыя былі пайсці адзіным з СССР палітычным курсам. Зыходзячы з гэтай канцэпцыі, вядомай пад назвай сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, у 1930-я гады СССР аказваў ім значную ваенную, эканамічную і маральную дапамогу, якая заключалася, сярод іншага, у накіраванні ў гэтыя краіны ваенных спецыялістаў і сумесных баявых дзеяннях супраць агульнага ворага. У тыя гады воіны-інтэрнацыяналісты, накіраваныя ў далёкія краіны па загадзе, але нярэдка — і па асабістым жаданні, горача верылі, што адстойваюць ідэалы міжнароднай салідарнасці, што тым самым абараняюць інтарэсы сваёй дзяржавы. Іх служба назаўсёды засталася ў гісторыі як прыклад вернасці прысязе, шчырага выканання свайго абавязку.

У сувязі з гэтым сумотнае ўражанне робіць гаворка з адным з нашых гісторыкаў сярэдняга пакалення, які настойваў на тым, што ў працы над адзначанай тэмай неабходна ў першую чаргу «выкрыць злачынствы сталінскай таталітарнай сістэмы», якая накіроўвала грамадзян СССР на смерць за межы сваёй краіны. Не адмаўляючы неабходнасць вывучэння праблемы сацыялістычнага інтэрнацыяналізму ў цэлым, галоўная задача бачыцца ў іншым — вярнуць з нябыту складанейшыя і цікавыя старонкі сусветнай гісторыі ў кантэксце гісторыі беларускага народа.

Адным з галоўных вынікаў працы стала высвятленне 278 імёнаў і біяграфічных дадзеных беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі, якія бралі ўдзел у войнах у Іспаніі, Кітаі, узброеных канфліктах на Кітайска-Усходняй чыгунцы, возеры Хасан і рацэ Халкін-Гол у перыяд 1923—1941 гадоў. 125 з іх загінулі падчас ваенных дзеянняў. Практычна ўсе былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, 8 удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Вызначальна, што першыя ў гісторыі Героі Савецкага Саюза з ліку нашых землякоў з’явіліся падчас іспанскіх падзей 1936 года.

Устаноўлена, што падчас узгаданых падзей беларусы і ўраджэнцы Беларусі ўваходзілі ў лік ваенных дарадцаў высокага рангу, каманднага, кіруючага і радавога складу воінскіх злучэнняў і часцей, прадстаўлялі практычна ўсе роды войск.

Характэрна таксама, што сыны Беларусі знаходзіліся ў складзе дзвюх самых буйных груп савецкіх лётчыкаў і танкістаў, якія ступілі на зямлю Іспаніі ў верасні—кастрычніку 1936 года, а ў цэлым першая група танкстаў была з 4-й механізаванай брыгады, якая дыслацыравалася ў Бабруйску і 6-га мехнізаванага палка Гомеля.

У складзе інтэрнацыянальных брыгад Іспанскай рэспубліканскай арміі ваявалі нашы землякі-дабравольцы з Заходняй Беларусі. У 14-й Інтэрнацыянальнай брыгадзе імя Я. Дамброўскага дзейнічала беларуска-ўкраінская рота. Камісарам аднаго з інтэрнацыянальных батальёнаў быў старшыня ЦК Камуністычнай моладзі Саюза моладзі Заходняй Беларусі М. М. Дворнікаў.

Праблема вывучалася таксама ў аспекце далейшага лёсу нашых землякоў. Большасць з тых, хто прайшоў баявую закалку ў 1930-я гады, пазней змагаліся на франтах Вялікай Айчыннай і ў партызанскім руху Беларусі, былі ўдастоеныя высокіх урадавых узнагарод і воінскіх званняў.

Падчас працы ўдалося таксама сабраць багаты матэрыял аб грамадскіх і культурных працэсах у Беларусі ў рамках гуманітарных кампаній салідарнасці з іспанскімі рэспубліканцамі, кітайскім народам у яго барацьбе з японскай агрэсіяй, а таксама ў падтрымцы воінаў, якія змагаліся на Далёкім Усходзе.

Прароблена праца — значны ўнёсак у развіццё дзяржаўнай праграмы ўвекавечання памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў. Па атрыманых выніках падрыхтаваны шэраг публікацый у навуковых і навукова-папулярных выданнях, а ў 2009 годзе надрукавана манаграфія (И. Воронкова «Беларусь и война в Испании. 1936—1939 г.г.»).

***Падрыхтавала Марыя Шамякіна.***

АЛЕСЬ ЯСКЕВІЧ

# ТВОРЧАЯ КУЛЬТУРА ІВАНА НАВУМЕНКІ

*16 лютага 2010 года ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі адбылася навуковая канферэнцыя, прымеркаваная да 85-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі, знакамітага літаратуразнаўца і грамадскага дзеяча, акадэміка НАН Беларусі Івана Навуменкі. Мы прапануем чытачам часопіса навуковае даследаванне доктара філалагічных навук Алеся Яскевіча «Творчая культура Івана Навуменкі». У наступных нумарах «Полымя» будуць надрукаваныя асобныя матэрыялы, прадстаўленыя на гэтай канферэнцыі. Яны тычацца розных аспектаў творчасці нашага слыннага літаратара.*

**Творчасць** І. Навуменкі ў выдатнай плеядзе майстроў нацыянальнай прозы яго літаратурнага пакалення займае адметнае месца па арыгінальнасці аўтарскай манеры, чуйным да руху мастацтва наватарстве, глыбока сучаснай культуры творчасці. Пісьменнік-баталіст, якому, паводле яго слоў «прыйшлося браць удзел у самай вялікай, жорсткай, бязлітаснай вайне»; непераўзыдзены майстар апавядальных жанраў, не толькі па колькасці напісанага, але і па незвычайным багацці іх унутрывідавай разнастайнасці; у выніку адзін з найбольш яскравых рэфарматараў празаічнай формы, што перажывала глыбінныя малекулярныя зрухі на працягу XX стагоддзя.

Але ў Навуменкі-апавядальніка, які са здзіўляючай плённасцю адразу дэбютаваў адзін за другім зборнікамі: «Семнаццатай вясной», «Хлопцы-равеснікі», «Верасы на выжарынах», «Таполі юнацтва», «Вераніка», ужо адчуваецца неадольнае імкненне да буйнай эпікі, яго апавяданне звычайна сюжэтна ёмістае, абцяжарана фабульнымі рэтраспекцыямі, перарастаючы нярэдка ў кароткую аповесць. У пераважнай большасці яго апавяданняў няма навелістычнага сюжэта з аднаго здарэння, што, паводле В. Бялінскага, «драбніць жыццё на кроплі і вырывае лісткі з вялікай кнігі жыцця». У апавяданні І. Навуменкі падаецца ўся гісторыя хай сабе юнага жыцця, з падрабязным, менавіта «раманным» разгортваннем абставін і толькі ў фінале заканчваецца нейкім навелістычным выпадкам, нярэдка трагічным зыходам («Вераніка», «Сны», «Ноч у літоўскім гарадку»). У гэтым сэнсе многія яго апавяданні, пры ўсёй іх структурнай завершанасці, нагадваюць своеасаблівыя раздзелы буйных твораў. Пазней маладыя героі яго малых жанраў пад тымі ж ці змененымі імёнамі будуць вар'іравацца ў раманнай трылогіі з падпольнага і партызанскага супраціўлення, у біяграфічных рэтраспекцыях персанажаў рамана «Смутак белых начэй» (1980) і амаль скразным планам цэнтральны лірычны герой апавяданняў ідэнтыфікуецца ў аповесційнай трылогіі «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» (1997). У творчым аспекце гэта было, аднак, зусім не паўтарэнне, літаратурныя аналітыкі назавуць яго коламі мастацкага, філасофскага, урэшце, экзістэнцыянальнага набліжэння да шырока эпічнага раскрыцця сваёй запаветнай тэмы, вобразна і псіхалагічна тоеснага ўвасаблення перажытага ў агні і пекле і над усім узлёце чалавечага духу — у яшчэ няведамай па знішчальнай сіле «вялікай вайне». Тут дарэчы будзе нагадаць правіла класікаў,

што, у адрозненне ад звужэння спектра погляду ў апавяданні, у раманнай форме жыццё павінна «выгаварыцца» да канца.

У мастацкім адлюстраванні сваёй вогненнай зорнай пары І. Навуменка, услед за класікамі, асабліва шчыльна трымаецца архетыповай жыццёвай мадэлі «дзяцінства — падлетак — юнацтва», вернасць якой ён свядома засведчыць у аднайменнай назве сваёй апошняй, найбольш спелай па мастацкім выкананні, вышэй згаданай аповесційнай трылогіі.

І. Навуменку зусім справядліва адносяць да «біяграфічнага» тыпу пісьменніка, «дакументальная» вартасць якога асабліва цэніцца ў навейшай сучаснай прозе. Тут мы маем каштоўнейшыя сведчанні аўтарскай творчай псіхалогіі, у прыватнасці, адносна біяграфічнай дакументальнасці рамана «Смутак белых начэй» пісьменнік зазначае: «Я не ўмею прыдумваць сюжэтаў, яны неяк самі нараджаюцца». Аўтарскае прызнанне пра самазараджэнне сюжэтаў з уласнага пісьменніцкага вопыту якраз дазваляе разумець «біяграфізм» І. Навуменкі ў талстоўскім сэнсе — як крынічанне творчасці з экзістэнцыявання ўласнай, інтэнсіўнай на перажыванні творчай асобы, яе «маральных адносін» да перажытага і ўбачанага.

Першыя кнігі апавяданняў і аповесцей І. Навуменкі, якія неяк дзівосна азарылі школьную тэматыку высакародным рамантычным святлом, заварожваюць вялікаснай галерэяй арыгінальных характараў няўрымслівых юнакоў і дзяўчат у іх самаадданым да астатку, драматычным вучнёўскім спаборніцтве, асветленым першымі цнатлівымі парываннямі сяброўства-кахання; перад якімі натхнёныя сваімі прадметамі географ Антон Антонавіч, знаўца лаціны яшчэ старой школы, настаўнік чарчэння, рэдкага педагагічнага такту славеснік Рыгор Канстанцінавіч (і гэта на фоне нялюбых педагогаў-фармалістаў, тых жа Агрыпіны Іванаўны — Рашэлі, фізкультурніка дон-жуана Міланція Казельчыка!) ператваралі навучанне ў сапраўднае свята пазнавання і выхавання. Тут пісьменнік-франтавік, без перабольшання, упісваў у нашу нацыянальную літаратуру самую яркую старонку аб прадваенным, неўзабаве абпаленым вайною юным пакаленні, што пачасту яшчэ не па ўзросце «семнаццацігадовымі» прыняло на свае кволыя плечы ледзь не асноўны салдацкі цяжар. З прадчування прадваеннага зарыва пачынаецца апавяданне «Вераніка» (1957): «Наш дзесяты клас быў гераічны. Нас, у класе было шаснаццаць хлопцаў, і амаль усе мы марылі пра подзвігі. Чатырнаццаць з шаснаццаці збіраліся паступаць толькі ў ваенныя вучылішчы. Астатніх двух — Федзю Пячкура і Валерыя Самасада, якія разлічвалі трапіць у «цывільныя» інстытуты, — мы за вочы называлі дэзерцірамі».

Для маладосці глыбока натуральная гэтая прага гераічнага ўчынку як псіхалагічная дамінанта ўзроставага ўзмужнення і пасталення. Юнай чытацкай аўдыторыяй асабліва цэніцца гэты ненадуманы максімалізм псіхалагічных адчуванняў герояў І. Навуменкі, да прыкладу, узнёслага ўспрымання аб'яўлення вайны Міцем Птахам, галоўным персанажам раманнай трылогіі аб мясцовым падполлі і партызанскім руху, як пачатку нечага «вялікага, агромністага», што будзе адбывацца «на яго, Міцевых вачах» і чаго ён з'явіцца сведкам і ўдзельнікам. Вось той глыбінны псіхалагізм, здавалася б, несумяшчальных адчуванняў гераічнага і трагічнага на вайне, якому надае падкрэсленую трактоўку ва ўчынках герояў празаік у яго найбольш каштоўным па сваім удзеле ва ўзноўленых падзеях рамане «Смутак белых начэй», які невыпадкова пісьменнікі-франтавікі (Ул. Багамолаў) адносяць да самых рэалістычных твораў пра вайну. Цэнтральны «біяграфічны» герой рамана Сяргей Каліноўскі першы-другі дзень на перадавой увесь «ва ўладзе дрыжыкаў», тым часам усведамляючы, што «страх трэба стрымліваць»: «Усе баяцца. Толькі навучыліся сабой валодаць». Таму яго найбольш непакоіць, каб сябры не выявілі ў ім баязліўца.

З местачковых хлопцаў, што амаль усім мабілізаваным у ваенкамаце складам трапілі ў адну часць, сапраўднай харобрай натурай выяўляе сябе Багдан Мялешка, сірочае жыццё якога выхавала ў любых абставінах «не губляць, як другія, галаву». У час гераічнага прарыву батальёна Чумакова, баец збягае з медсанбата, просячы таварыша: «Ты памоўчвай... Без мяне вы гэтага дота не возьмеце», ад агню якога захлёбваецца каторая ўжо атака. Пад прыкрыццём агню самаходак Мялешка з двума памочнікамі кошкамі праслізгваюць да бункера са скрынкай з фугасам, узрывам якога ад бетоннага каўпака застаецца адно яма з друзам цэменту і пашчапанага ў трэскі ўнутранага абсталявання.

Праявіўшы сябе адчайным падрыўніком ужо ў партызанах, гэты амаль яшчэ падлетак у час бою за сваім неразлучным «Дзегцяровым» ажывае ў нейкім дзівосным уздыме, «твар азораны натхненнем, вочы блішчаць»: «Давай! — гукае Мялешка, штурхаючы ў спіну памочніка, патрабуючы новы дыск». Камбат Чумакоў «заўважыў і выдзеліў Мялешку», прызначыўшы сваёй уладай яго камандзірам падрыўной групы, з пяці байцоў якой адзін неўзабаве гіне, другі, паранены, выбывае са строю.

На захопленым батальёнам вузкім голым плацдарме, на які нацэлена некалькі варожых батарэй, — пекла: «Штохвілінна забівае, раніць салдат у іх неглыбокіх часовых акопчыках. Тут нават горш, чым перад бронекаўпакамі». У час танкавай атакі велізарных, «нібы стог», нямецкіх «тыграў», ад агню якіх успыхваюць адна, затым другая нашы самаходкі, Багдан Мялешка, у азарце злосці, падпоўзшы ззаду пад самое бранiраванае страшыдла, дзвюма супрацьтанкавымі мінамі падрывае танк, на паўгадзіны спыніўшы танкавую атаку на плацдарм.

Кульмінацыйным момантам рамана «Смутак белых начэй» з'яўляецца з незвычайным батальным майстэрствам узноўлены мужны прарыў батальёна Чубукова праз тры паласы лініі «Манергейма», замацаваўшыся на якіх вораг столькі б палажыў нашых людзей.

Калі пасля неверагоднага тарана гераічнага падраздзялення пры падтрымцы масіраванага агню самаходак і «кацюш», яго адчайны камандзір, рызыкоўна адарваўшыся ад сваіх, па рацыі дакладвае абстаноўку, ад нечаканасці на другім канцы — «зацятае маўчанне». «Нарэшце няўпэўнены голас камандзіра палка Мухіна:

— Ты Ваньку не валяеш?

— Не валяю, — адказвае Чубукоў. — З учарашняга вечара прайшоў дваццаць тры кіламетры за дзесяць гадзін. Дазвольце ўдзельнічаць у штурме чацвёртай паласы. Захопім Рокала, далей не пайду.

Заўсёды рашучы, самаўпэўнены, Мухін вагаецца:

— Далёка адарваўся. Палку могуць паставіць другую задачу.

— Людзі не хочуць выходзіць з бою, — стаіць на сваім Чубукоў. — З ходу захопім Рокала.

Мухін нарэшце згаджаецца:

— На тваю адказнасць. Буду дакладваць: пад Рокала вядзеш разведку боем».

За ініцыятыўна смелы прарыў, што не дазволіў праціўніку замацавацца на глыбінных траншэях абароны, паўплываўшы на зыход усяе аперацыі на перашыйку, камбат Чубукоў, як мы даведваемся з наступнага кантэксту твора, узнагароджаны Залатой Зоркай. З урачыстай нагоды ў палку праводзіцца мітынг, у гонар Героя Савецкага Саюза прамаўляюць высокія словы камандзір палка Мухін, агітатар палка Левін, камсаморг Налівайка. «Сам Чубукоў (што нагадвае адважнага ў баі і гублівага перад начальствам талстоўскага батарэйца Тушына. — ***А. Я.***) маўкліва стаіць з боку ад прамоўцаў. Пазірае ў зямлю, час ад часу папраўляе дзягу на ўпалым жываце, кабуру пісталета, перавешаную цераз плячо палявую сумку.

Чорны, хмуры твар Чубукова то чырванее, то бляднее».

З фабульных рэтраспекцый, што ствараюць другі падтэкставы план да асноўнага батальнага дзеяння, мы даведваемся пра нялёгкае жыццё Сямёна Чубукова,

які «з трох год рос без бацькі, з дванаццаці — без маці» і якому не пашэнціла пад той час з біяграфіяй з-за бацькі, што яшчэ за царом на пасадзе руплівага валаснога старшыні выбіраўся ў дэпутаты Думы, хай сабе і ў фракцыі трудавікоў у абарону сялянскай беднаты. Пры белапольскай акупацыі бацька за скаргі на жахлівае рабаванне жаўнерамі сялянскіх двароў быў закатаваны да смерці. Сямён Чубукоў, якога адны дарэвалюцыйныя словы «дэпутат Думы», «валасны старшыня» кідалі ў жах, у сваім сірочым лёсе спадзяваўся толькі на сябе, у пятнаццаць гадоў сеў на трактар, вырас да механіка, скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум, напярэдадні вайны ўзнагароджаны малым сярэбраным медалём як удзельнік Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.

Раманіст, які сам прайшоў вайну разведчыкам, не без ганарлівага піетэту малюе авантурны характар герояў гэтай рызыкоўнай вайсковай прафесіі: «Усе яны трошкі хвалькі, пыл любяць пусціць у вочы і як бы загадзя надзелі на сябе маскі страшэнных зухаў, якім мора па калена. А на справе ўсё прасцей. Сама служба як бы прывучыла да авантурызму, бо без хітрасці не абыдзешся пры самай звычайнай вылазцы на перадавую. Таму бывае цяжка стрымацца і тады, калі ўжо ніякай перадавой няма. За цюк бязі, украдзены з чужога эшалона, калі ехалі з-пад Выбарга ў Тарту, двое разведчыкаў пайшлі пад трыбунал. Добра, калі далі ім штрафную».

Раман «Смутак белых начэй» невыпадкова лічыцца адным з самых аб’ектыўных твораў па дакументальнай дакладнасці ўзнаўлення батальных сцэн мінулай вайны. Пры калейдаскапічным дынамізме мастацкага дзеяння эпічнае палатно рамана працята глыбінным псіхалагізмам, менавіта экзістэнцыяваным паказам патоку свядомасці драматычных станаў трывання герояў. У полымі няспынных атак, дзе «цяжка выжыць», калі «на кожны метр зямлі па некалькі разоў падаюць міны, снарады, кулям, асколкам ліку няма», цудам здаецца «ўцалець у такім агні». Пасля разбітай варожай абароны ў душы Васіля Лебедзя, толькі што прызначанага камандзірам аддзялення, «тоіцца радасць: застаўся жывы». Падчас захопу плацдарма маладога камандзіра, які паспеў паабвыкнуць у баі, нават палохае цішыня, што раптоўна выдаецца сярод несціханай кананады бітвы на перашыйку.

У рэалістычным паказе жорсткага аблічча вайны пісьменнік не абмінае эстэтычна непрыкрытых натуралістычных дэталей. Пра смерць местачкоўца Пятра Герасімовіча, што ў час першай атакі боем ашалелы ад жаху, «без аўтамата, без шыняля і пілоткі» разгублена кідаўся па перадавой пазіцыі, труп якога з адсечаным чэрапам сябры, «узяўшыся за рагі плашч-палаткі, стараючыся не паглядаць на ношу» зносяць у брацкую магілу, Васіль Лебедзь з прымхлівым містычным страхам думае: «Значыць, смерць шукаў Пятро... мітусіўся, насіўся сярод выбухаў».

«Атака... Яшчэ атака...» Падпоўзшы, камандзір аддзялення застае Косцю Цітка, што ўкрыўшыся з галавой шынялём з адкладзеным ужо ў бок аўтаматам, вылічвае нумаралогію сваёй смерці, «па алфавіту забівае... пазаўчора Герасімовіча, учора Мялешку, Пракопчыка, цяпер Рахіма. Васіль пярэчыць, што Пракопчыка толькі параніла, Мялешка тут, з медсанбата ўцёк», але той працягвае сваё трызненне:

— Смерць на адну літару памылілася... Далей пойдзе як па масле. Рагамед, Русаковіч, Сакалоўскі, Ціток Канстанцін. Вас смерць пашкадавала. Цябе і Лявоненку. Да другога тура. Усё-такі ты — камандзір аддзялення.

— Перастань! — крычыць Васіль. — Ты вар’яцееш ад страху».

У рамане двойчы паказаны прысуд трыбунала над «самастрэламі» і іх паказальнае пакаранне перад строем.

Штохвілiннай трывогай-роздумам жыве думка галоўнага «біяграфічнага» героя Сяргея Каліноўскага: «Няўжо ім, звычайным хлопцам... суджана ўбачыць перамогу?» Столькі гіне народу: «Вынішчаецца цэлае пакаленне дваццаць трэ-

цяга, дваццаць чацвёртага, дваццаць пятага года нараджэння, і хто пабярэ замуж іхніх дзяўчат?» І таму адзін з сакральных запаветаў салдата — не загадваць на будучае, ці выйдзеш з бліжэйшага бою жывым?

Манеру пісьменніка-баталіста, у прыватнасці, найбольш спелых яго твораў аб вайне «Смутак белых начэй», «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» нярэдка называюць «дзённікавай». Такі спрошчаны падыход не дазваляе ўбачыць аб'ёмную вобразнасць яго пісьма, пранікнуць у творчую лабараторыю пісьменніка, які меў непасрэднае дачыненне да працэсу паступальнага рэфармавання сучаснай прозы.

І. Навуменкам абрана знешне някідкая форма мастацкага аповеда «я расказваю», у пераважнасці, галоўнага лірычнага героя, якая па-майстэрску выкарыстана для выканання адразу некалькі вобразных заданняў. Паводле навейшых тэарэтычных абгрунтаванняў, формаўтваральным структурным цэнтрам твора з'яўляецца асоба апавядальніка. Пры форме аповеда лірычнага галоўнага героя, такім чынам, у прозе І. Навуменкі самім апавядальнікам без высілкаў фарміруецца аўтарская мова, асноўны найцяжэйшы элемент мастацкай тканіны твора. Прытым у большасці твораў, апрача галоўнага героя, вядзенне аповеда і погляд на падзеі папераменна перадаручаецца іншым персанажам. Так у рамане «Смутак белых начэй», побач з цэнтральным апавядальнікам Сяргеем Каліноўскім, ролю «вядучых» мастацкага дзеяння ў тых ці іншых эпізодах выконваюць Васіль Лебедзь, Багдан Мялешка, Мікіта Піліповіч і іншыя персанажы, чым дасягаецца вельмі важная структураўтваральная задача — узаемаадлюстраванне герояў у мастацкім дзеянні. Спрошчаная «дзённікавая» ацэнка, у прыватнасці «Смутку белых начэй», ужо несправядлівая хаця б таму, што пісьменнікам на кожнай старонцы твора даецца нярэдка разгорнутая, у большасці трапнай дэталлю кінутая партрэтная, псіхалагічная абмалёўка персанажаў, праяўлення іх у дзеянні ўнутраным псіхалагічным жэстам, дынамікаю паводзін, імяннной характарыстыкай (Нізкалобаў).

«Старшына — пануры маўклівы, ваўкаваты, нядобры. Кіпіць ад унутранай злосці. Але, ведаючы, што наперадзе адпраўка на фронт, рабіць каму-небудзь вялікія прыкрасці пабойваецца».

У творах І. Навуменкі, як пераконваемся, вытрыманы амаль усе класічныя каноны празаічнага мастацтва (экспазіцыя, развіццё сюжэтнага дзеяння, кульмінацыя, развязка), толькі ў іх звыш таго адбыліся яшчэ надзвычай істотныя вобразныя прырашчэнні — спалучэнне эпасу з лірыкай, манера «я расказваю» дазволіла з поўнай свабодай правядзенне праз увесь эпічны кантэкст экзістэнцыяльна-лірычнага аўтарскага настрою, так званую *мелодыю прозы*, якую А. Фадзееў адносіў да выключных дасягненняў па сваім «магічным» уздзеянні на чытача, паводле яго выразу, у мастацтве новага часу. Экзістэнцыяльна-лірычны настрой, што працінае эпічны аповед у сучаснай беларускай прозе, гэта глыбінны тон зыходнай аўтарскай інтанацыі, які дазваляе ўзнавіць у асабліва адэкватным набліжэнні, на рытміка-меладыйным узроўні ідэйна-мастацкі змест твора. Аўтарскай лірычнай мелодыяй прасветлена, рамантычна ўзвышана не толькі ўся «юнацкая» проза пісьменніка («Семнаццатай вясной», «Жуль Верн», «Верасы на выжарынах», «Дом над морам», «Раман з эпілогам» і інш.). Экзістэнцыяльна-лірычным струменем эмацыянальна інтэнсіфікаваны,ператвораны ў плынь свядомасці ў ключавых псіхалагічных месцах, увесь эпічны хранатоп яго пазнейшых буйных твораў, аповесцей і раманаў «Замець жоўталісця», «Сустрэча ў Кавальцах», «Смутак белых начэй», «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва». Таму ў цэлым аўтарскі стыль, які паасобным даследчыкам падаецца спрошчана «дзённікавым» належыць аднесці да *імпрэсіяністычнага* па тыпе творчасці, з моцным праяўленнем экзістэнцыйнай плыні свядомасці.

У рамане «Смутак белых начэй» да глыбіні душы ўражвае адчайны странтрызненне галоўнага героя ад усведамлення, што ў выніку ўдарнага прарыву на

Карэльскім перашыйку «з тых, што ехалі ў маршавай роце на фронт, адзін Лявоненка астаўся», а «з местачкоўцаў — ніводнага»:

«Думка прарэзалася назаўтра: ён не хоча жыць. Навошта жыць? Агітаваў таварышаў ехаць на фронт у адной маршавай роце. Паслухалі яго. Цяпер яны мёртвыя, ён жывы. Не мае права жыць. Ён не можа ўявіць, як прыедзе ў мястэчка, калі сустрэне маці Васіля Лебедзя, Косці Цітка ці іншых таварышаў. Таварышы ляжаць у зямлі, ён прыедзе. Дзеля чаго?

Думка аб тым, што сёння ці заўтра ён загіне, прыносіць задавальненне. <...>

Ён блукае па траншэі, не прыгінаючыся. Чакае міны. Твар абдае подыхам смуроду, пяском. Жыхаюць каля вушэй асколкі. Ён нават не прысядае. Магутны інстынкт самазахавання, які да апошняга часу прымушаў падаць, хавацца ў кожную шчыліну, прыціскацца да зямлі, каб толькі выжыць, цяпер не мае ўлады над Сяргеем». Да яго пасля варожага артналёту падыходзіць старшы лейтэнант, камандзір батарэі, спачувальна кладзе руку на плячо: «Не стой тут, баец. Гэта ў цябе ад нерваў. Перацярпі дзень-два — і пройдзе. Яшчэ дзякуй — мне скажаш».

Старшына Кіслякоў, прынёсшы ў тэрмасе суп, да якога не дакранаецца Сяргей, люта накідваецца на падначаленага: «Апустылся, как последні баба. Война табе надоел. А мне не надоел? Твой баявой таварыш не надоел? Аўтамат недэлю не чысціл <...>».

Назаўтра ў час шалёнага абстрэлу праціўніка, які перайшоў у наступленне, ад разрыву снарада гінуць камандзір батарэі, незнаёмы маёр і тэлефаніст, а цяжкакантужаны, з параненай рукой Сяргей Каліноўскі трапляе надоўга адлежвацца ў тылавы шпіталь.

Па «дакументальнай» дакладнасці, здзіўляючай памяці на рэаліі, дэталі, псіхалагічныя станы перажытага ў вайну даследчыкі ставяць ваенную прозу І. Навуменкі ў знамянальны першы шэраг крыху старэйшых з яго пакалення пісьменнікаў В. Някрасава, Р. Бакланава, В. Кандрацьева і іншых франтавых пабрацімаў, што вынесшы найбольшы цяжар ваеннага вынішчэння, па праву ўдзельнікаў і сведкаў сказалі самае экзістэнцыяльна пранікнёнае слова аб нядаўняй найвялікшай «трансгістарычнай» бітве дабра і зла на нашай планеце. У дзень Перамогі лірычны герой-«франтавік», што «аўтабіяграфічным» стрыжнем яднае ўсю творчасць І. Навуменкі, меў гонар адчуваць сябе ў калектыўным здзяйсненні вялікай гістарычнай падзеі: «Была ні з чым не параўнаная, бясконцая сваімі пераліваміі радасць: «Мы перамаглі ў такой вайне — і я ў ёй удзельнічаў!..» («Трымценне дубовага лісця»).

Як мы цяпер пераконваемся з духоўным пасталеннем грамадства, досыць хваравітага вызвалення з палону нядаўняй грубасацыялагізаванай ідэалогіі, нам, літаратуразнаўцам, для асэнсавання філасофскай асновы творчасці пісьменніка належыць асабліва дапытліва даследаваць трансцэндэнтнасць яго таленту, наколькі ўзнёслы ў сваёй вялікаснасці яго духоўны, а значыць, і эстэтычны ідэал, ад чаго ўрэшце і залежыць класічнае, так бы мовіць, даўгалецце ўсяго створанага мастаком.

Пры ўсёй абачлівасці на дыктат тагачаснай вузкаматэрыялістычнай сацыяльнай псіхалогіі, пры суджаных лёсам пісьменніку высокіх адміністрацыйных пасадах, тым не менш у творах І. Навуменкі пануе дзівоснае адчуванне трансцэндэнтнасці жыцця, успрыманне сусветнай таямнічасці яго, што экзістэнцыяльна ўзвышае, узбуйняе кожны момант жыццёвай абыдзеннасці.

Тут перш за ўсё належыць спыніцца на трактоўцы ў творчасці пісьменніка тэмы кахання, гэтым найважнейшым феномене людскога жыцця, праз які трансцэндэнтуе, свіціцца і адлюстроўваецца ў нашым духу сам Сусвет. Невыпадкова ж нам раскрыта таямніца асноўнага біблейскага Імя Бога, якое ёсць Любоў. Маладзёжнай аўдыторыяй асабліва цэняцца ўсе юначыя рамантычныя творы І. Навуменкі за іх высокі свет кахання, калі ў сэрцах, кранутых першым незямным пачуццём, лунаюць, дапамагаючы сцвердзіцца вышэйшай чалавечнасці, пары-

ванні ідэалаў, назвы якім на звычайнай мове няма. У ваенных творах пісьменніка вернасць каханых — найвышэйшая ўзнагарода за подзвіг, за ўсе цягаты салдата на вайне. У «Смутку белых начэй» ёсць уражлівая сваёй фантасмагорыяй сцэна — з'яўленне ў сне ў час бою галоўнаму герою каханкі Галі, якой ён усю вайну пасылаў лісты, увесь ва ўтрапенні, што на іх няма адказу. «Я пайшла ў армію пасля цябе, — гаворыць Галя. — Таму табе не пісала. Шукала цябе. Цяпер вот — знайшла...» Сон пераходзіў і ў цвярозы стан, працягваўся, як тая фата-маргана: «Хвіліну назад Сяргей бачыў Галю, чуў яе голас. Дзіўна: прывід так адчувальна можа нагадваць чалавека. Хоць дзіўнага нічога няма. Галя пастаянна прысутнічае ў Сяргеевых адчуваннях і думках. Праводзячы цяпер дні пад снарадамі, мінамі, кулямі, сутыкаючыся з пагрозай смерці, Сяргей яшчэ вастрэй адчувае цану жыцця, асноўная вартасць якога — Галя».

І таму зусім неправамерныя трактоўкі паасобных даследчыкаў, якія схільны бачыць у няспраўджаным каханні, у нешчаслівых канцоўках твораў пісьменніка расчараванне ў вернасці палоў, у непастаянстве яго жаночых характараў, у пакаянных прызнаннях лірычнага героя ў нявернасці, спісанай на вайну, на яго штохвіліннае існаванне на грані жыцця і смерці. Наадварот, ва ўзвышаным пачуцці да жанчыны, у святасці ідэалу кахання, якімі жывуць героі твораў І. Навуменкі, ці ж мы не бачым маральны імператыў пісьменніка-франтавіка, што зведаў самое ваеннае прадонне жыцця, узвысіць і адстаяць ідэальную Любоў як трансцэндэнтны, звышні дар чалавечага лёсу.

Нарэшце, трансцэндэнтнасць таленту, мажа, як нідзе, выяўляецца ва ўзнаўленні пісьменнікам малюнкаў прыроды, ва ўспрыманні яе як неразгаданага явішча Сусвету. І. Навуменка, пачынаючы з самых ранніх сваіх твораў аб юнацтве, праз усё жыццё разгадваў прыродную таямніцу, кожнае яго прыродаапісальнае лірычнае адступленне — здзіўленне, захапленне прыродным царствам, праз уваходжанне ў настраёвы рэзананс, з якім героі знаходзяць душэўнае супакаенне, ацаленне. Лірычны герой апавядання «Верасы на выжарынах» можа даверыць толькі антрапамарфізаванай прыродзе свае самыя патаемныя пачуцці да каханай: «Пра Юльку ведаў увесь лес. Знаёмыя сосны прыгадвалі, аб чым я размаўляў з ёй учора і пазаўчора, бярозы шасцелі пажоўклым лісцем у такт яе ціхім крокам, лясны ручай паўтараў пераліва яе мяккага голасу». У адным з самых лірычных апавяданняў пісьменніка «Раман з эпілогам» герой у стане сваёй сардэчнай скрухі сам-насам размаўляе з трансцэндэнтна разгорнутым над галавой прыродным космасам, перад «бяздонным зорным небам», калі, «здаецца, у прыродзе адбываецца нешта вялікае, агромністае, а ты толькі прысутнічаеш маўклівым зачараваным сведкам»:

«Вечар патушыў усе колеры, застаўся толькі адзін — шэры. У гэтым шэрым — бляск агню, срэбнае мігценне зорак, таямнічае, загадкавае святло месяца. Ці не напамінак гэта, што пасля ночы прыйдзе дзень? Зоркі льюць святло. Калі льюць, то павінен быць гук. Можа хто-небудзь у будучым перакладзе на музыку ззянне зорак, і тады чалавек пачуе дзівосныя сімфоніі».

Беларус — дзіця, гадаванец лесу, што асабліва красамоўна засведчана нашай літаратурнай традыцыяй, «Старым леснікам» Янкі Лучыны, чароўнай паэзіяй Якуба Коласа, вершы якога ўяўляюць суцэльную лясную рапсодыю. «Мяне навучыў марыць лес», — у гэтым эпізадычна абронeным прызнанні І. Навуменкі, у парыванні яго юных герояў з «Верасоў на выжарынах» зазірнуць за полаг тае невядомасці, якая адкрываецца за роднымі барамі і гаямі, ключ да назваў абодвух раманаў ягонай трылогіі аб мясцовым падполлі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці». Сімвалічны вобраз у загалоўках царыцы беларускага лесу, дэндралагічнага архетыпу нашых прыродных царстваў тут невыпадковы. Натуралісты сасну на водшыбе надзяляюць спецыяльным тэрмінам «ветразевай», што пад ветрам сапраўды нагадвае цэлае шумлівае царства перазвону,

празябення-малення ягоігліц, узносячы стромкую вежу сваёй кроны ўвысь неба-храма. У апошнім буйна эпічным творы пісьменніка трылогіі «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» мы і знаходзім гэтае запаветнае спавяданне лірычнага героя разгорнутаму Творцам прыроднаму Храму — Сусвету, трансцэндэнтным мікракосмам якога богаўстаноўлены зямны храм: «Калі мне было восем, дзевяць гадоў, дзед Піліп вадзіў мяне ў царкву (Яе ў хуткім часе закрылі, зрабіўшы з яе клуб). У царкве я адчуваў сябе нібы далучаным да таямніцаў зямлі, неба, жыцця, у душы нараджалася пачуццё ціхай радасці, урачыстасці, жаданне быць добрым, пакорлівым. Ні ў якім другім месцы не ўзнікала падобнае пачуццё. Хіба што ў меднастволым сасонніку, асветленым ранішнім сонцам. Але гэта было ўсё-такі зямное, прасякнутае радасцю існавання, пачуццё. У царкве ж яно ўзвышала істоту, як бы падымаючы яе ў недасяжныя надземныя высі».

Жыццё франтавікоў, у якіх пазней шчасліва выявіўся мастацкі дар, адзначана подзвігам вайсковым і не меней другім — падзвіжніцтвам пісьменніцкім, гэтым спапяляльным душэўным поклічам — узнавіць перажытае, подзвіг і драму свайго пакалення ў Вялікую Айчынную вайну. Пра гэтую наканаваную яму лёсам падзвіжніцкую звышзадачу І. Навуменка яскрава выказаўся, прыгадваючы гісторыю напісання асабліва дарагога яму твора «Смутак белых начэй»: «У новым маім рамане сапраўды ў нейкай меры завяршаецца тэма пакалення, пра якое я шмат пісаў, — найбольш у апавяданнях, троху і ў раманах — іменна тэма пакалення семнаццаці-васемнаццацігадовых, але тут ужо на фронце, ва ўмовах зусім іншых. Чаму мне важна было пра гэта расказаць? <…> Гэта быў мой першы фронт — Ленінградскі… Кажуць, што кожны чацвёрты беларус загінуў у вайне, і гэта цяжка ўсведамляць. А з нашага пакалення, мабыць, трое з чатырох загінула… Разумееце, гэта наш жыццёвы, творчы, пісьменніцкі, які хочаце, абавязак — напісаць пра лёс гэтага пакалення, стварыць рэквіем, аддаць даніну яго светлай памяці».

У тым, што рамантычна натхнёная творчасць І. Навуменкі з высока ідэальным светам яго летуценнікаў-герояў, па-ранейшаму, папулярная сярод беларускага чытача, школьнікаў, студэнтаў, настаўнікаў, мне давялося пераканацца, калі наведаў бліжнюю да майго дому дзіцячую бібліятэку, каб да сённяшняга юбілею асвяжыць у памяці калісь прачытаныя творы пісьменніка. І ўжо не асабліва наракаючы на варварства чытачоў выяўляць свае пачуцці на старонках кніг, падкрэсліваннем асабліва цікавых эпізодаў, сваіх адносін да герояў, быў прыемна ўражаны «зачытаннасцю» дазвання кніг пісьменніка. А па выпісаных нечым сталым почыркам назваў твораў можна было скласці ўражанне аб найбольш любімых з іх. І безумоўна ж, сярод іх на першым месцы мастацкі шэдэўр аб магутнай ствральнай сіле чалавечай мары, здольнай зрушваць горы і перайначваць жыццё — «Жуль Верн», што ў свой час адразу быў перакладзены на французскую мову і залічаны ў еўрапейскую культуру.

Значыць, чытаецца беларуская кніга, нягледзячы на запанаваны рынкавы чыстаган сярод пэўных колаў абывацеляў.

ДЗМІТРЫЙ БУГАЁЎ

# ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ ДАВЕДНІК ПРА ВАСІЛЯ БЫКАВА

**Практыка** выдання энцыклапедычных даведнікаў пра выдатных беларускіх пісьменнікаў у нас мізэрная. Дагэтуль мы мелі толькі энцыклапедычны даведнік у адным томе пра Янку Купалу, надрукаваны ў Мінску ў 1986 годзе выдавецтвам «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Галоўным рэдактарам таго выдання быў Іван Шамякін. У склад рэдкалегіі ўваходзілі Ніл Гілевіч, Мікола Грынчык, Васіль Івашын, Генадзь Кісялёў, Аляксей Кулакоўскі, Алег Лойка, Адам Мальдзіс, Іван Навуменка, Алесь Петрашкевіч, Іван Саламевіч, Максім Танк і некаторыя іншыя аўтары — дзеячы беларускай культуры. І вось цяпер мы маем падрыхтаваны Сяргеем Шапранам двухтомны энцыклапедычны даведнік пра Васіля Быкава. Выданне апублікавана пад эгідай Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Гэтае аб'яднанне з 2004 года выдае «Бібліятэку «Бацькаўшчыны». Яно ўжо надрукавала цэлы стос кніг, звязаных з гісторыяй Беларусі, з яе дзеячамі, пра якіх пры бальшавіках публікацыі ў Мінску былі немагчымымі. Той кніжны стос выдадзены ў серыі markрознабаковага характару. Але ў «Бібліятэцы «Бацькаўшчыны» распачата і падсерыя «Людзі Беларусі». Тут, мяркуючы па першых публікацыях, будуць выдавацца працы пра нашых выдатных пісьменнікаў. У 1908 годзе ўжо выйшаў ёмісты, аднак не пазначаны як энцыклапедычны, аднатомнік «Браты Гарэцкія» — пра Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх. Кнігу напісаў, шчодра выкарыстоўваючы дакументальныя матэрыялы, сын Гаўрылы Гарэцкага Радзім, наш славуты вучоны, надзелены і добрым літаратурным талентам.

Журналіст Сяргей Шапран, замахнуўшыся на энцыклапедычны даведнік пра Васіля Быкава, узваліў на сябе вельмі нялёгкую ношу і поспеху дасягнуў. А гэта значыць, што зроблена добрая справа, карысная не толькі для беларусаў, але і для многіх людзей свету, бо быкаўская глыбока праўдзівая творчасць заваявала трывалае сусветнае прызнанне.

Памерам кніга атрымалася вялізная: у першым томе 734 старонкі вялікага фармату, у другім — 774.

На абодвух тамах месцам выдання пазначаны Мінск — Гародня. Але кнігі друкаваліся за межамі Беларусі — у польскіх Лодзі і Кракаве, пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў Польшчы.

Навуковы рэдактар выдання — доктар філалагічных навук Міхась Тычына.

Складальнік быкаўскай энцыклапедыі прыклаў шмат намаганняў у пошуках матэрыялаў для яе. Ім выкарыстаны сведчанні з фондаў больш чым дваццаці дзяржаўных музеяў і архіваў ды прыватных збораў, не кажучы ўжо пра змешчаныя ў друку ўспаміны шматлікіх аўтараў. Сярод іх і публікацыя рэкламы твораў В. Быкава ў ЗША.

Сяргей Шапран цытуе не толькі прыхільнікаў Васіля Быкава, але і ягоных апанентаў, у тым ліку яўных нядобразычліўцаў. Гэта вымагалася энцыклапедычнасцю выдання. І яно чытаецца як поўны нявыдуманага драматызму дэтэктыў —

так многа віравала вакол Быкава жывых страсцей, палемікі, спрэчак, праз якія выразна праглядвае адметнасць часу, пазначанага знакам выдатнага пісьменніка і грамадзяніна.

Створаны С. Шапранам даведнік мае добрую кампазіцыйную структуру. У ім у асобныя раздзелы вылучана гаворка пра ўсе аповесці і раман В. Быкава «Кар'ер». Асобнымі раздзеламі падаюцца і звесткі біяграфічнага характару за той час, калі Васіль Быкаў яшчэ не займаўся мастацкай творчасцю.

Вельмі нечаканы і сам пачатак выдання. Яно адкрываецца эсэ Р. Барадуліна пра В. Быкава «Як неба…» Потым ідзе прадмоўка складальніка, у якой тлумачыцца мэта і характар выдання. Яна даецца пад загалоўкам «…А праўда застанецца…» Сістэмныя раздзелы пра Васіля Быкава пачаты раздзелам «…Ён быў проста лепшым». Тут гаворка ідзе пра пахаванне пісьменніка і выяўленне вялікай народнай любові да яго.

Завершана выданне гэтым жа матывам, адлюстраваным у закавырыстай прыпавесці Уладзіміра Някляева «Чмель і вандроўнік», прымеркаванай да саракавін Васіля Быкава.

Ствараючы энцыклапедычны даведнік, Сяргей Шапран імкнуўся даць неабвержную праўду пра Васіля Быкава. Яе ён здабываў і праз асабістыя кантакты з многімі людзьмі, якія мелі тое ці іншае дачыненне да пісьменніка. Валодаючы добрай журналісцкай хваткай, ён некалькі разоў сустракаўся з самім Васілём Быкавым, пасля смерці мастака карыстаўся матэрыяламі з яго дамашняга архіва, атрымаў доступ і да дамашніх архіваў шматлікіх быкаўскіх сяброў, гутарыў з вядомымі грамадскімі дзеячамі, якія высока ставілі мастакоўскі талент Васіля Уладзіміравіча, цанілі яго грамадскую дзейнасць. Так і складвалася кніга, паўтаруся, найцікавейшая. Вось што напісаў у 2004 годзе М. С. Гарбачоў, калі С. Шапран папрасіў яго выказацца пра Васіля Быкава: «Василь Быков сполна реализовал свое понимание литературы как человековедения, которое «должно нам расшифровать психологически и нравственно все мотивы действий человека». В моем восприятии он предстает как гармоничное единство творца, гражданина, воина, как человек, оставивший нам пример жизни и служения человеку по высшим законам нравственности».

Важка гучыць і запісанае С. Шапранам зноў жа ў 2004 годзе выказванне вядомага прадстаўніка рускай ваеннай прозы Б. Васільева пра беларускага пабраціма Васіля Быкава: «Он действительно вписался в нашу воевавшую братию, хотя был младше нас. Василь чувствовал войну, кожей чувствовал её, всем своим нутром, — кроме таланта, у него еще было огромное внутреннее чутье».

А вось і прызнанне Б. Васільева пра ўплыў прозы В. Быкава на іншых прадстаўнікоў прозы ваеннага пакалення: «Мы у него учились. Учились писать беспощадные, жесткие, колючие, смелые, отважные характеры, у которых была только одна задача — во что бы то ни стало выстоять в этой войне».

Сяргей Шапран тут цытуе звесткі электроннага рэсурсу, пададзеныя 23 чэрвеня 2003 года.

Пад браціяй, якая ваявала, упамянутай вышэй, Б. Васільеў мае на ўвазе акрамя сябе, яшчэ Р. Бакланава, Ю. Бондарава, Л. Лазарава.

Рыхтуючы кнігу, С. Шапран сустракаўся з гэтымі пісьменнікамі ці вёў з імі перапіску. Асабліва шчодра расказвае ён пра Р. Бакланава, які ў свой час апублікаваў вельмі пахвальны артыкул пра быкаўскую «Трэцюю ракету». Закранаючы гэты факт у гутарцы з С. Шапранам, ён хораша гаворыць пра Васіля Быкава, падкрэслівае праўдзівасць яго твораў: «А увидеть правду в жизни, понять ее, а потом еще и написать всегда очень трудно. Тем более трудно это было сделать в то время — когда существовало огромное количество лизоблюдов, не описывавших то, что было на самом деле, — не ту страшную и ужасную войну, к которой мы оказались не подготовлены, — войну такую, какой ее хотело видеть начальство. И вот в Быкове, в этой маленькой повести его, я увидел не только фронтовиков,

но и настоящего писателя… Когда я прочел «Третью ракету», для меня это был праздник: появился талантливый человек. Потому и написал тогда: «Запомните это имя». Я был уверен, что у этого писателя большое будущее» (Запіс гутаркі С. Шапрана з Р. Бакланавым у маі 2005 года).

Калі пасля лютага паўсюднага разносу аповесці «Мёртвым не баліць» Быкава пэўны час нідзе ў краіне не друкавалі, імкнучыся пазбавіць яго сродкаў да існавання, Бакланаў прапанаваў і грашовую дапамогу, хоць сам у раскошы не купаўся, увогуле жыў беднавата. Васіль Быкаў ад бакланаўскай дапамогі адмовіўся, сказаўшы, што сёе-тое на чорны дзень прыхаваў, але ўдзячнасць да пісьменніка насіў глыбока ў сэрцы.

Ліст з адмовай ад бакланаўскай грашовай дапамогі С. Шапран цытуе па хатнім архіве В. Быкава, дзе захавалася копія.

Па хатнім архіве А. Твардоўскага цытуецца быкаўскі ліст ад 19 чэрвеня 1970 года, пасланы з нагоды 60-годдзя рускага пісьменніка:

«Дорогой Александр Трифонович!

Позвольте от души обнять, поцеловать и поздравить Вас с Вашым 60-летием.

Еще я хотел бы сказать Вам, как Вы дороги мне лично и как Вас любят у нас в Белоруссии… Не все, конечно…

Но бог с ними!

Самое главное, чтобы Вы знали, как Вы нужны человечеству, справедливости и культуре, берегли себя и были по возможности счастливы.

*С нежностью,*
*Ваш В. Быков».*

Фраза пра тое, як патрэбны А. Твардоўскі чалавецтву, справядлівасці і культуры, гучыць асабліва важка. Ды яна ў поўнай меры стасуецца і да самога Быкава, які ніколі не дазваляў сабе апускацца да няпраўды, бо ведаў цану менавіта праўдзіваму, шчыраму і сумленнаму слову.

Каб закончыць тэму стаўлення В. Быкава да А. Твардоўскага, працытую згадку Васіля Уладзіміравіча пра тое, як ён успрыняў дапісаныя Аляксандрам Трыфанавічам да афіцыйнага віншавання рэдкалегіі часопіса «Новый мир» словы «Все минётся, а правда останётся». Яны датычыліся аповесці «Мёртвым не баліць». Гэта 1966 год. Стан В. Быкава, мякка кажучы, не найлепшы. Вось як ён сам тлумачыў свой тагачасны настрой: «Критические залпы всевозможных калибров грозили незадачливому автору совершенно стереть его с литературного лица земли.

И вот в такие минуты горестных уныний, как раз в канун майских праздников, пришел из Москвы небольшой конверт с редакционным грифом снаружи и поздравительной открыткой внутри — обычное редакционное послание автору перед праздником, несколько напечатанных на машинке строчек с выражением привета, ниже которого характерным угловатым почерком было написано:

«Все минётся, а правда останётся. А. Твардовский». …Для меня в тот момент эта строчка огненными буквами засияла на небосклоне, сверкнула призывным лучем маяка, вещавшим заблудшему путнику о его спасении… Действительно, как это просто!.. С правдой возможно все, без нее невозможно ничто. Без правды нет движения, без нее лишь застой, гибель, тлен…»

Гэтую ўдзячнасць А. Твардоўскаму В. Быкаў захаваў назаўсёды і пісаў пра яе ў сваёй кнізе «Званы Хатыні», выдадзенай у Маскве ў 1987 г. С. Шапран і цытуе быкаўскі тэкст па той публікацыі.

З вялікай прыхільнасцю ставіўся В. Быкаў да П. Панчанкі за праўдалюбства, грамадзянскую мужнасць і падтрымку яго твораў. З нагоды 50-гадовага юбілею ён прыслаў такі ліст:

«Дарагі Пімен Емяльянавіч!

Вельмі хацелася б убачыць Вас у гэты знамянальны для беларускай літаратуры дзень і з самаю братняю шчырасцю абняць Вас як паэта, грамадзяніна і старэйшага, самага любімага брата. На жаль, я не магу ў гэты раз прыехаць на прэзідыум (з Гродна, напэўна, на прэзідыум праўлення Саюза пісьменнікаў. — **Д. Б.**), таму хоць бы ў пісьме хачу выказаць вам частачку маёй любві і павагі да Вас, а таксама маю ўдзячнасць Вам за Вашу паэзію і чалавечнасць у самым высакародным значэнні гэтых аб'езджаных слоў. Я ніколі не казаў Вам аб тым, як з прычыны мае зусім недарэчнае ў такіх справах тугаязыкасці, так і думаючы, што Вы і так разумееце ўсё гэта. Пачынаючы ад першай маёй аповесці, Вы заўсёды стаіцё ля кожнага майго твора найперш як старэйшы таварыш і, вядома, як рэдактар і крытык. Па даўнім дарагім мне звычаі, пішучы ўсё новае, я бачу Вас побач, мяркую пра Вашу думку і Вашыя адносіны. Найбольшаю крыўдай для мяне было б няспраўдзіць Вашыя надзеі і ашукаць Ваш давер. Я буду памятаць аб тым і надалей, чуйна прыслухоўвацца да Вашае таксама скупой на слова, але дужа красамоўнай для мяне прыхільнасці. Няхай гэта гучыць як абет, добраахвотна ўзяты мной на сябе ў дзень Вашага 50-годдзя. Спадзяюся, ён не будзе ў прыкрасць Вам, а мяне, нікольк не абцяжарыўшы, толькі падахвоціць на лепшае.

Многіх Вам год, добрага здароўя і па-ранейшаму выдатных вершаў, дарагі Пімен Емяльянавіч!

*З глыбокай пашанай,*
*В. Быкаў».*

Быкаўскі ліст ужо друкаваўся ў «Полымі» ў 2001 годзе.

Узаемападтрымка добрых пісьменнікаў ідзе на карысць сапраўднай літаратуры. У гэтым пераконвае вопыт многіх майстроў мастацкага слова. Вось што напісаў значна старэйшы В. Каверын у лісце да Васіля Быкава, прачытаўшы яго чарговую аповесць: «Восхищен Вашей повестью «Круглянский мост» и давно собирался написать Вам о ней. Мне все думается, что у нас вот уже лет 10 как началась новая литература — не литература «служения» как прежде, а «служения правдой», и Ваша повесть — прямое тому доказательство. Кажется, Шкловский где-то писал, что «бытие определяет сознание, а совесть остается неустроенной». Вот над этим «устройством совести» и заставляет задуматься Ваша повесть. Сила ее не только в том, что Вы пишете о войне как о трудном, мучительном деле, а как о параде. И не только в том, что Вам отлично удались персонажи — так и должно быть в подлинной литературе. Но Вы неумолимо (и одновременно — точно) показали, где правда…

Словом, от всей души поздравляю Вас. Надеюсь, что вы не обращаете внимания на «критику». Я приучил себя даже не читать эти статьи — оказалось, что это совсем не трудно.

Крепко жму Вашу руку и желаю здоровья и спокойной работы.

*Ваш В. Каверин».*

Ліст напісаны ў кастрычніку 1969 года і цытуецца С. Шапранам па хатнім архіве В. Быкава.

Тут адзначым тактоўнасць парады В. Каверына В. Быкаву не браць пад увагу разносную крытыку і, вядома, высокая ацэнка аповесці «Круглянскі мост» за яе праўдзівасць і заглыбленасць у маральную праблематыку.

Сярод вядомых пісьменнікаў, якія захапляліся В. Быкавым і яго творамі, нельга не згадаць Чынгіза Айтматава, які яшчэ пры жыцці Васіля Уладзіміравіча хораша сказаў пра ягоныя аповесці: «Кто не зачитывается сегодня прекрасными повестями Быкова? С виду эти повести — как солдаты, одетые в серые шинели.

Они идут суровым, сомкнутым строем, как солдаты, эти быковские повести. Но с какой потрясающей силой таланта описаны в них жизнь, судьбы людей, незабываемые, тревожные по сей день, заставляющие страдать, раздумывать, благодарить…

Да, благодарить за то, что судьба сберегла нам Василя Быкова, чтобы он жил и писал от имени целого поколения, от имени тех, что юнцами познали войну и возмужали духом с оружием в руках, для которых день жизни был равен веку жизни…» Гэта друкавалася ў «Литературной газеце» да 50-годдзя Васіля Быкава. Адтуль і перадрукоўваецца ў энцыклапедычным даведніку, складзеным С. Шапранам.

Чынгіз Айтматаў не быў франтавіком. Ён нарадзіўся ў 1928 годзе. Юнакі гэтага года нараджэння не ваявалі. Але айтматаўская пахвала Быкаву — таксама важкае сведчанне значнасці быкаўскага ўплыву на літаратуру.

У чэрвені 2005 года Сяргей Шапран сустракаўся з Чынгізам Айтматавым і запісаў ягонае цяперашняе выказванне: «Это было, по-видимому, начало нашего близкого знакомства, сотрудничества, единения. В то время положение литературы в обществе и культуры в целом было иным, сам факт литературной жизни значил гораздо больше, чем теперь. Одним же из самых ярких и сильных представителей советской литературы был Василь Быков. Он был знаковой фигурой для нас…

Свои значительные личности есть в каждой эпохе. В то время такой личностью был как раз Василь Быков. И лично для меня он был действительно важнейшым моим творческим современником».

З беларускіх аўтараў заўсёды прыхільна пісалі пра В. Быкава А. Адамовіч, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, В. Каваленка, М. Тычына і многія іншыя даследчыкі літаратуры і пісьменнікі.

Мне, грэшнаму, таксама даводзілася шмат разоў звяртацца да аналізу творчасці Васіля Быкава. С. Шапран дае цэлы шэраг спасылак на мае публікацыі. Аднак самую важкую маю кнігу пра Быкава «Праўда і мужнасць таленту», выдадзеную ў Мінску ў 1995 годзе, ён чамусьці згадвае толькі мімаходзь.

Сам жа Васіль Быкаў прыхільна ацэньваў тое, што я публікаваў пра яго. Ён увогуле ставіўся да мяне па-сяброўску і, ужо будучы за мяжой, узгадаў пра маё 70-годдзе і прыслаў з Хельсінкі такую паштоўку:

«Дарагі Дзмітры Якаўлевіч,
Мілы Дзіма!

З далёкага балтыйскага берага хачу павіншаваць цябе з тваім дачаканым юбілеем і пажадаць табе добрага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.

Я даўно і вельмі люблю цябе за твой глыбока чалавечны розум, за тваё гарачае сэрца беларуса, якое не прымае варажнечы і фальшу, поўнае хрысціянскай міласэрнасці да меншых і слабых. Я памятаю і шаную ўсё добрае, што ты напісаў у свой час пра мяне і мае кнігі і дапамог мне застацца чалавекам у наш бесчалавечны час. Дзякуй табе, дарагі, мілы мой сябра!

Прымі таксама шчырыя пажаданні ад маёй Ірыны Міхайлаўны, якая цябе гэтаксама любіць.

І сардэчны паклон тваёй мілай Ніне.

Будзь заўсёды.

Абдымаю, твой Васіль Быкаў.

*Снежань 1998 г.*
*Хельсінкі.*
*В. Быкаў».*

Паштоўка пасылалася трошкі загадзя — у снежні, каб яна магла своечасова дайсці да 12 студзеня ўжо 1999 года — майго дня нараджэння.

Вядома, не столькі я дапамагаў Васілю Быкаву застацца чалавекам, колькі ён мне. Ды Васіль Уладзіміравіч і ў прамым сэнсе ратаваў мяне, звяртаючыся да самых аўтарытэтных медыкаў, калі я ляжаў, здавалася, у безнадзейным стане спачатку ў так званай лечкамісіі, а потым у Бараўлянах. Быкаўскі аўтарытэт, прафесійнае майстэрсва і чуласць медыкаў, ды, вядома, воля Бога і выцягнулі мяне з той прорвы, у якой я тады апынуўся.

Але вярнуся да хельсінскай паштоўкі. Яна публікавалася ў кнізе «Наш Быкаў» (Мінск, 2004). Але ў энцыклапедычны даведнік не трапіла, бо С. Шапран хацеў тут даць яе «ў натуры», а я не паклапаціўся, каб своечасова перадаць яму быкаўскую паштоўку. Цяпер, вядома, шкадую…

А яшчэ хачу сказаць, што Васіль Быкаў вельмі балюча ўспрыняў здраду некаторых рускіх сяброў з франтавога пакалення і сімпатычных яму прадстаўнікоў вясковай прозы, якія ў свой час праўдзіва пісалі пра беды савецкай вёскі, пра тое, як душыць яе тагачасная калгасная сістэма. Ён жа напакутаваўся ад калгаснага прыгнёту яшчэ з часоў дзяцінства і пісаў пра гэта так: «Вядома ж, як у калгасах было, — голад, прыгонная праца, рэпрэсіі… Жалезнай хадой ішло раскулачванне… Арганізавалі калгас, прыйшла вясна, даелі бульбачку, што засталася ад абагульнення. Есці не стала чаго. Елі мякіну з травой, крапіву. І так доўжылася шмат гадоў, бо з калгасаў нічога не давалі. Ураджаі кожны год дрэнныя. Усё, што вырасце, ішло на дзяржхлебаздачу ды насенне. Памятаю такія моманты… Бацька пойдзе ўвосень на канчатковае размеркаванне і прынясе гадавы заробак — паўторбы жыта. Вось і ўсё, што мы зарабілі за год, усёй сям’ёй. Такі заробак. Але ж яшчэ з нас і пастаўкі: мяса, воўну, яйкі, малако, масла, грашовы падатак, страхоўка, яшчэ пазыка і рознае іншае, не пералічыць». Гэта прыведзеная С. Шапранам цытата з быкаўскай спавядальнай і разам з тым развітальнай кнігі «Доўгая дарога да дому» (2002).

Ужо з канца 90-х гадоў XX ст., калі Быкаў мусіў з’язджаць за мяжу (Швецыя з красавіка па май 1998 г., Фінляндыя ў чэрвені — снежні 1999-га, Германія ў лютым 2000 — снежні 2002-га), тады розныя сродкі масавай інфармацыі сталі распаўсюджваць хлуслівыя звесткі пра пісьменніка, хоць ён у свой час са зброяй у руках змагаўся супроць гітлераўцаў, баронячы краіну ад іх страшнай навалы.

У складзеным С. Шапранам энцыклапедычным даведніку добра паказана абарона Васілём Быкавым беларускай мовы, яго гаворка пра яе незайздросны стан.

Пра тагачаснае становішча беларускай мовы ў краіне Васіль Быкаў з сумам пісаў: «Самае страшнае, што цяпер перажывае Беларусь — гэта мэтанакіраванае, паслядоўнае, брутальнае вынішчэнне беларускай мовы, а мова, як вядома, у кожнай нацыі — гэта падстава нацыянальнай культуры, таму менавіта мова і вынішчаецца перш за ўсё. Пасля вынішчаецца нацыянальная літаратура, нацыянальны жывапіс, тэатр і ўсё астатняе».

З рэзкай крытычнасцю ставячыся да тагачасных парадкаў на радзіме, В. Быкаў разам з тым настойліва сцвярджаў, што чалавек павінен жыць дома, там дзе Богам дадзена яму нарадзіцца і вырасці.

Гэтую думку ён паўтараў зноў і зноў: «У каторы раз я раблю высновы (старыя, дарэчы, як свет): трэба жыць дома. Іншая справа, што тое нияк. Што тое трудна. І ўсё роўна — трэба дома». (З ліста да Р. Барадуліна ад 3 верасня 1998 года. Хатні архіў Барадуліна). «І тым не менш — трэба жыць дома. Нават у голадзе, у холадзе. Нават не магу доказна абгрунтаваць — чаму? Але нутром, падкоркай адчуваю — трэба жыць дома. Ужо не кажу — паміраць дома, тое само сабою вядома». (Зноў з ліста да Барадуліна ўжо ад 9 верасня 1998 года. Хатні архіў Барадуліна.)

На не заўсёды ласкавую для яго радзіму, Беларусь, Быкаў і вярнуўся, калі адчуў, што ягонае анкалагічнае захворванне хутка звядзе ў магілу. Вярнуўся паміраць.

Дарэчы, за мяжой ён быў уладкаваны хоць і без раскошаў, але нармальнае жыццё там меў, не цярпеў ні ад голаду, ні ад холаду.

А на радзіме яго чакалі пакуты.

Пра тое, як цяжка было ў старасці, Васіль Быкаў са скрухай паведамляў у лісце да рускага мастака Віталія Давыдава, напісаным 13 красавіка 1997 года: «Груз прожитых лет старит и лишает самосимпатий. Что поделаешь…

Жизнь же на старости лет выдалась скверная во всех отношениях. Я иногда думаю, что лучше бы остаться там, в мерзлой, талой, сухой земле, где остались наши ровесники. Но вот дал Бог долгую жизнь, но не дал счастья. То, что все это свалилось на миллионы, на целые народы, — слабое утешение». (Ліст цытуецца па хатнім архіве В. Давыдава).

Прачытаўшы такі ліст, яшчэ раз пераконваешся, што старасць на радасці дужа скупая. Мудры М. Лынькоў на гэты конт казаў: «Старасць горш за ўсякую хваробу. Яна невылечная».

Але і ў гэтыя цяжкія часы ў жыцці В. Быкава былі пробліскі радасці, прынамсі, пробліскі не скрушліва-тужлівага настрою. Заўсёды ж было шмат людзей, якія ведалі цану Быкаву, яго пісьменніцкаму слову, яго грамадзянскай мужнасці. Была падтрымка шматлікіх чытачоў, якія заяўлялі свае сімпатыі да пісьменніка ў перыяд самых злосных нагавораў на яго рознымі афіцыёзамі.

Актыўна абаранялі Васіля Быкава былыя франтавікі, у тым ліку некаторыя генералы, якія ў свой час не толькі маракавалі над штабнымі паперамі (урэшце таксама патрэбная справа), але і нюхалі порах у акопах.

Варта тут згадаць пратэст, які надрукавалі ў 2001 годзе ў выданні «Общая газета», нумар за 24—30 мая, пісьменнікі-ветэраны Вялікай Айчыннай вайны Р. Бакланаў, К. Ваншэнкін, Д. Гранін, Ю. Давыдаў, В. Кардзін, Л. Лазараў, М. Панчанка, А. Ржэўская, А. Туркоў.

Тут, у прыватнасці, гаварылася: «Мы издавна гордились и сейчас гордимся днями и делами Быкова — одного из достойнейших представителей фронтового поколения, благодаря которому трагедия, постигшая народ Белоруссии в годы войны, стала известна людям разных стран и языков. Его моральный авторитет признается не только читателями на его родине, но и за ее пределами. Прежде всего в России…»

Сумленнем беларускай нацыі ў гэты час называюць Васіля Быкава былыя франтавікі высокага рангу — генерал-лейтэнант і тры генерал-маёры. (Звесткі па матэрыялах электроннага рэсурсу.)

Ніколі не здраджваў В. Быкаву такі яго рускі сябра, як Ю. Бондараў.

Замахнуўшыся на энцыклапедычны даведнік, С. Шапран цытуе і публікацыі тых, хто нападаў на Васіля Быкава, распаўсюджваў пра яго хлуслівыя звесткі. Тут «праславіліся» Азаронак, Росцікаў і асабліва Сеўрук. Я ад цытавання іх опусаў адмовіўся, бо ў мяне толькі артыкул, які на энцыклапедычную паўнату не прэтэндуе і прэтэндаваць не можа.

Ды, здаецца, пара падводзіць вынікі. Яны ж у вышэйшай меры прыемныя. Сяргей Шапран зрабіў надзвычай добрую справу. Ён стварыў выдатную кнігу пра вялікага пісьменніка. Гэтая унікальная кніга, канечне ж, будзе вельмі патрэбна многім людзям у свеце, шчырым прыхільнікам быкаўскага таленту, здольным захапляцца праўдалюбствам Васіля Быкава, яго чалавечнасцю, яго грамадзянскай мужнасцю, яго непахіснасцю ў барацьбе за лепшую долю народа.

З цягам часу будуць паяўляцца і новыя публікацыі, кнігі такога кшталту. Але зробленае С. Шапранам абавязкова адыграе сваю станоўчую ролю ў паказе велічы Васіля Быкава, яго пісьменніцкага і ўласна чалавечага подзвігу.

Нямала месца ў энцыклапедычным даведніку займае гаворка пра быкаўскіх сяброў. Найбліжэйшы з іх — Рыгор Барадулін, як і Васіль Быкаў, родам з Ушаччыны. Гэта паэт-віртуоз, у творах якога наша мова бруіць, струменіцца мноствам колераў, выяўляючы сваё багацце, красу, непаўторную прыгажосць.

Рыгор Барадулін шмат і заўсёды вельмі трапна пісаў пра В. Быкава. У С. Шапрана як адзін з самых паказальных ідзе такі барадулінскі тэкст: «Васіль Быкаў — чалавек справы. На вайне ваяваў на перадавой. Пасля вайны працаваў таксама на перадавой лініі жыцця. Ён не шукаў славы. Сама знайшла яго слава, слава славутая, слава трывалая і законная. …Васіль Быкаў гаворыць сёння са светам, з народамі ўсіх пяці мацерыкоў, бо практычна перакладзены на ўсе мовы нашай планеты… Можна і хочацца гаварыць пра Васіля Быкава як пра чалавека сціплага ў вышэйшай ступені, крыху замкнёнага, паглыбленага ў сябе, негаваркога. Нешматслоўны ён і ў творах. Як артылерыст, з вайны яшчэ захаваў звычку ашчаджаць снарады, а болей старацца паражаць цэль». Гэта друкавалася яшчэ пры жыцці пісьменніка — у газеце «Літаратура і мастацтва» за 22 лютага 1980 года. Адтуль і перадрукоўваецца. Адкрывае ж С. Шапран свой энцыклапедычны даведнік пра Быкава таксама барадулінскім тэкстам, але ўжо іншым — узнёслым эсэ «Як неба». Пісалася яно ўжо тады, калі Васіль Быкаў адышоў у вечнасць. Працытую з гэтага эсэ толькі некалькі ключавых фраз:

«Быкаў як неба — яго хапала на ўсіх, акрамя сябе…

Слову Васіля Быкава трываліць Беларусь.

Слову Васіля Быкава быць з намі ў радасці, і ў бядзе.

Слову Васіля Быкава жыць у вяках!»

Здаецца, лепш і не скажаш. Бо Васіль Быкаў належыць да тых волатаў духу, якія складаюць гонар сусветнай культуры. Яна ж неўміручая, пакуль існуюць людзі, захоўваецца цывілізацыя.

* * *

У сваім энцыклапедычным даведніку пра Васіля Быкава С. Шапран выкарыстаў матэрыялы не толькі на беларускай ды рускай мовах, але і на некалькіх замежных. Тое, што пісалася на замежных мовах, ён падаў у перакладах. Але з рускай мовы, для нас не замежнай, а звыклай у шырокім масавым ужытку, ён перакладу не зрабіў, а пакінуў рускамоўныя тэксты ў іх першапачатковым, нечапаным абліччы. Так падкрэслівалася аўтэнтычнасць гэтых тэкстаў. І атрымалася выданне двухмоўнае.

У сваім артыкуле я таксама пайшоў гэтым шляхам. Не з-за ляноты, хаця ў старасці і на яе цягне. Ды пераклад з рускай мовы на беларускую для нас, беларусаў, не праблема. Але хацелася захаваць прынцып, абраны складальнікам. Прынцыпы ж, калі яны не заганныя, паважаць не грэх.

Карыстаючыся выпадкам, згадаю і тое, што С. Шапран нядаўна зрабіў і яшчэ адну вельмі цікавую кнігу. Маю на ўвазе зборнік «Дажыць да зялёнай травы…», выдадзены ў Львове ў 2008 годзе. Тут сабраны аўтографы і перапіска Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна на працягу 1960—2000 гадоў.

АЛЕНА КОРДА

# ПА ПРЫСТУПКАХ ПАМЯЦІ

**Мінск**. Сталіца Беларусі, якой у гонар 30-годдзя вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1974 года прысвоена ганаровае званне «Горад-герой». Дзе б, у якой краіне я ні знаходзілася, пра цябе, велічнага, шматгалосага, былі мае светлыя думкі. Я спяшалася вярнуцца ў Мінск. Тут кожны чалавек шчыры, працавіты, спагадлівы. Тут шмат надзей і песень. Праспекты, вуліцы, паркі, палацы, будынкі, узнятыя на пакалечанай зямлі, вабяць чысцінёй, вышынёй, рознакаляровасцю. Батанічны сад — месца майго адпачынку. Увесну і да позняй восені любуюся цюльпанамі, ружамі, вяргінямі, рознымі раслінамі, прывезенымі з многіх краін свету. Хораша тут! Сонца лашчыць, ветрык асвяжае ды навявае розныя ўспаміны. Самыя цяжкія — Вялікая Айчынная вайна. Калі я прамаўляю гэтыя словы, перада мною паўстае вялікая прастора, дзе змагаліся мужныя патрыёты. Вайна — гэта жудасць, якую спазнаў савецкі народ. Гэта — бамбардзіроўкі гарадоў і вёсак, спаленыя разам з людзьмі хаты. Гэта — нясцерпныя раны і смерць.

65 гадоў аддзяляюць нас ад таго дня, калі над рэйхстагам узвіўся Чырвоны сцяг Перамогі. Але на шляху да яе былі неймаверна цяжкія дні і ночы.

Ашалелыя фашысцкія сцярвятнікі і іхні фюрэр Гітлер не шкадавалі ні старых, ні малых. Зямля пакутавала ў знямозе. Шугаў агонь. Лілася кроў ні ў чым не вінаватых людзей. Усяго ў Беларусі загінула тры мільёны жыхароў. У ліку іх Мінск не далічыў 200 тысяч чалавек. Толькі праз 5 гадоў наша сталіца вярнула даваенную колькасць насельніцтва.

* * *

Колькі было хваляванняў і слёз, калі па рэпрадуктары, што вісеў на слупе каля нашай хаты на рагу Студэнцкай і Тыфліскай вуліц, прагучала страшэннае слова «вайна». Яна вераломна ўварвалася ў кожную савецкую сям'ю.

Быў ціхі сонечны ранак. На небе — ні хмурынкі. У двары на кусце бэзу весела цвыркалі вераб'і, пырхаючы з галінкі на галінку. Не верылася, што недзе на захадзе фашысцкі бот топча нашу родную зямлю і ўжо льецца кроў.

24 чэрвеня пачалася бамбардзіроўка Мінска. Мы з матуляй выскачылі на ганак. Аднекуль здалёк пачуўся глухі гул, які ўсё набліжаўся і набліжаўся. Зірнулі на неба і налічылі 34 фашысцкія бамбардзіроўшчыкі з чорнымі крыжамі. Самалёты ляцелі з боку аэрапорта ў напрамку вакзала.

Матуля засталася на ганку, а я пайшла ў бакоўку апранаць малую сястру Таню. Не паспела абуць сандалікі, як навокал усё затрашчала, заварушылася, над намі ўзняўся вогненны слуп. Сцяна бакоўкі абвалілася, моцна выцяла мяне па галаве, прыціснула да другой сцяны, і я страціла прытомнасць. Ачулася ад гарачыні, болю ў галаве. І адразу ж скеміла: «Бомба! Гэта запальная бомба трапіла ў нашу хату. Трэба хутчэй ратавацца». Пачала адкідваць ад сябе разбітыя дошкі, кавалкі тынкоўкі і неяк выбралася з-пад абломкаў. Але што са мною? Нічога не чую. Па шчацэ цячэ кроў, капае на падраную сукенку. У гэты момант каля мяне нехта заварушыўся. «Таня!» Схапіла малую, праз агонь і дым пачала прабірацца

ў залу, каб выскачыць на вуліцу. Вокны былі нізкія, нам удалося скочыць на тратуар. У гэты момант з моцным гулам і грукатам, падобным на стогн, абрынуўся дах. Ва ўсе бакі разляцеліся клубы агню, і вось ужо запалала ўся хата. Ад яе загарэліся хаты і хлявы суседзяў.

Мы з сястрою сядзелі каля плота і рыдалі ад усяго ўбачанага і перажытага. Думалі толькі аб адным: дзе матуля, бабунька, дзядзька Сяргей? Дзе сястра Лідачка, наша гарэза і пявуха, што заўсёды весяліла нас сваімі жартамі, спевамі ды танцулькамі? Дзе ўсе, хто гэтым страшэнным ранкам застаўся дома? Добра, што старэйшая за мяне на тры гады сястра Жэня пайшла да сяброўкі, якая жыла праз дзве хаты ад нас. Прыбеглі тата і цётка Паўліна, якія працавалі на чыгунцы. Калі ўсё згарэла, пачалі шукаць родных. Матулю знайшлі ў склепе. Правая скронь была прабіта асколкам. Па ўсім было відаць, як яна пакутавала ад агню і дыму, прыкрываючы твар анучай. Так і застылі яе рукі. Дзядзьку Сяргея знайшлі каля хлява ў папялішчы. Было яму толькі 30 гадоў. Засталося двое маленькіх дзяцей. Загінулі бабунька і адзінаццацігадовая Ліда. Іхнія астанкі збіралі сярод абгарэлых бярвенняў. Бабуньцы быў 71 год. Прыгожая, маладжавая, з зялёнымі вачыма і рыжаватымі валасамі. Калі ў яе хто-небудзь пытаўся, колькі ёй гадоў, яна з усмешкай адказвала: «Столькі, колькі Леніну!» І ганарылася гэтым. «Дык жа Ленін даўно памёр, а ты яшчэ жывеш!» — аднойчы сказала я, не падумаўшы, што бабунька можа пакрыўдзіцца. «Затое справа Леніна жыве і будзе жыць, пакуль не знойдзецца які антыхрыст», — махнула рукою бабунька. І я верыла ёй.

* * *

Вайна перапыніла нашы гульні, наша шчаслівае жыццё. Увесь савецкі народ узняўся на Вялікую Айчынную вайну супраць фашыстаў. Цяжкія няўдачы не аслабілі, а яшчэ больш умацавалі дружбу народаў СССР. Чырвоная Армія вяла справядлівую, вызваленчую, айчынную вайну. Гэта натхняла савецкіх воінаў на гераічныя подзвігі.

У першыя дні вайны пры бамбардзіроўцы варожай танкавай калоны на дарозе Радашковічы — Маладзечна неўміручы подзвіг здзейсніў экіпаж самалёта пад камандаваннем капітана Мікалая Гастэлы. Калі ў бак яго машыны трапіў снарад і яна загарэлася, бясстрашны лётчык з членамі экіпажа штурманам А. Бардзенюком, стралком Р. Скарабагатым і стралком-радыстам А. Калініным накіраваў палаючы самалёт на нямецкія танкі, машыны, цыстэрны з гаручым і знішчыў большасць з іх. Экіпаж самалёта загінуў.

На шашы Мінск — Вілюнюс устаноўлены помнік-мемарыял, які нагадвае людзям аб адважных савецкіх сокалах, што загінулі ў барацьбе з ворагам.

Мікалаю Гастэлу ў 1941 годзе прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Члены экіпажа пасмяротна ўзнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны І ступені.

* * *

Фашысты доўга не маглі зламаць супраціўленне абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Акружаныя героі давалі дастойны адпор. Бранятанкавым войскам Гудэрыяна і 4-й нямецкай палявой арміі давялося абысці горад.

Самаахвярна змагаўся гарнізон Брэсцкай пагранічнай крэпасці пад кіраўніцтвам палкавога камісара Яўхіма Фаміна, маёра Пятра Гаўрылава, капітана Івана Зубачова і іншых.

Сілы былі няроўныя. Абаронцы праяўлялі найлепшыя якасці савецкага чалавека, гатовага, не задумваючыся, аддаць сваё жыццё дзеля выратавання Радзімы ад небяспечнага фашысцкага прыгнёту.

У канцы чэрвеня гітлераўцы пачалі генеральны штурм крэпасці, выкарысталі газы, агнямёты. Зусім знямоажаным абаронцам цяжка было без вады, харчу, медыкаментаў. Варожыя сцярвятнікі сыпалі і сыпалі знішчальныя бомбы. Усюды бушаваў агонь, дрыжала зямля, гінулі людзі. Амаль да канца ліпеня гарнізон з нечуваным гераізмам абараняў акружаную ворагам крэпасць. Дзве фашысцкія дывізіі панеслі вялікія страты.

Палкавы камісар Яўхім Фамін умеў згуртоўваць воінаў і сам паказваў прыклад гераізму. Многія з іх загінулі. Цяжкапараненага і кантужанага камісара гітлераўцы расстралялі 30 чэрвеня каля Холмскіх варот крэпасці.

Беларускі народ не забыў мужнага патрыёта з вёскі Калышкі Лёзненскага раёна. Імем Фаміна названы вуліцы ў Мінску, Брэсце, Лёзне. 15 студзеня 2009 года шырока адзначалася 100-годдзе з дня яго нараджэння.

Адзін з кіраўнікоў абароны Брэсцкай крэпасці камандзір 44-га стралковага палка 12-й стралковай дывізіі маёр Пётр Гаўрылаў з першага дня Вялікай Айчыннай вайны ўзначальваў абарону Усходняга форта крэпасці. Больш за трыццаць сутак маёр Гаўрылаў разам з воінамі вялі няроўныя баі. Цяжкапаранены, трапіў у палон. Вызвалены савецкімі войскамі ў маі 1945 года. Званне Героя Савецкага Саюза Пятру Гаўрылаву прысвоена ў 1957 годзе.

Намеснік камнадзіра 44-га стралковага палка капітан Іван Зубачоў у чэрвені 1941 года ўзначальваў зводную групу абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Цяжкапаранены трапіў у палон. Загінуў у лагеры для ваеннапалонных. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і Мінску.

Начальнік 9-й заставы 17-га Брэсцкага пагранічнага атрада лейтэнант Андрэй Кіжаватаў вызначыўся пры абароне Цярэспальскіх варот. Воіны пагранзаставы пад яго камандаваннем 22 чэрвеня 1941 года прынялі першы бой. І ў гэтым жа месяцы пры абароне Брэсцкай крэпасці лейтэнант загінуў. У гонар Кіжаватава перайменавана сяло Селікса Пензенскага раёна, дзе ён нарадзіўся. Яго імем названы пагранзастава ў Брэсцкай вобласці, цеплаход Дунайскага параходства, вуліца ў Мінску.

У час раскопак на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці выяўлены матэрыялы пра Герояў Савецкага Саюза, а таксама баявыя сцягі, зброя, у тым ліку камсамольскі білет лейтэнанта Аляксея Наганава, які на чале ўзвода абараняў Цярэспальскія вароты і загінуў у гэты час. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і Мінску. У Брэсце пастаўлены помнік.

* * *

Вядомы беларускі пісьменнік-драматург Алесь Махнач, які нарадзіўся ў вёсцы Забалацце Уздзенскага раёна, таксама ўдзельнічаў у абароне Брэсцкай крэпасці. Пасля заканчэння Калінкавіцкага ваенна-пяхотнага вучылішча, першы выпуск якога адбыўся 15 чэрвеня 1941 года, малады лейтэнант быў накіраваны ў Брэст. Праз два дні яго прызначылі камандзірам 1-га ўзвода, 7-й роты, 3-га батальёна. Вайну сустрэў у 42-й дывізіі на Цэнтральным востраве. Толькі шэсць дзён змагаўся з ашалелым ворагам. Цяжкапаранены лейтэнант у непрытомным стане трапіў у палон. Да красавіка 1945 года знаходзіўся ў лагеры для ваеннапалонных «Везувій» непадалёк ад лагера смерці «Майданак». Прастрэленая пята, асколкі ў руках, кантузія надоўга прыкавалі яго да ложка.

Наведваючы дзіцячы часопіс «Бярозка», Алесь Махнач распавядаў пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці, пра свае пакуты і перажыванні.

Фашысты бралі на прыцэл кожны камень, абстрэльвалі берагі ракі. Параненыя воіны не маглі падпаўзці да вады, каб зачарпнуць у каску ды выпіць хоць глыток і суняць смагу. Бедалагі так і заставаліся ляжаць на беразе з працягнутай

да вады каскай. Жудаснае відовішча. Расхваляваўшыся, пісьменнік успамінаў жыццё ў лагеры. Бачыў, як гналі ваеннапалонных у крэматорый, як з труб валіў чорны дым. Гарэлі людзі.

З палону вызвалілі войскі саюзнікаў. Перш-наперш вывозілі параненых. Алесь Махнач ужо чыкільгаў на мыліцах і трапіў у шпіталь. Але раны не зажывалі. Падлячыўся ў ваенным шпіталі ў Бараўлянах, каля Мінска.

Пра падзеі таго трывожнага часу, пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці апавядаюць кнігі Алеся Махнача «Камандзір Усходняга фронту», «Дзеці крэпасці» і іншыя. Аднаго дня пісьменнік прынёс у «Бярозку» ўрывак з п'есы «Гаўрошы Брэсцкай крэпасці». Мы надрукавалі яго, каб школьнікі бралі прыклад з гэтых барацьбітоў, не баяліся цяжкасцей, раслі мужнымі, смелымі, адданымі Радзіме. Каб ведалі, што Брэсцкая крэпасць-герой — усенародная школа патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання. Абаранялі яе воіны больш як трыццаці нацыянальнасцей.

Вялікі ўклад у раскрыццё гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці зрабіў лаўрэат Ленінскай прэміі, рускі пісьменнік Сяргей Смірноў. Часта выступаў у друку, па радыё і тэлебачанні. Напісаў шмат кніг, што ўпершыню ўзнавілі гераічныя подзвігі савецкіх воінаў, абаронцаў Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе. Гэта кнігі «Брэсцкая крэпасць», «Апавяданні пра невядомых герояў», «Сям'я» і іншыя, а таксама п'еса «Над Бугам», якую яшчэ ў 1956 годзе паставіў тэатр імя Якуба Коласа.

* * *

Мы, бярозкаўцы: Мікола Чарняўскі, Арнольд Пятровіч і я, у час камандзіроўкі ў Брэсцкую вобласць на сустрэчы са школьнікамі, наведалі мемарыяльны комплекс на ўсходняй частцы Цэнтральнага вострава. Падышоўшы да галоўнага ўвахода, мая душа замірала, убачыўшы прарэзаную ў бетоннай сцяне зорку, што вяла да тых мясцін, дзе змагаліся абаронцы крэпасці.

Кампазіцыйным цэнтрам комплексу на плошчы Цырыманіялаў з'яўляюцца галоўны манумент, абагульнены вобраз савецкага воіна-пераможцы, і штык-абеліск. Доўга разглядвалі рэльефы «Партыйны сход», «Апошняя граната», «Подзвіг артылерыстаў», «Кулямётчыкі».

На краі плошчы размешчана скульптура «Смага» — фігура распластанага на зямлі салдата, які цягнецца з каскай да вады. Ці набраў ён жыватворнай вадзіцы, ці прынёс абаронцам, яны ж чакаюць і спадзяюцца, што ён вернецца да іх?

Мы сфатаграфаваліся каля гэтай скульптуры. Кожны раз, калі гляджу на фота і ўспамінаю ўбачанае, не магу суняць слёзы.

У маі 1965 года Брэсцкай крэпасці за мужнасць і гераізм прысвоена ганаровае званне «Крэпасць-герой», уручаны ордэн Леніна і медаль «Залатая Зорка». Урачыстае адкрыццё комплексу адбылося ў верасні 1971 года.

* * *

Яшчэ ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны пад кіраўніцтвам падпольных камуністычных арганізацый, якія дзейнічалі на акупіраванай тэрыторыі Беларусі, разгарнуўся шырокі партызанскі рух. Народныя мсціўцы, як і воіны на фронце, не шкадуючы жыцця, праяўлялі надзвычайны гераізм: нападалі на фашысцкія гарнізоны, узрывалі масты, пускалі пад адхон варожыя эшалоны. У той час народны паэт Беларусі Янка Купала звярнуўся да іх з заклікам у адным з апошніх сваіх вершаў «Беларускім партызанам»: «Партызаны, партызаны, беларускія сыны, за няволю, за кайданы рэжце гітлерцаў паганых, каб не

ўскрэслі век яны!» Гэтыя словы натхнялі народных мсціўцаў на новыя гераічныя подзвігі.

Такім змагаром з нямецка-фашысцкімі захопнікамі быў і Фёдар Рыгоравіч Маркаў, удзельнік рэвалюцыйнага руху, зняволены ўладамі буржуазнай Польшчы ў Бяроза-Картузскі канцлагер, Віленскі астрог. Здзекаваліся тут, што сапраўдныя фашысты, якія неўзабаве з'явіліся на яго радзіме ў літоўскай вёсцы Качанішкі Свянчонскага раёна.

Пазнаёміліся мы з Фёдарам Рыгоравічам у 1948 годзе ў сочынскім санаторыі «Беларусь». Жылі з мужам у прыморскім корпусе, даўнейшай будыніне, абсаджанай блакітнымі елкамі, стройнымі кіпарысамі, разгалістымі кустамі алеандраў з белымі і ружовымі кветкамі. Надвячоркам, узняўшыся па ста дваццаці прыступках з марскога пляжа, любілі пасядзець на лаўцы. Прымошчваліся побач і абняўшыся любаваліся хараством вакол нас. Бачым, па алеі ідзе высокі, маладжавы шатэн гадоў сарака ў сінім гарнітуры з усмешкай на твары. Відаць, нешта прыемнае ўспамінае. На пінжаку ззяе Залатая Зорка Героя.

«Ці можна мне прысесці каля вас?» — чуем голас. — «Чаму ж не, сядайце і давайце знаёміцца, — адказвае Павел. — Я — спартсмен, футбаліст, майстар спорту СССР. А вы?»

Так мы пазнаёміліся з Фёдарам Рыгоравічам Маркавым і пасябравалі з гэтым цудоўным чалавекам, адным з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Вілейшчыне, камандзірам спецгрупы атрада імя Суворава, партызанскай брыгады імя Варашылава. Адначасова ён узначальваў ваенна-аператыўны аддзел Вілейскага падпольнага абкама партыі. Брыгада дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі чатырнаццаці раёнаў, у тым ліку Куранецкага, з цэнтрам г. п. Куранец, што за восем кіламетраў ад Вілейкі.

Нашай сям'і добра знаёмыя гэтыя мясціны. Сястра Жэня, скончыўшы геаграфічны факультэт БДУ, узяла шлюб з аднакурснікам Годфрыдам Бокунам, і іх накіравалі ў Куранецкую сярэднюю школу. Спачатку жылі на прыватнай кватэры. Пазней прыдбалі хаціну з агародам і вялізным садам. Хаціну падрамантавалі, і мы з сястрою Таняй і малымі дзецьмі Міколам ды Паўлюком, Лідачкай ды Анюткай часта наведваліся ў Куранец. Годзік — гэтак мы звалі Годфрыда — і Жэня былі гасціннымі. Калі да іх прыязджалі брат Годзіка прыгажун Герман і Годзікава матуля, прыемна было гаманіць з імі. Герман — знакаміты спартсмен па фехтаванні на рапірах, майстар спорту СССР, заслужаны дзеяч фізкультуры, заслужаны трэнер БССР і СССР, выхаваў выдатнага фехтавальшчыка, сярэбранага прызёра Алімпійскіх гульняў, чэмпіёна свету Аляксея Ніканчыкава.

У вольны час разам з намі завітвалі Павел і Танін муж Ратмір Пяржхала, таксама, як і Павел, майстар спорту СССР, а пазней яны абодва заслужаныя трэнеры Беларусі па футболе. Седзячы за кілішкамі каньяку, гаманілі пра футбол, без якога не маглі жыць. Павел заўсёды насіў з сабою газету «Чырвоная змена» за 24 кастрычніка 1954 года. У ёй змешчаны сяброўскія шаржы на мінскіх спартакаўцаў, якія занялі трэцяе месца ў розыгрышы чэмпіянату краіны. Тэкст да шаржаў напісаў паэт Артур Вольскі. Вось пра Паўла: «Як багатырская заслона, стаіць надзейна абарона. Яе ўзначаліў і праславіў футбольны віцязь Мімрык Павел». Намалявалі яго са шчытом на грудзях, вялікай пяцікутнай зоркай пасярэдзіне. Сапраўдны віцязь!

Спартакаўцаў павіншавалі вядомыя беларускія паэты Максім Танк і Пімен Панчанка з Антонам Бялевічам: «Яшчэ ніколі з такой цікавасцю мы не хадзілі на стадыён «Дынама», як сёлета, і перш за ўсё «вінавата» ў гэтым наша мінская футбольная каманда «Спартак». Калі раней мы бачылі то добрую, то пасрэдную, а часам і слабую гульню нашых футбалістаў, дык у гэтым годзе ўбачылі гульню

сапраўдных майстроў скуранога мяча, і не асобных ігракоў, а цэлага валявога, таленавітага спартыўнага калектыву…

У Мінску цяпер няма ніводнага больш-менш прасторнага двара, дзе б ні гулялі ў футбол, дзе б ні былі свае Хомічы і Мозеры, Мімрыкі і Бачурыны…

Віншуем спартакаўцаў з добрай перамогай і жадаем у наступным годзе біць без промаху па варотах праціўніка, перамагаць ва ўсіх міжнародных сустрэчах і не спускацца ў турнірнай табліцы ніжэй заваяванага месца».

Спартакаўцы радаваліся, як дзеці. Такія знакамітыя беларускія паэты цікавяцца футболам, падтрымліваюць іх, дзякуюць за добрую гульню.

Павел і Ратмір успаміналі варатароў Аляксея Хоміча і Льва Яшына. Герман распавядаў пра свае паездкі за мяжу і выступленні беларускіх фехтавальшчыкаў.

Дачка Ліда заўсёды дзівавалася, чаму Хоміча завуць тыграм. Гэта ж звер! Ёй тлумачылі: «Хоміч, стоячы ў варотах, кідаецца на мяч, як тыгр, абараняючы іх ад гола, а твой тата не падпускае і блізка да варот ігракоў каманды, з якой гуляюць».

Запомніўся матч спартакаўцаў з куйбышаўскімі «Крыламі Саветаў», якім у першым тайме прайгравалі з лікам 0:2. У перапынку начальства дало добры наганяй. У другім тайме футбалісты прыклалі ўсе намаганні і выйгралі з лікам 3:2. Стадыён гудзеў. Балельшчыкі доўга не маглі суцішыцца. Стоячы віталі сваіх любімцаў.

Падвечар нечакана-негадана да нас завітаў Фёдар Рыгоравіч Маркаў, які прыехаў з Маладзечна на сесію Вярхоўнага Савета БССР як дэпутат і намеснік старшыні Маладзечанскага аблвыканкама. Ён хацеў зрабіць нам сюрпрыз. Абняўся з Паўлам, павіншаваў з перамогай над «крыльцамі». Але доўга не затрымліваўся, можа, з паўгадзіны. Яму трэба было падрыхтавацца да выступлення на сесіі, і ён паехаў у гасцініцу «Беларусь», дзе яму пакінулі нумар. Пазней ён прыязджаў да нас у Куранец.

Цяжка ўспамінаць гэту апошнюю сустрэчу з Фёдарам Рыгоравічам. З газет даведаліся пра яго смерць і вельмі перажывалі. Было яму толькі 45 гадоў. Калі ездзілі да Жэні, спыняліся ў Маладзечне ля помніка, клалі букет чырвоных гваздзікоў і, успомніўшы, нават заплакаўшы, ехалі далей праз Вілейку ў Куранец. Цяпер няма ў жывых ні Годзіка, ні Жэні. Засталіся толькі пляменніца Галя з дачкою Лінай.

* * *

Прыступкі памяці прывялі мяне да вядомага на Вілейшчыне партызана Аляксандра Сямёнавіча Азончыка, які меў псеўданім Лялін. Радзіма яго — вёска Яцкавічы на Мядзельшчыне. У ліпені 1941 года Аляксандр Сямёнавіч арганізаваў партызанскую дыверсійную групу. Праз год яна дзейнічала ў складзе атрада імя Будзённага. Са снежня 1943 года Азончык камандаваў атрадам «Патрыёт» у брыгадзе імя Будзённага Вілейскага партызанскага злучэння. Атрад правёў 439 баявых аперацый. Азончык удзельнічаў у 185 аперацыях, пусціў пад адхон 47 варожых эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай. Партызаны разбурылі чыгуначнае палатно на ўчастку Куранец — Усціновічы, узарвалі вадакачку на станцыях Ашмяны і Залессе, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне», да прыходу Чырвонай Арміі занялі і ўтрымлівалі станцыі Будслаў і Княгініна. Разам з чырвонаармейцамі прымалі ўдзел у вызваленні райцэнтра Крывічы. 2 ліпеня 1944 года брыгада імя Будзённага, у якую ўваходзіла шмат партызанскіх атрадаў, злучылася з Чырвонай Арміяй.

Я пазнаёмілася з Аляксандрам Сямёнавічам у Куранцы. Сціплы чалавек, герой, які не скарыўся ворагу. Любіў свой родны край, а людзі, хто быў знаёмы з ім, любілі яго.

У жніўні 2008 года адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння Аляксандра Сямёнавіча Азончыка.

* * *

Радзіма Ганны Іванаўны Маслоўскай — вёска Курсевічы Пастаўскага раёна. Да Вялікай Айчыннай вайны дзяўчына працавала старшай піянерважатай на Пастаўшчыне. У пачатку вайны пайшла ў армію. Трапіўшы ў акружэнне, наладзіла сувязь з партызанамі. Па заданні падпольшчыкаў уладкавалася на працу ў кравецкую майстэрню ў Паставах, якая абслугоўвала эсэсаўцаў. Збірала звесткі аб ворагу. Дзякуючы ёй, падпольшчыкі знішчылі гітлераўскага генерала фон Цуга. З мая 1943 года яна — намеснік камісара па камсамольскай рабоце партызанскага атрада імя Пархоменкі брыгады імя Варашылава. Член Пастаўскага падпольнага райкама камсамола.

Ганна Іванаўна ўдзельнічала ў разгроме фашысцкіх гарнізонаў у Залессі, Лынтупах, Камаях, у падрыве трох варожых эшалонаў, 270 рэек. Пасля вайны гэтая гераічная жанчына ўзяла на выхаванне 15 сіротак. Калі мы сустрэліся з ёй, яна з гонарам казала, што любіць дзяцей, не можа без іх жыць і стараецца замяніць бацькоў, якія загінулі ад рук фашыстаў. Я паважала Ганну Іванаўну, часта званіла. Яна не скардзілася на свой лёс. Лічыла: выбраная ёй пуцявіна правільная, і яна ніколі не збочыць з яе.

* * *

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў антыфашысцкага падполля і партызанскага руху ў Вілейскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну Андрэй Іванавіч Валынец родам з вёскі Жаўткі Вілейскага раёна. Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. Арганізаваў і ўзначаліў партызанскую групу, якая дзейнічала з вясны 1942 года на акупіраванай тэрыторыі Куранецкага раёна. У кастрычніку 1943 года з гэтай групы створаны партызанскі атрад «За Савецкую Беларусь». Узначаліў яго Андрэй Іванавіч. Разам з ім змагаўся сын-разведчык 13-гадовы Мікола. Хлопчык выконваў розныя адказныя заданні.

Партызаны наносілі ўдары па камунікацыях ворага, утрымлівалі да падыходу Чырвонай Арміі вёскі Каловічы і Бараўцы. Разам з Чырвонай Арміяй разграмілі фашысцкі гарнізон у Вілейцы. 2 ліпені 1944 года атрад злучыўся з Чырвонай Арміяй, і Беларускі штаб партызанскага руху вызначыў атрад «За Савецкую Беларусь» як брыгаду. Увайшлі ў яе пяць атрадаў на чале з Андрэем Іванавічам Валынцом, які быў і адным з арганізатараў Вілейска-Куранецкага камуністычнага падполля. Падпольшчыкі трымалі сувязь з партызанскай брыгадай «За Савецкую Беларусь». Мелі сваю друкарню, выдавалі і распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, здабывалі для партызан зброю, медыкаменты, харчы, дакументы, вялі разведку. Вызвалілі з фашысцкага лагера і пераправілі да партызан каля 300 ваеннапалонных. Парушылі тэлефонна-тэлеграфную сувязь, спалілі мост цераз раку Вілія, лесапільню каля Куранца, узарвалі будынак гебітскамісарыята, дом фашысцкай прапаганды і біржу працы са спісамі людзей для адпраўкі ў Германію. Разам з партызанамі разграмілі ў вёсцы Каловічы гарнізон і валасную ўправу, сарвалі намер акупантаў уцягнуць моладзь вілейскай семінарыі ў фашысцкую арганізацыю «Саюз беларускай моладзі».

Гэтых змагароў з гітлераўскімі акупантамі на Вілейшчыне я добра ведала. У 1944 годзе Фёдару Рыгоравічу Маркаву, Аляксандру Сямёнавічу Азончыку, Ганне Іванаўне Маслоўскай, Андрэю Іванавічу Валынцу, Пятру Міронавічу Машэраву, які ў той час быў першым сакратаром Вілейскага падпольнага абкама ЛКСМБ, прысвоена ганаровае званне Героя Савецкага Саюза.

* * *

Успаміны пра вайну заўсёды вяртаюць мяне ў той трывожны час, не даюць спакою. Толькі добрыя людзі дапамаглі нам з сястрою і такім гаротнікам, як мы, знясіленым, параненым, выжыць. Гэта жыхары вёскі Шчомысліца, куды нас пасля другога налёту фашысцкіх знішчальнікаў на Мінск вывезлі на грузавіку. Гэта і жыхары Мачулішчаў, да якіх мы стукаліся ў дзверы і якія давалі нам вопратку, абутак, акраец хлеба, а хто і кубак малака ці звараную ў лушпінах бульбу. Мы так аслабелі, што ледзьве ногі валаклі. Праблукаўшы некалькі дзён, вярнуліся ў Мінск да сваякоў. Тут нас знайшоў тата. І пачаліся новыя пакуты: не было дзе жыць, не было чаго есці. Тата адшукаў пакой, дзе мы і прытуліліся. Крыху ачуняўшы, давялося паехаць на заробкі. З трыма дзяўчынкамі трапілі да багатай гаспадыні, што жыла непадалёк ад мястэчка Мір. Малацілі збожжа, капалі бульбу, выконвалі розную брудную работу. Зарабіла я трохі мукі і бульбы.

* * *

Недзе ў пачатку кастрычніка халаднаватым днём я выправілася ў вёску Масюкоўшчына да дзядзькі Стэфана Марцінчыка з сям’ёй. Спачатку ішла па чыгунцы, пасля скіравала на дарогу, што вяла ў Заслаўе. Раптам пачула стрэлы і на правым баку ад дарогі ўбачыла немцаў з сабакамі. Яны нацкоўвалі іх на ваеннапалонных, якіх прымушалі капаць даўжэзную яму. Стаіўшыся ў прыдарожных кустах, я прылегла на пажухлую траву, расхінула вецце і зразумела: палонныя самі сабе капаюць магілу. Адна з аўчарак ашчэрылася, хацела ўкусіць ваеннапалоннага. У хлопца зляцеў шынель, ён застаўся ў падраных споднiках, на нагах былі драўляныя калодкі. Худы, скура ды косці, ваеннапалонны ледзь трымаўся на нагах і нечакана зваліўся на зямлю. Фашыст прымушаў яго ўстаць, але ў хлопца не было сіл. Падскочыў другі немец. Яны падхапілі няшчаснага за рукі і ногі і скінулі ў яму. Іншыя ваеннапалонныя працягвалі капаць магілу. Пачуліся стрэлы, і адзін за адным у яму падалі маладыя людзі. Яны крычалі: «Радзіма, не забывай нас!», «Сталіну — ура!», «Матуля, бывай!». Некаторыя з іх былі паўжывыя.

Калі фашысты зніклі, я набралася смеласці, вылезла з кустоў і, насцярожана аглядваючыся, падышла да ямы. Здавалася, я адна-адзіная бачыла гэтую звярыную расправу. Але з’явіліся два дзядзькі, знялі шапкі і моўчкі стаялі з журботнымі тварамі. Я зноў паглядзела ўніз. Божухна! Там варушылася зямля, чуліся ціхія стогны. Я ледзь не страціла прытомнасць, нават не памятала, як дапялялася да дзядзькавай хаты і адразу паваліласа на лаўку, што стаяла на двары. Да мяне падбег дзядзька Стэфан. Я пачала расказваць пра ўбачанае, разрумзалася і доўга не магла супакоіцца.

Назаўтра раніцай цётка сабрала мне клуначак, накарміла, а дзядзька правёў іншай дарогай, абыходзячы месца расстрэлу савецкіх салдат, якія ў першыя дні вайны знянацку былі захоплены ў палон і знаходзіліся ў Масюкоўшчынскім лагеры смерці — першым канцлагеры для ваеннапалонных. Фашысты стварылі гэты лагер не толькі для іх, але і мірных жыхароў. Палонныя жылі ў паўразбураных памяшканнях. Кармілі іх баландою, хлеба-эрзаца давалі па 100—200 грамаў.

Часам вяскоўцы падыходзілі да калючага дроту, каб перадаць палонным якую-небудзь ежу. Ахоўнікі гналі іх, цкавалі сабакамі. І ўсё ж людзі ўмудраліся перакінуць цераз дрот бульбіну, скібку хлеба ці блін. Аднойчы дзядзька Стэфан бачыў, як за невыкананне іхняга загаду фашыст забіў маладога ваеннапалоннага, які хацеў узяць бульбіну.

Бываючы ў Масюкоўшчыне, падымаюся па прыступках да помніка ахвярам лагера смерці. Беражна нясу кветкі, і здаецца мне, што ў маіх руках дрыжыць слабы агеньчык, а я ахоўваю яго ад ветру, каб не пагас.

* * *

Аднаго дня, ужо ў Мінску, калі я ішла па ваду, мяне дагнаў наш блізкі сусед Пятро Бачыла, з якім мы вучыліся ў чыгуначнай школе. «Алена, зайдзі, калі ласка, да мяне. Трэба перамовіцца», — пачула я. Прынесла дахаты ваду і адразу пайшла да Пятра. Убачыўшы мяне, ён пасвятлеў тварам, у вачах, як мне здалося, зазіхацелі гарэзныя іскрынкі. Узяў мяне за руку і павёў у склеп, паказаў на радыёпрыёмнік, які стаяў на самаробным стале, і прамовіў: «Хачу даручыць табе адказную справу. Ты — піянерка, давала клятву быць вернай Радзіме. Ведаю, як ненавідзіш фашыстаў. Будзеш прымаць зводкі Саўінфармбюро, потым дапаможаш распаўсюджваць іх, каб жыхары нашага раёна ведалі, што дзееца на франтах. Нікому нічога не расказвай, зразумела?»

Так я стала дапамагаць падпольшчыкам. Седзячы ў халодным склепе каля прыёмніка, старалася як найхутчэй запісваць паведамленні і размнажаць іх. Паперы было мала, і мы выкарыстоўвалі шпалеры: рэзалі на лісты і буйнымі літарамі пісалі тэкст. А ўночы расклейвалі, дзе толькі маглі, у асноўным на вуліцах Вакзальнай, Студэнцкай, Тыфліскай, Барысаўскай, Полацкай, Талстога. Я спраўна выконвала ўсё, што загадваў мне гэты цудоўны васемнаццацігадовы хлопец, сапраўдны таварыш, вельмі сур'ёзны, удумлівы і добразычлівы.

Бывалі моманты, калі Пятро даручаў мне як сувязной перадаць запіску свайму кіраўніку. Каб нікога не сустрэць, я агародамі прабіралася на Магілёўскую вуліцу і ўручала яе незнаёмаму юнаку, які чакаў мяне ў двары. Як звалі яго, Пятро не казаў. Толькі пазней я даведалася, што гэта быў Мікола Кедышка, з якім наша група трымала сувязь.

Пятро з хлопцамі збіралі ў лесе зброю і некалькі разоў перадавалі партызанам. Нічога не прадвяшчала няшчасця. Ды раптам… Пятро ехаў на фурманцы ў атрад са схаванай у сене зброяй, і каля Чэрвеньскага рынку яго схапілі паліцаі. Знайшлі зброю, пацягнулі ў гестапа. Ніякія катаванні не зламалі волю Пятра Бачылы. Мужны патрыёт загінуў у фашысцкім засценку, але нікога не выдаў. І наша група распалася.

* * *

Мікола Кедышка стварыў падпольную групу яшчэ ўвосень 1941 года. Да красавіка 1943 года яна вырасла ў буйную арганізацыю «Андруша». Ён і ўзначаліў яе. Была ўстаноўлена сувязь з Мінскім гаркамам ЛКСМБ і партызанскай брыгадай «Штурмавая».

Падпольшчыкі ганарыліся сваім кіраўніком за смеласць, любоў да Радзімы. Пры выкананні небяспечных заданняў штаба падпольнай арганізацыі яго часта бачылі то ў форме паліцая, то ў форме нямецкага салдата альбо афіцэра. Пры гэтым ён казаў: «Ворага трэба ўмела падманваць». Змагаўся бязлітасна. Загінуў у баі з гітлераўцамі, якія акружылі явачную кватэру.

Урад высока ацаніў подзвігі Міколы Кедышкі. У маі 1965 года яму пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імем названа вуліца непадалёк ад бульвара Талбухіна. На доме, дзе размяшчаўся штаб падпольнай арганізацыі «Андруша», была ўстаноўлена мемарыяльная дошка з фотапартрэтам героя.

* * *

Сонечнай ліпеньскай раніцай 1944 года да нас даляцеў раскацісты гул. Ён усё набліжаўся і набліжаўся. З паведамленняў, што перадаваліся з вуснаў у вусны, стала вядома: Чырвоная Армія абрушыла новыя моцныя ўдары па ворагу і спяшаецца вызваляць нас.

На вуліцу выбеглі суседзі, пачалі крычаць: «Па Магілёўскай ідуць нашы танкі!»

Мы з Таняй нарвалі белых рамонкаў, якіх шмат расло каля плота, і паімчаліся на Тыфліскую. З жоўтымі касарыкамі бегла суседка Ермаловічыха. У некаторых былі карычняватыя аксаміткі. Цётка Бачыніха трымала ў руцэ некалькі чырвоных лілей. Яна рыдала, успамінаючы сына, абняла мяне, і гэтак мы дабеглі да Магілёўскай, што прасціралася побач з чыгункай і вяла на таварную станцыю. Сабралася шмат народу. Паўз нас па брукаванцы прамчалася некалькі танкаў Т-34 з адчыненымі люкамі. Адзін з іх спыніўся. За ім — астатнія.

У гэты светлы дзень усё здавалася залітае сонцам, шчырым і ветлівым. Мы радаваліся сустрэчы з вызваліцелямі, абдымаліся, цалавалі запыленыя, стомленыя твары танкістаў. А яны частавалі нас хлебам і цукрам.

Дасюль памятаю твар маладога светлавалосага танкіста, які пры знаёмстве назваўся Сяргеем. Яго светла-шэрыя вочы прыветліва ўсміхаліся, свяціліся пяшчотай.

* * *

Пазней нам стала вядома, што ў красавіку 1944 года камандуючым войскамі 3-га Беларускага фронту быў прызначаны генерал-палкоўнік Іван Данілавіч Чарняхоўскі. Распрацоўваліся планы баявых дзеянняў, у тым ліку Беларуская аперацыя 1944 года пад кодавай назвай «Баграціён». Было запланавана правесці яе з 23 чэрвеня да 29 жніўня 1944 года.

Вораг стварыў моцную абарону «Фатэрланд» з груп армій «Цэнтр» і «Поўнач». Сюды ўваходзіла і група армій «Паўночная Украіна».

Для знішчэння гэтых груп Савецкае Вярхоўнае Галоўнакамандаванне накіравала значна большыя сілы. 23 чэрвеня 1944 года войскі 1-га Прыбалтыйскага і 3-га Беларускага франтоў пасля артылерыйскай і авіяцыйнай падрыхтоўкі перайшлі ў наступленне. Да іх далучыўся і 1-ы Беларускі фронт. 26 чэрвеня быў вызвалены горад Віцебск. Адначасова войскі 2-га Беларускага фронту 28 чэрвеня вызвалілі Магілёў. Зламалі абарону праціўніка, рушылі да Мінска і 3 ліпеня на досвітку з усходу і паўночнага ўсходу ў горад уварваўся 2-гі гвардзейскі танкавы корпус, з поўначы — часці 5-й гвардзейскай танкавай арміі і перадавыя атрады 11-й гвардзейскай і 31-й армій 3-га Беларускага фронту. У сярэдзіне дня з паўднёвага ўсходу ў Мінск увайшоў 1-ы гвардзейскі танкавы корпус 1-га Беларускага фронту. Фашысты супраціўляліся. «Юнкерсы», як па канвееры, наносілі ўдары па прылягаючых да мастоў і вакзалаў раёнах. Разбураліся будынкі, навокал, здавалася, гарэла ўсё ад цаглін да бетону. Густы чорны дым забіваў дыханне. Воіны змагаліся за кожны завулак, двор і дом. У другой палове дня, 3 ліпеня, Мінск поўнасцю быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Першы этап Беларускай аперацыі прайшоў паспяхова. Галоўныя сілы варожай групы «Цэнтр» былі разбіты.

Пра тыя гераічныя дні ўспамінае камандзір 2-га гвардзейскага танкавага корпуса генерал-палкоўнік Аляксей Сямёнавіч Бурдзейны: «Увечары 2 ліпеня гарачы бой разгарэўся на рубяжы Каралёў Стан, Гарадзішча, Старына, Волма. Праціўнік сустрэў нас моцным агнём і падпаліў некалькі танкаў 4-й танкавай брыгады, якой камандаваў палкоўнік Алег Аляксандравіч Лосік. Малады, энергічны афіцэр

прыняў смелае рашэнне: нягледзячы на вялікую стомленасць танкістаў і цемру атакаваць і разграміць праціўніка на гэтым рубяжы, каб ён не здолеў замацавацца на ўсходзе ад Мінска.

У 23 гадзіны 4-я гвардзейская танкавая брыгада атакавала гітлераўцаў у Гарадзішчы і амаль поўнасцю знішчыла. Цяпер палалі нямецкія танкі і бронемашыны. Дарога на Мінск была адкрыта».

За ўдзел у вызваленні Мінска Алег Аляксандравіч Лосік атрымаў высокае званне Героя Савецкага Саюза. Ён — Ганаровы грамадзянін Мінска. 4-й танкавай брыгадзе было прысвоена найменне «Мінская».

Савецкія войскі акружылі на ўсходзе ад горада варожую групоўку, у якую ўваходзілі 4-я і 9-я нямецкія арміі. Утварыўся так званы «мінскі кацёл». У яго трапіла 105 тысяч гітлераўцаў. Было знішчана больш за 70 тысяч і ўзята ў палон каля 35 тысяч варожых салдат і афіцэраў.

У ліквідацыі «мінскага катла» прымалі ўдзел падпольшчыкі і партызанскія брыгады 2-я Мінская, «Буравеснік», імя Ракасоўскага, «За Савецкую Беларусь», імя газеты «Правда» і іншыя. Партызаны ахоўвалі ўсе асноўныя аб’екты ў Мінску і яго ваколіцах.

* * *

Мой муж Павел Савельевіч Мімрык быў удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны. У армію прызваны ў горадзе Адэсе, адкуль ён родам, у студзені 1941 года. Вучыўся ў 67-й акруговай школе стралкоў-радыстаў у горадзе Энгельсе. Быў накіраваны на 1-ы Беларускі фронт. Потым, трапіўшы на 3-і Беларускі фронт, два гады знаходзіўся ў складзе 813-й асобнай артылерыйскай разведвальнай дывізіі як вылічальнік, спецыяліст па геадэзічных і тапаграфічных знаках. У 1944 годзе стаў камандзірам аддзялення 150-й артылерыйскай брыгады. Прымаў удзел у вызваленні Мінска і ніколі не думаў, што гэты славуты горад стане яго другой радзімай. Павел затрымаўся ў арміі да снежня 1946 года. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі «За адвагу», «За ўзяцце Кёнігсберга» і іншымі.

«Пасля вызвалення Мінска, — узгадваў Павел, — войскі 3-га Беларускага фронту памчаліся да Літвы, вызвалілі яе, занялі большую частку Усходняй Прусіі. Калі ў лютым 1945 года падышлі да ўмацаванай крэпасці Кёнігсберг і акружылі яе, камандуючаму фронтам вельмі хацелася штурмам авалодаць ёю. На жаль, здарылася вялікая бяда. 18 лютага Іван Данілавіч Чарняхоўскі быў смяротна паранены асколкам снарада. Цяжка гаварыць аб смерці чалавека ў росквіце жыцця. Мы, воіны, не маглі змірыцца з гэтым, шкадавалі добразычлівага, шчырага чалавека, таленавітага палкаводца. Крэпасць занялі без яго, самага маладога 38-гадовага камандуючага фронтам, двойчы Героя Савецкага Саюза».

У гонар Чарняхоўскага ва Умані Чаркаскай вобласці, дзе ён нарадзіўся, пастаўлены бронзавы бюст. На месцы каманднага пункта каля вёскі Рэдзькі Дубровенскага раёна — мемарыяльная пліта. У вёсцы Сцешыцы на Вілейшчыне — бюст. Яго імем названы горад у Калінінградскай вобласці, калгас у Вінніцкай вобласці, вуліцы ў Мінску і іншых гарадах.

Пасля гібелі Івана Данілавіча Чарняхоўскага камандуючым войскамі 3-га Беларускага фронту быў прызначаны Маршал Савецкага Саюза Аляксандр Міхайлавіч Васілеўскі.

У паспяхова праведзеных аперацыях 1944 года Савецкія Узброеныя Сілы разграмілі 183 варожыя дывізіі, знішчылі 3,6 мільёна салдат і афіцэраў праціўніка. Чырвоная Армія поўнасцю ачысціла часова акупіраваную тэрыторыю СССР і аднавіла Дзяржаўную граніцу Савецкага Саюза ад Баранцава мора да Чорнага і да ракі Дунай.

* * *

У лютым 1946 года ў рэдакцыю «Чырвонай змены» завітаў легендарны чалавек, народны герой Васіль Ісакавіч Талаш. Як зачараваныя, слухалі мы яго аповеды. За сваё доўгае жыццё — было яму 102 гады — дзед Талаш удзельнічаў у партызанскім руху на Беларусі ў грамадзянскую і Вялікую Айчынную войны. Партызанскі атрад з 300 чалавек, які ён арганізаваў і ўзначаліў у 1919 годзе, мужна змагаўся з ворагам. Дзед Талаш быў разведчыкам 417-га палка Чырвонай Арміі. У 1928 годзе ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. У Вялікую Айчынную вайну дапамагаў партызанам, падтрымліваў сувязь з Мінскім падпольным абкамам партыі.

У пачатку 1943 года ЦК КП(б)Б накіраваў Васіля Ісакавіча ў Маскву. Ён выступаў перад рабочымі прадпрыемстваў, навучальных устаноў, воінамі, якія адпраўляліся на фронт. Сустракалі яго ўсюды як героя. Лістоўкі дзеда Талаша заклікалі да барацьбы супраць гітлераўскіх захопнікаў, распаўсюджваліся на акупіраванай тэрыторыі Беларусі.

Фотакарэспандэнт «Чырвонкі» зрабіў выдатны здымак Васіля Ісакавіча Талаша разам з рэдактарам Іванам Аляксандравічам Матылём, адказным сакратаром Францам Ляпескім і супрацоўнікамі. Я ганаруся, што трапіла на гэтае фота ў час сустрэчы з героем-партызанам, якога народны паэт Беларусі Якуб Колас услявіў у аповесці «Дрыгва». Дзед Талаш застыў у вобразе разведчыка на плошчы імя Якуба Коласа ў Мінску, дзе ўстаноўлены скульптурны комплекс-мемарыял.

* * *

Шмат гадоў я жыву побач з плошчай Перамогі. Мне адкрываецца цудоўная панарама: велічны помнік-манумент, устаноўлены ў 1954 годзе, калі плошча была Круглай, і Вечны агонь, запалены ў ліпені 1961 года на ўшанаванне памяці воінаў Савецкай Арміі, партызан і падпольшчыкаў, усіх ахвяр германскага фашызму.

Дарагой цаной заплаціла наша Беларусь і ўся Савецкая дзяржава за перамогу. Успамінаючы вайну — страшэннае ліхалецце, ад якога скалануўся ўвесь дваццаты век, адчуўшы свіст бомбаў, часта бывае, што я знаходжуся паміж святлом і цемрай. Пагаршаецца настрой, агортвае смутак, невыносная тужлівасць. Я выходжу на вуліцу, спускаюся ў метро і зварочваю ў галерэю-залу. Тут на круглым пастаменце з чырвонага граніту на фоне стылізаваных промняў ляжыць вянок з мастацкага шкла, падобны на велічны сонечны круг і падсвечаны чырвоным колерам, як сімвал Вечнага агню памяці.

Побач з вянком на сцяне чытаю прысвячэнне змагарам з гітлераўскімі захопнікамі. Ціхутка прамаўляю жалобныя словы, хоць ніколі не забывала іх: «Тут схіляем галовы мы нізка перад мужнасцю вашай, героі, перад славаю вашай, што ўстала нязгаснай зарою на зямлі, за якую жыццё аддалі вы, сыны неабсяжнай Радзімы, Беларусі сыны… Пабрацімы! Векапомны ваш подзвіг! Незабыўныя вашы імёны на гэтай зямлі!»

Пасярэдзіне галерэі-залы на чорных гранітных плітах высвечваюцца прозвішчы воінаў, партызан, падпольшчыкаў розных нацыянальнасцей. Іх 567. Знаходжу Герояў Савецкага Саюза Марата Казея, Ісая Казінца, Міколу Кедышку, Яўгена Клумава, Фядосія Смалячкова. З доктарам Клумавым і падпольшчыкам, кіраўніком «Андрушы» Міколам Кедышкам была знаёма. Нізка кланяюся ім, і адсюль падымаюся да помніка-манумента, аўтарамі праекта якога з’яўляюцца народныя архітэктары БССР і СССР, заслужаныя будаўнікі БССР Георгій Заборскі і Уладзімір Кароль. Помнік мае форму абеліска вышынёй каля сарака метраў, абліцаваны шэрым гранітам, шырэйшы ўнізе, пірамідальна завостраны ўверсе

і завершаны выявай ордэна Перамогі з бронзы і смальты. У любое надвор’е: сонечнае ці пахмурнае, туманнае ці дажджлівае, удзень і ўначы ордэн ззяе залатымі промнямі і бачны здалёку.

На п’едэстале помніка ляжыць меч як сімвал Перамогі, абвіты бронзавай лаўровай галінкай. Па чатырох гранях пастамента размешчаны шматфігурныя гарэльефы, якія адлюстроўваюць падзеі тых далёкіх гадоў: «9 мая 1945 г.», «Слава загінуўшым героям!», «Савецкая Армія ў гады Вялікай Айчыннай вайны», «Партызаны Беларусі». Аўтары іх — беларускія скульптары, народныя мастакі БССР Андрэй Бембель, Заір Азгур, Сяргей Селіханаў, Аляксей Глебаў. Тут можна ўбачыць воіна са сцягам, лётчыка, двух танкістаў і жанчыну з кветкамі, партызана, які трымае ў адной руцэ аўтамат, а другой абдымае дзяўчынку. Высвечваюцца твары медсястры і салдата з перавязанай галавою, маладзіцы з дзецьмі. Паказана ўскладанне кветак на магілу герояў. Камандзір выводзіць групу людзей з акружэння.

Навокал помніка-манумента ляжаць бронзавыя вянкі. Яны сімвалізуюць чатыры франты, войскі якіх прымалі ўдзел у вызваленні Беларусі: 1-ы Прыбалтыйскі — камандуючы генерал арміі Іван Хрыстафоравіч Баграмян; 3-і Беларускі — камандуючы генерал-палкоўнік Іван Данілавіч Чарняхоўскі; 2-гі Беларускі — камандуючы генерал-палкоўнік Георгій Фёдаравіч Захараў; 1-ы Беларускі — камандуючы Маршал Савецкага Саюза Канстанцін Канстанцінавіч Ракасоўскі.

І вось я іду па прыступках да Вечнага агню памяці. Ён як залаты струменьчык, у добрае, бязветранае надвор’е выпраменьвае высокі роўны слупок, а ў непагадзь, калі дзьме моцны вецер, ён хіліцца долу, полымя разгараецца ўшыркі і, здаецца, аплаквае загінуўшых воінаў.

Каля высаджаных елачак устаноўлены невялікія гранітныя блокі з памятнымі знакамі і надпісамі-прысвячэннямі гарадам-героям Смаленску, Брэсцкай крэпасці, Керчы, Севастопалю, Валгаграду, Ленінграду, Маскве, Кіеву, Адэсе, Новарасійску, Туле, Мурманску.

Увечары, калі сцямнее, запальваюцца агні, свецяць пражэктары, на слупах высвечваюцца чатыры чырвоныя зоркі, а на жылых дугападобных дамах, павернутых да цэнтра горада, чытаюцца незабыўныя словы, якія нагадваюць людзям аб несмяротным подзвігу герояў Вялікай Айчыннай вайны. На плошчы можна ўбачыць замежных гасцей, кіраўнікоў розных краін, якія з павагай ставяцца да Беларусі. Выстройваецца ганаровы каравул. Ваенны аркестр выконвае Дзяржаўны гімн той краіны, дэлегацыя якой наведала Мінск. І абавязкова Дзяржаўны гімн нашай рэспублікі.

Праз вокны бачу маладыя пары, якія прыязджаюць на ўпрыгожаных каляровымі шарыкамі, стужкамі і кветкамі машынах пасля пашлюбавання і кладуць букеты на гэтае святое месца.

МІКОЛА ХІЛЬКО

# «МІЛАЯ СЯСТРЫЦА МАША!..»

**Чвэрць** стагоддзя знаходзяцца ў маіх настаўніцкіх архівах два пісьмы Кузьмы Чорнага, дасланыя ім у вызваленую Беларусь у жніўні 1944 года з Масквы.

У свой час мне перадала іх малодшая сястра пісьменніка Раманоўская Марыя Карлаўна, з якой звёў мяне настаўніцкі лёс у сакавіку 1985 года.

Вось ксеракопіі гэтых ваенных рэліквій.

*Милая сестрица Маша!*

*Живы ли, здорова ли ты?*

*И как Вова? Как ты пережила эти три страшных года? Сохранился ли наш дом? Наконец то кончилась беда. Скоро увидимся. Знаешь ли что-нибудь об Егоре, Мише и Антоше? Сначала войны я был в армии, потом жил в Москве все время. Со мной Рэня и Ира. 24-го июня 1941 года мы уходили из Минска пешком и прошли так свыше 400 километров, спасаясь от немцев. Напиши хоть несколько слов. Все целуем тебя и Вову. До скорой встречи. Будь здорова. Коля.*

*Мой адрес: Москва, улица Горького, 49, гостиница «Якорь», комната 27.*

*Мілая сястрыца Маша!*

*З усіх сіл стараюся як небудзь знайсці цябе, ці Анюту. Нічога пра вас не магу дазнацца. Калі гэтае маё пісьмо дойдзе да цябе ці да Анюты, дык напішыце мне адразу на такі адрас: «Москва, улица Горького № 49, гостиница «Якорь», комната № 27. Романовскому Н. К.» У Маскве я яшчэ мусіць буду да палавіны верасня месяца, а там пераеду ў Мінск. Пішыце як найчасцей. Дзе Ягор? Ці не вядома што пра Мішу? Я ўжо два разы пісаў у Цімкавічы, але не ведаю ці атрымалі вы мае гэтыя 2 адкрыткі? Рэня і Іра са мною ў Маскве. Як вы жылі і дзе гэтыя тры гады? Ці стаіць наша хата? Пішыце пра ўсё. Я вельмі цяжка хварэў, год таму назад, але ўжо ачуняў. Калі трапіцца каму з вас бліжэйшым часам быць у Мінску, пакуль мяне там яшчэ не будзе, дык знайдзіце праз саюз пісьменнікаў Хайноўскую Марыю Канстанцінаўну. Яна нядаўна была ў мяне ў Маскве і ведае пра мяне. Яна казала, што ў 1941 годзе адна з вас у Мінску пытала ў яе пра мяне.*

*Спадзяюся, скора пабачымся. Дзе Вова? Дзе Ягорава Волька?*

*Я, Рэня і Іра цалуем вас усіх моцна.*

*Коля*
*6/VIII 1944 г.*

Першае пісьмо ў выглядзе паштовай карткі адпраўлена з Масквы 01.07.1944 г. і дайшло ў Цімкавічы 02.08.1944, аб гэтым сведчаць два вельмі выяўныя адбіткі штампаў: адзін пастаўлены ў Маскве, а другі — у Капылі.

На другім лісце дата пазначана рукою аўтара: «6/VIII 1944 г.»

У сваім ваенным «Дзённіку» 2 ліпеня 1944 г. К. Чорны запісаў: «Учора паслаў у Цімкавічы паштоўку, хоць там, можа, яшчэ і немцы. Але пакуль паштоўка туды падпаўзе, то напэўна ўжо берлінскага гадаўя там не будзе».



Мілая сястрыца Маша!
З усіх сіл стараюся як-небудзь
знайсці цябе, ці Анюту. Нічога
пра вас не магу дазнацца. Калі
гэтае маё пісьмо дойдзе да цябе
ці да Анюты, дык напішыце
мне адразу на такі адрас: „Мо-
сква, улица Горького № 49, го-
стиница „Якорь", комната
№ 27. Романовскому Н. К." У Ма-
скве я яшчэ мусіць буду да палаві-
ны верасня месяца, а там паеду
ў Мінск. Пішыце як найчасцей
дзе Ягор? Ці не ведома чаго
пра Мішу? Я ўжо два разы пісаў
у Цімкавічы, але не ведаю ці ат-
рымалі вы мае гэтыя 2 адкрыткі?
Рэці і Іра сям'ёю ў Маскве. Як
вы жылі і дзе гэтыя тры гады?
Ці стаіць наша хата? Пішыце
пра ўсё. Я вельмі цяжка хва-
рэў, год таму назад, але ўжо
ачуняў. Калі трапіцца каму з
вас бліжэйшым часам быць у Мінску,
пакуль мяне там яшчэ не будзе,

Як бачым, спадзяванне пісьменніка збылося. Паштоўка «падпаўзала» да родных мясцін цэлы месяц.

Не дачакаўшыся адказу, К. Чорны піша наступнае пісьмо. У абодвух лістах аўтара вельмі хвалюе лёс блізкіх яму людзей: сясцёр і братоў Машы, Анюты, Мішы, Ягора, пляменніка Вовы, а таксама «ці стаіць наша хата».

Праз два дні пасля адпраўкі другога пісьма 8 жніўня 1944 года К. Чорны запіша свае мары-спадзяванні: «Колькі чаго парабілася за месяц! Ужо і ў Менск незадоўга. Можа, ужо будзе свой сталы прытулак, і, можа, мне суджана яшчэ пабачыць мілыя Цімкавічы. А што, калі і хата мая асталася і стаіць? Гэта будзе


...ык знайдзіце праз саюз пісьменнікаў Хайноўскую Марыю Канстанцінаўну. Яна недаўна была ў мене ў Маскве і ведае пра мяне. Яна казала што ў 1941 годзе адна з вас у Мінску пытала ў яе пра мяне.

Спадзяюся скора пабачымся. Дзе Вова? Дзе Маленькая Волька?

Я, Рэня і Іра цалуем вас усіх моцна.

Коля.

6/VIII 1944 г.

Милая сестрица Маша!

Жива ли, здорова ли ты? И как Вова? Как ты пережила эти три страшных года? Сохранился ли наш дом? Наконец-то кончилась беда. Скоро увидимся. Знаешь ли что нибудь об Егоре, Мише и Анюте? Сначала войны я был в армии, потом живу в Москве все время. Со мной Рэня и Ира. 24 июня 1941 года мы уходили из Минска пешком и прошли так свыше 400 километров спасаясь от немцев. Напиши хоть несколько слов. Все целуем тебя и Вову. До скорой встречи. Будь здорова. Коля.

Мой адрес: Москва, улица Горького 49, гостиница „Якорь", комната 27.

вялікае шчасце. Там жа, у ціхім жыцці, можна будзе ачуняць як мае быць і напісаць усе задуманыя раманы».

Вестка з Цімкавіч не спраўдзіла надзей К. Чорнага і 20 жніўня ў «Дзённіку» напішуцца радкі болю і расчаравання: «Смутак. Міхала і Юрася, мусіць, няма жывых. Пісьмо з Цімкавіч. Маша і Анюта жывы. Дом згарэў…»

Як расказвала мне праз гады Марыя Карлаўна (з вялікім шкадаваннем і скрухай), хата, пабудаваная для сваіх родных пісьменнікам пасля пажару і незадоўга да вайны, згарэла ад апошняга снарада, выпушчанага па Цімкавічах адступаючымі фашыстамі…

Вось ужо 25 гадоў напярэдадні Дня Перамогі я прыношу ў выпускныя класы пісьмы К. Чорнага, запісы яго ваеннага «Дзённіка», каб яскрава данесці сваім вучням жахлівыя рэаліі вайны, праз якія прайшоў адзін з самых вялікіх класікаў нашай літаратуры.

І дваццаць, і дзесяць гадоў таму назад, і ўчора, заўсёды, напрыканцы ўрока вучні прасілі: «Дазвольце дакрануцца да пісьмаў!» Я дазваляў патрымаць у руках гэтыя рэліквіі і вучням, і настаўнікам, і не толькі слуцкіх школ.

У свой час, калі я працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў 8-й слуцкай школе, мае вучні, даведаўшыся, што са Случчынай была звязана лёсам (хтосьці нарадзіўся тут, хтосьці жыў, хтосьці працаваў) не адна сотня беларускіх пісьменнікаў, вырашылі стварыць музей-кабінет «Літаратурная Случчына». Задумка ажыццявілася. І да нас прыязджалі па вопыт дэлегацыі бадай з усіх рэгіёнаў Беларусі. Усе яны таксама дакраналіся да гэтых ваенных рэліквій.

У сярэдзіне мая 1988 года мне давялося выступаць з дакладам «Выкарыстанне краязнаўчага матэрыялу на ўроках літаратуры» на ўсесаюзных педагагічных чытаннях у Ташкенце. Едучы на гэты вялікі, па тым часе, педагагічны форум, я паклаў у свой настаўніцкі партфель чацвёрты нумар «Полымя» за 1988 год з поўным варыянтам публікацыі «Дзённіка» К. Чорнага і два ваенныя пісьмы нашага класіка, якія ў пэўнай меры і дапаўнялі, і раскрывалі змест дзённікавых запісаў. Дзякуючы гэтым каштоўным матэрыялам маё выступленне выклікала асаблівую зацікаўленасць у настаўнікаў нацыянальных літаратур былога СССР. Узбекі, кіргізы, літоўцы, украінцы пасля выступлення падыходзілі да мяне і прасілі патрымаць у руках пажоўклыя ад часу старонкі пісьмаў. Праз іх яны дакраналіся да нашай гісторыі, нашай літаратуры.

Праўда, мне было вельмі балесна, што я не змог расказаць Марыі Карлаўне аб тым, што яе жаданне: «Хай пісьмы брата чытаюць людзі!» — я змог споўніць за тысячы кіламетраў ад Слуцка.

Рамаnоўская Марыя Карлаўна памерла напярэдадні, той жа вясною 27 красавіка 1988 года.

Светлы вобраз гэтага цудоўнага чалавека назаўсёды застаўся ў маёй памяці, у памяці, у гэтым я неаднойчы пераконваўся, не аднаго пакалення маіх вучняў.

Пры першых нашых сустрэчах любімая сястра пісьменніка на магнітафонную стужку за тры гадзіны расказала пра Колю і Мікалая Карлавіча ўсё, што захавала яе памяць, а захавала яна, нягледзячы на 83-гадовы ўзрост, вельмі многае. Былі і адкрыцці: 8 месяцаў «яжоўскай» турмы, катаванні і здзекі, страчанае ў турме здароўе, смерць Карла Фелiксавіча, які памёр адразу, як толькі даведаўся, што пасадзілі сына, чэрствасць і няўвага ўлады да лёсу пісьменніка, што мастацкім словам столькі зрабіў для перамогі.

У 1985 годзе такія тэмы былі яшчэ закрытымі. Мае ж вучні старэйшых класаў усё гэта ведалі з вуснаў роднай сястры пісьменніка.

Вясной 1986 года паэт Алесь Емяльянаў і Алесь Сухоцкі знялі для беларускага тэлебачання ўрок літаратуры, які праходзіў на кватэры Малібошкаў, дзе ў сваёй пляменніцы Святланы жыла Марыя Карлаўна да апошніх дзён свайго жыцця.

Прачулы аповед сястры пісьменніка пра жыццё і творчасць К. Чорнага многіх не пакінуў раўнадушнымі. Помніцца, тады пісалі і званілі настаўнікі з усёй Беларусі, шчыра дзякавалі за перадачу, за ўрок, хаця мой удзел быў чыста арганізацыйны, а правяла яго Марыя Карлаўна. Аказваецца, яна добра ведала, чым захапіць вучняў, што галоўнае і важнае ім сказаць.

Нездарма ж яна ўсё жыццё працавала ў акружэнні дзяцей, — загадчыцай ясляў, бухгалтарам у школах.

Сястра пісьменніка, пра якую ў сваім «Дзённіку» К. Чорны напісаў: «Мілая Маша, у гады майго студэнцтва яна была мне як маці. У часы ўсіх маіх няшчасцяў гэта была шчырая сястра. Яна і Рэня — самыя мне блізкія», — на працягу ўсяго свайго жыцця захоўвала светлую памяць пра старэйшага брата, у значнай меры была і захавальніцай, і прапагандыстам яго творчасці. Да яе часта звярталіся даследчыкі літаратуры, пісьменнікі, настаўнікі, вучні. Яна заўсёды ахвотна дзялілася з усімі сваімі ўспамінамі, думкамі, меркаваннямі.

Падчас сустрэч з Марыяй Карлаўнай і пасля я часта задумваўся над яе складаным лёсам, гаварыў аб ім неаднойчы сваім вучням. Колькі ёй давялося перажыць.

Восень 1944 года. Загінулі два браты Міхал і Ягор на фронце, памірае любімы брат Мікалай, а за некалькі тыдняў да гэтага прыйшло пісьмо з паведамленнем аб смерці сына Уладзіміра.

Я і сёння памятаю, як Марыя Карлаўна, паказваючы мне апошнія трохкутнікі ад сына, напісаныя 9/X-44 г. і 13/X-44 г., са слязьмі на вачах вымавіла: «Не дай Бог ні адной маці атрымліваць такія пісьмы». Вось копіі гэтых пісьмаў.

*9/X-44 г.*

*Письмо с фронта.*

*Здравствуй моя дорогая Мама тетя Аня и Оля Галя и Светлана пишу вам свое фронтовое письмо. Сообщаю о том что я жив и здоров чего и вам желаю в вашей дальнейшей жизни. Сегодня пожалуй уйдем на передовую бить немецких гадов С сегодняшнего дня буду писать о своей жизни чаще. Пошлю еще тебе карточки свои которые у меня сохранились потому что те которые были дома наверное сгорели. Шли от меня привет. Дядю Колю и Володю тети Рене и Ире. Незнаю о чем больше писать кажется все ясно. Пока что, все. хотел бы написать. больше но нечего. Оставайтесь живы и здоровы.*

*Ваш сын В. Попков.*
*мой адрес  полевая почта. 53731-ж.*

На адвароце невядомым салдатам напісана:

*Пише неізвестій Вам Х-ць*
*Ваш син это письмо написав но*
*не успел йево отправить і бил*
*убит немецькими гадами*
*погиб геройом ми за вашого сына*
*отомстім сто раз і мстимо*
*это письмо я возлі його взяв*
*і решил Вам описать*
*і сообщить. О вашом*
*сине. Ваш син*
*много дал пользи*
*родині і он в почоті*
*нашоі родині.*

Гэты ліст па невядомых прычынах не быў адпраўлены своечасова адрасату. Маці салдата атрымала ад яго пісьмо, датаванае чатырма днямі пазней.

*13.X.1944*

*Письмо из фронта.*

*Здраствуйте дорогие родные мама, тетя Аня и Оля Галя и Светлана. Пишу о том что я жив и здоров чего и вам желаю. А также сообщаю о том что с 10/X-44 г. я нахожусь на передовой. Сейчас пойдем в наступление. Немец упорно держится и каждый шаг приходится брать с боем.*



13/X-44г.

Письмо из фронта.

Здраствуйте дорогие родные мама, тетя Аня и Оля Галя и Светлана. Пишу о том что я жив и здоров чего и вам желаю. А также сообщаю о том что с 10/X-44г. я нахожусь на передовой. Сейчас пойдем в наступление. Немец упорно держится и каждый шаг приходится брать с боем. Дорогая мама ты не беспокойся обо мне смотри сама себя а я уж как нибудь досмотрю себя. помочь ты мне ничем не можеш надо бить немца. Несмотря на его сопротивление мы продвигаемся вперед. Пока что все писать больше нечего. Потом напишу опять когда окончим бой. Целую вас всех. Шли привет от меня дядю Колю, тети [illegible]

Твой сын В Попков

Мой адрес „полевая почта. 53731-ж.

Попкову В.

*Дорогая мама ты не беспокойся обо мне смотри сама себя а я уж как нибудь досмотру себя помочь ты мне ничем не можеш надо бить немца. Несмотря на его сопротивление мы продвигаемся вперед. Пока что все писать больше нечего. Потом напишу опять когда окончим бой. Целую вас всех. Шли привет от меня дядю Колю, тети Рене и Иры. И дяди Володю.*

*Твой сын. В. Попков.*
*Мой адрес «полевая почта. 53731-ж.*
*Попкову В.*

З пісьмаў бачна, што пляменнік ведаў аб тым, што сям'я К. Чорнага перажыла вайну. У кожным лісце ён перадае прывітанне дзядзьку Колю і яго сям'і.

У лістападзе 1944 года Марыя Карлаўна атрымае гэтыя апошнія весткі аб сыне, і ў лістападзе за ёй прыедзе ў Цімкавічы «ЗіС», каб адвезці яе ў Мінск на пахаванне брата.

І ўсё ж яна знайшла ў сабе сілы, каб усё гэта перажыць.

Удзельніца партызанскага руху (у час вайны была сувязной, узнагароджана медалём «Партызану Айчыннай вайны»), сястра класіка беларускай літаратуры, маці, сын якой загінуў на фронце, яна ніколі, як сцвярджае яе пляменніца Святлана Георгіеўна Малібошка, не карысталася ў жыцці ніякімі прывілеямі.

Яна жыла для людзей, родных, блізкіх, знаёмых і ўсім была «як маці» непаўторная і «мілая сястрыца Маша».

КАСТУСЬ ВІКЕНЦЬЕЎ

# ЛЕТАПІСЦЫ ЛЯСНОГА ФРОНТУ

У гераічным летапісе Вялікай Айчыннай вайны застаецца яшчэ шмат невядомых і непрачытаных старонак, асабліва тых, што тычацца партызанскай барацьбы нашага народа. Многія з іх даходзяць да нас толькі сёння, часам самым нечаканым чынам. Цэлым адкрыццём бываюць дакументы і сведчанні, што знаходзяць родныя і блізкія народных мсціўцаў, многае адшукваецца і ў архіўных сусеках.

Беларусь нездарма называлі краінай-партызанкай, бо змагацца з ворагам выпраўляліся не толькі дарослыя, зброю бралі ў рукі нават дзеці.

*Не зламаць, не сагнуць мой народ,*
*Бо уся Беларусь — партызанка! —*

менавіта ў партызанскім лесе выгукнуў гэтыя словы паэт Анатоль Астрэйка. Звыш 370 тысяч чалавек, як сцвярджаюць гісторыкі, налічвалася ў славутым партызанскім войску. А зброя ў народных мсціўцаў была рознага кшталту. Гэта — не толькі самаробная гармата, аўтамат ці вінтоўка, зброяй было і дасціпнае народнае слова. Падлічана, што на акупіраванай тэрыторыі рэспублікі выходзілі 162 падпольныя партыйныя і камсамольскія газеты. Праз друк і радыё ляцела да народа і мела шырокі водгук слова народных песняроў Якуба Коласа і Янкі Купалы, вядомых пісьменнікаў Кандрата Крапівы, Кузьмы Чорнага, Пятра Глебкі, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка і Пімена Панчанкі.

У лясной друкарні набіралася кніга Анатоля Астрэйкі «Слуцкі пояс», вершы якой пісаліся па гарачых слядах партызанскіх паходаў. Афармлялі яе, выразалі застаўкі з дубовых і бярозавых цурак партызаны-разведчыкі Саша Бяляеў і Саша Залаты. Рэдагаваў кніжку партызан Мікола Дастанка. Паперу здабылі ў адным з баёў. А замест фарбы была вакса з сажай.

У ліпені 1941 года ў Гомелі выйшаў першы нумар газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Ну а ў партызанскіх атрадах набіраў сілу свой насценны друк. Вялікая роля ў адлюстраванні дзейнасці партызанскіх фарміраванняў належала, безумоўна, і рукапісным часопісам. І вось сёння, дзякуючы стараннямкалектыву Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, пабачыў свет «Партызанскі альманах. 1944—2009», дзе ў адно сабраны найбольш яркія старонкі рукапісных часопісаў, што выходзілі і рыхтаваліся намаганнямі саміх партызан. Рукапісныя часопісы — гэта не толькі своеасаблівыя гістарычныя дакументы, якія ўзнаўляюць у нашай памяці факты гераічнага змагання з ворагам, гэта яшчэ і новыя старонкі народнай творчасці таго векапомнага часу. Выданні тыя былі перыядычнымі — ці штомесячныя, ці двухтыднёвыя і, звычайна, у адным экземпляры. Ну а чыталіся яны часцей за ўсё калектыўна ва ўзводах, ротах, аддзяленнях. Перад выданнямі ставіліся канкрэтныя мэты і задачы, якія вельмі дакладна сфармуляваны ў прадмове рэдкалегіяй літаратурна-мастацкага часопіса «Знамя» ў першым яго нумары (снежань 1943), што выдаваўся ў адным з атрадаў брыгады «Разгром» Мінскай вобласці: «Прыступаючы да выдання

часопіса, рэдкалегія паставіла перад сабой наступныя задачы: у форме мастацкіх нарысаў, простай і зразумелай мовай расказаць маладым партызанам пра банды фашысцкіх разбойнікаў, заліўшых крывёй народнай нашу родную Беларусь... аб арганізацыйнай і кіруючай ролі членаў партыі ў справе арганізацыі нашага атрада і яго баявой дзейнасці. Паказаць этапы партызанскай барацьбы, лепшых людзей нашага атрада, іх рост і баявыя справы, мацаваць дружбу і ўзаемную таварыскую выручку…»

Рэдактарамі падобных выданняў, як правіла, прызначаліся камісары або сакратары партарганізацый партызанскіх фарміраванняў. Часопісы рыхтаваліся калектыўна. Іх карэспандэнтамі, аўтарамі апавяданняў, нарысаў, замалёвак, вершаў і частушак былі самі партызаны. Пісалі, як умелі, але ад сэрца, часта пераствараючы на свой баявы лад ужо знаёмыя радкі вершаў ці песень. Тут многае залежала ад рэдактараў, якія хай і не заўсёды маглі надаць «мастацкі бляск» матэрыялу, але дапамагалі давесці да чытача праўдзівасць самога расповеду.

Дзякуючы альманаху сёння мы можам яскрава ўявіць сабе так званага летапісца ляснога фронту. Вось ён, адставіўшы ўбок вінтоўку ці аўтамат, прымасціўся за драўляным столікам у зямлянцы, выхапіў са старога вучнёўскага сшытка некалькі нявыкарыстаных старонак, а праз хвіліну ўжо строчыць на трафейнай машынцы тэкст, які вечарам могуць пачуць ці прачытаць яго сябры па зброі. Тут адразу згадваюцца радкі з вядомага верша Анатоля Вялюгіна «Летапісцу ляснога фронту»:

*Змяніўшы мовы строгі лад*
*і зведаўшы нямала,*
*жыццё і смерць пад гул блакад*
*машынка друкавала.*

*Ты помніш багнішча —*
*пасцель,*
*сябры ў якой паснулі?..*
*Трывожны строкат,*
*Б’юць у цэль*
*гарачых літар кулі.*

Яны вельмі часта мяняліся ў сваіх ролях, «прыраўнёныя» адзін да аднаго не толькі паэтам, а і самім жыццём, пяро і штык. А вось і сведчанне самога летапісца партызана П. Гарэлава. Хлопец толькі заканчваў дапісваць тэкст узводнай насценгазеты, як яго паклікалі на баявое заданне: «Я дапісваў радкі насценнай газеты 1-га ўзвода, прысвечанай 20-й гадавіне смерці Уладзіміра Ільіча. З лагера з’явіўся Запольскі Ваня. Ён сказаў мне, што я ўключаны ў іх групу, каб ісці пад Мінск на «жалезку».

Я далажыў камандзіру ўзвода т. Кучараваму пра атрыманы загад камандзіра атрада. Камандзір узвода пацікавіўся, ці закончана ўсё па газеце, потым даў некалькі наказаў, паціснуў нам рукі і пажадаў поспеху ў выкананні задання.

Ледзьве я паспеў пераапрануць бялізну, конь ужо стаяў запрэжаны. Было мокрае надвор’е. Ішоў дождж са снегам. На нагах у мяне былі валёнкі, ужо прамоклыя, і перамяніць іх, хаця б часова, на больш падыходзячы абутак мне не ўдалося.

Шлях да вёскі Крыніца не ўяўляў сабой ніякай небяспекі, адзінай нязручнасцю былі непрыемнае надвор’е і мае мокрыя ногі. Я злёгку празяб. Прыпынкаў у вёсках мы не рабілі, хіба што невялікія перакуры. І вось мы прыйшлі ў вёску Крыніца гадзіны праз дзве пасля наступлення цемры».

Далей запіскі партызана-падрыўніка працягваюцца ўжо з іншымі падрабязнасцямі. І такіх старонак у гераічным летапісе партызанскага змагання нямала. Вядома, у альманах адабрана тое, што больш падыходзіла для сённяшніх магчымасцей друку, было не проста даць якаснае паліграфічнае жыццё даўнім пажаўцелым і пабляклым ад часу аркушам зусім няякаснай паперы. Трэба адзначыць удалую праекцыю на рукапісныя тэксты і многіх фотаздымкаў, якія выкарыстаны ў альбоме.

Аддадзім належнае партызанскім летапісцам, яны ніколі не забывалі і пра подзвіг беларускай жанчыны ў Вялікай Айчыннай вайне. На адной з часопісных старонак, прыведзеных у альманаху, а гэта перадавіца, так і засведчана: «Ні ў адной з мінулых войнаў не было такога масавага ўдзелу жанчын, як у гэтай Айчыннай вайне».

Нельга не пагадзіцца з гэтымі праўдзівымі радкамі. З самага зараджэння партызанскага руху сотні маладых дзяўчат і жанчын па загадзе сэрца ўзялі ў рукі зброю. Многія з іх былі сувязнымі. Праз варожыя засады і гарнізоны, пад страхам смерці, неслі яны ў партызанскія атрады важныя звесткі, зброю і медыкаменты.

Міжволі спыняеш сваю ўвагу на фотаздымку маладой партызанкі, што падвярстаны ў альманаху пад тэкст машынапіснай старонкі. Стаіць яна ў поўны рост, задумліва ўглядаючыся ў асмужаную далеч, недзе на самым узлеску пры двухстволай разлапістай бярозе, левай рукой трымаючы вінтоўку. І прыклад вінтоўкі, і боты дзяўчыны патанулі ў густой прылеснай траве. Хутчэй за ўсё перад намі засведчаны дзень яшчэ не позняй восені, бо дзяўчына апранута ў палітончык, з-пад якога праглядвае ці не патранташ. Мы не ведаем, хто яна і ці выведзе яе лясная сцяжына да Перамогі, аднак добрая вера ў сваю пераможную справу ў вачах дзяўчыны прачытваецца даволі яскрава.

Тут жа, побач, ужо мастакоўскі партрэт медсястры Нюры Івановай. Яна родам з вёскі Козынка Сіроцінскага раёна Віцебскай вобласці. У партызанскі атрад прыйшла ў верасні 1942 года. Пра Нюру атрадны карэспандэнт піша з асаблівай пашанай, бо ўсе партызаны любяць і паважаюць гэту жанчыну. Калі яна прыйшла ў атрад, дык спачатку працавала на кухні поварам. А затым была пераведзена ў санчасць санітаркай. «Маладую патрыётку Нюру Іванову, — піша карэспандэнт, — паважаюць у атрадзе як цудоўную санітарку, яе любяць хворыя і параненыя. Усюды і заўсёды яна разам з ротай ходзіць на баявыя заданні. Яна ўдзельнічала ў пяці засадах, у разгроме двух варожых гарнізонаў і ў баях каля вёсак Старына і Скобраўка, а таксама два разы прымала ўдзел у брыгадных аперацыях па знішчэнні палатна чыгункі. За баявыя заслугі Нюра Іванова мае дзве падзякі ад камандавання атрада, а яшчэ ўзнагароджана медалём «За адвагу».

Мова лічбаў у партызанскіх данясеннях і зводках таксама пераканаўчая. Часам старонкі часопісаў запоўнены толькі кароткай хронікай, перасыпанай датамі, лічбамі, прозвішчамі. Для саміх жа партызан за ўсім гэтым бачылася цэлая панарама грозных партызанскіх будняў і бітваў.

Рабілі сваю справу гумар і сатыра. Востры аловак карыкатурыстаў не даваў спакою гітлераўскім захопнікам, а найбольш даставалася самому Гітлеру. Малюнкі часта падмацоўваліся вершаванымі радкамі. Прывядзём адзін з характэрных допісаў:

*Бандиты всяческих обличий*
*Не раз к нам лезли за добычей.*
*Наполеон ходил к нам в «гости» —*
*Но от гостей остались кости.*

*Жил кайзер на грабеж горазд —*
*И от него остался пласт.*
*Вновь лезут фрицы за землицей —*
*В земле останутся все фрицы!*

Тут жа мастак дае разрэз нашай беларускай глебы, дзе кожны «пласт» перасыпаны чарапамі заваёўнікаў.

Цэлую галерэю герояў партызанскага змагання даносяць да нас партрэтныя старонкі рукапісных лясных часопісаў. Большасць малюнкаў выканана простымі і каляровымі алоўкамі. А іх аўтары — вядомыя беларускія мастакі М. Гурло, Г. Бржазоўскі, С. Лі, С. Раманаў, У. Сухаверхаў, а таксама невядомыя самадзейныя мастакі. Сваіх герояў мастакі малююць часцей за ўсё са зброяй, у кубанках ці «аколышках».

Але ёсць і партрэты, намаляваныя як бы паміж іншым, засведчаныя ў самы нечаканы момант. І ад гэтага не меншае даверу да самога мастака, бо за падобным эскізным малюнкам часта бачыцца не простае фатаграфаванне, але і сам пошук.

Аднак агаворымся: тут мы не рэцэнзуем творы франтавога мастацтва. Гаворка ідзе пра летапісны бок, пра дакументальнасць самога матэрыялу. Гэтым якраз і цікавыя нам партрэты салдат ляснога фронту. Больш пільна засяродзімся на гэтых аблічча.

Вось перад намі камандзір узвода Фёдар Паўлавец. Аўтар допісу пад малюнкам называе яго «бясстрашным камандзірам Федзей». Аўтар у дэталях апісвае бой падчас разгрому варожага гарнізона ў вёсцы Выдрыца, дзе Ф. Паўлавец змагаўся як сапраўдны герой. Прыцягвае нашу ўвагу і яшчэ адзін партрэт, падмацаваны таксама радкамі партызанскага карэспандэнта. У дадзеным выпадку засведчаны гераічныя справы начальніка штаба атрада імя Варашылава Міхаіла Дразда. Менавіта дзякуючы М. Дразду быў знішчаны варожы гарнізон у Русінавічах. Бой быў жорсткім і працяглым.

Перагортваю старонкі альманаха, і на адной з іх бачу твар чалавека, якога ведаў асабіста. Гэта — Фёдар Апанасавіч Бачыла. Ну так, той самы фотакар «Чырвонай змены», якога ведалі ледзь не ўсе пісьменнікі і журналісты. Ды і мастакі — таксама. Сярод партызан Фёдар Бачыла слыў самым знакамітым і бясстрашным падрыўніком. Пра яго на Міншчыне хадзілі цэлыя легенды. Я пазнаёміўся з Фёдарам Апанасавічам, калі ён быў у паважаным узросце, магчыма, па гэтай прычыне на партызанскім малюнку знайшоў мала знаёмых для сябе рысаў, хоць цалкам пагаджаюся, што ў юначым узросце Фёдар выглядаў менавіта так. А на той час, калі пісаўся гэты партрэт, на рахунку маладога партызана было семнаццаць пушчаных пад адхон варожых эшалонаў, сотні знішчаных нямецкіх салдат і афіцэраў. Мужным і непахісным чалавекам заставаўся Фёдар Апанасавіч і да канца сваіх дзён. І калі аднойчы, вяртаючыся дахаты, заўважыў, як у вечаровым Мінску не на жарты распаясаліся хуліганы, ён, не раздумваючы, кінуўся на дапамогу таму, каму яна зараз была патрэбна. Хуліганская жорсткасць была, магчыма, не менш бязлітаснай, чым тая, варожая. Цела франтавіка аказалася мацнейшым за хуліганскую «зброю» — вострае шыла заламалася ў целе, востры зломак даставалі пры дапамозе цяжкай хірургічнай аперацыі. Фёдару Апанасавічу ўсё гэта ледзь не каштавала жыцця, але ён яшчэ раз даказаў, што няма той сілы, перад якой адступіла б мужнасць.

Праз многа гадоў пасля вайны Фёдар Бачыла напісаў сваю кнігу, адрасаваную нашчадкам, дзе і расказаў пра сваё баявое партызанскае юнацтва.

Яркую старонку ў гераічную барацьбу нашага народа з ворагам у гады Вялікай Айчыннай вайны ўпісалі партызаны Рагачоўскай зоны. Пра многае даводзілася ўжо чытаць. А пра многае даведваемся толькі сёння, з альманаха.

У чэрвені 1944 года рагачоўскія партызаны спецыяльна для сакратара Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі Панцеляймона Панамарэнкі падрыхтавалі своеасаблівую справаздачу-альманах, дзе дэталёва, з мноствам тлумачэнняў, малюнкаў і фотаздымкаў намалявалі сапраўдную панарамную карціну жыцця і барацьбы народных мсціўцаў у тыле ворага. Тое, што распавядаецца ў спецыяльным альманаху партызанамі П. Вераб'ёвым і М. Свярдловым і ўдала падмацавана мастацкімі замалёўкамі М. Ліпеня, характэрна для ўсяго партызанскага руху на Беларусі. Паспрабуем і мы, спасылаючыся на сведчанні рагачоўскіх летапісцаў, прасачыць нейкія малюнкі партызанскага жыцця.

Слова «лес» для партызана мела тое ж самае гучанне як і слова «Бог». Лес даваў усё: і ложак, і страху над галавой, і схову, і нават ежу.

Да снежня 1942 года партызаны жылі ў лесе і зімой, і летам. Лес выбіралі, як правіла, яловы, пасадкі густога маладняку, ці змешаны, густы, каб лепш было маскіравацца. А саму стаянку ладзілі паблізу ад вады. Зімой жылі ў зямлянках і буданах. Сама зямлянка патрабавала будаўнічай хітрынкі і выдумкі, паколькі зруб, які сваімі вянкамі закопваўся ў зямлю, павінен быў захоўваць усе ўласцівасці звычайнага

надземнага зруба. Трэба было выштукаваць і дымаадвод, каб дым не прасочваўся ў неба, а расцякаўся і губляўся па гушчэрніку. З буданамі было крыху прасцей. Яны вастраверха ўздымаліся з невысокіх жардзін, а потым ахіналіся жывой плоццю яловых галін, або таго ж сена. 1943 год на тэрыторыі, дзе дыслацыраваліся партызанскія злучэнні, адзначыўся маштабнымі блакадамі. Што такое блакада, я ведаю з расповеду маіх землякоў, якія перажылі яе калісьці ў Налібоцкай пушчы. У ліпені—жніўні 1943 года гітлераўцы намаганнямі вялікіх наступальных сіл, у тым ліку асобага батальёна Дырлевангера, уласаўцаў, атрадаў паліцыі і жандармерыі, а таксама рэгулярных воінскіх падраздзяленняў узялі пушчу ў шчыльнае кальцо. Само надвор’е сталася саюзнікам партызан, у ліпені абрынуліся цяжкія і праліўныя дажджы, яны зрабілі і без таго багністую пушчу непраходнай для тэхнікі. Варожыя самалёты надта не трывожылі партызан, а на артылерыйскую кананаду ворага ніхто не адказваў. Пушча не падавала голасу. Гітлераўцы выбіралі найбольш сушэйшыя ды паляністыя мясціны і там весяліліся, падбадзёрваючы сябе шнапсам. Партызанам жа выйсці з акружэння не ўдавалася. Боепрыпасаў у іх не хапала. Большасць нарыхтаваных запасаў прадуктаў немцы знайшлі і атруцілі. Выручалі толькі ягады і грыбы. Агнёў не palілі: днём выдаваў дым, а ноччу бляск полымя. Не давалі спакою і назіральнікі на высокіх дрэвах. Часам такі назіральнік быў яшчэ і снайперам. З акружэння выбіраліся толькі праз багністыя ўрочышчы, дарогу праз якія ведалі толькі рэдкія пушчанскія жыхары. Цяжкімі былі гэтыя сцяжыны для партызан. А яшчэ даймалі камары, дыханне зводзіла ад невыноснага паху трупаў, што паспелі раскласціся. Многія і сёння здзіўляюцца, як толькі тады не ўспыхнула эпідэмія.

Адыходзячы, немцы спалілі многія хутары і вёскі, а мірных жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію.

У час блакады партызанам даводзілася жыць пад адкрытым небам. Але іх заўсёды выручала мудрая сялянская вынаходлівасць. Спачатку ў такіх выпадках палілі касцёр, а калі ён затухаў, на попел клалі яловыя і хваёвыя галіны і на іх клаліся самі. Знізу было нават горача, а зверху — сцюдзёна, даводзілася часта пераварочвацца. Часам клаліся на такія папялішчы па тры і чатыры чалавекі. Самае выгаднае месца было ў сярэдзіне. Рагачоўскі мастак прыводзіць малюнкі летніх лясных шалашоў, у якіх хаваліся ад машкары і камароў. Ладзілі іх з яловай кары, а часам нават з сялянскага кужэльнага палатна.

Але самай вялікай праблемай для партызан быў недахоп харчовых прадуктаў. У лютым 1942 года немцы паўсюдна ліквідавалі калгасныя фермы, не стала жывёлы. А колькасць партызан у лясах расла. У лес ішлі не толькі партыйныя і савецкія кадры, камсамольцы і воіны-акружэнцы, але і беспартыйная моладзь. Тым, хто заставаўся ў вёсцы, пагражала прымусовая адпраўка ў Германію. Партызанскі рух яшчэ не акрэп, і дабываць харч у нямецкіх гарнізонах не хапала сіл. На дапамогу прыходзілі сяляне з навакольных вёсак. Са жніўня 1942 года, калі выспела гародніна і пачаліся пастаўкі збожжа немцам, партызаны сталі перайманць абозы з зернем. Прадукты даводзілася дабываць з баямі. На такія аперацыі выходзілі атрадам, ротай, а то і некалькімі атрадамі. Восенню 1942 года 225-ы партызанскі атрад разграміў паліцэйскі ўчастак у Дзедлаве, дзе былі варожыя склады. Свае харчовыя запасы партызаны папоўнілі трыма тонамі пшаніцы, астатняе зерне было раздадзена сялянам. 19 студзеня 1943 года той жа атрад разам з ротай Дзямідава ўварваўся знянацку ў Лабалаўскі паліцэйскі гарнізон. Трафеі былі немалыя: 40 коней, 11 свіней, 150 авечак, 16 пудоў мёду.

4 жніўня 1943 года Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі прыняў пастанову «Аб ураджаі 1943 года». Яна змяшчала канкрэтную праграму дзейнасці падпольных арганізацый і партызан па наладжванні дапамогі сялянам у ходзе ўборкі ўраджаю. Партыйныя органы растлумачвалі, што «…сяляне, дапамагаючы хлебам партызанам, выконваюць тым самым свой абавязак перад Радзімай». У атрадах існавалі свае падсобныя гаспадаркі, там трымалі кароў, малако ад якіх аддавалася хворым і параненым. У лістападзе 1943 года, калі фронт наблізіўся да тэрыторыі Рагачоўскага раёна,

партызанскія атрады рушылі ў Быхаўскія і Клічаўскія лясы, а нарыхтаванае на зіму збожжа так і не змаглі выкарыстаць. Недахоп прадуктаў на новым месцы дыслакацыі адчуваўся асабліва балюча. Са студзеня 1944 года харчаванне рэзка пагоршылася, а ўжо з лютага харчаваліся толькі адной канінай і то без солі.

Былі ў партызан і свае млыны, і свае пякарні. Як не згадаць тут знаёмыя радкі з верша Пятра Глебкі:

*Гарыць агонь. Каля зямлянкі*
*Аб доме тужаць землякі,*
*А маладыя партызанкі*
*Пякуць і сушаць праснакі.*

*...Ад пагарэлага парогу,*
*Як нашай скаргі пасланец,*
*З табой на досвітку ў дарогу*
*З атрада выедзе хлапец.*

Нялёгкім і часта горкім быў ён, партызанскі хлеб. Вось радкі летапісца: «Выпякалі хлеб, як правіла, сяляне па вёсках з мукі, атрыманай ад партызан. А часам рабілі рускую печ у зямлянках і выпякалі ў лесе, на месцы. А праснакі пяклі на лапаце ці на скавародцы, на кастры».

А маці беларускага журналіста Міхася Пацёмкіна партызанскі хлеб выратаваў жыццё. Неяк з клункам свежавыпечаных боханаў за плячыма яна адправілася ў лес і не прамінула засады. Жанчына, хаваючыся за дрэвы, кінулася на ўцёкі. Кулі градам ляцелі за ёй наўздагон, але ні адна не кранулася цела. Потым у атрадзе здзіўленыя байцы аглядалі раскроеныя свінцом боханы, а з іх роем высыпаліся засеўшыя ў мякішы кулі.

Усё знойдзем мы ў справаздачы рагачоўскіх партызан: і як, і дзе, і чым лячылі партызан, і як працавалі лясныя цырульнікі, і як адпачывалі партызаны.

І яшчэ адно, без чаго нельга было абысціся ў партызанскім жыцці, — гэта вада. Не заўсёды і ўсюды можна было разлічваць на партызанскія калодзежы. Часта ваду выкарыстоўвалі проста з лужын. Вельмі невыносна было, калі атрад нечакана трапляў у балота, выйсце з якога было доўгім. Такое асабліва часта здаралася ў час блакады. І сапраўднае шчасце несла партызанам вясна. І вады вясной усюды хапала, і з добрай салодкай усмешкай ішла да партызана родная бяроза. Гаючы бярозавік адразу вяртаў чалавеку веру ў пераможнасць жыцця, у вялікую жыватворную сілу прыроды. На малюнку партызана-летапісца бярозавік сцякае ў салдацкі кацялок, каля наступнага ствала ён ка́пае ў драўляныя начоўкі. А тут жа, на здымку, стомленыя мсціўцы п’юць яго з алюмініевай конаўкі. Усё гэта засведчана ў часе, усё гэта застанецца ў нашай памяці.

Перагортваючы старонкі альманаха, яшчэ раз удзячна згадваеш у большасці сваёй невядомых нам летапісцаў ляснога фронту. Яны не толькі рабілі ўсё для таго, каб пра подзвігі іх сяброў па зброі чыталі яны самі, але і дбалі яшчэ пра тое, каб слава пра іх дайшла да нашых дзён. Захоўвалі рукапісныя часопісы разам з дакументамі атрада ці брыгады. Часта іх загортвалі ў мешкавіну, закопвалі ў самых малапрыкметных месцах на ўзлеску. У прадмове да альманаха згадваецца, як 18 мая 1944 года, падчас цяжкага бою і адчуваючы безвыходнасць свайго становішча, партызаны затапілі металічную скрыню разам з атраднымі дакументамі і часопісам «Бальшавік» у рэчцы паміж вёскамі Прыстань і Кабылічы (Пухавіцкі раён). Скрыня не прапала, яе неўзабаве вылавілі, а часопіс прасушылі, і ён зноў вярнуўся да жыцця.

Не ўсе рукапісныя і машынапісныя старонкі данёс нам гераічны альманах. Але і тое, што мы сёння можам прачытаць і пабачыць сваімі вачыма, варта многага. Перш за ўсё гэта сведчанне гераічнага часу. А гады толькі прыдаюць яму сваёй важкасці і значнасці.

**Май**

**1**

90 гадоў з дня нараджэння Казачэнкі Віктара Фёдаравіча (1920—1998), беларускага жывапісца.

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Петрашкевіча Алеся (Аляксандра Лявонавіча), беларускага драматурга, празаіка, публіцыста, кінасцэнарыста, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

**2**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Любчука Сяргея Фядосавіча, беларускага дзеяча самадзейнага мастацтва, кампазітара, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

**6**

105 гадоў з дня нараджэння Гаўрука Юркі (Юрыя Паўлавіча; 1905—1979), беларускага перакладчыка, паэта, крытыка.

90 гадоў з дня нараджэння Логінава Анатоля Канстанцінавіча (1920—2007), беларускага акцёра, заслужанага артыста Літвы, народнага артыста Беларусі.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Цыпіса Навума Фроімавіча, беларускага празаіка, публіцыста.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Ліпскага Уладзіміра Сцяпанавіча, беларускага празаіка, публіцыста, грамадскага дзеяча.

**9**

90 гадоў з дня нараджэння Белановіча Іосіфа Іосіфавіча (1920—1998), беларускага жывапісца.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Сцяпанавай Таццяны Пятроўны, беларускай цымбалісткі, педагога, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Савіна Ігара Георгіевіча, беларускага мастака-афарміцеля.

**10**

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Паўлавай Ніны Мікалаеўны, майстра мастацкага ткацтва.

**13**

105 гадоў з дня нараджэння Станюты Стэфаніі Міхайлаўны (1905—2000), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі, народнай артысткі СССР.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Колас Людмілы Якаўлеўны, беларускай спявачкі, педагога, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

**15**

95 гадоў з дня нараджэння Палітыкі Дзмітрыя Антонавіча (1915—1965), беларускага крытыка і літаратуразнаўца, паэта.

95 гадоў з дня нараджэння Уксусава Дзмітрыя Ільіча (1915—1989), беларускага празаіка, публіцыста. Пісаў на рускай мове.

70 гадоў з дня нараджэння Сяўко Баляслава Іванавіча (1940—2002), беларускага акцёра, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Чумак Людмілы Мікалаеўны, беларускага мовазнаўца, педагога.

**16**

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Чарнабаева Віктара Максімавіча, беларускага спевака, народнага артыста Беларусі.

60 гадоў з дня нараджэння Паліводы Ігара Ігаравіча (1950—1996), беларускага кампазітара, педагога.

**18**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Каўруса Алеся Аляксандравіча, беларускага мовазнаўца.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Чыквіна Яна Арцёмавіча, беларускага паэта, літаратуразнаўца, перакладчыка. Жыве ў Польшчы.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Янушкевіча Пятра Вацлававіча, беларускага жывапісца.

**20**

95 гадоў з дня нараджэння Жураўлёва Дзмітрыя Мікалаевіча (1915—1988), беларускага музыказнаўца, кантрабасіста, заслужанага дзеяча культуры БССР.

70 гадоў з дня нараджэння Вяршыніна Міколы (Мікалая Пятровіча) (1940—2009), беларускага паэта-сатырыка, гумарыста.

**22**

110 гадоў з дня нараджэння Касяровіча Мікалая Іванавіча (1900—1937), беларускага краязнаўца, лексікографа, мастацтвазнаўца і літаратуразнаўца, крытыка.

80 гадоў з дня нараджэння Цішчанкі Івана Кірылавіча (1930—2001), беларускага фальклырыста, літаратуразнаўца, крытыка.

75 гадоў з дня нараджэння Гаўрылкіна Леаніда Іванавіча (1935—1989), беларускага празаіка, драматурга.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Бутрымовіча Віталя Мікалаевіча, артыста балета і балетмайстра.

70 гадоў з дня нараджэння Крука Леаніда Парфір’евіча (1940—1982), беларускага акцёра.

**23**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Сарокінай Ірыны Мікалаеўны, беларускай артысткі балета, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь.

**24**

90 гадоў з дня нараджэння Аляксандрава Сямёна Іосіфавіча (1920—1980), беларускага акцёра, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**25**

85 гадоў з дня нараджэння (1925) Гулевіч Станіславы Іосіфаўны, беларускай спявачкі, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

85 гадоў з дня нараджэння Казловай Вольгі Васільеўны (1925—2009), беларускага літаратуразнаўца, педагога, заслужанага работніка вышэйшай школы Рэспублікі Беларусь.

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Осіпава Аляксандра Іванавіча, беларускага мастака ў галіне мініяцюры, жывапісца.

**26**

100 гадоў з дня нараджэння Рознера Эдзі (Адольфа-Эдуарда) Ігнацьевіча (1910—1976), джазавага трубача, кампазітара, аранжыроўшчыка, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага джаз-аркестра БССР, заслужанага артыста БССР.

**27**

110 гадоў з дня нараджэння Жылкі Уладзіміра Адамавіча (1900—1933), беларускага паэта, перакладчыка, крытыка.

75 гадоў з дня нараджэння Кудзінава Уладзіміра Георгіевіча (1935—1993), беларускага празаіка, перакладчыка.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Раеўскай Тамары Рыгораўны, беларускай эстраднай спявачкі, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

**28**

95 гадоў з дня нараджэння Ліснеўскага Івана Яўгенавіча (1915—2004), беларускага акцёра, аўтара прац па гісторыі тэатра.

**30**

100 гадоў з дня нараджэння Маркоўскай Марыі Паўлаўны (1910—1981), беларускай актрысы, заслужанай артысткі БССР.

100 гадоў з дня нараджэння Труса Анатоля Міхайлавіча (1910—1989), беларускага акцёра, народнага артыста БССР.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска на II паўгоддзе 2010 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 6100 руб.
на 3 месяцы — 18 300 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 9400 руб.
на 3 месяцы — 28 200 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 12 900 руб.
на 3 месяцы — 38 700 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 10 500 руб.
на 3 месяцы — 31 500 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 288-22-37.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютэрная вёрстка *А. А. Губар*

Падпісана ў друк 12.05.10 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 15,94. Тыраж 3166 экз. Заказ 1170.
Рэгістрацыйны № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.